## Рэцэнзія на расійска-беларускі слоўнік авіяцыйнай тэрміналогіі

У апошнія гады ў беларускім грамадстве абазначылася трывалая тэндэнцыя да пашырэння ўжывання беларускай мовы ў розных сферах грамадства: у рэкламе, у бізнесе, у гандлёвых сетках і інш. У выніку час ад часу з'яўляюцца спробы выдання расійска-беларускіх слоўнікаў па разнастайных галінах.

Так, нядаўна быў падрыхтаваны невялікі расійска-беларускі слоўнік авіяцыйнай тэрміналогіі. Зрабіў яго Мікалай Кавалёў. Праца гэта, на наш погляд, заслугоўвае ўвагі, нягледзячы на тое, што аўтар-складальнік не з'яўляецца прафесіяналам-лексікографам.

Па-першае, М.Кавалёў па прафесіі вайсковы авіятар, таму добра ведае гэту галіну. Па-другое, прыступаючы да гэтай працы, аўтар грунтоўна вывучыў усё тое, што было зроблена папярэднікамі ў гэтай сферы. А для таго, каб лепш аргументаваць выбар беларускай лексемы для абазначэння таго ці іншага тэрміну, М.Кавалёў прыводзіць паралелі з розных моў.

Увогуле, аўтар даволі падрабязна распавядае пра свой шлях пошуку найлепшага адпаведніка. Яго развагі грунтоўныя, даволі пераканаўчыя, хоць і не заўсёды з імі можна пагадзіцца. Дадатковым станоўчым элементам да развагаў з'яўляецца шэраг ілюстрацый, якія часам дапамагаюць лепш успрыняць і зразумець выбар таго ці іншага слова для абазначэння пэўнай дэталі.

Увесь тэкст чытаецца даволі лёгка, нягледзячы на спецыфіку. Хочацца спадзявацца, што аўтар не спыніць сваіх пошукаў па стварэнні ўласнабеларускай авіяцыйнай тэрміналогіі, а гэтая першая праца стане важкім падмуркам для будучых удалых знаходак.

**Алена Анісім,** намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**Прадмова**

Праходзячы службу ў авіяцыйных частках, аўтар, як і ўсе авіятары, любіў падыскутаваць на розныя авіяцыйныя тэмы. Адной з тэмаў часта паднімалася магчымасць беларускай мовы абслугоўваць авіяцыйную сферу. У запале калегі прасілі зрабіць “немагчымае” – напісаць інструкцыю па лётнай эксплуатацыі таго ці іншага самалёта ці верталёта. У адказ аўтар абяцаў гэта зрабіць, калі яны будуць па ёй лятаць! Усё сціхала і на гэтым спрэчкі скончаліся!

Пачаўшы цікавіцца тэмай глыбей, выявіў, што ўнармаванай авіяцыйнай тэрміналогіі на роднай мове не існуе. Ёсць некалькі вайсковых слоўнікаў [1,2,3,4,5] з нешматлікімі авіяцыйнымі тэрмінамі. У дадатак, некаторыя тэрміны пададзеныя ў акадэмічным слоўніку Крапівы [19], нацыянальнай 18-томнай “Беларускай Энцыклапедыі” (далей БелЭн), “Политехническом словаре” [16] (далей ПТС) і іншых. Здавалася, можна карыстацца гэтым. Але больш грунтоўнае знаёмства паказала наступнае: у розных крыніцах аднолькавым расійскім тэрмінам адпавядаюць розныя беларускія, а некаторыя тэрміны адсутнічаюць увогуле. Вынікам гэтага стаў “разнабой”, назіраемы ў сучасным беларускамоўным друку і сеціве.

Таму, мэта ствараемага авіяцыйнага слоўніка відавочная – унармаванне існуючай беларускай авіяцыйнай тэрміналогіі на аматарскім узроўні адным чалавекам. Аўтар спадзяецца, што слоўнік стане базай для наступных даследаванняў на сур’ёзным узроўні адмыслова створанымі тэрміналагічнымі камісіямі па ўзору, напрыклад, Навукова-тэрміналагічнай камісіі 20-хх гг. Такім чынам, кніга, вядома ж, не прэтэндуе на акадэмічнасць і безапеляцыйнасць. Яна прызначана, ў першую чаргу, для катэгорыі людзей, якім цікавая авіяцыя ўвогуле і авіяцыя ў беларускім кантэксце ў прыватнасці.

Некалькі слоў пра ўжыванне беларускай авіяцыйнай лексікі. Першым беларускамоўным авіяцыйным тэкстам з’яўляецца артыкул у газеце “Савецкая Беларусь” – “Мы на крыльлях павінны ўзняцца” ад 06.03.1923. Першай кнігай – “Як людзі заваявалі паветра” В.Судніка, 1928 года. Толькі ў 1932-

1933 гг. выйшла ў свет 24 авіяцыйныя кнігі масавымі накладамі па-беларуску. Пасля вайны – толькі адна (сярод немастацкіх). Зрабіць самастойную выснову па ўжыванні авіяцыйнай літаратуры па-беларуску Чытач можа, скарыстаўшы асобны спіс беларускай авіяцыйнай літаратуры ў 3-м раздзеле.

На сённяшні дзень роўнасць дзяржаўных моў у радыёабмене зафіксавана Паветраным кодэксам краіны. Такую ж намінальную роўнасць ужывання роднай мовы ў авіяцыйных дакументах замацоўваюць Канстытуцыя і законы Рэспублікі Беларусь. Курсанты авіяцыйнага факультэта Ваеннай (Вайсковай) акадэміі маюць курс беларускай мовы з раздзелам агульнай вайсковай лексікі. З фактаў ужывання ў сучаснай авіяцыі беларускай мовы зазначу наступнае. Па службе адбываецца ўзаемадзеянне з дыспетчарамі цывільнага сектара цэнтра адзінай сістэмы арганізацыі паветранага руху. Заўважыў, што лётчыкі замежных авіяліній заўсёды вітаюцца “добрай раніцы, дзень, вечар” і развітваюцца “да пабачэння”, на што атрымліваюць ад беларусаў беларускія адказы. Нагадаю, што радыёабмен – цалкам на англійскай. Па словах дыспетчараў, нідзе гэта афіцыйна не адлюстравана, проста такая традыцыя. Украінцы ўзаемадзейнічаюць на сваёй мове – “Здоровенькі булы, браты-білорусы, то Кыів-контроль. Підскажіть, будь ласка…”. Рудыментамі авіяцыйнай “беларусізацыі” пачатку 90-х з’яўляюцца міжнародныя авіяцыйныя мапы структуры паветранай прасторы нашай краіны. На ёй уласныя назвы населеных пунктаў транслітаруюцца з беларускай мовы – Hrodna, Magiliou, Vicebsk, Homiel. А яшчэ ў авіяцыйным рускамоўным жаргоне авіятараў з’явілася слова “бяспека” – назва службы бяспекі палётаў. Цікавы прыклад спробы ўжывання беларускай мовы авіяцыйным спецыялістам Уладзімірам Плаксам пры канцы 90-х любы інтэрнэт-карыстальнік знойдзе па спасылцы: http://kamunikat.org/download.php?item=2263-4.html&pubref=2263. Пра ўласны досвед – прысягу беларускаму народу (1999 г.) прымаў на беларускай мове – вокладка, дарэчы, была таксама беларускамоўная. Сёння ж функцыя ўжывання мовы ў авіяцыі

звялася да чырвоных літар на аэравакзале Нацыянальнага аэрапорту, шэўронаў у вайсковых авіятараў і рэквізітаў загадаў.

Пры стварэнні слоўніка аўтар улічваў тую акалічнасць, што авіяцыйная тэрміналогія – гэта своеасаблівая "салянка" з тэрмінаў розных галін. І дадатковая складанасць выбару тэрмінаў палягае якраз у неўнармаванасці беларускай тэрміналогіі ў іншых галінах. Таму пры ўкладанні авіяцыйнага слоўніка прыйшлося аналізаваць вялікую частку тэрмінаў у асобных, праблемных, артыкулах. Аналіз праводзіўся камбінаваным метадам – спалучэннем сістэмнага і факталагічнага метадаў. У дадатак, улічваўся сацыяльна-палітычны аспект фарміравання вайсковай тэрміналогіі ў гістарычным разрэзе. Крыніцамі маніторынгу тэрмінаў сталі агульныя, спецыяльныя, вайсковыя слоўнікі, БелЭн, інтэрнэт-рэсурсы – "Энцыкляпедыя Электронная", "Корпус Беларускай мовы", медыя-сайты, беларускія лакалізацыі камп'ютарных гульняў World of Tanks і War Thunder, а таксама авіяцыйная літаратура 30-40-х гг., часопіс "Лётніцтва" 2009 г. [27] і інш. Натуральным індыкатарам і арыенцірам пры разглядзе праблемных артыкулаў з'яўляецца авіяцыйная тэрміналогія Украіны. Прычыны гэтаму наступныя: першая – яе блізкасць да нашай мовы лексічна і марфалагічна, другая: пройдзены зусім нядаўна працэс кадыфікацыі авіяцыйнай тэрміналогіі (які пры спрыяльных умовах пройдзе і беларуская тэрміналогія), трэцяя: ужыванне ў афіцыйным асяроддзі – авіяцыйнымі ўстановамі і вайсковымі часткамі. Для вынішчэння штучнага комплексу (навязанага за савецкім часам), быццам авіяцыйную лексіку складана засвойваць беларускай мовай праз свае моўныя крыніцы, праблемныя артыкулы напаўняліся авіяцыйнымі тэрмінамі з англійскай мовы. Мэта такіх напаўненняў англійскімі "разынкамі" відавочная – адысці ад такога комплексу, паказаўшы, што тэрміны могуць утварацца і праз простыя ўяўленні, заснаваныя на параўнанні новых з'яў са звычайнымі. Ну, вось чаго варты толькі адзін англамоўны варыянт агнёў УПП (узлётна-пасадачнай паласы) – "гусіная шыйка" – gooseneck!

Кніга структуравана наступным чынам. У першым раздзеле аналізуюцца ў асобных (больш за трыста) артыкулах праблемныя тэрміны: з аэрадынамікі, паветранай навігацыі, авіяцыйнай тэхнікі, арганізацыі паветранага руху, тактыкі авіяцыі (у тым ліку тэорыі баявой эфектыўнасці), авіяцыйнай метэаралогіі, радыёабмену. Другі раздзел уяўляе сабой слоўнік з найбольш ужываных тэрмінаў (каля 3,5 тыс.), у тым ліку, разгледжаных у першым раздзеле (пазначаных, як (Р.І)). Трэці раздзел змяшчае спіс авіяцыйнай літаратуры па-беларуску (каля 60-ці крыніц), некаторыя вайсковыя і авіяцыйныя тэрміны з розных слоўнікаў (у ІІ раздзеле сустракаюцца пад адзнакай (Р.ІІІ)), а таксама "абеларушаныя" аўтарам вытрымкі з розных авіяцыйных дакументаў.

У дачыненні да другой дзяржаўнай мовы ў тэксце ўжыты тэрмін "расійская" (з прыцэлам паступовага вяртання тэрміна "расейскі", як гэта было напачатку ХХ ст.). Зроблена гэта з культуралагічнай мэтай, каб адбіць ахвоту рознага кшталту дэмагогам маніпуляваць нашай гістарычнай спадчынай "русчызны" (напрыклад, "Біблія руська" Скарыны). Дарэчы, ва ўкраінскай мове: русский язык – російська мова, русский – росіянин.

Такім чынам, спадзяюся, што прачытанне кнігі-слоўніка дасць Чытачу адказы на многія пытанні беларускай авіяцыйнай тэрміналогіі, пацвердзіць аргумент здольнасці роднай мовы абслугоўваць самыя складаныя сферы нашага грамадства і самае галоўнае – падштурхне быць першым стваральнікам-творцам новых пластоў беларушчыны ў будзь-якой сферы. Для аўтара, напрыклад, слоўнік стане базай для стварэння сістэматызаванай гісторыі авіяцыі Беларусі. А што зробіце Вы – вырашаць Вам! Але памятайце, толькі разам мы здолеем "заняць сваё пачэснае месца сярод народаў", каб "Беларусь на куце ў хаце сваёй села і пазірала сьмела". Натхнення Вам, шаноўныя сябры, і моцнага здароў'я!

## Умоўныя скарачэнні

(МА) – Міністэрства абароны;

[4] – нумар карыстанай крыніцы са Спіса карыстанай літаратуры;

арт. – аднайменны артыкул;

БНТ – Беларуская навуковая тэрміналогія;

Гл. Воздушное судно – глядзі артыкул “Воздушное судно”;

<u>мал. 2</u> – малюнак № 2;

ПТС – русско-белорусский политехнический словарь [16];

РБС – расійска-беларускі слоўнік;

ТСБМ – тлумачальны слоўнік беларускай мовы;

ТСЛБМ – тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.

I. Раздзел

## АНАЛІЗ ПРАБЛЕМНЫХ ТЭРМІНАЎ

Авиационное звено (отряд, пара) – *звяно, атрад, пара*. У кнізе [23] 1931 г.: *авіяцыйны атрад (звяно)*. Пры гэтым пры разглядзе замежных авіяцыйных часцей і падраздзяленняў аўтар неадступна падае арыгінальныя тэрміны, напрыклад, польскія – аддзелы, дывізіёны, эскадры! Украінская тэрміналогія мае сваю адмысловую гісторыю дзякуючы існаванню ўласна ўкраінскай авіяцыі ў часы Грамадзянскай вайны. Распрацоўнікі беларускіх версій камп’ютарных авіяцыйных сімулятараў маюць тэж свае думкі: там падраздзяленні прыводзяцца па аналогіі з польскімі. Тое ж у “Лётніцтве” З. Вайцэховіча [27]. Мабыць, пад уплывам слоўніка Судніка [5]: *авиационный отряд – ав. аддзел*, *авиационное звено – ав. звязак, подразделение – падраздзел, соединение – злучэнне, часть – частка, приданная ч. – прыдадзеная частка.* Тамсама: *взвод – звяз*, *отделение – дружына*. Такім чынам, праблема патрабуе дадатковага вывучэння.

Антиобледенитель і антиобледенительный – **антыабледзяняльнік (антыаблёднік) і антыаблёдны**. Ва ўсіх варыянтах (ПТС [16], слоўнік Судніка [5]) – груваздкае *антыабледзяняльнік* (сустракаецца і *антыабледзяніцель*). Але больш кароткім і зручным базавым словам з’яўляецца *антыаблёднік* (слова прысутнічае ва ўкраінскай мове). Параўнайце *антыабледзяняльны – антыаблёдны*.

АРП – **аўтаматычны радыёпеленгатар**. Англійскі тэрмін – напрамкавы пошукавік – direction finder.

Атмосферное возмущение – **атмасфернае абурэнне**. Тэрмін авіяцыйнай метэаралогіі. Прыведзены толькі ў метэаслоўніку [18].

Аэрадинамическое качество – **аэрадынамічная якасць**. Тэрмін практычна ўжываўся па-беларуску ўжо з 30-х гг. – [25].

Аэродинамическая компановка і компановочный – 1. (працэс) – **аэрадынамічнае кампанаванне**, 2. (канструкцыя, упарадкаванне) – **аэрадынамічная кампаноўка, кампанавальны –** *кампанавальная схема***.** У гэтым тэрміне ярка адлюстравана розніца ў падыходзе да словаўтварэння прадметаў і працэсу ў расійскай і беларускай мовах. Для расійскай часцяком лагічна ствараць словы працэсу і прадмету (выніку) з адным канчаткам -ка. Для беларускай больш уласціва размяжоўваць гэта. Тое ж тычыцца і іншых падобных пар-тэрмінаў (Гл. Швартовка). Трэба памятаць, што дзеепрыметніку і дзеепрыслоўю "компонирующий" і "компонируя" адпавядае адзіны беларускі "кампануючы". У ТСЛБМ захавалася русіфікаваная форма "кампановачны".

Аэродром (мал. 1) – 1. Аэродром – **аэрадром**, 2. аэродромное (летное) поле **– лётнішча**. Праблема ў тым, што гэтыя словы ў сучасным друку канкуруюць на адным так бы мовіць "полі" – авіяцыйным. Вось прыклады ўжывання слова *лётнішча* ў звыклым значэнні *аэрадром* з сеціва – "аб'ектамі бамбаваньня было кабульскае *лётнішча*", "*лётнішча* ў Радаме пачне працу ў верасьні бягучага году", "а потым гледачы *лётнішча* Садкуў пабачылі клубы чорнага дыму". Згодна з традыцыйным словаўтварэннем у нашай мове мы павінны называць тое месца (па аналогіі з бульбішчам, грэчышчам і г.д.), адкуль узлятаюць – сядаюць самалёты і адбываецца іншая авіяцыйная дзейнасць, *лётнішчам.* І вось тут мы з гонарам можам сказаць, што якраз расійская мова тут аказалася бяднейшая насуперак сумназнакамітаму і недальнабачнаму выказванню, што "беларуская мова – бедная мова. Ёсць толькі дзве вялікія мовы ў свеце – руская і англійская". У расійскай мове такія абазначэнні фізічна адсутнічаюць. Напрыклад, у слоўніках падаецца наступнае: "бульбішча – поле, на котором растет картофель". А зараз вернемся да таго, чаму трэба ўжываць словы *аэрадром і лётнішча,* надаўшы ім рознае значэнне. Зробім гэта, глянуўшы на развіццё аэрадрома, як інфраструктурнага комплексу. Спачатку аэрадромы ніякай інфраструктуры не мелі, гэта было проста роўнае поле з

мінімальнымі патрабаваннямі да яго. І не дзіўна, што для традыцыйнага беларускага светапогляду такое поле беларусу – лётніку ў пачатку 20-х і ўяўлялася як звычайнае лётнішча – бульбішча. А вось потым пачалася на гэтым лётнішчы з'яўляцца больш складаная аэрадромная інфраструктура – бетонная паласа, дыспетчарскі пункт, дапаможныя інжынерныя збудаванні і г.д. Лагічна, што такі складаны інфраструктурны праект ужо не адпавядаў простаму лётнішчу. І трэба называць яго па-іншаму. І слова *аэрадром*, як сістэма аэрадромнай інфраструктуры, падаецца тут самым лагічным. Далей, па меры развіцця грамадства, з'явілася патрэба ў цывільнай авіяцыі, для якой на аэрадромах сталі дадаткова будавацца аэравакзалы і аэравакзальныя комплексы. Натуральна, што іх назвалі аэрапортамі. Такім чынам, нашая беларуская "матрошка" атрымалася такой – *лётнішча, аэрадром, аэрапорт*. Трэба заўважыць, што лётнішча – гэта не гістарызм, а слова, ужыванае ў значэнні *летное (аэродромное) поле* ў інструкцыях пры апісанні характарыстык аэрадромаў і аэрапортаў. Такім чынам, прыклад з сеціва – "памеры *лётнага поля* 1000х150 м" неабходна перакласці на беларускі капыл – "памеры *лётнішча* 1000х150 м". Даведка: РБС Байкова-Некрашэвіча фіксуе *аэродром – аэрадром, лётны пляц.*



**мал. 1**

Аэродромный диспетчерский пункт – **аэрадромная дыспетчарская вышка**. Тут мы маем пайсці па шляху вестэрнізацыі проста таму, што гэта агульная сусветная тэндэнцыя, звязаная з міжнародна прызнанай англамоўнай авіяцыйнай тэрміналогіяй і фразеалогіяй ICAO, без мовы-“пасярэдніцы”. Цікавая асаблівасць – у слэнгу авіятараў дыспечарскі пункт называецца “вышкай”. Ну хто не бачыў “вышку” нацыянальнага аэрапорта?! Тая ж вежа Біг-Бэна Вестмінстэрскага палаца, толькі белая і без гадзінніка! Менавіта ў англійскай мове такое збудаванне і называюць “tower” – вежа, вышка. Што і засведчана міжнароднымі авіяцыйнымі дакументамі. Але астатнія вайсковыя пункты застаюцца *пунктамі* – камандны пункт, каманднa-назіральны пункт і г.д. Трэба заўважыць, што яны ўвогуле могуць быць заглыбленыя ў зямлю ці перасоўвацца на сучасных транспартных носьбітах. Таму *вышкамі* не могуць быць проста па вызначэнні. Даведачна: украінскі варыянт – “*аеродромна диспетчерська вишка*».

Аэростат – **аэрастат**. Ужо ў кнізе [23] знаходзім: *аэрастат загароды* (заграждения)*, прывязаныя* (привязные) *аэрастаты*. У слоўніку С.Судніка [3]: *а. загароджвання*.

Базирование – **базаванне**. [3] падае гэты варыянт. А [2, 4, 5] – *базіраванне*. Быццам перавага другога варыянта. Але мы ведаем, што беларускай мове не ўласціва ўжыванне суфікса -іраванне і слоўнікі складаліся за савецкай традыцыяй, асноўным пастулатам якой было “ наблíжэнне і поўнае зліццё брацкіх моў у адну”, вядома ж, у якую. У новых правілах беларускага правапісу (закон ад 2008 г.) якраз гаворыцца аб пашырэнні ролі ўжывання суфіксаў -аванне. І ўжо там, у якасці прыкладу, слова *базирование* падаецца ў двух варыянтах – *базаванне, базіраванне*. Тэндэнцыя навідавоку!

Балансировочный груз (балансир) – **балансавальны цяжар (балансір).** У Слоўніку беларускай мовы 2012 г. [20] прысутнічае толькі прыметнік “Балансіровачны”. Тэрмін існуе ў сеціве ў наступным выглядзе – *балансіровачны цяжар*. Больш

натуральным для нашай мовы будзе – *балансавальны цяжар* (ад *балансировки – балансавання)*.

Балочный держатель (мал. 2) – **бэлечны трымальнік.** Усё ў адпаведнасці з акадэмічнымі нормамі словаўтварэння. Паасобку абодва гэтыя словы фіксуе “Словарь для военных” [4] 1994 г. і ПТС [16] 1997 г. Як адзіны, досыць распаўсюджаны ў авіацыі, гэты тэрмін у разгледжаных слоўніках адсутнічае.




**мал. 2**

Бедствие – **бедства (ліха)**. С. Станкевіч у сваёй кнізе [10] падае адпавядальнікі *бяда, няшчасце*. У сеціве кажуць пра «вельмі частую эвакуацыю ахвяр бедства», хтосьці па-расійску «терпит бедствие». А ва ўкраінскай авіяцыйнай тэрміналогіі *бедствию* адпавядае *лихо*. Вось некаторыя словаформы з афіцыйных дакументаў: «эвакуація тих, хто зазнав *лиха*», «стихійне *лихо*». Беларуская ж прымаўка кажа, што «сядзі ціха, не будеш ведаць *ліха*», а пра досвед чалавека гаворыць фразеалагізм «зведаць фунт *ліха*». Для даведкі, фунт з’яўляўся такім жа натуральным словам для продкаў, як і кілаграм зараз для нас. Фунты былі і літоўскія, і гданьскія і іншыя. Вяртаючыся «до лиха», нельга не пагадзіцца з украінцамі ў трапнасці і дакладнасці выразу, бо гісторыя ў нас блізкая і *ліха* нашымі народамі спасцігалася ўвесь час і моцна біла «бізунамі» то злева, то справа. Вядома ж, што любая катастрофа, любое няшчасце, гэта тое ж самае Ліха – нячысцік, чорт, які прынёс гора. У традыцыйным значэнні яно мае вельмі яркі эмацыйны складнік. Можна параўнаць для трапнасці Ліха з «чужым» на касмічным

караблі, ад якога няма паратунку і інструкцый. Таму для лётчыка ўключэнне тумблера «Ліха» і перадача ў эфір – «на борце Ліха» з'яўляецца першасным пунктам пры ўзнікненні асаблівых выпадкаў у палёце. Адзначым, што англійскае SOS з'яўляецца не менш экспрэсіўным – «ратуйце нашыя душы». З гісторыі ўзнікнення сінаніміі "ліха-бедства" стае зразумелым, якое з гэтых слоў было першасным, а якое – штучна прыўнесеным. У "Словаре белорусского наречия" (1870 г.) Насовіча знаходзім наступнае: *лИхо* – 1) *зло, несчастіе* 2) *боль* 3) *злая сила* 4) *чертовщина*. РБС Байкова-Некрашэвіча фіксуе "бедствие – ліха, ліхая гадзіна". Гэтаксама і ў "Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" Вацлава Ластоўскага 1924 г. Дакументальным пацверджаннем натуральнасці «ліха» з'яўляецца беларускі адпаведнік слову *бедовый – ліха* ў вайсковым слоўніку [1] 1927 г. У крапівоўскім варыянце (1953 г.) бачым "сигнал бедствия – сігнал няшчасця". Ужо ў спецыялізаваным "Словаре для военных" [4] знаходзім: *бедствие – бедства, бядота, бяда, няшчасце; сигнал б. – сігнал бедства (няшчасця); стихийное б. – стыхійнае бедства.* А ў БелЭн гэтаму тэрміну нават прысвечаны асобны артыкул: «СІГНАЛ БЕДСТВА». Наконт дзеяслова "потерпеть" у РБС Байкова-Некрашэвіча знаходзім: потерпеть – 1. пацярпець, зрымсьціць; 2. (убыток, изъян) панесьці шкоду (страту); 3. (поражение) быць пабітым. Тамсама: бедствие испытать – перажыць (прыняць) бяду, испытать горе – зазнаць гора, понести – панЕсьці, панясьцІ; перацярпець, понести наказание – адцярпець кару, претерпевать / претерпеть – цярпець /перацярпець; прыймаць / прыняць бяду; зазнаваць / зазнаць гора. Адсюль можна зрабіць выснову, што ўжыванне слова "цярпець" і ў вытворных было натуральным для беларускай мовы. Але найбольш трапным выразам, адпавядаючым па сэнсу вузкаспецыялізаванаму тэрміну, будзе ўсё ж "зазнаць гора, зазнаць Ліха". Такім чынам, адпаведнікамі для «терплю бедствие» будзе «**на борце Ліха**» (адпавядае англійскаму «Mayday»), «судно, терпящее бедствие» – «**лятак, на якім (якое зазнае) Ліха**», «судно, потерпевшее бедствие» – «**лятак, які зазнаў Ліха**», «терпеть бедствие» – «**зазнаць Ліха**». Ёсць адна

праблема з выразам «никто не потерпел». Таму што тут «потерпел» мае сэнс «потерпел бедствие», дзе *бедствие па закону эканоміі моўных сродкаў* з цягам часу адпала. Наша мова такой магчымасці эвалюцыйна развівацца не мела, таму каб не калькаваць, а захаваць скрознасць у раней неўжывальнай форме «**потерпел (зазнаў)**», кажам цалкам – «**зазнаў ліха**». Такім чынам, «*Пілот*, які быў знойдзены сіламі пошукава-выратавальнай каманды, *не зазнаў ліха*» лепш за «пілота, які...не пацярпеў». І, вядома ж, множны лік у беларускага *стыхійнага ліха* адсутнічае. Таму фразу – *при возникновении стихийных бедствий* – у беларускім варыянце лепш казаць – *у выпадку (пры ўзнікненні) стыхійнага ліха*. З усяго шмат сказанага можна зрабіць наступную выснову: аўтару даспадобы больш пурыстычны варыянт “зазнаць ліха”, але трэба прызнаць, што сучасны ўзус амаль пагалоўна “церпіць бедства” і гэты тэрмін мае тэрміналагічную гісторыю (з улікам БелЭн). Таму ў сур’ёзных дакументах прыдзецца прытрымлівацца афіцыйна распрацаванага тэрміна. У ПТС [16], слоўніку Судніка (1997), вайсковых слоўніках 1927 і 1933 гг. тэрмін не разгледжаны!

Безразмерный – **бязмерны.** У слоўніках прыведзены *безразмерны*. Але ж *размер*, ведаем, па-беларуску *памер* ці проста *мера* ды й захаванне сінанімічных расійскіх *безразмерный*, *безмерный* у “беларускім полі” не мае практычнай (сэнсавай) патрэбы. Хопіць з нас бязмернага! Заўважым, што розныя слоўнікі непаслядоўна фіксуюць абодва словы “памер” і “размер”, але размер мае ў беларускай мове сэнс дынамічнага “размервання”, а памер – статычнае паняцце прасторавых параметраў аб’екта. У ТСБМ надаецца нават крыху розныя паняцці дзеепрыметнікам: *бязмерны – безмерный, неизмеримый,* а *безразмерны* – які выкарыстоўваецца для некалькіх сумежных размераў”, што на аўтарскі погляд з’яўляецца залішнім.

Беспилотный і беспилотник (размоўн.) – **беспілотны** і **беспілотнік, дрон**. Часта ў друку, калі падаецца афіцыйная навіна пра БЛА, кажуць *дрон*, які ў расійскай і беларускай мове ўспрымаецца спецыялістамі, як слэнг, жарганізм – у адрозненне

ад афіцыйнага БЛА (БПЛА). Напрыклад – «ён убачыў дрон». Хаця паволі замацоўваецца тэндэнцыя для абазначэння лятаючага баявога робата дронам (англ. *drone* — труцень, гусці), што цалкам адпавядае фізіцы з’явы пераўтварэння прымітыўных беспілотнікаў у высокатэхналагічныя машыны са штучным розумам. Тым больш дапушчальна ўжыванне гэтага слова, якое займае ўсё большае месца ў вайсковай справе, у медыях.

Ближний (бой, зона, рубеж, ракета ) – **блізкі.** Прыметнік «близкий» з’яўляецца словаўтваральным для шмат якіх тэрмінаў у авіяцыі, таму яго нельга абмінуць. Тым больш, калі і тут назіраецца неўнармаванасць. І зноў, калі беларус робіць выбар, ён аказваецца ў сітуацыі Вылівахі, у стане (чытай –у ладдзі) роспачы. Бо прэцэдэнты ўжывання “бліжні” сярод аўтарытэтаў шмат – Купала, Каліноўскі, напрыклад, але сістэмнага ўжывання не мае, тым больш ужыванне ў гэтых аўтарытэтных прыкладах тычылася роднасці людзей, а не адлегласці. Ва ўкраінскай мове, дарэчы, у вайсковай тэрміналогіі ўжываецца *ближні*. У расійскай і ўкраінскай мовах, атрымліваецца, вайсковая тэрміналогія мае адзіны тэрмін “ближний – ближні". Беларускія ж слоўнікі амаль усюды падаюць “блізкі”: БРС Некрашэвіча-Байкова – бліжні, а яго расійска-беларускі варыянт – блізкі, слоўнік Крапівы ў значэнні адлегласці падае *блізкі, с*лоўнік Станкевіча – *блізкі* й *далёкі*. Ваенны слоўнік 1933 г. падае нам цэлы тэрмін “*ближний бой – блізкі бой*”. Тут той рэдкі выпадак, калі захавалася пераемнасць паміж дарэформенымі і паслярэформенымі слоўнікамі: у “Словаре для военных”(1996 г.) ёсць слоўнікавы артыкул “*ближний – блізкі; (ближайший) бліжэйшы*”. Апроч таго, у прыкладах да слова “бой” знаходзім “*ближний б. – блізкі бой*”. Вельмі цікавыя развагі наконт праблематыкі “бліжні – блізкі” можна знайсці на старонцы сайта livejournal http://by – mova.livejournal.com/507104.html. Узус (моўная практыка), прыблізны зрэз якога дае друк і інтэрнэт, паказвае, што “ў блізкім-бліжнім баі” ў пошукавай сістэме Goole з разгромным лікам 185000:1770 “перамагае” *блізкі.* Тое ж самае назіраецца і пры запыце іншых тэрмінаў з гэтым прыметнікам. Як гістарычны факт ужывання тэрміна ў адмысловым значэнні

прывядзем цытату з кнігі 1933 г. [26] – «*блізкая паветраная выведка* ня менш цяжкая, чым далёкая». І гэта актуальна і зараз!

Боевая зарядка, боевой заряд і зарядка (перезарядка) самалёта (мал. 3), заряжать і перезаряжать, разряжать – **баявое начынне,** баявы зарад, **ўзброй(ванне) (пераўзброй(ванне)), узбройваць і пераўзбройваць, разбройваць**. У класічным варыянце падаецца *зарадка* ў розных значэннях. Але калі для такіх тэрмінаў як *фізічная зарадка*, *зарадка акумулятара*, *снежны зарад* падбіранне адпаведных беларускіх фразеалагізмаў вырашылі залішнім, то з *боевой зарядкой* пагадзіцца цяжка, бо маецца гістарычная аснова. Увогуле, *зарядка* ў расійскай мове першасна адпавядае дынамічнаму незавершанаму працэсу, які і прасочваецца ў іншых тэрмінах, а ў працэсе *боевой зарядки* тое, што *заряжалось*, то бок увесь даступны комплекс узбраення, стала таксама называцца *боевой зарядкой*. Таму ў беларускай мове гэты тэрмін падпадае пад праблематыку, разгледжаную ў артыкуле "Аэрадинамическая компановка», то бок неабходнасць раздзялення тэрміна на аб'ект і дзеянне. Беларускія слоўнікі маюць наступныя прэцыдэнты: "Русско-белорусский словарь для военных" 1996 г. фіксуе: *зарядка (в разн. знач.) – зарадка; з. самолёта – зарадка самалёта*, а слоўнік Судніка: *заряд – набой, заряжать – набіваць*. Тэрмін "набой", відавочна, узяты са слоўніка 1927 г. і мае пад сабой грунтоўны гістарычны падмурак. У беларускіх лакалізацыях World of Tanks і World of Warships перакладчыкі таксама выкарысталі *набой і набіванне*, размежаваўшы *набіванне* і *зарадку* па прынцыпе: з коранем набів- – для матэрыяльных складнікаў (пораху, выбухоўкі, саміх снарадаў), з коранем зарад- – для нематэрыяльных (напрыклад, зарадка электрычнасцю). Гэта дазваляе пазбегнуць блытаніны і аманіміі ў магчымых выразах кшталту "выбуховы набой дэтануе з дапамогай электрычнага зараду". Але як быць з *разрядкой*? Разбіванне?! Таму для абазначэння дзеяння і скрознасці словаўтварэння прапануецца ўніверсальнае беларускае "ўзброіць". Тады *зарядить* (пірапатроны, патроны в ленту, ленту в пушку) будзе – *узброіць*. Лента *заряжена* – лента

*ўзброена*. У беларускім варыянце няма патрэбы размяжоўваць сінанімічныя расійскія *разряжать (заряжать) – разоружать (разряжать)* (кагосьці-штосьці), бо слова будзе ісці ў кантэксце і заўсёды будзе зразумела, каго ці што *раззбройваем*, таму пытанне аманіміі адпадае. Для разумення тэрмінаўтварэння прапануецца наступная табліца:

**<u>таб. 1</u>**

<table>
<tr><td>1</td><td colspan="2">б. зарядка (зброя падвешана)</td><td>б. начынне</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>2</td><td colspan="2">боекомплект (некалькі б. зарядок)</td><td>боекамплект</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>3</td><td rowspan="3">падвешванне зброі</td><td>зарядка</td><td>узброй</td><td>разрядка</td><td rowspan="2">разброй</td></tr>
<tr><td>4</td><td>заряжание</td><td rowspan="2">набіванне падрыхтоўка</td><td>разряжание</td></tr>
<tr><td>5</td><td>снаряжение</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>6</td><td colspan="2">б. заряд (матэр.)</td><td>б. набой</td><td></td><td></td></tr>
</table>

<table>
<tr><td>3</td><td>перезарядка</td><td rowspan="2">пераўзброй</td><td rowspan="2">заряженный</td><td rowspan="3">начынены узброены падрыхтаваны</td></tr>
<tr><td>4</td><td>перезаряжание</td></tr>
<tr><td>5</td><td></td><td></td><td>снаряженный</td></tr>
</table>



**<u>мал. 3</u>**

Боевая мощь (авіяцыі) и мощность (рухавіка) – **баявая магутнасць і магутнасць рухавіка**. Авіяцыйныя тэрміны. Як ведаем, блізкі да моцы сінонім *магутнасць* абазначае практычную велічыню ў фізіцы, тады як *моц* мае тэндэнцыю для абазначэння больш абстрактных значэнняў. Хаця, напрыклад, Тангрэберт у кнізе “Авіяцыя ў сучаснай вайне” [26] пісаў наступнае: «гэтыя дасягненні значна павялічылі *баявую магутнасць авіяцыі*». Сучасны ўзус (на прыкладзе інтэрнэта) таксама паказвае невялікую перавагу выкарыстання *баявой магутнасці* перад *баявой моцай.* Тлумачэнні значэнняў словаў “моц” і “магутнасць” падае ТСБМ. Але найбольш скрозна і паслядоўна паняцце сілы-магутнасці-моцы разгледжана ў “Русско-белорусском словаре для военных” (1996): *мощь – (мощность) магутнасць, (могущество, сила* – ещё) *моц: боевая м. – баявая магутнасць, военная м. – ваенная магутнасць, огневая м. – агнявая моц, ударная м. – ударная моц*. Тое ж падае і [5]. Таму, бадай, правільным будзе прытрымлівацца дадзенага распрацаванага гнязда слоў моц-магутнасць. У кнізе [23] 1931 г. сустракаем “магутнасць матора”.

Боевое применение (авіяцыі, сродкаў ушчэнту), применение авиации, применение АСП – 1. **баявое выкарыстанне (авіяцыі, АСУ), выкарыстанне авіяцыі, выкарыстанне АСУ** 2. (*конкретное, оперативное использование средств поражения* і г.д.) **ужыванне**. Самае цікавае, што адразу хацеў пакінуць гэты тэрмін без увагі і аднесці звыклае б*аявое прымяненне* адразу ў другі раздзел як бясспрэчнае. Але, калі пачаў чытаць беларускамоўныя артыкулы ў друку, мяне зноў захапіў звычны стан беларускага “карпускулярна-хвалевага” дуалізму. Бо беларусы і тут падзяліліся – хто за Напалеона, хто за Аляксандра першага ці як у прыказцы – адзін пра абразы, другі пра гарбузы. Пасля аналізу значэння тэрміну дазнаемся, што *боевое применение*, гэта заўсёды *употребление, использование* зброі і ўзбраення ў баі, вайсковай аперацыі, што ў беларускай свядомасці больш адпавядае *ўжыванню, выкарыстанню*. Слоўнік 1927 г. мае цэлы вайсковы тэрмін: *применять оружие – ужываць зброю*. У

тлумачальным слоўніку ў дадатак знаходзім слушны прыклад – “*применение* новой машины в производстве – *ужываннe (скарыстанне*) новай машыны ў вытворчасці”. А *прымяненне* – па тым самым акадэмічным слоўніку – выкарыстоўваецца ў дачыненні да абстрактных з’яў, як, напрыклад, “*применение* новых методов – *прымяненне* новых метадаў”. Сучасны невялікі ўзус беларускамоўных публікацый сур’ёзных аўтараў на вайсковую тэму таксама аддае перавагу баявому выкарыстанню. Заўважым, што ў “Русско-белорусском словаре для военных” (1996) “баявое прымяненне”, а ў “Расейска-беларускім вайсковым слоўніку” (1997) С. Судніка – “баявое скарыстанне”. У кнізе [23] 1931 г. чытаем: «Умовы ўжывання зьнішчальнай авіяцыі».

Боевое слаживание – 1. боевое слаживание – **баявое шыхаванне** (як тэрмін мабілізацыйных дакументаў); 2. слаживание (у складзе экіпажаў, звёнаў, эскадрылляў) – **шыхаванне** (як тэрмін тактыкі авіяцыі). У ходзе мабілізацыі для па(д)вышэння ўзроўню натрэніраванасці фарміруемых падраздзяленняў, якія прыбываюць так званымі “камандамі” з камплектуючых ваенкаматаў, ладзіцца *боевое слаживание.* То бок на занятках вайскоўцамі спачатку індывідуальна, потым у складзе падраздзяленняў аднаўляюцца забытыя навыкі, павышаецца скаардынаванасць іх дзеянняў. Усё гэта “па-просту” называецца “прыціранне”, “збіванне” адзін да аднаго (як фрагменты пазла). У авіяцыйнай эскадрыллі, якая з’яўляецца падраздзяленнем заўсёднай баявой гатоўнасці, такое “прыціранне” адбываецца штодзённа ў ходзе лётнай падрыхтоўкі і рэгулюецца курсамі баявой падрыхтоўкі рода авіяцыі. Калі звярнуцца да гісторыі з’явы, то пытанне мабілізацыі і трэніроўкі (*шыхавання*) паспалітага рушання, як важнай дзяржаўнай справы, вырашалася ў Вялікім Княстве вельмі развітым для таго часу заканадаўствам у выглядзе асобных артыкулаў у Статуце ВКЛ і актаў соймаў. “Каманды” “прызыўнікоў” фарміраваліся таксама па адміністрацыйна-тэрытарыяльным прынцыпе і называліся харугвамі. Раённым “ваенкамам” з’яўляўся павятовы харужы. Для цікавасці, харужы,

у адрозненне ад ваенкама, вёў сам сваю харугву "войну воеваті", а не проста дастаўляў на пункт збору сваё войска. Дык вось першасная семантыка слова *шыхаванне* – упарадкаванне, падрыхтоўка (у старабеларускім лексіконе: *шыховаті – рыхтаваць*) найбольш адпавядае значэнню тэрміна *слаживание* для нашай вайсковай, прымусова перарванай, традыцыі. Хаця ў сучасным друку *шыхаванне* (а найчасцей, *шыхтаванне)* падаецца як канкурэнт-сінонім слову *пастраенне (*як абазначэнне строю ці як збор падраздзяленняў часці зранку, увечары адпаведна рэгламенту дня). Гэта выглядае, як «наш адказ Чэмберлену» прыхільнікаў «класічнага» прыхільнікам «некласічнага» правапісу. Напрыклад, «Да бітвы войска *шыхтавалася* ў тры шэрагі". Але, як бачым пасля пераасэнсавання, патрэбныя два гэтыя словы, якія займаюць строга вызначанае месца. Такім чынам, фразу "Полет в сомкнутом боевом порядке звена требует высокой *слаженности* и натренированности, для чего летчики отрабатывают упражнения по программе *слаживания* сначала в составе пары, затем звена» можна перайначыць на беларускі "матыў" – "палёт у *самкнёным баявым шыху* звяна патрабуе высокай *зладжанасці*, з гэтай мэтай лётчыкі адпрацоўваюць практыкаванні па *шыхаванні* спачатку ў складзе пары, потым звяна". Трэба прыгадаць, што тэрмін маецца ў "Русско-белорусском словаре для военных" (1996): *слаживание – зладжванне; строевое с. – страявое зладжванне*.

Боевой порядок і полетный строй (самалётаў, верталётаў) (мал. 4) – **баявы шых** і **палётны строй.** На зямлі беларускай вядуцца "баі" паміж *страямі, парадкамі* ды *шыхамі* (*шыхтамі*). Паветраныя "баі" адсутнічаюць проста з-за незапатрабаванасці такога тэрміна ў беларускамоўным "паветраным" асяроддзі. А ў авіяцыі гэта пашыраны тэрмін. Вельмі арыгінальна важнасць праблемы авіяцыйнага "порядка" адлюстроўвае рэкламны плакат аднаго банка, усталяваны на ўскрайку дарогі ў напрамку Нацыянальнага аэрапорта. На ім быў намаляваны клін буслоў і з боку надпіс – "во всем порядок"! Гэта сапраўды філасофская квінтэнсэнцыя сімвалізму, зразумелая, бадай, толькі вайсковым

авіятарам! Для аўтара такі малюнак ёсць сапраўдным дэвізам дадзенай працы – **у беларускай авіяцыі павінен быць беларускі парадак – беларускі шых**! Дарэчы, слова *порядок* займае і ў расійскай мове канкурэнтнае месца разам з *правилом* у адным выпадку, і са *строем* у другім выпадку. І ў аўтара часта ўзнікала пытанне, чаму ўжываюцца розныя словы ў выпадках *правил использования воздушного пространства* і *порядка пересечения государственной границы*. Якая ж розніца паміж *строем* і *порядком*? Па-сутнасці, ніякай. А па часе і прымяненні – у тым, што *порядки* ўзніклі пазней і тычацца, як правіла, механізаваных падраздзяленняў пры выкананні баявых задач. Напрыклад, у залежнасці ад ступені падрыхтаванасці да бою *боевые порядки – баявыя шыхі* могуць быць паходнымі, перадбаявымі і баявымі. Для авіяцыі існуе іншае дзяленне *баявых шыхаў* – самкнёны, разамкнёны і разгрупаваны (Гл. Сомкнутый, разомкнутый, рассредоточенный). Для паказальных палётаў і проста палётаў без выканання баявых задач актуальны тэрмін – *палётны строй*. Такім чынам, існаванне гэтых двух тэрмінаў у авіяцыі не выклікае сумневаў. Цяпер пра самі словы "шых" ды "строй". У слоўніку Судніка *строй* заменены на *шыхт*: *строевой смотр – шыхтовы агляд*, *строевые приемы – шыхтовыя хваты*, *перестроение* (боевого порядка) – *перашыхтаванне*. У слоўніку Насовіча: *шихъ* – гэта *порядокъ, образецъ,* і прыведзены прыклад – *Одным шыхомъ здзѣлано*. У беларуска-расейскім слоўніку Байкова-Некрашэвіча *шых – порядок, строй* (*военный*). У Коласа ў вершы "Гады змагання, перамог" 1928 г. чытаем "*Ідуць гады сталёвым шыхам".* У "Старабеларускім лексіконе" фіксуецца *шикъ (шихъ, шыхъ) - вайсковы строй, [баявы] парадак*. Як відаць з тлумачэння, "шых" гэта не рад, а сукупнасць пастраення радоў і шэрагаў, якія ў выніку складаюць канкрэтны баявы парадак. А калі некаму муляе вока "расійскае" слова "рад", тады прапануецца ўспомніць гімн БНР, у якім ёсць наступныя словы: "выйдзем шчыльнымі радамі". Радавод слова *шыхт,* які на беларускай моўнай глебе апрацаваўся ў беларускае *шых,* мае нямецкія карані. Таму адназначна можна сказаць, што менавіта

 *строю* і адпавядала “дзіцё” беларуска-нямецкага паходжання *шых*. А зараз пра “строй”: слова фіксуецца ў РБС тых жа




Байкова-Някрашэвіча “строй – лад, парадак; (воен.) строй (в.т.), шых”; ў “Практычным беларускім вайсковым слоўніку” (1927) “строй (войск.) – строй”; ў слоўніку Крапівы ўсё проста – *строй* гэта *строй*, *порядок* гэта *парадак*.

**<u>мал. 4</u>**

Такім чынам, зразумела, што *строй* будзе канкураваць увесь час з *шыхам*, бо з’яўляецца часта ўжывальным словам, як у афіцыйнай пазіцыі, так і ў літаратурнай. А з *боевым порядком – парадкам* усё прасцей. Тут можна правесці аналогію з праблемай ужывання канчаткаў -іраванне, як неўласцівых нашай мове, і больш традыцыйных -аванне. Дык вось, у слове *пікіраванне* ўжо цяжка штосьці выправіць, а, напрыклад, з параўнальна новымі *капіяванне, сканаванне* такіх зацятых “баёў” няма (У [5]: *сканаваць*, *сканавальны прамень*). Таму пакінем традыцыйны строй *строем*, а храналагічна больш новы для расійскай мовы *боевой порядок* заменім больш стар<u>ы</u>м у беларускай мове *шыхам*. Тым больш, для *шыха* ў значэнні *шыхаванне* ў нас ёсць і іншыя “пазначаныя” месцы.

Боевой – **баявы.** Тут цяжкасцяў з прыметнікам *боевой* у мове няма, але з-за шматразгалінаванасці тэрмінаў з ім у авіяцыі

яго нельга абмінуць: *баявыя ўмовы, план баявых дзеянняў, баявая работа* і г.д. Трэба заўважыць, што ўжо ў “Практычным вайсковым слоўніку” адлюстраваныя такія тэрміны, як *баявая здольнасць*, *баявы разлік*.

Боевые действия – **баявыя дзеянні**. Тэрмін прыведзены для перасцярогі ад неабдуманага перакладу на беларускую мову, напрыклад, у выглядзе *вайсковыя (ваенныя) дзеянні*. Бо спецыялісты, у адрозненне ад журналістаў, ведаюць два яго значэнні: 1) як складнік вайсковых дзеянняў пры выкананні баявых задач; 2) як форма прымянення злучэнняў, часцей, падраздзяленняў (у класічным разуменні займае сярэдняе месца між больш буйной *аперацыяй* і меншай формай *бой*). Таму тут лепш захаваць менавіта такую форму, каб не заблытацца ў нераспрацаванай беларускамоўнай тэрміналогіі. Цікавы прыклад глумлення над мовай прыведзены ў слоўніку 1933 г. – *баявыя дзействыя.* Хаця яшчэ ў вайсковым слоўніку 1927 г. *боевым действиям* адпавядае *баявыя дзеянні*. Гэтаксама тэрмін падаецца і ў “Русско-белорусском словаре для военных” (1996).

Бомбардировка, бомбардировать (бомбить) (мал. 5) – 1. бомбардировка, бомбить (лятальнымі апаратамі) – **бамбаванне, бамбаваць (бамбіць)**; 2. бомбардировка, бомбардировать (артылерыяй) – **бамбардаванне, бамбардаваць.** [3] падае *бамбаванне* (8960 адказаў на запыт у сеціве). На *бамбардзіроўку*, якую падтрымліваюць акадэмічныя [2, 3, 4] слоўнікі, “адклікнулася” 2800 артыкулаў. У інтэрнэце пішуць: “Шведы сцвярджаюць, што *бамбардавалі* рэзідэнцыю цацкамі з заклікамі да свабоды”. Пытанне узнікае, яны рэзідэнцыю *бамбардавалі* з гаўбіц ці з марцір? Такая блытаніна ўзнікла па простай прычыне – адсутнасці аналізу прычынна-выніковай сувязі ўзнікнення слоў *бомбардировка, бомбардировать,* а таксама неўласцівасці мове суфіксальнай асновы -ірав-. Гістарычна першымі з’явіліся гарматы, якія *бомбардировали – бамбардавалі* крэпасці-фартэцыі. І рабілі гэта, дарэчы, *бамбардзіры*. Гэтае слова перабралася і ў спорт. Самага трапнага гульца, які часцей за ўсіх забівае мячы, так і называюць – *бамбардзір*. Па той самай

аналогіі ў расійскай мове самалёт, які ляцеў з той жа мэтай, з якой прымяняліся гарматы – *бомбардировать*, быў названы *бомбардировщиком.* Вось чаму *бомбардировщики* ажыццяўляюць *бомбардировку.* Але калі чалавек, які пра такія тонкія матэрыі, як моўныя традыцыі, не ведае і бачыць, што ляцяць бомбы, то ён лагічна скажа – "нас бомбят". Што і назіраецца скрозь, калі *бомбардировка* ператвараецца ў дзеяслоў – *бомбить*. Але хто сказаў, што мы павінны ісці ў рэчышчы расійскамоўнай традыцыі, калі насамрэч гэтыя з'явы – *бомбить,* якая паходзіць ад *бомба*, і *бомбардировать* – як даніна традыцыі – маюць роўныя правы на «жыццё». У [1] чытаем: *бомбардировать – бамбаваць, бомбардировка – бамбаванне, бомбометание – бомбакіданне*. Таму сучасныя беларусы-юзэры проста ўспомнілі забытае слова – *бамбаванне*, а *бамбардаванне* ў артылерыі так і засталося бамбардаваннем. Да таго ж, беларускай мове не ўласціва ўтварэнне аддзеяслоўных назоўнікаў з канчаткам -ка. Гэтую праблему закрануў і Зміцер Крымоўскі ў сваім артыкуле "Нашай Нівы" – http://nn.by/?c=ar&i=153275.




**мал. 5**

Бомбардировщик; бомбардировочный (мал. 5) – **бамбавальнік**, **(у** мастацкай літаратуры дапушчальны **бамбавік**; **бамбавальны** (база, узбраенне). Гэтая праблема разгледжана сістэмным метадам у папярэднім артыкуле. Але разгледзім для цікавасці гэты тэрмін яшчэ глыбей. У кнізе “Паветраныя сілы нашых суседзяў” [23] 1931 г. аўтар паслядоўна ўжывае толькі – «*бамбавальная* авіяцыя», «гэты завод набыў ліцэнзіі на пабудову *цяжкіх бамбавальнікаў*», «*бомбаванне*», «*бамбавальны налёт*». А ўжо ў ваенным руска-беларускім слоўніку 1933 г. – *бомбардыроўшчык*. І ў [26] 1933 г. чытаем: *бомбардыровачная* авіяцыя, «перш нападае *бомбардыроўшчык*…», *бомбамятанне*. Але там жа аўтар ужывае *бамбавальнік*. Мабыць, па звычцы?! Ну а [19] – слоўнік Крапівы – замацаваў *бамбардзіроўшчык*. І зараз такі варыянт быццам лічыцца класічным. Трэба заўважыць, што часам і “тарашкевічы” ужываюць слова *бамбардзіроўшчык* – “стратэгічныя *бамбардзіроўшчыкі* дальняга дзеяньня Ту-16 і Ту-22МЗ”. Але ў пурыстычным слоўніку [3] зноў сустракаем *бамбавальнік*. У сучасным узусе часцей сустракаецца *бамбавік* (ужо зафіксаваны ў 2001 г. ў слоўніку Нашай нівы [17]) і *бамбавальнік* (у слоўніку Судніка) як словы, цалкам падпарадкаваныя сістэме словаўтварэння ў нашай мове, а значыцца больш натуральныя. *Бамбавік* часцей сустракаецца ў мастацкай літаратуры: 1962 г. – “Змагарныя дарогі” К.Акулы, 1970 г. – “Віхры на скрыжаваннях”. Пашырыўся ў 90-х гг.. *Бамбавальнік*, на ўласную думку, усё ж больш вайсковае слова (тым больш, як паказанна вышэй, маюцца паслядоўныя і больш раннія факты ўжывання тэрміна). Дадамо, што існавала яшчэ слова *бамбавоз*, якое паралельна існавала і ў расійскай мове, але з цягам часу стала гістарызмам. Прыметнік жа “бамбавальны” утвараецца ад дзеяслова “бамбаваць”. Але пакуль у афіцыйных слоўніках замацавана штучна занесенае “бамбардзіровачны”. Даведачна: па-англійску – bomber, па-польску – bombowiec. Дарэчы, польскае *бомбовец* нагадвае беларускія *швец, жнец, кравец і “на дудзе ігрэц”*, што паказвае яшчэ адзін недалёкі ад нас варыянт словаўтварэння баявых машын.

Бомбометание – **бомбакіданне**. Рэдкае адзінадушша ўсіх слоўнікаў. У [5]: *бомбометание из-за облаков (кабрирования, пикирования) – бомбакіданне з-за аблокаў (кабравання, пікавання)*. Але ж і тут Google "выдаў" тры *бомбамятанні*. Тлумачэнне гэтаму знаходзім у гісторыі развіцця мовы. Калі ў вайсковым слоўніку 1927 г. падаецца тэрмін *бомбакіданне*, то ўжо ў слоўніку 1933 г. – *бомбаметанне*. Даведачна: першыя бомбы не аддзяляліся ад гакаў падвескі, як на сучасных самалётах, а выкідваліся лётчыкамі з кабіны, перад гэтым добра прымерыўшыся! Трэба заўважыць, што расійскім *сбрасывать* і *метать* адпавядаюць беларускія *скідваць* і *кідаць (шпурляць).* То бок магчымым было ўтварэнне тэрміна – *бомбаскіданне*. Але з'ява шырэй і ўключае бомбаскіданне (як этап), шпурлянне і траплянне ў цэль. Усе тры этапы і складаюць бомбакіданне.

«Бреющий» полет – «**брыючы**» (ці «**скрэбены**») палёт. Авіяцыйны жарганізм паходзіць ад расійскага фразеалагізма «брить деревья». Існуе, як адмысловы (спецыяльны) тэрмін у [19]. Калі даць волю фантазіі, мы можам сказаць «скоблить деревья» – «скрэбсці дрэвы», які ў прыметнікавай форме прыме выгляд – *скрэбены*. Факты выкарыстання тэрміна маюцца ў беларускамоўных авіяцыйных дакументах: [26] – «да цэлі атакі ША ляціць "брыючым палётам"», [24] – «палёт штурмавіка на малой вышыні называецца "брыючым палётам"», [23]: «брэючы палёт» . У "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" Судніка (1997) [5] *бреющий п. – пryземны п.* .На думку аўтара больш адпавядае расійскаму "маловысотный полет" ці "полет на малой высоте", але ён таксама можа выступаць як сінонім "скрэбенаму" палёту у афіцыйнай літаратуры.

Бронированный – **браніраваны**. Усе афіцыйныя слоўнікі падаюць *браніраваны* і ў сеціве назіраецца больш варыянтаў з *браніраваны*, чым з *браняваны*. Прыклады з сеціва: "Су-25 – савецкі *браняваны* дагукавы штурмавік", "каля 470 баявых *браніраваных* машын". Так, для нашай мовы не ўласцівыя суфіксы -ірав-, але тут той выпадак, калі мы можам зрабіць выключэнне для вайсковай мовы, бо для яе ўласціва і натуральна ўжываць больш зычных, чым галосных.

-Брос- – **-кід-**. Гаворка не пра югаслаўскага Сталіна – Брос Ціта – вядома ж, а пра распаўсюджаную каранёвую аснову *-брос-* у шмат якіх авіяцыйных тэрмінах. З аналізу ўсіх гэтых разначынных тэрмінаў з расійскім *-брос-* вынікае, што беларускі адпаведнік *-кід-* цалкам яму адпавядае. Для прыкладу, расійскія *сброс* (фонаря, подвесок), *выброска* (десанта), *переброска* (техники) *подброс* (фонаря), *заброс* (оборотов, температуры) адпавядаюць беларускім *скід, выкід (выкідванне), перакід (перакідванне), падкід, закід*. Выразы радыёабмену: "*121-й, сброс (пуск, огонь) – 121-ы, скід (пуск, агонь)", "сброс произвел – скід выканаў (учыніў)*" (Гл. Производство).

Ведущий і ведомый – 1. **вядучы** (гаворка пра прадмет, прыназ.) і **вядзёны**; 2. **вядоўца** (гаворка пра чалавека, наз.) *і* **вядзёны.** Амаль усе слоўнікі падаюць варыянт *вядучы,* у тым ліку і слоўнік Судніка. Толькі [20] дае *вядоўцу*. У дадатак, мы ведаем, што нашай мове не ўласцівыя -учыя, -ючыя. Хоць Google падказвае, што перавага ўсё роўна на баку "вядучага", мы маем права ўжыць у спецыяльным значэнні слова "вядоўца" ў звязцы вядоўца-вядомы, калі гаворка ідзе пра чалавека, а калі тэрмін выступае ў якасці прыметніка, то кажам вядучы – *вядучы* вал, *вядучы* самалёт, але "Казінец – *вядоўца* дэманстрацыйнай групы". Са словам *вядзёны* складаней атрымалася. Бо ў крапівоўскім варыянце прысутнічае і *вядомы* (якое мае, як пазначана, другое значэнне – известный), так і *вядзёны (воджаны, ведзены)*. Не заглыбляючыся, можна лёгка зразумець, якое з гэтых слоў з'яўляецца прыхаднем! А ў дадатак, фраза з сеціва – "Як *вядзёны* ў пары прыкрывае хвост *вядоўцу*, так і я прыкрываў Сяргееў кофар" (http://nn.by/?c=ar&i=5102). Трэба згадаць, што слова "вядоўца" трапіла ў літаратурную мову досыць нядаўна і мае значэнне "Той, хто кіруе чым-н.; вядучы, вядучая." Пра гэта распавядаецца ў "Слоўніку адметнай лексікі" [21].

Вертолет – **верталёт**. Усе слоўнікі падаюць гэты варыянт. Хаця арфаграфічны слоўнік "нашаніваўцаў" [7] (якi, дарэчы, паводле словаў саміх укладальнікаў, слоўнікам не з'яўляецца) у

класічным правапісе выдае і *гелікоптэр* (па сучасных правілах – *гелікоптар)*. Ва ўкраінскай мове афіцыйна ўжываецца *вертоліт*, а ў вольным друку таксама сустракаюцца варыянты *гелікоптер, гвінтокрил*. Сустракаюцца ў беларускім сегменце "сусветнага павуціння" і *шрубалёты*. Напрыклад, у Вікіпедыі – "181-ы асобны *шрубалётны* полк", "181-я баявая *шрубалётная* база" (ужо не існуе). Але гэта адзінкавыя выпадкі. Варыянт нядрэнны, бо мае традыцыю ў мове (напрыклад, *шрубакрут – шуруповерт* няблага сябе адчувае ў беларускамоўным асяродку), але, хутчэй за ўсё, не прыжывецца. Наша зрусіфікаванае насельніцтва, гэта не чэхі, якія з энтузіязмам напоўніцу прымянілі пурызм у ачышчэнні мовы ад германізмаў. На дадзены момант, на тым, што называецца "шрубалёт", лётаюць гномы ў камп'ютарнай гульні Warcraft 3!))

Видимость – **бачнасць**. Тэрмін шырока распаўсюджаны ў авіяцыі. Але ў комплексных авіяцыйных значэннях па-беларуску прадстаўлены слаба. Прысутнічае некалькі варыянтаў *бачнасці авіяцыйнай* у метэаслоўніку [18]: *вертыкальная, нахіленая бачнасць, далёкасць бачнасці*. "Словарь для военных" [4]: *видимость – бачнасць; хорошая в. – добрая бачнасць; ограниченная в. – абмежаваная бачнасць; прямая в. – прамая бачнасць*. У [5]: *видимость – бачнасць*. А вось у [26] 1933 г. знаходзім і такое: *відзімасць цэлі*.

Визуальный – **візуальны** (вакамерны). Прыметнік сустракаецца ў шматлікіх авіяцыйных тэрмінах. Працуючы з метэаслоўнікам, заўважыў тэрмін *вокамерныя назіранні – визуальные наблюдения*. І зразумеў, што ўсе авіяцыйныя тэрміны са складнікам *візуальны* могуць таксама быць *вокамернымі*, бо гэта вызначаецца нават іхнімі абазначэннямі сутнасці. Вядома ж, звычка – моцная штука, але ж, як рэзервовы варыянт, *вакамерны* трэба трымаць на будучыню.

Вильчатый подкос (мал. 6) – **ражковы** (вільчасты) падкос. Тут зроблена аналогія, але цяжка выявіць, што аўтар меў на ўвазе, гледзячы на два "зубы" прыстасавання – ці *відэлец* (*вилка*), ці *вілкі* (*вилы*). Хутчэй, калі браць памеры і сялянскае

мінулае савецкіх канструктараў, асацыяцыя ішла з «вилами». Таму, адштурхоўваючыся ад такой высновы, па нормах словаўтварэння трэба ўжыць *вілачны падкос*. Але калі спытаць любую яшчэ жывую беларускамоўную бабулю, то яна адкажа больш натуральным для нашай мовы прыметнікам *вілкавы*. А зараз увага – мы ідзем зноў памылковым шляхам, бо спрабуем глядзець на такія тэхнічныя рэчы не сваімі вачыма, а чужымі. У слоўніку 1927 г. ёсць цэлы вайсковы тэрмін: *вилка соединительной планки – рожкі злучальнай планкі*. Дык вось, калі вярнуцца да нашай гіпатэтычнай бабулі і спытаць, што ж ёй нагадвае такая канструкцыя, упэўнены, што адкажа па-беларуску – нейкія рожкі! Дадамо, што ў ПТС [16] прыведзеныя калькі: *вильчатый – вільчАсты, вилка колеса шасси – вілка кола шасі*.



**мал. 6**

Винт – **вінт**. У сеціве прыстасову, якая стварае цяглавую (Гл. Тянущий) ці пад’ёмную сілы, часам называюць *шрубай*: “Эфект Каанда прымяняецца ў тэхналогіі NOTAR (англ.: *No Tail Rotor* – «безхваставая *шруба*») – сістэме кіравання верталётам па гойсанні, якая ўжываецца замест рулявой *шрубы*”. Але гэтаму пытанню ўсё ж надалі належную ўвагу і ўжо ў слоўніках Крапівы і Булыкі знаходзім размежаванне паміж авіяцыйным *вінтом* і будаўнічай *шрубай.* Здаецца, што тады больш дарэчным будзе ўжыванне *прапелер*, чым зусім аддаленае падабенства будаўнічага мацавальніка (крапежа) з прыкручанымі да вала

лопасцямі. А вось, як бачым, у расійскамоўным варыянце фантазія канструктара дазволіла такое параўнанне зрабіць. Таму даводзіцца лічыць і прымаць слова *вінт* з усёй яго гісторыяй, што і зафіксавалі беларускія слоўнікі. Варта заўважыць, што слова “вінт” ужываецца яшчэ і ў марской справе, а вось “прапелер” – толькі ў паветранай. Яшчэ адзін тэрмін, які не адносіцца да авіяцыйнай справы, аднак хвалюе аўтара – *гребной винт*, перакладаемы (нават пурыстычным слоўнікам Судніка) як *грабны*. Існуюць весляры (гребцы), веслярныя (гребные) каналы, спартыўнае веславанне (гребля), але вось вінт чамусьці па-беларуску не вяслуе, а грабе!

Вираж – **віраж**. У ПТС [16] добра пададзена класіфікацыя віража – глыбокі, круты, адваротны, перавёрнуты (Гл. Перевернутый), гранічны (Гл. Предельный), які ўстанавіўся (Гл. Установившийся). *Мелкого виража* няма. Семантыцы гэтага слова адпавядае беларускі прыметнік *плыткі* – плыткі віраж (спіраль).

Вихрь і вихревой, завихрение – **віх<u>о</u>р і віхрав<u>ы</u>, завіхрэнне**. Часта ўжываны тэрмін у аэрадынаміцы (*генератар віхроў*). Праблема ў варыятыўнасці ў літаратурнай мове – віхор, віхура, віхар. Але па апісанні з тлумачальнага слоўніка для такой аэрадынамічнай з’явы падыходзіць менавіта слова *віхор*. Адпаведна і множны лік будзе ад *віхра – віхры, -роў*. А вось прыметнік у тэрмінах адзіны – *віхравы*. У [18], напрыклад, прыведзены наступныя актуальныя для авіяцыі тэрміны – *Каляпалярны віхор, віхравы рух*, *віхравая кінетычная энергія*. Меўся ў адмысловым значэнні ўжо ў [25] 1932 г.– *завіхраныя патокі паветра, завіхрэнні*. “Віхор”, “віхравЫ” і “завіхрэнне” прысутнічаюць і ў “Руска-беларускім фізічным слоўніку” [12].

Внешний і наружный – 1. (*успрыяцце пілотам з кабіны*) 1.1 внешний осмотр (<u>мал. 7</u>) – **знадворны агляд**. *Внешний осмотр* – гэта канкрэтная працэдура агляду лётчыкам самалёта (верталёта), перад тым, як сесці ў кабіну, як умоўнага “гаспадара”. То бок тут успрыманне кабіны ідзе як памяшкання, сваёй “хаты”, у якой мы праводзім большую частку часу. А не

абстрагуемся ў нейкі вонкавы “свет”. Мы працуем каля канкрэтнай “хаты” і аглядаем яе знадворку, як заўсёды гэта рабілі руплівыя гаспадары – беларусы. Вось і прыклад – “*знадворку* Прохарава хата сапраўды мела цалкам прыстойны выгляд.” *Зарэцкі.* Ды й вайсковы слоўнік 1927 г. падказвае, што *внешний рычаг – знадворны вагар, падважнік*. Такое ж уяўленне мелі аўтары 30-х гг. у сваіх кнігах на авіяцыйную тэматыку: [17] – *знадворны выгляд,* [22] – «і паперу, і матэрыю трэба шчыльна прыклеіць да *знадворных* плянак”, “на ўсіх лопасцях правыя *знадворныя* канцы трохі выгнем данізу”. 1.2 внешние подвески (мал. 8) – **знадворныя падвесы** (Гл. Подвеска). Фізічнае ўспрыманне лётчыкам падвесаў такое ж, як і ў першым разе. Ён іх успрымае, седзячы ў кабіне, як прадметы знадворку: “Дзецям стала зусім не страшна, хоць *знадворку* гулі сосны.” *Мележ.* Хаця ў сеціве сустракаюцца варыянты *звонку*: “Самалёт здольны несці да 3000 кг баявой нагрузкі на дзевяці *вонкавых* вузлах падвескі” (МА). 2.1. внешнее повреждение – **вонкавае пашкоджанне**. Тут гаворка ідзе пра пашкоджанне паверхні нейкага элемента самалёта ў адрозненне ад унутранага пашкоджання. 2.2 (*размяшчэнне парных элементаў у адносінах адзін да аднаго*) внутренние-внешние узлы (подвески, валы і г.д.) **унутраныя-вонкавыя вузлы (падвесы, валы** и г.д).




**мал. 7**




**мал. 8**

Вогнутый, выпуклый, вогнуто-выпуклый – **увагнуты, пукаты, увагнута-пукаты, дваякапукаты, дваякаўвагнуты**.

Тут таксама не назіраецца аднастайнасці ў слоўніках. Але ж, дзіва, акадэмічны слоўнік выдае, як падаецца, найбольш натуральныя варыяцыі, якія і прыведзены вышэй.

Военный – 1. **ваенны** – у дачыненні да вайны. Гэты тэрмін, дарэчы, мае і гістарычна-культурную спадчыну ў выглядзе тэрмінаў у статуце ВКЛ –«военные лісты», «войну служіті» 2. **вайсковы** – калі гаворым пра войска, армію. Як бачым, усё проста. Гэтая тэма добра агучана ў сецыве. Але сіла інерцыі дагэтуль прысутнічае. Таму майму вуху больш звыкла чуць **Ваенна-паветраныя сілы**. Хаця ўкраінскі тэрмін гучыць як *Військово-повітряні сили*. Пазнавальная даведка з гісторыі – слоўнік 1927 г. быў яшчэ "практычным беларускім *вайсковым"*, а слоўнік 1933 г. – ужо *ваенным*! 3. *военные действия* – 3.1. (вайсковы тэрмін у значэнні – планаванне і кіраўніцтва дзеяннямі войскаў) **вайсковыя дзеянні** 3.2. (дзеянні пад час вайны) **ваенныя дзеянні**. Тэрмін *военные действия* ў расійскай мове выступае ў двух значэннях. Першае, як вайсковы тэрмін, які выкарыстоўваецца пры планаванні, кіраўніцтве вайсковымі дзеяннямі. Напрыклад – "аналіз варыянтаў *вайсковых* дзеянняў". Адмоўны прыклад з інтэрнэту – "баявая работа ў ходзе падрыхтоўкі і вядзення *ваенных* (баявых) дзеянняў" (МА). Другое значэнне тэрмін "военные действия" ў беларускай мове набывае, калі ўжываецца пры апісанні дзеянняў войскаў у ваенны час ці проста ў прапагандысцкіх, мастацкіх мэтах. У гэтым разе кажам *ваенныя дзеянні.* 4. военный самолет (вертолет, база і др.) – **вайсковы самалёт**. Станоўчыя прыклады з інтэрнэту – **"**краіны NATO ва Усходняй Еўропе дадуць свае *вайскова*-паветраныя базы ў распараджэнне ВПС ЗША", "пад Навагрудкам разбіўся *вайсковы* самалёт", "ў *вайсковым* гарадку Новыя Засімавічы"**.** Традыцыйны "наркамаўскі" прыклад – "на *ваенн*а-транспартным самалёце Іл-76". 5. *военное искусство* – традыцыйна ужываецца **ваеннае мастацтва (**такі варыянт дадзены і ў слоўніку Судніка**).** Мне здаецца, што такім тэрмін можна і пакінуць. Бо ён па сутнасці з'яўляецца дуалістычным. Аб'ектам вывучэння *ваеннага мастацтва* з'яўляецца вайна, а прадметам – спосабы яе вядзення, законы і

прынцыпы, то бок “інструменты” вайсковай справы. 5. театр военных действий – **тэатр ваенных дзеянняў**. Вельмі шырокае паняцце. З’яўляецца стратэгічным, ахоплівае усю вайну. І казаць тут як пра форму *вайсковых* дзеянняў нельга, бо сінонімам фразеалагізму тут выступае тэатр вайны, а не тэатр войск. Таму з прыкладам “самым мэтазгодным спосабам агнявога ўздзеяння на *тэатры вайсковых дзеянняў* стане выкарыстанне авіяцыі” цяжка згадзіцца. Пацверджанне маім словам знаходзім у слоўніку 1927 г. , дзе *театр военных действий – тэатр ваенных дзеянняў* і ў “Словаре для военных” [4] 1996 г. 6. Тэрмін “военнослужащий» у беларускім выкананні “ваеннаслужачы” гучыць таксама як і “мочавывадзяшчыя пуці”. Бо ўвогуле, беларусам нехарактэрна ўжываць да прафесій і асоб прыметнікі – “служащий, портной, рабочий», якія больш уласцівыя расійскай мове. І калі казаць па-Скарыне, то хоць “руску мову маем”, але “русінамі і літвінамі называліся”, а не рускімі (дагэтуль у палякаў захавалася такая форма назвы беларусаў – “беларусіны”). Таму **вайсковец, ваяр** павінны ачысціць калі-небудзь мову ад “ваеннаслужачых”. Тым больш “Словарь для военных” [4] падае і “ваеннаслужачы”, і “вайсковец”. Пры ўсім не трэба забываць, што юрыдычна існуюць два тэрміны “*военная* и *войсковая служба*” ў “Палажэнні аб праходжанні *вайсковай* службы”, якія маюць розныя значэнні. Таму пазбаўляцца ад *ваеннай* службы нельга, бо маем і **вайсковую службу,** і **ваенную службу** ў спецыяльных значэннях.

Возврат і обратный – **зварот** і **адваротны**. Тут узнікае праблема аманіміі, якую вайсковая тэрміналогія імкнецца пазбягаць. Але, не гледзячы на большую колькасць значэнняў слова “зварот” у параўнанні з *вяртаннем,* слова будзе мець толькі адно значэнне у кантэксце навігацыі, без перасячэння з іншымі амонімамі. Тым больш, “Словарь для военных” [4] таксама падае на *возврат* слова “зварот”. Тады выкарыстанне тэрмінаў “возврат на точку” – «зварот на вышку» і *режим (работы РСБН)* “возврат” – *рэжым* “зварот” (калі перадача ідзе ў беларускім варыянце) не выклікае супярэчнасцяў. Цікавую

лексему сустракаем у [24] – «выканаўшы сваю задачу, самалёт быстра *варочаецца*…». Крыху інакш будуем фразу “курс, обратный посадочному”. Згодна з тлумачальным слоўнікам наш курс мае значэнне “супрацьлеглага” – “адніманне ёсць дзеянне адваротнае складанню”. Такім чынам фразеалагізм мы перакладаем як “курс, *адваротны* пасадачнаму”. Тое ж тычыцца “обратной стреловидности” (таксама выкарыстоўваецца тэрмін *отрицательная*), бо яна «обратная» звычайнай стрэлападобнасці, таму маем “адваротную (адмоўную) стрэлападобнасць”. Тады крыло обратной (отрицательной) стреловидности – *крыло адваротнай (адмоўнай) стрэлападобнасці*.

Воздушная навигация, самолетовождение, вертолетовождение – **паветраная навігацыя, лётніцтва, верталётніцтва** (самалётаваджэнне, верталётаваджэнне). Украінскі варыянт – *повітряна навігація (литаководіння*). Трэба адзначыць, што традыцыйна навігацыйныя тэрміны ў авіяцыі запазычваліся з марской навігацыі і напачатку развіцця авіяцыйнай навігацыі прысутнічаў тэрмін *паветраплаванне*, які прымяняўся для абазначэння руху ЛА, лягчэйшага за паветра. Вось прыклад з інтэрнэта – “Нацыянальны музей авіяцыі на базе ВПС Аплендс, прысвечаны ранняй гісторыі *паветраплавання*”. Але, як бачым, паступова *паветраплаванне* было заменена на *самалётаваджэнне* па аналогіі з *караблеваджэннем*. Водгуллем марскога мінулага ў сучаснай авіяцыі з’яўляецца і тэрмін *паветранае судна* (Гл. Воздушное судно). Тэрмін *самалётаваджэнне* зафіксаваны ў “Словаре для военных” [4] 1996 г. Але ў РБС/БРС Байкова-Некрашэвіча знаходзім наступныя тлумачэнні тэрміна *лётніцтва*: *авиация – лётніцтва/лётніцтва — воздухоплавание, авиация, аэронавтика; аэронавтика – лётніцтва/лётніцтва — воздухоплавание, авиация, аэронавтика.* Як бачым, сустракаемая сёння варыятыўнасць *авіяцыя-лётніцтва* мае пад сабой гістарычную падаснову. Але бачым яшчэ пару сінонімаў лётніцтва – аэранаўтыка, паветраплаванне. Таму, пакуль няма ўстойлівай тэрміналагічнай гісторыі, мы можам надаць русізму

*самалёта-(верталёта-)ваджэнне* беларускі адпаведнік *лётніцтва (верталётніцтва).* Па такому ж прынцыпу ўтвараем *планёрства* і іншыя падобныя тэрміны. У [5] знаходзім яшчэ адзін варыянт – *самалётакіраванне*. Адзначым, што ён мае іншую семантыку і пасуе больш да тэрміна тэхнікі пілатавання, чым да навігацыйнага.

Воздушное судно – **лятак,** паветранае судна. Для раскрыцця праблемы прывядзём каментар карыстальніка Alter Ego з інтэрнэт-форума без правак – *«“самалёт” ці “лятак”? “Бамбардзіроўшчык” ці “бамбавік”? Ужо не кажу пра ўласцівую нашай мове мякасць, пр.: Ірляндыя. Нязграбная мова НН, як і ўся мова “ савецкае” (імпэрскае) “наркамаўкі”, улучаючы сінтаксіс. Што замінае патрошку аздабляць яе, тым болей – гістарычны падмурак грунтоўны*!”. Лётчыкі часам кпілі з гэтага тэрміну, бо параўнанне ішло з расійскай “посудиной”, прызначанай для нерухомага хворага чалавека. Ды й у множным ліку – *судны* (па-расійску – *суда*) беларуская калька гучыць нязграбна. Слова "карабель" традыцыйна атаясамляецца з цяжкімі *суднамі* ці там, дзе экіпаж складае больш за аднаго члена, то бок мае сваё, больш вузкае месца, чым *воздушное судно*. А вось украінізм “лятак” на адной «купіне» канкуруе з *самалётам*. У нашым разе *летаку* можна надаць значэнне *паветранае судна* – больш “пачэснае” і больш шырокае за *самалёт*. Такім разам, нашая чарговая беларуская “матрошка” атрымалася наступнай – *лятальны апарат* (*лятак,* спадарожнік, паветраны шар, экранаплан), *лятак* (*самалёт*, верталёт, аэрастат і г.д.) і *самалёт*. Украінскі варыянт – *повітряне судно,* але ў іх самалёт застаўся, як і было спачатку, *літаком*.

Воздушный коридор і воздушная трасса, внетрасовый – **паветраны калідор** (тракт) **і паветраная траса** (гасцінец) **пазатрасавы** (пазагасцінны). Гэты варыянт паказвае, што чалавечая фантазія здольная паэтызаваць усе сферы жыцця чалавека. Называць адно і тое ж можна па-рознаму. Напрыклад, з кнігі па канструкцыі Мі-8 даведваемся, што “воздушный тракт” у авіяцыйным рухавіку азначае менавіта прастору паміж сценкамі контураў кампрэсара, то бок мае аб’ёмнае напаўненне і

з’яўляецца тым жа калідорам, як і ў традыцыйным значэнні. Тракт жа ў традыцыйным разуменні мае толькі шырыню і даўжыню. Атрымліваецца, што ў розных абласцях авіяцыйнай дзейнасці (авіяцыйная тэхніка і выкарыстанне паветранай прасторы) датычна адной з’явы мы маем розныя тэрміны. Тое ж самае адбываецца, напрыклад, у абазначэнні рознымі літарамі (як правіла, грэчаскага алфавіта) аднолькавых тэрмінаў нават у розных раздзелах адной навукі-аэрадынамікі – самалётнай і верталётнай. Таму прапанаваны варыянт – проста даніна больш старыжытнаму і традыцыйнаму варыянту ўжывання *тракта* ў значэнні “шлях, наезджаная дарога” ў беларускай геаграфіі. Тое ж самае тычыцца і ўжывання тэрміну *паветраны гасцінец*. Тут увогуле вельмі дакладна перадаецца сэнс прызначэння паветраных трас – па іх лятаюць госці – пасажыры ў тую ці іншую дзяржаву. Хіба такое гучанне не надае мове мілагучнасць і рамантычнасць, хіба не ўзбагачае яе, як разынка здобу?! Дзеля аб’ектыўнасці адзначым, што тэрміны разгледжаныя ў афіцыйным “Словаре для военных” [4]: *воздушный к. – паветраны калідор, к. полёта – калідор палёту, воздушная т. – унутраная паветраная траса*. У англійскай мове: паветраная траса – паветраны шлях – airway.

Воздушный стрелок – **паветраны стралец**. Увага на гэты тэрмін звернута з-за існавання двух варыянтаў – *стралок і стралец*. Апошні пазначаны, як гістарычны тэрмін. З чым аўтар не згодны з прычыны распаўсюджанасці слова яшчэ ў пачатку 20-х, да рэформы 1933 г. У [5] – *стралок*.

Восходящий і нисходящий (поток, фигура пилотажа) – **узыходны** і **сыходны**. Спецыяльны тэрмін – у [18]: *сыходны (узыходны) вецер*. У ПТС – *узыходны (зыходны) паток*.

Втулка – **утулка** (галава). У англійскай мове *втулке* адпавядае галава, галоўка – head! Так што пытанне – як лепш сказаць гэта па-беларуску – застаецца адкрытым. Факт ужывання тэрміна *ўтулка* маецца ў [25] – 1932 год! Таксама “утулка” са шматлікімі прыкладамі прысутнічае ў “Словаре для военных” [4] і ПТС [16].

Выполнить, совершить, осуществить – **выканаць (**пры выкананні загаданых задач у спецыяльнай лексіцы і ўжыванні**), рабіць (**дапушчальна пры літаратурным апісанні**), здзейсніць** (совершить), **ажыццявіць** (осуществить). Увага звернута на выкарыстанне гэтага дзеяслова таму, што часта пераклад ідзе без прывязкі да фізічнай прыроды з'яўлення выразаў са словам *выполнять*. Напрыклад – "*выполнено* 100 боевых вылетов", "при *выполнении* боевого вылета» і г.д. І вось тут пачынаюцца пераклады. Прыклады з сеціва – "*здзейсняць* авіяцыйнае прыкрыццё", "палком *здзейснена* больш за 120 тысяч баявых вылетаў", "*здзейсніў* больш за 250 баявых выхадаў", "пры *здзяйсненні* планавага палёту на борце верталёта Мі-8", "два лёгкія франтавыя знішчальнікі МіГ – 29 вылецелі з Таганрога і *ажыццявілі* палёт уздоўж мяжы". Але вайсковыя лётчыкі і ўвогуле вайскоўцы заўсёды *выконваюць* пастаўленую задачу, а не лятаюць (страляюць і г.д.) па ўласнаму жаданню. Напрыклад, лётчыкам задача *на ўшчэнт* якой-н. цэлі з *загаданай* ступенню *ўшчэнту* ставіцца камандзірам загадзя. І яны ляцяць на выкананне задачы, а не проста дзеля жадання палятаць за дзяржаўны кошт. Бо "ставлю задачу выполнить полет по маршруту и поразить цель", а не "осуществить полет по маршруту». Правільны прыклад з сеціва – (МА) "23 мая 1996 года Карват выконваў навучальна-трэніровачны палёт па практыкаванню 314"**.** А вось у выпадку – «перспективный российский бомбардировщик ПАК ДА совершит первый полет в 2023 – 2024 годах" можна ўжываць *здзейсніць***,** *ажыццявіць***.** Пры вымушаных ці проста пасадках лётчык *здзяйсняе* пасадку, а не так, як у прыкладзе з сеціва – (МА) «ацаніўшы сітуацыю, экіпаж *ажыццявіў* (наконец-то, осуществил давнюю свою мечту – вынужденно сел!) вымушаную пасадку ў раёне н.п. Бяроза". А вось правільны прыклад – "пасля сыходу ад украінскай мяжы баявых знішчальнікаў пілоты вярнуліся на свой базавы аэрадром і *здзейснілі* пасадку". Для цікавасці, у англійскай авіяцыйнай тэрміналогіі нашаму "выконваць" адпавядае make – рабіць, якое

часам мае адлюстраванне ў сеціве –“самалёт *рабіў* узьлёт ноччу”.

Выравнивание (мал. 9) – **выраўноўванне**. Тут цікавы выпадак, калі аўтар сам стварае праблему і потым “гераічна” яе вырашае. А звязана гэта было з жаданнем прымяніць трапнае беларускае *спраставанне* – *спрямление* (Гл. Спрямление маршрута). Але, калі глянуць на з’яву глыбей, то атрымаецца, што пры *выравнивании* лётчык не *спрямляет* – *спрастоўвае* траекторыю, а наадварот, «ламае» яе з мэтай *выравнивания* – *выраўноўвання* адносна зямлі і траекторыя атрымліваецца “крывой”. Тэрмін *выравнивание* – *выраўноўванне* фіксуе “Словарь для военных” [4].




**мал. 9**

Высота – **вышыня.** З гэтым словам у авіяцыйным разуменні таксама праблем няма. Але ў сеціве сустракаем і такое – «*Высата* над узроўнем мора – 204 м / 669 фт”. Тут пытанне ўзнікае, ці аўтар настолькі зрусіфікаваны, ці наадварот, хацеў перадаць нейкі схаваны сэнс. А калі так, то што хацеў гэтым сказаць? Трэба памятаць, што *вышыня* ў авіяцыі – паняцце вельмі разгалінаванае і шматпланавае. То бок *вышыні* бываюць розныя, у залежнасці, што і ад чаго вымяраецца. Маем *вышыню сапраўдную, адносную, абсалютную, пераходу, парогу* і г.д. Эшалон, гэта таксама вышыня, якая вымяраецца адносна ціска 760 мм.рт.сл. У расійскамоўнай традыцыі для абазначэння розных вышынь дадаецца прыметнік, які характарызуе адметную ўласцівасць такой вышыні. А вось у англійскай авіяцыйнай тэрміналогіі

вышыня абсалютная – altitude, вышыня перавышэння – elevation, эшалон – flight level, вышыня адносная – height. А мінімальная бяспечная вышыня над узроўнем аэрадрома, калі даслоўна, *дазволены ліміт да перашкоды* – obstacle clearance limit. Думаю, што мы задаволімся першай, расійскамоўнай, сістэмай вышынь! Тое ж зафіксавана ў “Словаре для военных” [4] і ПТС [16]. У [5] сустракаем тэрмін: *относительная высота – параўнальная (рэлятыўная) в*. Але тут адлік ідзе ад адноснай вышыні, а не вядзецца параўнанне.

Высотный і высотность (двигателей, системы), высотник – **вышынны** і **вышыннасць, вышыннік**. Шырока прадстаўлены ў метэаслоўніку [18]: *вышынны цыклон (туман, профіль)*. У ПТС [16]: *высотность – вышыннасць, в. двигателя – в. рухавіка. Вышынны* знаходзім у тлумачальным слоўніку беларускай мовы. Там жа маецца тэрмін “вышыннік”. Сустракаюцца выпадкі ўжывання ў сеціве – “вышынны таран”. Цікавы прыклад маецца ў кнізе “Авіямодэлізм” 1932 г. [25]: «… для пад’ёму модэлі на вялікую вышыню – “*вышынёвая*”».

Высший, сложный, простой пилотаж – (най)**вышэйшы** (украінскі варыянт – *вищій*), **складаны**, **просты**. Прыклад з інтэрнэта – “падчас выканання фігур *вышэйшага* пілатажу знішчальнік пачаў губляць вышыню”. Тут крыху ненатуральным для мовы выступае прыметнік *вышэйшы*, які дакладна павінен быць *найвышэйшым*, а *вышэйшы* – гэта параўнальная ступень – *вышэйшы* за каго-небудзь. Але тэрмін у выглядзе *вышэйшы пілатаж* ёсць ў слоўніку Крапівы (як і вышэйшая адукацыя, ці гатунак, дарэчы) і ў вайсковым слоўніку Судніка [5]. А вось у “Словаре для военных” [4] знаходзім “найвышэйшы пілатаж”. Як бачым, тэрмін трактуецца неадназначна. На карысць “вышэйшага пілатажу” дабавім тое, што ў нашай мове існуе элатыў. Пра яго – у інтэрнэце!

Вышедший из строя (прибор, ЛА), введен в строй – **зведзены з ладу**, **уведзены ў лад**. Тэрмін ужываецца як у тактыцы авіяцыі, так і ў авіяцыйнай тэхніцы ў значэнні больш шырокім, чым проста *зламаны*. Слоўнік Судніка прапануе *пашкоджаны*. Але як адрозніць яўныя прыкметы *пашкоджання*

*(повреждения)* ад няяўных? Бо *пашкоджананне* – гэта яўная прыкмета (у сеціве сустракаем – “такія лятальныя апараты змогуць “залечваць” *пашкоджаньні* падчас палёту”), а *выход из строя (*авария, порча, поломка, повреждение, неудача) – гэта спыненне функцыянавання на розных стадыях і ў выніку розных прычын. [5] яшчэ прапануе: *разладзіць, збіць з ладу (зламацца, пашкодзіцца, разладзіцца, збіцца з ладу)*. Фразеалагізм, мабыць, пайшоў з лексікона расійскіх вайскоўцаў. У аўтара, падхапіўшага гэты ўстойлівы выраз, як бывае, спрацавала фантазія, у якой ён параўнаў чалавека, які *выйшаў са строю* і знік, з сапсаванай прыладай ці знішчанай, *пашкоджанай* тэхнікай. Такім чынам і мы маем права вольна паступіць, пашырыўшы ўжыванне беларускага слова *звесці* ў значэнні – *знішчыць, перавесці*: “дык раней, пры тваім старшынстве, мы ледзь і канюшыну не *звялі*.” *Пянкрат.* У авіяцыйным дакуменце мы скажам – “Рэдуктар быў *зведзены* (*з ладу*) з прычыны трапляння стружкі ў аліву”.

Гладкоствольный, ствол і ствольный – 1. **руля пушкі, гладкарульная пушка, 6-ці рульная пушка** (калі говорка пра пушку). 2. **ствол гарматы, ствольная артылерыя** (калі гаворка пра гармату) (Гл. Пушка (авиационная)). Слоўнік Крапівы [4] падае *гладкаствольны*. Паводле ж гэтага слоўніка, *руля* — гэта ствол *стрэльбы*, а ў астатняй зброі (*орудий*) — толькі *ствол.* Корань слова *руля* ў сэнсе *дула (ствол) ружжа* сустракаецца ва ўсіх акадэмічных слоўніках, у тым ліку ў слоўніку Байкова-Некрашэвіча [8]. Вайсковы слоўнік Судніка [3] лічыць, што *гладкоствольный* – гэта *гладкарульны*. Вайсковы слоўнік 1927 г. не мае дзялення, калі гаворка пра зброю, і дае адназначны адпаведнік – *руля*. Дык што гэта – сінонімы на адной “купіне” ці словы з розным значэннем і маюць права жыць паасобку, на розных “купінах”? Як так здарылася? У расійскай мове *ствол* азначае *камель (ствол)* дрэва. Акрамя таго, у беларускай мове ёсць запазычанні з расійскай – нервовы *ствол*, *ствол* шахты. Наракаюць да таго ж, што ў *рулі* – польскае паходжанне. Але мне гэта нагадвае спрэчкі кшталту – “што больш беларускае – псарня ці сабакарня?”. Вядома ж, вучоныя Усходні

і Заходні (“Тутэйшыя”) маюць думкі на гэты конт акурат супрацьлеглыя, але і адзін і другі сыходзяцца ў адным – беларусаў тут “не хадзіла”. Дык вось, спадары псеўда-вучоныя – усё, што на гэтай зямлі – усё беларускае! Такім чынам можна канстатаваць, што гістарычна ў беларуса склалася так: *руля* больш падыходзіць да стрэльбаў і іншай дробнакалібернай зброі, а *ствол* – у буйнакаліберная артылерыі, *гарматах*. Так што ўсе аўтаматычныя *пушкі*, у тым ліку *авіяцыйныя пушкі* маюць *рулі*, а *гарматы* – *ствалы* (Гл. Пушка (авиационная)). У такім разе, пушка – *гладкарульная,* а гармата – *гладкаствольная*. Дадамо, што рэальныя носьбіты мовы не абмяжоўваліся вузкім акрэсленнем “рулі” – напрыклад, у кнізе Акулы “Змагарнымі дарогамі” (1963) чытаем наступнае: “Гляньце - вунь тырчыць сярод руінаў *руля* разьбітай нямецкай "пантэры"...”, “Маёр Карпінскі,…, ускарабкаўся наверх першага танка і, абхапіўшы рукамі *рулю* гарматы,...”, “…зірнуўшы праз рулю [гарматы], убачыў голае неба.”

Горизонт (мал. 10) – 1. **гарызонт (**характарыстыка становішча ЛА**)**: гарызантальны палёт, каманда лётчыку “вывесці ў гарызонт”. 2. естественный горизонт (небокрай) – **прыродны небасхіл**, искусственный горизонт (на прыладзе) – **штучны небасхіл**. 3. вдали, на горизонте – на **даляглядзе** (бліжэй, чым небакрай-небасхіл). Ёсць у Кулакоўскага такія словы – “Адзін за адным, адзін за адным выплываюць з-за небасхілу караблі, усё роўна як з дна марскога”, дзе якраз пад *небасхіл* падпадае лінія гарызонта. Стандартны фізічны сэнс небасхіла, што гэта частка неба над лініяй гарызонта, небакрай, больш пашыраная. Для лётчыка гэтае слова яшчэ больш адпавядае таму вобразу, які ўзнікае пры ўжыванні “естественный горизонт”, бо гэтая лінія ўяўнага гарызонта можа перасоўвацца якраз у дыяпазоне небасхілу. На жаль, геаграфічны тэрмін *пазем,* прыняты навукова-тэрміналагічнай камісіяй, пакуль не прыжыўся. У [5]: *авиагоризонт* – *штучны далягляд*. Але фізічна для беларуса далягляд не выступае мяжой паміж зямлёй і небам – гэта проста далёка!







**мал. 10**

Горюче-смазочные материалы – **гаруча-змазачныя матэрыялы**. Мяжа ў класічным разуменні паміж *гаручым* і *палівам* такая: *паліва* – больш шырокі тэрмін, *гаручае* – што гарыць з кіслародам. Але гэтая мяжа, магчыма, важная для хімікаў, а не для службы ГСМ. Таму ў нашым разе зноў жа філолагі пайшлі ў фарватары «генеральнай лініі партыі» русіфікацыі – куды лінія, туды й мы! Пацверджанне, што размежаванне на паліва і гаручае штучнае для нашай мовы, маецца ва ўкраінскай мове. Там ГСМ – *пально-мастильні матеріали*. Таму гаручае можна пакінуць у якасці прыметніка, а ў якасці назоўніка ўжываць *паліва* як цалкам самадастатковае. У [5]: *горючее – паліва*, *горюче-смазочный – паліўна-змазкавы*.

Господство в воздухе – **панаванне ў паветры**. Тэрмін прысутнічае ў "Словаре для военных" [4], БелЭн і ў [3].

Гражданский (аэродром, авиация) – 1. **цывільны.** Але – грамадзянская пазіцыя, грамадзянская вайна. Прыклады з сеціва – "сёння па населеным пункце быў нанесены авіяўдар. Разбураныя грамадзянскія аб'екты", "Радам – чатырнаццаты па велічыні горад у Польшчы, будзе мець свой *грамадзянскі* аэрапорт", "ён спадзяецца, што з часам у яго цэнтры пачнуць падрыхтоўку *грамадзянскіх* лётчыкаў". Ёсць прыклады і са словам *цывільны* – "ахвяр сярод *цывільнага* насельніцтва няма",

(МА) – “дазволена нашэнне *цывільнага* адзення”. *Цывільная* авіяцыя, як арганізаваная структура з’явілася пазней, чым вайсковая. Таму павінна ставіцца, не як цалкам незалежная, а наадварот, як вытворная ад вайсковай авіяцыі. Той рэдкі выпадак, калі спакойна можна спаслацца на аб’ектыўнасць акадэмічных слоўнікаў (у тым ліку ў “Словаре для военных” [4] і ў [5]: *гражданская авиация – цывільная авіяцыя)*, дзе адназначна даецца варыянт *цывільны*. Але, дзеля аб’ектыўнасці адзначым, што на практыцы ўкаранілася “грамадзянская авіяцыя”, пра што нагадвае, напрыклад, шыльда “паліклініка грамадзянскай авіяцыі” (даваенны будынак мінскага аэрапорта) ды і ўсе сустракаемыя мной шыльды па-беларуску адназначна мелі надпіс “грамадзянская авіяцыя”. Усе афіцыйныя сайты таксама падаюць *грамадзянскую авіяцыю*, напрыклад, сайт Еўразійскай эканамічнай камісіі, дзе прадстаўлена інфармацыя на мовах дзяржаў-удзельніц. У кнізе [23] 1931 г. чытаем: “патрэбы *грамадзянскай авіяцыі*…”. Таму, дзеля сістэматызацыі, можна прапанаваць наступнае: за афіцыйнымі назвамі захаваць фактычна дзейнае “грамадзянская авіяцыя”, а “цывільная авіяцыя” лакалізаваць у вайсковым лексіконе і дакументах: *гражданский сектор Единой системы – цывільны сектар Адзінай сістэмы*.

Громкоговоритель і громкоговорящий, переговорное устройство – **гучнамоў(нік) і гучнамаўленчы, перамоўная прылада** (Гл. Устройство). У афіцыйных слоўніках ужываецца *громкагаварыцель*. У [5]: громкоговоритель – галоснік, рэпрадуктар, громкоговорящее переговорное устройство – галоснае перамоўнае прыстасаванне, переговорная таблица – перамоўная табліца. ПТС [16] – гучнагаварыцель, громкоговорящий – гучнагаворачы. У сучасным узусе ўсё часцей сустракаем *гучнамоўнік*, які пры далейшым развіцці мовы можа перайсці ў *гучнамоў*. Прыметнік *гучнамаўленчы* створаны ад сіноніма *речевой – маўленчы* (Гл. Речевой).

Группировка – **групоўка, (пера)групаванне** (дынаміка). Назіраецца закаранелае пашыранае ўжыванне *групіроўкі* з савецкіх часоў замест *групоўкі.* Адназначнае трактаванне ў

акадэмічных слоўніках – групоўка. [4] раздзяляе “групоўку” (объединение) і “групаванне” (действие) (Гл. Аэродинамическая компановка). Да таго ж, “абурэнне” як “возмущение” прысутнічае ў “Слоўніку фізічнай тэрміналогіі” БНТ 1929 г. і “фізічным слоўніку” [25].

Департамент по авиации, Управление по регулированию государственной авиации, Руководство по боевой подготовке (по летной (технической) эксплуатации, по техническому обслуживанию) і г.д. – **Дэпартамент авіяцыі, Упраўленне рэгулявання дзяржаўнай авіяцыі**, **Інструкцыя** (Кіраўніцтва) **баявой падрыхтоўкі** (**лётнай (тэхнічнай) эксплуатацыі**). Сучасная тэндэнцыя – пабудова беларускага сказа па расійскай мадэлі: дэпартамент *па* авіяцыі.

Дальний і дальность – **далёкі і далёкасць**. У інтэрнэце пастаянна сустракаецца жаданне “тэхнічнасць” *далёкасці* перадаваць расійскім *дальнасць*. Быцам *дальнасць* азначае нешта такое таямнічае, якое нельга перадаць простым беларускім *далёкасць*. Такім чынам, кожны раз знаходзіць пацверджанне шавіністкі стэрэатып, што навука – гэта не па-беларуску. Вось прыклад з “павуціння” – “*Дальнасць* палёта — 1250 км.”. Але ж мы ведаем, што гэта не так. Калі ласка, станоўчы прыклад з сеціва – “самалёт *далёкага* радыёлакацыйнага выяўлення А-50 расійскіх ВПС”. Падсумоўваем, што *далёкі* і *далёкасць* ёсць вычарпальнымі для ўсіх авіяцыйных тэрмінаў. Напрыклад – далёкабойнасць, ракета далёкага дзеяння, акрамя, бадай што, дальнамера (Гл. Дальномер). Найбольш натуральны і “прасунуты” ў справе развіцця вайсковай тэрміналогіі слоўнік 1927 г. мае такія адпаведнікі: *далячыня стрэлу, далячыня лёту кулі*. У [4] – толькі “далёкасць”, як і ў ПТС [16] (са шматлікімі прыкладамі ўжывання). “Дальнасць” фіксуе толькі зрусіфікаваны ваенны слоўнік 1933 г.

Дальномер – **дальнамер.** *Дальнамер* ёсць у “Практычным беларускім вайсковым слоўніку” [1], “словаре для военных” [4] і ў ТСБМ. Толькі ў слоўніку Судніка [5] зафіксаваны “далячынямер”. Таму, як бачым, тэрмін быў даўно паслядоўна прапрацаваны і мае сваю слоўнікавую традыцыю, з чаго вынікае

магчымасць зрабіць выключэнне ў адрозненне ад словаўтварэння іншых тэрмінаў са складнікам далёка-. Англійскі варыянт, для цікавасці – адлегласці вымяральнае абсталяванне – distance-measuring equipment.

Дальность действия (радиус действия, рубеж досягаемости) – **далёкасць дзеяння, радыус дзеяння**, **далёкасяжнасць**. *Дальность действия– далёкасць дзеяння* // “Словарь для военных” [4]. *Дальность действия авиации – далёкасць дзеяння авіяцыі* // ПТС [16] 1997 г. Прапанаваны наватвор “далёкасяжнасць” утвораны ад прыметніка *далёкасяжны* (маецца ў [17]). У “Слоўніку адметнай лексікі” [21] ёсць “далёкасяжны – далекоидущий” з прыкладам “далёкасяжныя думкі”, а ў “Слоўніку паронімаў беларускай мовы” 1994 г. “дасягальнасць” і “дасяжнасць” падаюцца ў значэнні “достижимость, досягаемость”. Такім чынам слова гэта маладое, але настолькі трапнае, што павінна заняць сваё месца. Не блытаць з *глыбінёй баявых дзеянняў* (за лініяй баявога судакранання – ЛБС), *далёкасцю базавання* (да ЛБС) і *далёкасцю ўшчэнту* (далёкабойнасцю).

Дальность, расстояние, радиус – **далёкасць, адлегласць, радыус**. Прыклад прыведзены для таго, каб яшчэ раз паказаць, што розныя словы – не абавязкова розныя па значэнні – часам з’яўляюцца проста данінай гісторыі развіцця розных навук. І калі на зямлі розніца між *дальностью (расстоянием*) і *радиусом* можа быць істотнай, то ў паветры, вядома ж, такая мяжа адсутнічае. Што і адлюстроўвае англійская авіяцыйная тэрміналогія, дзе *далёкасць*, *адлегласць* і *радыус* абазначаюцца адным словам – **range**.

Двигательный (отсек, установка) – **рухавіковы**, двигатель і движетель – **рухавік** і **рухач**. Увага на тэрміны звернута невыпадкова. З-за нераспрацаванасці тэрмінаў і іх блізкасці часта адбываецца блытаніна там, дзе яны сустракаюцца ў адных артыкулах і абзацах. Хоць, як адмысловыя тэрміны, яны замацаваныя ў акадэмічным слоўніку. Цікава прасачыць змены і адрозненні ў семантычных адценнях аднаго кораня *-рух-* у беларускай і ўкраїнскай мовах. Там *двигательная*

*установка – рУхова установка*. У нас слову *рухАвы* адпавядае “подвижный, проворный”. Прыклад з сеціва – “поршневы *аднарухавіковы* біплан з расчалачным крылом”. Сустракаецца і такі варыянт – *сілкавальная усталёўка* (Гл. Установка). У “Русско-украинском словаре авиационных терминов” 2004 г.: *отказавший двигатель – що відмовив*.

Дистанция, интервал (мал. 4) – **водступ**. Слоўнік Крапівы падае *дыстанцыю*. Слоўнік Судніка *водступ*. Рэч у тым, што гэта той выпадак, калі запазычаныя – дыстанцыя, інтэрвал – словы іншаземнай лексікі з’яўляецца залішнім хаця б таму, што слова *водступ*, якое існуе і ў расійскай мове, цалкам адпавядае той з’яве, за якую “адказваюць” *інтэрвалы* і *дыстанцыі*. Гэтая з’ява – адлегласць паміж прадметамі ў адной групе. З уласнага досведу, розніцу між дыстанцыяй і інтэрвалам увогуле вельмі цяжка ўсвядоміць, калі пачынаеш сутыкацца з гэтымі тэрмінамі з “нуля”. Помню, калі ў нас была страявая падрыхтоўка, каб запомніць значэнне гэтых слоў, даводзілася добра падумаць і дайсці да таго, што *дыстанцыя* – гэта станцыі на адной лініі, куды ідзеш, то бок наперад – назад, і па рэшткаваму прынцыпу ўсвядоміць, што для *інтэрвала* засталося толькі значэнне ўбок, налева-направа. Дарэчы, і англійская мова нам дае, што *дыстанцыя* – station! Вольнасць і непаслядоўнасць утварэння тэрміну прадэманстравала і азначэнне адлегласцей між *лятакамі (паветранымі суднамі)* пры іх эшаланаванні. Дык вось, бакавыя, падоўжныя і вертыкальныя *водступы* ў расійскамоўнай традыцыі маюць назву *інтэрвалы.* Такім чынам, можна зрабіць выснову, што драбленне адлегласці на *дыстанцыю* і *інтэрвал* з’яўляецца залішнім, таму яго можна замяніць адным словам – *водступ* – а віды водступаў (калі ідзе гаворка пра іх у адным кантэксце) абазначаць прыметнікамі – бакавы, прадоўжны, вертыкальны.

Допустимый перерыв в полетах – **дапушчальны перапынак** між палётамі. Яшчэ раз неабавязковасць калькавання і шматграннасць тэрміна як у прасторавым, так і ў часавым вымярэннях дэманструе англійскі адпаведнік interval – перапынак, паўза, прамежак. Так што дапушчальнымі,

калі шырока паглядзець, з’яўляюцца і інтэрвал, і перапынак, і прамежак, і паўза.

Жесткая (конструкция, проводка) і жесткость (мал. 11) – **цвёрдая** (канструкцыя, праводка) і: 1. **цвёрдасць** (матэрыялу) 2. **жорсткасць** (дынамічная). ПТС [16] 1997 г. падае: жёсткий 1. (аб матэрыяле) цвёрды; 2. (аб выпраменьванні, канструкцыі) жорсткі; жёсткость 1. (матэрыялу) цвёрдасць; 2. (выпраменьвання, канструкцыі) жорсткасць. Як бачым, слоўнік не дае эквівалента *динамической жесткости*, але, як бачым, ён падпадае пад другое – пераноснае – значэнне, чым і скарыстаемся. Такім чынам: вось *цвёрдасці*, *паўцвёрдае* злучэнне, *цвёрды* дырыжабль, дынамічная *жорсткасць* і г.д.




**мал. 11**

Живучесть (авіяцыі, рухавіка, сістэмы кіравання і г.д.) – **жывучасць (**трываласць**).** Тэрмін *жывучасць* зафіксаваны ў [3], “Словаре для военных” [4], ПТС [16], слоўніку Судніка [5]. Заўважу, што і ва ўкраінскім [6] 2004 г. – “живучість”. Тэрмін *жывучасць* здаецца калькай з расійскай, але нельга пры гэтым казаць, што гэта не беларускае слова. *Жывучасць* фіксуе яшчэ РБС Байкова-Некрашэвіча. У патрэбным значэнні знаходзім і ў электронным Корпусе Беларускай мовы (http://bnkorpus.info/). Фізічны сэнс *живучести* ў тактыцы авіяцыі і ўвогуле, у тактыцы, азначае якраз *надежность – надзейнасць*, *стойкость – стойкасць* да ўздзеяння сродкамі *ўшчэнту* (Гл. Поражение) саперніка на авіяцыйную тэхніку, лініі сувязі і г.д.,

што можна было б перадаць словам *трываласць*, які б мог служыць сінонімам да *жывучасці*.

Заданный (режим, эшелон, траектория, степень поражения, район поиска, эшелон) – **загаданы.** У акадэмічных слоўніках падаецца *зададзены* ці *дадзены* (напрыклад, у [4]: *заданный маршрут – зададзены маршрут*). Але фізічны сэнс *заданного*, это – *предписанный*. Таму смела можам у гэтым сэнсе ўжываць, не азіраючыся на чужую словаўтваральную традыцыю, *загаданы* – які ў беларускім варыянце набудзе эмацыйнае ўзмацненне сэнсу тым, што ён “приказанный, загаданный”. Тады і *задатчик курса* – ***загаднік курсу*****.**

Заклепочный – **заклёпачны (заклёпкавы).** Праблема ўласнага выбару. Хоць крапівоўскі варыянт, як і БНТ [9] 1932 г., падаюць– *заклёпачны*, але ў сучасным узусе беларусаў усё больш пашыраецца *заклёпкавы*: *заклёпкавы шоў*.

Замыкающий – 1. (назоўнік) **замыкальны** 2. (дзеепрыметнік) **замыкаючы.** Яшчэ адзін тэрмін тактыкі, “пахаваны” класічнымі слоўнікамі, бо яго там проста няма. Прычына? Незапатрабаванасць. Але ж напачатку беларусізацыі ўсё не так было сумна. Гэты тэрмін знайшоў адлюстраванне ў слоўніку Байкова-Некрашэвіча (у сэнсе *заключительный, замыкающий*).

Замысел (воздушного боя, командирского решения) – **задума.** Амаль усе слоўнікі, у тым ліку слоўнік Судніка [5] і “Словарь для военных” [4], падаюць *задуму*. Можа падацца, што тэрмін занадта простанародны. Ну, дык чаму з *ползуна, тарелки перекоса, магнитной пробки, коромысла* не смяюцца расійскія “тэхнары”?! Тым часам, *задума* “хады не спыняе” і ўжо “прыйшла” ў друк – «Яго *задума* не зьвязаная з задумай «Захад-2009»**.**

Запирать і отпирать 1. *ав. ліхтар (шклян)* **замкнуць і адамкнуць,** *каманда РИ* “запри фонарь” **“замкні ліхтар (шклян)”** 2. *канал ствала (рулі)* **заваліць (адваліць).** Беларускія адпаведнікі падабраныя пасля аналізу з’явы “запирания-отпирания» з боку гледжання беларускай мовы. У [5]: *запирающий механизм – замыкальны м*.

Запросчик і запрос – **запытальнік** і (запрос условий на использование воздушного пространства, запрос запросчиком цели) – **запыт**. Тут узнікае складанасць толькі з *запросчиком*. Шуканае слова ёсць ў “Словаре для военных” [4]: “*запросчик – запытчык”.* Але слушным *запросчику* падаецца **запытальнік,** які часам сустракаецца сярод карыстальнікаў “сусветнай сметніцы”. Акрамя *запытальніка* ў сеціве сустракаецца і *запытнік,* як вынік эканоміі моўных сродкаў. Такім чынам, заранее (заданный объект), заблаговременная (подготовка і г.д.), своевременность борьбы (с воздушным десантом) – **загаданы аб’ект загадзя, падрыхтоўка, зробленая загадзя** (скарочаны варыянт: **падрыхтоўка загаддзя), своечасовасць барацьбы – барацьба ў час.** У [4] знаходзім: *заблаговременный – зроблены загадзя; (своевременный) своечасовы*. Гэта класічны прыклад самадастатковасці мовы і штучнага выцяснення іншароднымі канструкцыямі кшталту *своечасовы* пры пабудове фразеалагізмаў па ўзору замежнай мовы.

Засада – **засада** (залога). у [1]: *засада – засада*. У старабеларускім лексіконе *залога* – 1. *засада* 2. *гарнізон*. Таму *залогу* можна ўжыць да тактычнага тэрміна → паветраная засада (залога).

Звено – 1. **звяно** (як тактычная авіяцыйная адзінка) 2. **злучво** (як тэхнічны тэрмін). На неабходнасць замены *звяна* на традыцыйнае *злучво (вязьмо)* звярнуў увагу С. Станкевіч у сваёй кнізе [10]. І БНТ [9] 1932 г., і ПТС [16] 1997 г. падаюць толькі “звяно”. Цікавы варыянт прапануе С. Суднік у сваім слоўніку (1997): *звено (подразделение) – звязак, авиационное з. – авіяцыйны звязак*. (Гл. Авиационное звено).

Избыток (мал. 12) – 1. избыточное давление – **залішні ціск** 2. избыток тяги – **лішак цягі**. Такое трактаванне існуе і ў інтэрнэце – “гэта найбольшая вышыня, на якой пры палёце са сталай гарызантальнай хуткасцю яшчэ прысутнічае *лішак* цягі”. У [5]: *избыточное давление – залішні ц.* .

Излучение і излучатель – **выпраменьванне** (выпраменне) і **выпраменьвальнік** (выпраменнік). Праблема суб’ектыўнага

характару, бо праблем з аднастайнасцю трактавання беларускіх адпаведнікаў тут няма. Напрыклад, у [4]: *излучатель (спец.) – выпрамяняльнік, выпраменьвальнік*. Усе слоўнікі падаюць *выпраменьванне*, акрамя слоўніка Булыкі – *выпраменне*. Думаю, праз некаторы час закон эканоміі моўных сродкаў возьме верх.




**мал. 12**

Износ лопаток (компресора) – **знос** лапатак. Адразу згадваецца прозвішча Мікіты *Зноска* з "Тутэйшых". Як людзі зношваюцца, так і лапаткі, зробленыя з загартаванай сталі, таксама зношваюцца.

Израсходовать боекомплект – **выдаткаваць.** *Зрасходваць*, як падае слоўнік Крапівы і "Словарь для военных" [4], мякка кажучы, не зусім кладзецца на "вытанчанае" беларускае вуха. Думаецца, што больш традыцыйнае *выдаткаваць*, якое мелася ў слоўніках 20-х і якое зараз паступова вяртаецца ў новыя слоўнікі, мае больш перспектыў. *Расход боеприпасов, топлива – выдатак боепрыпрыпасаў, паліва*. *Израсходовано – выдаткавана*. *Перерасход-перавыдатак* маецца ў [4]. У [5]: *расход, выдатак, выдаткаванне*. Трэба дадаць, што ёсць паняцце *выделить*, якое па-беларуску перадаецца як *выдаць, выдзяліць, вылучыць* – то бок боепрыпасы можна *выдаць*, але прытым не *выдаткаваць* іх. У гэтым разе *расходный бак – выдатковы бак*. *Расход ручкі* можна пакінуць, як тэрмін пілатавання.

Инерциальный і инерционный – **інэрцыйны**. Калі прааналізаваць групы расійскамоўных тэрмінаў, то пабачым, што ніякай розніцы ў семантыцы паміж *инерциальный* і *инерционный* няма. Таму цягнуць у беларускую мову адразу дзве формы няма патрэбы.

Исправленный курс, исправление пути (курса) – **папраўлены курс, выпраўленне шляху (папраўленне курсу)**. Праз тое, што раней у адмысловым значэнні гэтыя навігацыйныя тэрміны не выкарыстоўваліся, існуе шматварыятыўнасць іх утварэння шляхам механічнага перакладу – *выпраўлены, папраўлены, праўлены, пераладжаны*. Таму лічу правільным прывязаць першы тэрмін да логікі яго ўтварэння – *исправленный курс*, гэта курс палёту з улікам навігацыйнай *папраўкі* (*папраўкі* на вецер). Такім чынам *папраўлены* набывае бяспрэчную "цяжкаважкасць" перад астатнімі прыназоўнікамі. А вось для тэрміна *исправление пути* будзе існаваць варыятыўнасць – *выпраўленне, папраўленне*. Для астатніх параметраў палёту не характэрны выраз кшталту "исправление скорости (высоты)".

Истинная (высота, воздушная скорость і г.д.) – **сапраўдная (вышыня, хуткасць).** З ТСБМ мы ведаем, што галоўны сэнс сапраўднага – *подлинность, истинность.* Што і адпавядае, напрыклад, фізічнаму сэнсу *истинной высоты* – адлегласці па вертыкалі ад лятака да зямной паверхні. Сапраўдным эквівалентам для *истинной* (высоты, скорости) з'яўляецца і *дзейсны (действительный* (у арыгінале *действенный*) – [8]). Але гэта той выпадак, калі ўсе нарматыўныя слоўнікі падаюць варыянт *истинный – сапраўдны.* У [5]: *праўдзівая вышыня, праўдзівы (сапраўдны) мерыдыян.* Цікава, што ў англійскай, для прыкладу, сапраўдная хуткасць – tru air speed, а вось ва ўкраінскай мове задзейнічаная *дійсна висота.*

Карта (географическая) (мал. 13) – **мапа,** карта. Вельмі цікавы праблемны тэрмін з боку культуралагічнага аспекту. Класічны падзел беларусаў адбыўся й тут. Афіцыйным тэрмінам з'яўляецца *карта*, а класікі-"тарашкевічы" прытрымліваюцца

*мапы*, але ў косках ставяць і *карту*. Здавалася, трэба прыняць афіцыйны пункт гледжання і пытанне закрытае. Але, як я адзначыў вышэй, гэты тэрмін ёсць носьбітам нашай культуры і гістарычнай памяці – драматычнай і складанай, але багатай і цікавай. Дык ці нам трымацца гісторыі ад 17-га года ці заглянуць глыбей? Чамусьці Байкоў і Некрашэвіч яшчэ ў сваім слоўніку [8] далі адназначны адпаведнік – *мапа*. Гэты тэрмін мае глыбокія карані і сягае ў антычныя часы грэкаў-"адэ-ысітаў". Да таго ж, ёсць квінтэсэнцыяй культурных, палітычных працэсаў узаемадзеяння народаў Еўропы між сабой. На якіх жа чоўнах *карта* і *мапа* "прыплылі" і "зачапіліся" за берагі Беларусі? І чаму мы такія "багатыя" ажно на два сінанімічныя тэрміны? А зараз па парадку – свая "теория всемирного заговора»! *Карта* мае грэчаскія карані (χάρτητς *аркуш, папера),* якая ў латыні трансфармавалася ў charta – "паперу", а ўласнай геаграфічнай карце ў латыні далі назву *абрус* – mappa. То бок лаціняне-рымляне мелі два асноўныя ўяўленні – грэчаскае – *карта-папера* і сваё – *мапа-абрус*. "Абрус" пераняли мовы- нашчадкі латыні: італьянская – mappa, іспанская і партугальская – mapa, потым і славянскія: польская – mapa (ведаем, што латынь доўгі час была ў Польшчы дзяржаўнай мовай – "Польска квітнет лаціною, Літво – русшчызною"), чэшская і славацкая – mapa (хутчэй за ўсё ў 19 ст. у выніку ачышчэння чэшскай мовы ад "германізмаў"). Другі варыянт – "грэчаскую паперу" праз латынь – абралі немцы і французы – karte і carte. Мабыць, каб супрацьпаставіць "французскаму" carte, англічане ў час супрацьстаяння з Францыяй выбралі map (дастаткова ўспомніць стогадовую вайну, нарманскае заваяванне Англіі, каб зразумець, якія гэта былі заклятыя "сябры"). Але тое ж самае, толькі роўна наадварот, зрабілі іншыя "зацятыя сябры" англічан – шатландцы, якія займелі cairt. Ад немцаў натуральным шляхам, верагодна,"грэчаска-лацінская папера» трапіла ў мовы сваяцкіх народаў: галандскую – kaart, дацкую – kort, нарвежскую – kart, шведскую – karta. Не зусім, мабыць, натуральным шляхам (калі прыпомніць нямецка-шведскія экспансіі на балтыйскія землі) трапіла ўжо "грэчаска-

лацінская і трошкі нямецкая папера” ў латвійскую – karte, эстонскую – kaart, і фінскую – kartta – мовы. Трэцім шляхам узнікнення тэрміна ў мовах Еўропы з’яўляецца “пазыка” *карты* непасрэдна з грэчаскай мовы: румынская – harta, балгарская – карта, македонская – карта, турэцкая – harita, армянская – harta. Як не дзіўна – па словах саміх расійскіх мовазнаўцаў – у расійскую мову карта прыйшла, па-першае, позна, а па-другое, не з “грэкаў”, а з “нямецкамоўных варагаў”, у часы Пятра. І калі Масква заявілася “трэцім Рымам” (пасля падзення Канстанцінопаля), яна стала і “пасярэдніцай” у запазычваннях падпарадкаваных народаў з іншаземных моў. Такім чынам, адбылося ненатуральнае запазычанне *карты,* замест *харіты* ў мовах некаторых цюркскіх народаў: казахскай – карта, башкірскай – карта. А вось цюркскія мовы з больш магутным культурным стрыжнем адстаялі “свае” тэрміны. У татарскай мове карта – харита, ва ўзбекскай – harita. Асобна стаіць яшчэ адна група народаў, якія ў лепшых традыцях пурызму маюць свае тэрміны: літувісы і жамойты (zemelapis, zemielapis), венгры – terkep, славенцы – zemljevid (ці karta). І заключная група народаў – самая шматпакутная – народы “памежжа” – да якой належаць і беларусы – лагічна маюць два тэрміны. Гэта сербы (карта или мапа), баснійцы (karta ili mapa), украінцы (карта чі мапа – *толькі гістарычная*) і беларусы (карта ці мапа). Вядома ж, храналагічна нашыя продкі праз узаемадзеянне з Польшчай перш азнаёміліся з *мапай*, але ніяк не з *картай*. Але, калі прытрымлівацца тэзісу, што гісторыя Беларусі бярэ пачатак ва ўлонні Расеі з 1917 года, то, натуральна, што мужыкі-беларусы ў лапцях дзякуючы бясплатнай савецкай адукацыі знаёміліся ўжо з *картамі* (разам з казахамі і башкірамі). Выходзіць, калі думаць двухмерна, як і большасць, то навошта гарадзіць плот – *карта* і ўсё тут. Але калі думаць трохмерна, з улікам гістарычнай памяці, як гэта робяць сталыя народы Еўропы, то выходзіць, што *мапа* мае не менш падстаў жыць напоўніцу і дыхаць вольным беларускім паветрам. Цікавае назіранне – у расійскамоўным інтэрнэце часта сустракаюцца запыты – “*что такое мапа?”*, якая ў

камп’ютарных гульнях азначае менавіта карту, але як устойлівы тэрмін – камп’ютарная геаграфічная карта – у расійскамоўным варыянце_мае скалькаваны з англійскай мовы адпаведнік мапа (map). Дык ці мы гонар маем (што гэты тэрмін ужо тры стагоддзі ведаем), ці другі раз будзем “адкрываць Амерыку” з іншымі.




**мал. 13**

Касание – **крананне** *(пры пілатаванні).* Точка касания (Гл. Точка) – **пункт** (да)**крананння**. Дотык, на маю думку, не пасуе. Па-першае, гэта паказвае ўзус (у інтэрнэце), па-другое, самалёт (шасі, крыло) кранае зямлю, а не датыкаецца да яе. Можна сказаць, што датыкацца – гэта больш даследчая функцыя жывой істоты, пра што, дарэчы, намякае адно са значэнняў дотыку – *осязание*.

Качалки і система тяг и качалок (мал. 11) – **арэлі і сістэма арэляў.** Кансерватыўны слоўнік Крапівы (як і ПТС [16] 1997 г.) адказвае на гэта…*качалкай* (русізм, які супярэчыць сэнсу – Гл. ТСБМ), а калі маецца на ўвазе *качалка (колыбель)*, то, калі ласка – *калыска*. Добра, што тут хоць беларускую *калыску* не назвалі *качалкай* на “ўзор”! Ведаем, што па-расійску *качалка* з’яўляецца ці *крэслам*, якое качаецца, ці

*кочелями – арэлямі* для дзяцей. Зразумела, што спецыялісты сапраўды такі механізм з дзвюх цяг, шарнірна злучаных, які робіць паступальныя рухі, атаясамлялі з *крэслам – качалкай.* Але такія рухі робяць і *арэлі*. Чаму ў беларускім варыянце не выбраць больш мілагучнае мове слова, тым больш адпаведнае фізічнаму сэнсу? Да таго ж, калі беларускія прафесійныя слоўнікі не паслядоўныя да гэтага тэрміна: БНТ [9] 1932 г.: "качание (маховика) - калыханьне" і "качательное движение – калыхальны рух"; РБС Байкова-Некрашэвіча: "качалка – калыска, зыбка" (магчыма блытаніна з іншым тэхнічным тэрмінам "люлька"); "Фізічны слоўнік" [12] 1994 г.: "качание" – "гайданне" (але "гайданка"-"качка" – марскі тэрмін); "Русско-белорусский словарь электротехничных терминов" 1993 г.: "качание – ваганне" (недакладнасць, бо ваганне – гэта колебание (што пацвярджае той жа "Фізічны слоўнік" [12]). Украінскі сказ – "Система управління вертольотом містить *тяги і гойдалки*" – падказвае, што мы ідзём у правільным кірунку!

Керосин авиационный, керосиновый – **газа авіяцыйная**, **газны**. ПТС [16]: газовый –газавы, керосиновый – газавы, керосин – керасін, авиационный керосин – авіяцыйная газа, керосинозаправщик – газазапраўшчык. Падаецца яшчэ прыметнік газны (напрыклад, у слоўніку Судніка [5]). Таму, для выключэння аманіміі (ва ўкраінскай мове існуе пара сінонімаў *газовий-гасовый*) лепш карыстацца парай *газавы-газны*.

Кислородный баллон – **кіслародны балон**. У англійскай мове адпаведнік – bottle – бутэлька!

Козырек фонаря (<u>мал. 30</u>) – **брылёк ліхтара (шкляна)**. Са шкляном зразумела з артыкула *Фонарь*, а з *козырьком* яшчэ прасцей, бо калі глядзець на пярэднюю частку ("аскепак") шкляна любога знішчальніка, то ён і сапраўды напамінае *брылёк* галаўнога ўбору. Ды й гістарычны прыклад ужывання ў такім значэнні тэрміна ёсць – у вайсковым слоўніку 1927 г. *козырёк (у картуза) – брылёк*. А калі жартам, то памятаем, што маем выдатнага пісьменніка Янку Брыля, які, дзякуючы нашым намаганням, будзе знаходзіцца заўсёды на загранічных вышынях беларускага небасхілу! Англійская інтэрпрэтацыя таго ўвогуле

такая – ветравы экран – windscreen. Факт ужывання калькі-тэрміна маецца ў ПТС [16] 1997 г.: казырок ветравога шкла, казырок ахоўны, казырок кабіны і інш. Дадамо, што *казырок кабіны* (аўтамабіля) і *брылёк шкляна* – розныя канструкцыі.

Коробка приводов (магазинная коробка), анероидная коробка – **каробка прыв<u>о</u>даў** (Гл. Привод) (**магазінная скрынка**), **анероідная бляшанка.** Англамоўныя авіяцыйныя інжынеры называюць *коробку приводов* – бокс аксэсуараў – accessory box! Магчыма, *скрыня* не горшая за *каробку*, але апошняя мае багаты тэрміналагічны "радавод" – *каробка* ёсць і ў РБС Байкова-Некрашэвіча, і ў "Практычным беларускім вайсковым слоўніку" 1932 г., і ў БНТ [9] 1932 г. Дый ПТС [16] 1997 г. падае: *коробка приводов агрегатов – к. прЫвадаў агрэгатаў*. Толькі ў [5]: *коробка передач – скрыня перадач*. Таму з такой паслядоўнасцю трэба лічыцца. Што да *анероиднай коробки*, то гэта сапраўды *жестяная банка*, таму і назваць яе па-беларуску лепей *бляшанкай*.

Корректируемая (бомба) і корректируемый (кімсьці), корректировочный – **Карэктаваная** бомба і **карэктуемы** лазерны промень (аператарам), **карэктавальны.** Адсутнасць беларускага адпаведніка слову *корректируемый* у афіцыйных слоўніках выклікала праблему ўжывання ў беларускай мове розных варыянтаў гэтага тэрміна – у сеціве знаходзім *карэктаваныя, карэктавальныя, карэктуемыя, карэктуючыеся, што карэктуюцца*. Словаўтварэнне ж тут адбываецца так, як і ў выпадку з *кіруемым – кіраваным* (Гл. Управляемый). Прыметніку *корректировочный* у нашай мове афіцыйныя слоўнікі даюць эквівалент *карэкціровачны.* Прычына адлюстравання ў слоўніках *карэкціровачны* і неадлюстравання *карэктуемы* – у храналогіі іх з'яўлення. Слова *карэкціровачны* – больш старое ў параўнанні з *карэктуемым* і адпавядае аб'ектам (падраздзяленням), прызначаным для карэктавання. І тут якраз больш беларускім і з'яўляецца *карэктавальны*, а не чужая словаформа *карэкціровачны – карэктавальны артылерыйскі дывізіён,*

*карэктавальнік*. У [5]: *корректировочно-разведывательный авиационный полк – карэкцыйна-выведвальны а. п., корректировщик – самалёт-карэкцыйнік*.




**<u>мал. 14</u>**

Кромка крыла (<u>мал. 14</u>) – **абз<u>а</u>** крыла. Адразу быў выбраны самы просты варыянт – *кант* крыла. Слоўнікі выдаюць на запыт акрамя ўласна *кромкі* і *канта* шмат іншых варыянтаў. З радаводу тэрміна: у “Тэхнічнай тэрміналогіі” БНТ [9] ёсць варыянт: “кромка – ускраек, акр<u>а</u>ек”, у ПТС [16] 1997 г. падаецца група тэрмінаў з “краем крыла”. Але якое было маё здзіўленне, калі ў інтэрнэце вычытаў наступнае – “Цэнтр ціску (агульная кропка прыкладання сілы) экраннага эфекту знаходзіцца бліжэй да задняй *абз<u>ы</u>*, цэнтр ціску «звычайнай» пад'ёмнай сілы – бліжэй да пярэдняй абз<u>ы</u>.” І падумаў – чаму *абз<u>а</u>*? Звярнуўся ў слоўнік Крапівы, дзе сказана – “**абз<u>а</u>** *ж. – (край необрезанной доски) кромка”.* Быў прыемна здзіўлены тым фактам, што гэта, бадай, адзіны выпадак, які ўзбагачае не толькі беларускую мову, але й мог бы ўзбагаціць расійскую, бо найбольш слушнага слова, які адпавядае сэнсу *кромкі* крыла, прыдумаць цяжка. Калі глядзець

у разрэзе, то крыло ўяўляе сабой “дошку”, крыху пукатую зверху і амаль роўную знізу, а сілавымі элементамі па баках з’яўляюцца ланжэроны. Дык *кромкі* такой “дошкі” і ёсць тыя самыя *абзы*! З кніг 30-х гг. даведваемся і пра іншыя варыянты: [17] – пярэдняя і задняя *кромкі*, [22] – «замест пярэдняга і задняга *ўскрайку* крыльлі абшываюць ніткамі».

Круг полетов (мал. 15) – 1. (схема) **кола палётаў**. Кур’ёзны выпадак здарыўся, калі выклікалі аднаго лётчыка да дошкі і загадалі намаляваць *кола* палётаў. Ён і намаляваў звычайнае *кола*. Гэта я да таго, што нічога звышнатуральнага ў такім тэрміне няма, каб пераносіць у беларускую мову, дзе трэба і не трэба чужыя адпаведнікі. *Палёт па колу*. Украінскі варыянт – *коло польотів*. 2. **Круг** (рух па колу палётаў). У адрозненне ад першага выпадку, дзе кола палётаў мы ўспрымаем як статычную з’яву ці схему, тут мы маем справу з дынамічнай з’явай палёта – рухам па колу. На практыцы *круг* ужываем, калі кажам “адыходзь на другі *круг* – уходи на второй *круг*», калі немагчыма з якіх прычын выканаць пасадку з першага заходу, ці “колькі ён *кругоў* зрабіў?”, “мне запланавана 6 *кругоў*”. Для тлумачэння ўжывём такую фразу – “Ён выконваў 4 *круг* па *колу* і быў ужо над БПРМ, як атрымаў каманду з зямлі адыходзіць на другі *круг*, бо паласа была занятая. Справа да чацвёртага разварота *кола* набліжаўся самалёт”. Па-расійску гэта будзе гучаць так – “Он выполнял 4-й *круг* по *кругу* и был уже над БПРМ, когда получил команду с земли идти на второй *круг* так как полоса была занята. Справа к четвертому развороту *круга* приближался самолет”. Цікава, што такое размежаванне існуе ў англійскай мове – 1. кола – traffic circuit (схема палётаў па *кругу*) 2. круг – circle (значэнне цыклу, руху). Па-англійску, дарэчы, так называюцца *абароты* (Гл. Число оборотов двигателя), па-просту – кругі – circles. У англійскай мове існуе яшчэ і трэцяе значэнне, самае простае – round – кругом (go round again – адыходзьце на другі *круг*). Таму кола (~~круг~~) тэрмінаў, пададзеных без аналізу ў ПТС [16], такіх як: {*круг (аэронавигационный, высот, захода на посадку, ометаемый винтом, полёта над аэродромом) – круг (аэранавігацыйны,*

*вышынь, заходу на пасадку, утвараемы вінтом, палёту над аэрадромам)*} аўтарам цалкам адпрэчваецца, як не адпавядаючае беларускай прыродзе.




**мал. 15**

Круговой обзор – **акольны агляд**. Тут разглядаецца праблема разыходжання афіцыйнай замены ў слоўніках *круговой* на…*кругавы.* У “Словаре для военных” [4] *круговой обзор – кругавы агляд*. А вось слоўнік Станіслава Судніка (які, дарэчы, скончыў Цвярскую Акадэмію СПА) пайшоў далей, разгледзеўшы саму з’яву *кругового обзора* ў радыёлакацыі і ўзбагаціўшы нашу мову яшчэ адным трапным тэрмінам. Слоўнік *индикатор кругового обзора* (ИКО) падае як *індыкатар акольнага агляду (ІАА)*. *Акольны* сумяшчае ў сабе два блізкія значэнні – аколіцы і кругавы (кружны) адразу. Атрымліваецца, што больш трапнага адпаведніка для *ИКО* ў беларускім варыянце *ІАА* цяжка прыдумаць. Трэба адзначыць, што ІАА ў сувязі з развіццём тэхнікі ўжо праз нейкі час будзе лічыцца гістарызмам.

Крутящий (момент) і вращающийся (винт, кольцо) – **круціільны** момант і **абаротны вінт (вінт, які**

**круціцца)**. Чыстага адпаведніка, выпадае, для *крутящего* няма, але ёсць слова *крутильный*, які аналагічны *крутящему*, але рэдкаўжывальны ў расійскай рэчаіснасці, што і адзначае “Фізічны слоўнік” [12] – *крутящий м. – круцільны м*. Для *вращающегося* слушнай з’яўляецца толькі традыцыйная беларуская форма – *які круціцца.* Ведаючы, што *кручение, вращение* – сінонімы, і тое, што, кажучы пра вінт, няма патрэбы размяжоўваць паняцце – круціцца ён зараз ці не – бо ён можа толькі круціцца ці не круціцца – выкарыстаем тэрмін з [1]: *абаротны рух – вращательное движение* да вінта – *абаротны вінт*. Варта зацеміць, што ў [12] маюцца наступныя тэрміны: *вращательное д. – аварачальны рух; вращающий м. – аварочвальны м*. А вось *раскручивающий (закручивающий) момент – раскручвальны (закручвальны) момант*. Тады, каб патлумачыць небяспеку знаходжання каля «вращающегося винта», дастаткова напісаць – «не стой каля *абаротнага вінта*” – ці то вінта пад’ёмнага ці рулявога.

Крыльевой бак і подкрыльевая (подкрылевая) (подвеска), подкрыльные огни – **крылавы бак і падкрылавы падвес, падкрылавыя агні**. У ПТС [16]: *крылавы бак*. Як бачым, у расійскай мове ў сілу традыцый усталяваліся розныя прыметнікавыя формы для аднолькавых паняццяў у выніку інтэнсіўнага развіцця навуковай тэрміналогіі і несвоечасовай яе сістэматызацыі.

Лебедка – **лябёдка, кацярынка**. Слоўнік Крапівы падае *лябёдка*. Тэрмін утвораны зыходзячы ад падабенства механізма пад’ёмніка да знаёмых з’яў. Вось і ў нямецкай мове – *Kran, Kranich-“журавель”, у* французкай *grue-"журавель".* У “Тэхнічнай тэрміналогіі” [9] знаходзім таксама: “лебедка (паровая) – лябёдка”. Слоўнік Судніка падае *калаўрот*, але ён адпавядае шэрагу механізмаў, якія адпавядаюць расійскаму *ворот*, што і адлюстравана ў слоўніку Крапівы. А вось РБС Байкова-Некрашэвіча падае “лебёдка – лябёдка, кацярынка”. У БРС тых жа Байкова-Некрашэвіча [8] “кацярынка” перанакіроўвае нас на “катарынка, катрынка ж. — шарманка”. Цікавы варыянт, ці ж не?!

Ледяная корка – **ледзяная скарынка**. Спецыяльны тэрмін. Маецца ў [18].

Летчик – 1. (прафесійны) **летчык** 2. (аматар) **лётнік**. Практычны вайсковы слоўнік [1] лагічна падае слова *лётнік* у значэнні *лётчик*. Але, па зразумелых прычынах, гэтае слова ў такім значэнні ў сучаснай мове выціснутае. Мы ведаем, што нашая мова з самага пачатку сутыкнення з такой з’явай, як авіяцыя, а гэта былі 20-тыя, развівалася ў лагічным рэчышчы ўласнага словаўтварэння. І адразу так і пайшло, хто лятаў – той *лётае*, а не *лятае*, а лётаў *лётнік* і прызямляўся ён на *лётнішча*. Ды й увогуле рабіў *лёты*. Як мы бачым, была стройная сістэма словаўтварэння ад кораню -*лёт*- . І слоўнік 1927-га года проста замацаваў гэта. У гэтым жа, дарэчы, слоўніку *авиация – лётніцтва*, а *авиационный – лётніцкі*. Адгалосак ад такой натуральнай сістэмы словаўтварэння застаўся толькі ў выглядзе размоўнага *лётаць*. Напрыклад, даводзілася чуць – “ён *лётае* на машыне, як шалёны”. Але надышоў час “славутай” моўнай рэформы і слоўніка 1933 года, калі так званыя “нацдэмы” былі адхіленыя ад далейшай працы тэрміналагічнай камісіі. У выніку сітуацыя стала падобнай на тую, аб якой казаў кінагерой у вядомым фільме – “коні п’яны, хлопцы запражоны”, калі ўсё перакулена і пастаўлена з ног на галаву. Натуральныя моўныя працэсы былі замененыя на штучныя. Тым больш крыўдна за той гвалт над мовай, што нас штучна прымусілі “ісці” за расійскай мовай, якая сама павяла сябе непаслядоўна ў гэтым. Бо, калі паглядзець на словаўтварэнне ад каранёў -летч- і -летн- , мы бачым, што абсалютная колькасць словаўтварэнняў у расійскай мове ідзе якраз ад -летн- . Напрыклад, *летные навыки* лётчыкаў, а не *летчицкие*, *летная подготовка*, як від баявой падрыхтоўкі лётчыкаў, а не *летчицкая* і гэтак далей. Тут толькі можна дадаць, што спрацаваў вядомы прынцып – “у кого больше прав, тот и прав”. Але ёсць магчымасць слова *лётнік*, так бы мовіць, “выратаваць” ад занядбання, надаўшы яму крыху іншае значэнне. Калі прааналізаваць усе значэнні слова “лётнік” у слоўніку Байкова-Некрашэвіча, то бачна, што гэта не толькі “вадзіцель самалёта”,але і “паветраплавальнік”

(гл. http://www.skarnik.by/tsbm/8451). То бок да “лётніка” можна залічыць усялякага, хто «баразніць паветраны акіян» без розніцы на чым – самалёце або верталёце, цэпеліне або дырыжаблі, планеры ці любым іншым летаку. Такім чынам, мы можам дасягнуць кампрамісу з афіцыйным тэрмінам “лётчык”, які атрымаў шырокі распаўсюд у мастацкай і афіцыйнай літаратуры, і паэтызаваным “лётнік”. Трэба заўважыць, што вышэйназваная ненатуральная ломка моўнай сістэмы адлюстраваная ў знакамітых купалаўскіх радках: **“**Мой мілы таварыш, мой *лётчык*, вазьмі ты з сабою мяне! Я – ведай – вялікі ўжо хлопчык. І ўмею ўжо *лётаць* у сне.”, напісаных у 1935 г. “Лётаць” яшчэ не згублена, а вось “лётнік” адназначна выкраслена “лётчыкам”. У [24] 1932 г. чытаем – «лётнік усюды – лётнік павінен асабіста перараканацца ў спраўнасці машыны».

Литерный (полет) – **літарны палёт**. Гэты прыклад уведзены якраз таму, што не ўяўляе сабой праблему, а наадварот дапамагае ад дзелі прыйсці да агульнага і вырашыць іншую, больш шырокую праблему. Тэрмін *літарны палёт* (абазначаемы літарай) азначае палёт па перавозцы афіцыйнай важнай асобы, напрыклад, прэзідэнта. То бок гэта палёт лідара. Існуе, дарэчы, у авіяцыі і тэрмін *самалёт-лідар*, у функцыі якога можа ўваходзіць вывад страціўшага арыентаванне самалёта, напрыклад. Дык вось, у нас існуе прыметнік – *лідзіруючы*. Ён, напрыклад, ужываецца, у спалучэнні – *лідзіруючыя пазіцыі*. Неяк нязграбна і не па-беларуску. Дык навошта казаць груваткае *лідзіруючы,* калі можам сказаць *лідарныя пазіцыі, літарныя палёты, самалёт-лідар*! Не блытаць з лідарным метэаабсталяваннем – англійскай абрывіятурай.

Лодка – 1. **лодка** (падводная), 2. **чайка** (лятаючая) – клас гідрапланаў. Разгалінаванасць значэння тэрміну дае магчымасць вярнуць ва ўжытак традыцыйнае слова *чайка* (успомнім знаёмых з прозвішчам Чайчыц), аб’яднаўшы сэнсавыя праекцыі ў адну (http://www.skarnik.by/tsbm/92365) ды ўжыць яго ў значэнні класа гідрапланаў. Чайкі жа і плаваюць і лётаюць, і адначасова гэта і птушка, і лодка.

Ложбина циклона – **лагчына цыклона.** Тэрмін авіяцыйнай мэтэаралогіі. У адмысловым значэнні маецца ў [18].

Лопасть – **лопасць**. Ва ўкраінскай мове лопасць назвалі *лопатою*. Можна пайсці гэтым жа шляхам, але ў авіяцыі ёсць прымяненне і гэтаму слову – *лапаткі кампрэсара (турбіны)*. Дадамо, што тэрмін мае паслядоўны "радавод": *лопасць* і *лопасны* ёсць ужо ў слоўніку" [1] 1927 г., ў "Тэхнічнай тэрміналогіі" 1932 г., і ва ўсіх наступных слоўніках. У англійскай мове яшчэ цікавей: лопасць вінта – лязо-blade! А *лапатка кампрэсара* тэж *лязо* – compressor rotor blade.

Малоразмерная цель – **маламерная цэль**. Ні ў адным слоўніку адпаведніка *малоразмерный* няма. У слоўніку Крапівы прысутнічае *маломерный – маламерны*. Простая "матэматыка" паказвае, што *маломерный* і *малоразмерный* – "браты-блізнюкі". Чым і скарыстаемся.

Малоскоростная, маловысотная, малозаметная цель – **няхуткасная, невышынная, малапрыкметная цэль.** Праблематыку гэтай канструкцыі раскрывае вось такі букет беларускамоўнай памяркоўнасці з адценнем хаосу з інтэрнэта – "*малахуткасных нізкіх* цэляў, якія *нізка* лятаюць", "ваенная авіяцыя адпрацоўвае задачы па прымушэнні да пасадкі *малахуткасных нізкіх* цэляў", "самае галоўнае, *малыя нізкалятучыя* цэлі ў Беларусі не збіваюць пераноснымі ракетамі". Рэч тут у тым, што цэльна на такую МММЦ "па-беларуску" ніхто не глядзеў. А неабходнасць паглядзець больш грунтоўна ў лётніка-авіятара ўзнікае пры жаданні скараціць такую словаформу пры дакладах, напісанні нарматыўных дакументаў. І па-расійску гэты "вагон" гучыць як МММЦ, амаль як славутая піраміда, толькі фінансавая. Ну і які "наш адказ Чэмберлену" з прапанаванага букету? Каб папярэдзіць крытыку ў выбары прэфікса *не-*, а не *мала-*, скажам, што па-расійску існуе *цель неманевренная. А* чаму "ў іх" не маломаневренная? Таму наш беларускі адказ на *МММЦ – ННМЦ!*

Малый – **малы**. Прыметнік закрануты толькі таму, што ў сеціве можна наткнуцца і спатыкнуцца на вось такое – "у

аблоках на мАлАй вышыні ў складаных метэаўмовах уначы”. Ёсць тэрмін *малая высота* (201м. – 1000м.), таму і па-беларуску ён пішацца *малая вышыня*, але ж на *малой вышыні* ці *гранічна-малой*. То бок, панове, губляем націскі на беларускі капыл. Таму не забываем, што *мАлая высота*, гэта наша *малАя вышыня*. І мы яе возьмем, калі яна камандная!

Маневренность і маневрирование – **манеўранасць і манеўраванне**. Праблем не маем ніякіх, але гэта той выпадак, калі можна сказаць, што паслабленні ў правапісе прыводзяць да змены ў вымаўленні слоў. Гістарычна расійскае *маневренность* казалі цераз *ё*, але потым напісанне гэтай літары стала неабавязковым. Зараз расійскамоўны інтэрнэт пярэсціць запытамі кшталту – *МанЕвренный или манЁвренный*? Прыклад з літаратуры 30-х гг. – [26]: «раптоўнымі дзействамі авіяцыі ня раз ужо пачыналіся *манэўры*». У слоўніку [5]: *охватывающий маневр – абхопны манеўр*. Дадамо, што *маневрирующая цель – манеўруючая цэль*.

Масло техническое, маслоагрегат, топливомасляный радиатор і г.д. – **аліва, маслаагрэгат** (аліваагрэгат), **палівамасляны** (паліваалiўны) **радыятар**. *Аліва* з’яўлялася натуральным словам у лексіконе беларусаў ужо на пачатку 20 ст., таму не выпадкова папала ў слоўнікі БНТ. У наш час на гэтую тэму напісана шмат артыкулаў, таму няма патрэбы дадаткова апісваць дадзеную праблему. Адзначу толькі, што праз русіфікацыйныя працэсы цяжка змяніць *масла* на *аліву*, асабліва ў складаных словах. Таму, як кампрамісны і жыццяздольны варыянт, на першы час прыдзецца ў такіх словах пакінуць складнік *масла*. У [1]: *масло веретенное – аліва верацёнкая*. У “Тэхнічнай тэрміналёгіі” БНТ [9] падаецца цэлае гняздо тэрмінаў: *маслоотделитель, маслоочиститель, маслопровод, маслоуловитель – алівааддзяляльнік, аліваачышчальнік, аліваправод, аліваўлоўнік*. Усяго больш за 17 тэрмінаў! У [5]: *масло (машин.) – аліва, отработанное м. – адпрацаваная а., маслозаправщик – аліванапаўняльнік* і інш. ПТС [16] – 1. (тэхн.) *маслаагрэгат, маслабак* і г.д., але 2. (раслін.) *алей: алееаддзяляльнік, алеeадціскальнік*!

Математическое ожидание (числа пораженных объектов) – **матэматычнае спадзяванне (колькасці ўшчэнчаных аб’ектаў**), матэматычнае чаканне. Класічны прыклад featured рознага “*ожидания*” матэматыка і практыка. Бо ў слоўніку матэматыкаў і фізікаў [14] выказваецца *матэматычнае спадзяванне* (не прывязанае да практычнай задачы) – абстракцыя надзеі, але мы *чакаем (матэматычнае чаканне колькасці)*, вылічыўшы канкрэтную колькасць аб’ектаў ушчэнт пры канкрэтна закладзенай сумарнай верагоднасці ўшчэнту элементарнай цэлі. Тут даводзіцца проста падпарадкавацца закладзеным не намі тэрмінам і “ўзяць пад брылёк”! Кажучы словамі героя з “Дрыгвы” Коласа –“а ўрэшце, ад яго ўсяго можна **спадзявацца**”.

-местный – -**мясцовы**. Толькі крапівоўскі слоўнік падае *аднамесны*. Але ў літаратуры 30-х гадоў, у якой шмат сустракаецца русізмаў (як, напрыклад, *бамбардыроўшчык, дзействы, дальнасць*) адназначна падаецца -мясцовы. У [26]: «знішчальнікі – *аднамясцовыя* і *шматмясцовыя*». Вывучыўшы сітуацыю ў сеціве, можна сцвярджаць, што карыстальнікі класічнага правапісу выбіраюць -*мясцовы*, а наркамаўскага -*месны*. Такім чынам, выснова адна – -*месны* ёсць яўным і непатрэбным запазычаннем-русізмам. Хаця ў кнізе [23] аўтар ужывае “*многамесны (аднамесны) самалёт*”.

Метка (цели, ложная метка) – **метка**. Маецца сінонім *метка*, што на ўласнае меркаванне з’яўляецца напластаваннем з расійскай. Бо з уласнага досведу магу сказаць, што бабуля, якой давалі “соткі” бульбы, заўсёды *пазначала* і ставіла *знакі,* а не *атмячала* ды рабіла *меткі*! Дарэформены слоўнік 1927 г. таксама адназначна кажа: *метка* – гэта *знак!* Але гэта той рэдкі выпадак, калі ў вайсковай справе побач цыркулююць сінанімічныя паняцці і ўзнікае вялікая неабходнасць раздзяляць іх для выключэння аманіміі нават у адным сказе. Бо, напрыклад, можна сказаць і *знак цэлі* на экране, і *апазнавальны (рэгістрацыйны) знак*, але гэта прыводзіць да неабходнасці дадатковага ўдакладнення. Таму *метка* – гэта абстракцыя

фізічнага аб’екта на экране, мапе і г.д., а *знак* – гэта таўро на самім фізічным аб’екце.

Многоцелевой – **шматмэтавы, мнагамэтавы**. Класічны прыклад нашай дуалістычнай прыроды існавання, нашага “ўлюбёнага”, але набытага ў выніку гістарычнага прымусу, а не па ўласным жаданні, стану раздваення ўвогуле і раздваення ў мове ў прыватнасці. У слоўніку Крапівы семантыка расійскага “много” разбіваецца на “мнага-” – больш для абстрактных, “шмат-” – для канкрэтных з’яў. Гэта якраз адзін з нешматлікіх прыкладаў адназначнага трактавання і існавання гэтага сучаснага тэрміна ў беларускім варыянце ў акадэмічным слоўніку – *мнагамэтавы*. Але чаму з гэтым меркаваннем не можа пагадзіцца інтэрнэт, які на запыт дае адказы са значнай перавагай *шматмэтавага*. Зноў жа, гэтыя два словы пазіцыянуюць два розныя лагеры. “Мнагамэтавы” выкарыстоўваецца ў афіцыйных сродках. Напрыклад – “У Чэхіі разбіўся *мнагамэтавы* знішчальнік венгерскіх ВПС” (сайт БТ1), “Прэзідэнт наведаў *мнагамэтавы* комплекс” (Белта). “Шматмэтавы” выкарыстоўваюць у асноўным незалежныя медыі – “Тып – лёгкі *шматмэтавы* самалёт” (Вікіпедыя), “ F-35 — *шматмэтавы* знішчальнік 5 пакалення” (Наша Ніва). Хаця тут сустракаюцца выключэнні, як, напрыклад, з “Прэс-падборшчыкам рулонным *шматмэтавым* ПРМ-150” на сайце ГАА “Белсельхозснаб”. І гэтая дуалістычнасць для мяне невырашальная. Бо казаць, што слова “многа” не беларускае, не выпадае. Ёсць цэлы тэрмін *мнагамэтавы*, які не выклікае сумневаў наконт яго натуральнасці і “законнасці”. Дык чаму ж такі разрыў і такое непрыманне афіцыйнай нормы? Адкажыце самі!

Набор высоты – **набор вышыні, набіранне вышыні**. Першы варыянт лепш выкарыстоўваць пры аператыўным радыёабмене. Другі – у сітуацыях, якія не патрабуюць скарачэння сціснутай моўнай інфармацыі, то бок у звычайных наземных умовах. Як гэта робяць, дарэчы, па прынцыпу мілагучнасці нашыя суседзі ўкраінцы – *пры набиранні висоти*. У сеціве часам *набор* і *подъем* атаясамляецца – “яшчэ прысутнічае

лішак цягі, дастатковы для выканання *ўздыму* з вызначанай вертыкальнай хуткасцю”. Думаецца, што тут канкурэнцыя на роўным месцы, бо і ў расійскай мове прысутнічаюць абодва словы – *набор* і *подъем*. *Уздым* мае больш старую гісторыю (уздым у гару альпіністаў) і адпавядае ў авіяцыі больш імклівым вертыкальным перамяшчэнням, якое вымяраецца *скороподъемностью – хуткаўздымнасцю* (тэрмін ужываецца ўжо ў кнізе [23] 1931 г. – “скораўздымальнасць”). А вось *набор* узнік у сувязі з патрабаваннем тлумачэння такой з’явы пры ўзнікненні авіяцыі, як павялічэнне вышыні шляхам палётаў па спіралі, то бок паступова, быццам нанізваючы, “набіраючы” на *лятак*-“*іголку”* усё новыя і новыя сотні метраў. Цягі і зараз бальшыні летакоў не хапае для вертыкальнага ўздыму ў адрозненне ад знішчальнікаў з іхняй велізарнай цягаўзброенасцю, якая часам вышэй за адзінку. Вельмі цікавымі для дадатковага аналізу з’яўляюцца лексічныя канструкцыі ў [25] і [24]: «Яна *забірала* добра вышыню», «Самалёт *узьбіраўся* ў верх на 5-6 км».

Наклонная (наклоненная) дальность і склонные полеты – **нахільная** (нахіленная) **далёкасць** і **схільныя** (плануючыя ўніз па *схіле*) **палёты**.

Направление (<u>мал. 16</u>) – 1.1 статычнае – **напрамак**, які не мае вектару ад назіральніка і азначае толькі прасторавае становішча адносна назіральніка 1.2 дынамічнае – **напрамак**, мае вектар руху **на** назіральніка – напрамак удару ворага, напрамак ветру (метэаралагічны) 2. толькі дынамічнае – **кірунак,** які мае абавязкова вектар руху **ад** назіральніка ці ад разглядаемага пункта прыкладання сілы – *кірунак* сілы цягі, *кірунак* палёту, *кірунак* ветру (навігацыйны), *кірунак* удару авіацыі (нашай), *кірунак* моманту ад пад’ёмнага вінта. Прыклад з інтэрнэту – «войска пайшло адпачываць раней, чым звычайна. І праз некалькі гадзін, у ноч з 14 на 15 ліпеня, рушыла ў *кірунку* мястэчка Грунвальд, побач з якім стаяла войска Ордэну». А вось апісанне з савецкай вайсковай гісторыяграфіі – «**у разрыў** паміж дывізіямі першага эшалона ў *напрамку* Віцебск — Барысаў камандзір корпуса

генерал І. Л. Рагуля ўвёў другі эшалон». Тут идзе гутарка пра статычнае *направление – напрамак*. А вось **рушаць войскі** ўжо ў *кірунку* Барысава. Дзякуючы шчаслівай наяўнасці двух слоў, якія ў прынцыпе тлумачаць адну фізічную з'яву, можна пазбавіцца цяжкасцей ва ўспрыманні дзвюх парных навігацыйных з'яў, *направление* якіх адрозніваецца на 180 градусаў. Гэта тычыцца ветру метэаралагічнага і ветру навігацыйнага, якія часта нават спецыялісты блытаюць. А ў нашым разе словы *напрамак* і *кірунак* з'яўляюцца своеасаблівымі артыклямі, што характэрна для аналітычных моў, як англійская, напрыклад. Таму калі мы кажам пра *напрамак ветру*, маем на ўвазе метэаралагічны вецер, калі кажам пра *кірунак ветру*, маем на ўвазе навігацыйны вецер. Зрабіўшы такую выснову, зазірнуў у мэтэаслоўнік, у якім метэаролаг так і напісаў – "напрамак ветру – адкуль дзьме вецер"!




**мал. 16**

Направляющая (мал. 17) – 1. (прыметнік) **накіравальны** (накіравальныя лапаткі, накіравальны апарат кампрэсара) 2. (назоўнік) **кіравальня**. *Направляющая ползуна – кіравальня паўзуна*. Калі з прыметнікам праблем няма, то вось з назоўнікам

ёсць пытанне. У слоўніках ёсць толькі тэрмін, які тычыцца матэматычнай *накіравальнай*. Але, яшчэ раз паўтаруся, нам не характэрна называць прадметы і людзей з дапамогай прыметнікаў. Мастерская – *майстэрня*, служащий – *службовец* і г.д. Рэч у тым, што *направляющие*, гэта пазы, рэйкі, па якіх “ходзіць” якое-небудзь прыстасаванне. Дык маглі б з’явіцца, што лагічна для расійскай мовы, *пазовые* ці *рельсовые*. Пытанне – нам і тут ісці шляхам сляпога калькавання? Таму *кіравальня* падаецца найбольш натуральным для нашай мовы. Тым больш, прэцыдэнт ёсць – у “Словаре для военных” [4] маем *накіравальнік*. З гісторыі тэрміну: у “Тэхнічнай тэрміналёгіі” БНТ [9] зафіксавана *накіроўчая*.




**мал. 17**

Наряд самолетов (мал. 18) (боевой, полигонннный, потребный) – **выправа самалётаў (баявая, палігонная, патрэбная).** *Наряд* самалётаў – група самалётаў, прызначаных для выканання адмысловых заданняў ці ўшчэнту цэлі. Рэч у тым, што пры ўсёй колькасці пералічаных *нарадаў*, пра *авіяцыйны нарад* забылі. Але ёсць словы з нашай ваеннай гісторыі, якія могуць узбагаціць авіяцыйную тэрміналогію. Да такіх адносіцца распаўсюджанае і зафіксаванае ў старабеларускіх гістарычных дакументах *выправа – экспедыцыя, паход*. Гэтым словам

актыўна карыстаюцца, дарэчы, сучасныя гісторыкі. *Выправе* мы можам надаць дадатковае значэнне, як у выпадку слова выведка – 1. падраздзяленне; 2. від спецыяльных дзеянняў. Гэта і лагічна, бо як выведка (выведнікі) ідзе ў выведку, так і *выправа самалётаў* ляціць на выправу – спецыяльны ці баявы палёт на ўшчэнт цэляў. Трэба дадаць, што заўжды *выправа* ў беларускай мове мела і значэнне дзеяння, але сёння выпраўленне-выправа часцей абазначаецца "адпраўленнем". Да гісторыі тэрміну: з [1] 1927 г. – *наряд (на службу) – прызначэньне*; з [4] 1996 г. – *наряд* 1. (предписание) *нарад*, *-да* 2. (группа лиц, выполняющих предписание) *нарад, -да*; *наряжать* (несов.) (назначить в наряд) *прызначыць (у нарад); послать – паслаць,* ***выправіць.*** Як бачым, толькі ў апошнім выпадку адносна блізка акрэсліваецца паняцце, блізкае нашаму авіяцыйнаму тэрміну, якое, дарэчы, супадае з аўтарскай думкай. Цікавае значэнне надаецца слову ў [5]: *выправа – командировка*.







**мал. 18**

Несущий – **пад'ёмны (**ці назоўнік + **носьбіт).** Слова *нясучы* замацаванае ў слоўніках, але яно як мінімум не ёсць мілагучным для нашай мовы. Вось прыклад "мілагучнасці" з

сеціва – “Біплан — самалёт з дзвюмя *нясучымі* паверхнямі (крыламі)”. Ведаем, што здольнасць любой паверхні, прылады “несці” лятальны апарат ствараецца пад’ёмнай сілай. Таму ў такіх тэрмінах лагічна на месца прыметніка *нясучы* ставіць *пад’ёмны*, як вычарпальную прыкмету, дзякуючы якой ствараецца функцыя гэтай прылады – пад’ёмная сіла – ці дадаць назоўнік *-носьбіт*. *Несущий винт – вінт-носьбіт, пад’ёмны вінт*. У сеціве сустракаецца і такі варыянт – *апорны вінт* – “у іх палепшаная канструкцыя апорных і хваставых вінтоў”. *Апорны вінт* зафіксаваны ў [5]. Але ён не з’яўляецца слушным, бо прыроду мае “наземную”, то бок аўтар першапачаткова ўжыў яе да выразаў кшталту *несущая конструкция* (ферма, напрыклад), дзе форма *апорная* цалкам адпавядае сэнсу і прызначэнню такой канструкцыі. Але, як вышэй было адзначана, гэта не адпавядае сэнсу датычна аэрадынамічных паверхняў. У англійскай мове *пад’ёмны вінт* завецца проста галоўным ротарам – main rotor. Факты з гісторыі прымянення тэрміну – [17]: *нясучы стабілізатар, свабоднанясучае крыло*. На сучасны лад можна сказаць – *пад’ёмны стабілізатар, вольнапад’ёмнае крыло*. Ужо ў 1931 г. аўтар кнігі [23] ужыў тэрмін “авіяносцы”!

Нижняя граница облачности (НГО) – **ніжняя мяжа хмар**. Больш традыцыйным для абазначэння *облачности* для нас з’яўляецца *хмарнасць, хмары*, што адпавядае расійскаму *тучность, туча*, а не *воблачнасць*. Вось і ў вайсковым слоўніку 1927 г. *безоблачный – бязхмарны*. Ды й на роднаснай нам украінскай – *нижня межя хмар*. А ўжо слоўнік Крапівы дае ў дадатак штучна напластаваны сінонім – *воблачнасць*. А ў метэаслоўніку Каўрыгі – *вышыня верхняй мяжы воблакаў*, але – *бясхмарнае неба*. Чаму ж, рытарычна, не *бязвоблачнае* (якое, як сінонім, такі “ўшылася” ў акадэмічны варыянт)?! А вось англічане ўвогуле глядзяць па-іншаму на такую метэаз’яву. Па-англійску гэта – база (аснова) аблокаў – base of clouds ці аблокавая база (аснова) – cloude base.

Ниша (стойкі шасі і г.д.) – **ніша**, як магчымы сінонім – **сховішча.** Адпавядае расійскім *хранилище, укрытие*. Па аналогіі з *хаваць шасі* (Гл. Убирать шасси).

Носки крыла – **наскі крыла**. Англічане тут аказаліся "шэрымі і маркотнымі" – іхнія *насы* – не раўня нашым, і гэта проста *крайчыкі* – edges. Дарэчы, у палякаў - krawędź natarcia skrzydła, ва ўкраінцаў – носок крила.

О(б)метаемая площадь винта – **утвараемая плошча** (матэматычная) **вінта** (Гл. Винт). Падобны тэрмін маецца ў ПТС [16] 1997 г., які супадае са значэннем разглядаемага тэрміна (акрамя самога слова *круг* (Гл. круг)): *круг ометаемый винтом (ав.) – круг утвараемы вінтом*.

Обжатие колес, штока – в**обціск** колаў, штоку. Праблема тут у кансерватыўнасці падыходу слоўніка Крапівы да *обжатия*. Калі глыбока не ўдумвацца ў сутнасць значэння *обжатия* і проста глядзець на яго, як на назоўнік, які мае дзеяслоўную аснову *жать* і які стварае дэвербатыў імя дзеяння, то тады просты механічны пераклад *обжатия* на *абцісканне* будзе адпаведным. Але ж рэч акурат у тым, што расійскае *обжатие* не адпавядае сутнасці з'явы, гэта традыцыя, якая ўзнікла проста з-за немагчымасці перайначыць дзеяслоў *жать* іншым спосабам. У класічным уяўленні, *обжатие* – гэта працэс, як напрыклад, *хождение* (по мукам), але наш тэрмін азначае простую розніцу паміж абціснутым і неабціснутым колам, штокам і вымяраецца ў мм., см., то бок падпадае да класу мер даўжыні, але ніяк не да нейкага незавершанага працэсу. У расійскім варыянце проста не "пагуляеш" з гэтым словам (*обжат* хіба што!). А вось з беларускім варыянтам *ціск* гэта зрабіць лёгка і да меры даўжыні больш натуральным будзе *вобціск*. А *абцісканне* – калі кола здзімаецца (надзімаецца)!

Обзор (обзорный) і наблюдение (наблюдательный) – **агляд (аглядны**) і **назіранне (назіральны).** Праблематыкі ў прымяненні тэрмінаў у беларускім варыянце няма. Сустракаецца блытаніна пры супастаўленні расійскамоўных аналагаў з заменай *обзорный – назіральны*, *наблюдательный – аглядны*. Думаецца, што тут трэба прытрымлівацца дакладнай адпаведнасці расійскамоўным аналагам. *Назіральны палёт*, *самалёт назірання, недастатковы агляд з кабіны*. Дарэчы, у слоўніку 1927 г. маюцца наступныя

тэрміны: *воздушное наблюдение – паветранае назіранне, наблюдательный пункт – назіральны пункт*. Дадаткова – Гл. Индикатор кругового обзора.

Облачная воронка – **воблачная лейка**. Тэрмін авіяцыйнай метэаралогіі, сустрэты ў [18].

Обнаружение – **выяўленне**. Тут багацце тэрмінаў – *выяўленне, знаходжанне, абнаружэнне, выкрыццё* – можа ўскружыць галаву, што не ёсць добра. Бо ўскладняе і так нялёгкую вайсковую справу. Паспрабуем прааналізаваць, які з іх найбольш адпавядае беларускаму гучанню. У адмысловым значэнні знаходзім у “словаре для военных” [4]: *о. объекта – выяўленне аб’екта*. *Абнаружэнне* выкідваем як звычайную кальку, якая з’явілася проста з-за боязі змяніць сэнс спецыяльнага тэрміна. *Выкрыццё* амаль ва ўсіх слоўніках падаецца, як “изобличение, разоблачение”. Таму і пакінем яго там, у палітычнай барацьбе ці якой яшчэ абстрактнай мітусні. Трэба адзначыць, што, як вайсковы тэрмін, сустракаецца ў сеціве – “Па-першае, яго цяжка *выкрыць*. Па-другое, калі нешта *выкрываюць*, то адразу высылаюць верталёт, затым узмацняюць радыёлякацыйнае поле*”*. А вось барацьба паміж словамі *выяўленне* і *знаходжанне* не простая, таму звернемся да фізічнай з’явы пошуку і *обнаружения* цэлі. Калі самалёт знік з радараў ці загінулі людзі ў гарах, то пачынае працаваць пошукава-выратавальная каманда, мэта якой – знайсці людзей, самалёт. То бок “у Індыйскім акіяне былі знойдзены рэшткі зніклага Боінга”. Тут усё проста. А вось калі гаворка ідзе пра баявыя дзеянні, то справа іншая. Бо мэта ў вайскоўцаў не знайсці і выратаваць, а, напрыклад, прымусова пасадзіць ЛА, калі гаворка ідзе пра дзяжурства ў паветры ў мірны час, ці, часцей за ўсё, знішчыць цэль. Тут *обнаружение-нахождение* цэлі, гэта пачатковы (напрыклад, на КП палка – “цэль знайшоў (обнаружил) у азімуце 100, адлегласць 20”) ці канчатковы (даклад лётчыка пры дакладзе на “зямлю” – “цэль знайшоў”). А да гэтага ці пасля ідзе радыёлакацыйнае “обнаружение” і навядзенне знішчальніка на цэль, распазнаванне і класіфікацыя яе рознымі сродкамі. То бок адбылося *установление* цэлі, што і

адпавядае беларускаму *выяўленне*. Тым больш пошук і *выяўленне* цэлі самалётам, гэта таксама асобны выпадак. Бо цэль збіваюць не толькі знішчальнікі, а і зенітна-ракетныя сістэмы аб'ектавай СПА без візуальнага кантакту. Мы прыйшлі да таго, што *выяўленне* – гэта больш складаны працэс, у які ўваходзіць знаходжанне. Таму для скрознасці і ўніверсальнасці тэрміну пры выкананні баявых задач, калі ідзе *обнаружение цели*, і калі *цель обнаружена* прымяняем тэрмін "цэль *выявіў*", "*выяўленне* цэляў". Прыклады – "Стралец ПЗРК цэль *выявіў* у напрамку (адкуль ляціць) Добрасава", ці "Цэль *выявіў* у азімуце 100, адлегласць 20" ці лётчык пры дакладзе – "Цэль *выявіў*. Класіфікаваў". Выпадае, што "словарь для военных" мае рацыю!

Обогрев стекла – **абагрэў** шкла. У крапівоўскім варыянце – *абагрэў*. У [4] 1996 г. – *абаграванне.*

Обстановка – **становішча** (абстаноўка) (акрамя **аварыйны стан**). Цэлае дрэва вытворных прысутнічае ў слоўніку Язэпчыка 1997 г. [17]: паветраныя абставіны, інжынерны стан, метэаралагічныя абставіны (становішча), навігацыйнае становішча (абставіны) і г.д. . Нягледзячы на гэта, цяжка зразумець логіку ўтварэння тэрмінаў, хаця пазначана, што абставіны – обстоятельства, а становішча, стан – положение. На думку аўтара, драбленне на розныя беларускія эквіваленты тут непатрэбнае. Сваю думку пазначу ў сказе: "Пры дадзеных абставінах стан навігацыйнага становішча істотна пагоршыўся". Таму неабходна дадатковае абмеркаванне дадзенай группы тэрмінаў.

Обтек (-атель, -ание) – **абцякальнік**, **абцяканне** (крыла). Тэрмін маецца ў "словаре для военных" 1996 г. Інтэрнэт: "катастрофа адбылася з-за пажару ў левым *абцякальніку* хваставой часткі". Цікавую лексему для роздуму знаходзім у [17] – «у насавой частцы фюзеляжа ўмацоўваецца "*насок*", які служыць падшыпнікам і *абцякальнікам*».

Обшивка – **абшыўка**. Тэрмін цікавы гістарычнымі прыкладамі ўжывання ў адмысловым значэнні: [17] – «крыллі гэтых модэляй робяцца з тонкім профілем і ардынарнай папяровай *абцяжкай*», «ваданепрасякальная *абцяжка*»,

[22] – «крыльлі, *абцягнутыя палатном* або *абітыя* фанераю…», [24] – «ці не парвалася дзе *палатно*…». Як бачым, пры іншых варунках развіцця беларускай авіяцыйнай навукі маглі б узнікнуць і чыста беларускія эквіваленты тэрміну ці застацца гістарызмамі. У слоўніку Язэпчыка [4] 1996 г. пададзены: *плотн., тэх. абшыўка, ашалёўка, (обивка) абіўка*. У [5]: *абшыўка, шалёўка*. У [2]: *обшивка – абшыўка*. У ПТС [16] тэрмін не знойдзены.

Огни ВПП – **агні УПП**. Падрыхтуйцеся! Англійскі варыянт – "гусіная шыйка" – gooseneck.

Одиночный (элементарный) і единичный (объект, цель в составе группового) – **адзіночны** і **паасобны, адзінарная бочка**. Частаўжывальныя тэрміны ў тэорыі баявой эфектыўнасці і ў пілатаванні. Складанасць толькі ў тым, што адпаведнікі для *одиночного* і *единичного* існуюць, але не для спецыяльных значэнняў. Толькі ў значэнні *одиночный полет* слоўнік Крапівы дае адпаведнік – *адзіночны*. Трэба дадаць, што ў канкрэтным выпадку *адзінкавы* не будзе адпавядаць *единичному* з прычыны фізічнай сутнасці тэрміна, і хутчэй больш адпавядае слову *одиночный – адзіночны, адзінкавы*. Што наконт *одинарного*, то прыметнік мае значэнне, супрацьлеглае падвойнаму і больш вузкае, чым *адзіночнае.*

Оперативный –1. (кіраванне аперацыямі) **аперацыйны.** 2. (ступень хуткасці) **аператыўны**. Праблема – ў русіфікацыі існуючага беларускага тэрміну *аперацыйны*, які пад уплывам расійскай мовы ператварыўся ў *аператыўны*. Традыцыйна ў нашай мове пад словам *аперацыйны* ўважаецца менавіта арганізацыя і кіраванне вайсковымі *аперацыямі*. А ў вайсковых часцях, камандаваннях пры штабах маюцца аператыўныя аддзяленні (аддзелы, упраўленні), асноўная функцыя якіх – аператыўнае штодзеннае кіраўніцтва войскамі. То бок гаворка ідзе пра ступень хуткасці, а не пра маштаб задач. Правільна гэтым словам карысталіся і класікі, далёкія ад вайсковай справы. Напрыклад, Я. Колас у "Дрыгве". Таму, калі на вечары сустрэчы я распавёў, што служыў афіцэрам *аператыўнага* аддзела Паўночна-заходняга *аператыўна*-тактычнага камандавання, я

зрабіў памылку. Бо, насамрэч, служыў я ў *аператыўным* аддзеле *аперацыйна*-тактычнага камандавання. Вельмі добра пара *аператыўны-аперацыйны* разгледжана ў кнізе “Слоўка за слоўкам” А. Міхневіча. Тэрмін адлюстраваны і ў вайсковым слоўніку 1927 г. (Гл. Раздзел 3). У кнізе [23] чытаем: “стратэгічная і аперацыйная выведка”. А ўжо ў [4] 1996 г. і [3] 1997 г. – аператыўны. Хочацца дадаць, што разам з русіфікацыяй тэрмінаў мы паглынаем і памылкі, характэрныя для чужых моўных сістэм! Прыкладам служыць тэрмін “операционное воздушное движение”, якое па традыцыі расійскай мовы павінна быць “оперативным” (напрыклад, “оперативный орган Единой системы ОрВД”). У гэтым жа разе адбыўся прамы пераклад англійскага тэрміну “Operational Air Traffic” без асэнсавання ўласнага культуралагічнага аспекту расійскай мовы. Трэба памятаць, што аэрадром *аператыўны*, *аператыўнае разгрупаванне* і становішча *аператыўнае* (укладзены сэнс хуткасці рэагавання).

Опознавание, опозновательный і неопознанный – **апазнаванне, апазнавальны, неапазнаны**. *Опозновательный* (индекс, знак ВС) – *апазнавальны* (індэкс, знак лятака). *Неопознанный* (цель, объект) – *неапазнаны.* Натуральным беларускім эквівалентам з’яўляецца *распазнаванне*, пра што сведчыць ТСБМ, але ў якасці спецыяльнага тэрміна ў [4] зафіксаваны менавіта *апазнаванне*, што не парушае сэнсавую беларускую прыроду слова і, у дадатак, падпадае пад закон эканоміі моўных сродкаў. У [5]: *распазнаванне (сваёй авіяцыі), распазнаванне “свой-чужы”*.

Опробование (двигателя, систем) – **апрабав<u>а</u>нне**. Афіцыйны тэрмін, як рэдкі выпадак, замацаваны ў слоўніках і ўжываецца ў шырокім сэнсе не толькі ў авіяцыі. Таму, адштурхоўваючыся ад фізічнага сэнсу *апрабав<u>а</u>ння* рухавікоў, сістэм мы можам “трымаць у галаве” ў якасці рэзервовага варыянту слова *распрацоўка*.

Опытный (у спецыяльным значэнні) і исследовательский – **доследны**. У беларускай мове самастойным з’яўляецца толькі *доследны*. Слова ж *вопытны*

развілася з назоўніка *вопыт*, якое мае беларускія эквіваленты *досвед і дослед(ы)*. Таму опытный самолет (образец) – **доследны самалёт (узор).** Дадамо, што *исследовательскому* адпавядаюць ажно тры беларусскія эквіваленты: *доследны, даследчы, даследніцкі*.

Ориентир і ориентировка – **арыенцір і арыентаванне**. Тэрміны часта сустракаюцца ў навігацыі, штурманскай падрыхтоўцы лётчыкаў. Першы тэрмін без зменаў узяты са слоўніка Крапівы. Праблема выбару беларускага варыянта другога тэрміну звязана з ненатуральнасцю для мовы суфікснай асновы –іраў- і канчатку -ка, якія цалкам, у сваю чаргу, з'яўляюцца натуральнымі для расійскай мовы – успомнім бамбардз*іроў*ка! Вядома ж, у слоўніках яны ў такім выглядзе існуюць. Цікавы варыянт у [5]: *ориентировка – арыентоўка, терять ориентировку – траціць арыентоўку, ориентирование карты – арыентаванне карты (мапы)*! У расійскай мове, у дадатак, ёсць *ориентирование* (тое ж, што і *ориентировка*, толькі на зямлі-*ночное ориентирование*), і *ориентация* – становішча аб'екта адносна другіх. Такім чынам, *ориентировка* і *ориентирование* – абсалютныя сінонімы і існаванне іх побач звязана толькі з моўнай традыцыяй. Лічу, што ў гэтым разе мова нічога не губляе, калі будзем карыстацца адным *арыентаваннем* і на зямлі, і ў паветры! *Восстановление (потеря) ориентировки – аднаўленне (страта) арыентавання*.

Останов (несущего винта, двигателя) – **спын**. Слоўнік Крапівы падае "правільную" форму дэвербатыва імя дзеяння *спыненне*, але ў сваім тлумачальным варыянце ўсё ж дае і варыянт *спын,* праўда, ні да якога тэхнічнага тэрміну не прывязанае. Па-расійску ў дачыненні да гэтага працэсу падышлі больш ліберальна і не пакінулі *остановку двигателя, винта*. Думаецца, што прычына ў шматзначнасці слова і жаданні аддзяліць тэхнічную *остановку* ад больш абстрактных *остановок* часу ці баявых дзеянняў, ці наадварот, аўтобуснай *остановки*. Чаму мы такім жа парадкам, не парушаючы норм словаўтварэння і мілагучнасці, не можам узбагаціць сваю

тэхнічную тэрміналогію *спынам*, якое, дарэчы, ужо жыве на абсягах "павуціння" і добра сябе там адчувае!

Ось ВПП – **вось УПП**. У англійскай – цэнтральная лінія – centre line.

Отвести самолет (при катапультировании) от населеного пункта – **адцягнуць**. Тут – спроба пераасэнсаваць тэрмін па-беларуску. Рэч у тым, што *адвясці* можна штосьці кіруемае (кім-небудзь) – карову, напрыклад, на пашу ці дзіця ў садок. А вось калі дзіцё ўпіраецца і становіцца некіраваным, то даводзіцца яго *цягнуць* у садок. Тое ж самае адбываецца і з самалётам пры страце кіраваня. Таму прыклад з сеціва (пра майго, дарэчы, добрага знаёмага Колю Грыднева, які загінуў) – «лётчык здолеў *адвесьці* машыну ад вёскі Навіны Наваградзкага раёну" можна перайначыць на беларускі капыл і сказаць – "лётчык здолеў *адцягнуць* машыну ад вёскі".

Ответчик і ответный – **адказчык** (адказнік, адваротнік) і **зваротны**. У [5]: *ответный удар – зваротны ўдар, контрудар, удар у адказ*. Думаецца, размоўным у вайсковым слэнзе магло б стаць экспрэсіўнае *аддарунак – ответный подарок!* У ПТС [16]: *ответный сигнал – сігнал у адказ.* Як мы бачым, *ответному* в нашай мове могуць адпавядаць сінонімы *обратный-адваротны, обратимый-зваротны*. Значыцца, магчымая назоўнікавая форма – *адваротнік*. А *зваротнік*, згодна тэрміналогіі БНТ, гэта *тропик*.

Откачка – закачка масла (топлива) і под (пер-, от-) качивающий насос, всасывающий насос – **ад(за-)пампоўванне і пад (пера-, ад-) смоктвальная помпа, усмоктвальная помпа.** Праблема ўзнікае пры збегу кораня –кач- у прыметнікавай і назоўнікавай формах у адным тэрміне «под(от-)*кач*ивающий *кач*». У расійскай мове праблема таўталогіі вырашана шляхам ужывання на месцы «кача» сіноніма *(на)соса* – атрымаўся *подкачивающий насос*. У беларускім варыянце таксама існуе праблема таўталогіі, калі будзем казаць *пад(пера-,ад-) пампавальная помпа*. Метад замены прыметніка *пампавальны* словам-сінонімам ад *смактаць* мы можам прымяніць і ў нашай мове, толькі роўна наадварот.

Атрымаем *пад(пера-,ад-) смоктвальная помпа*. У афіцыйным ужытку замацаваны толькі аналаг *всасывающий насос (колодец)* – *усмоктвальны*. Але ў авіяцыі ўжываецца менавіта *под(от-)качивающий насос*, які знайшоў адлюстраванне толькі ў ПТС [16] 1997 г.: *н. подкачивающий – п. падпампоўваючая* (тамсама: *н. всасывающий – п. усмоктваючая; н. откачивающий – п. адпампоўваючая*).

Откидная часть (фонаря) (ОЧФ) (мал. 30) – **адкідны аскепак**. Слова *аскепак* (*рас.* осколок), больш эмацыйна насычанае, чым *часць*, прыведзена па той аналогіі, што разбіты *фонарь-шклян* складаецца з *частей-аскепкаў*: п*адкід адкіднога аскепка*. (Гл. Фонарь). Ужыванне яго ў складзе гэтага тэрміна прыводзіць да ўражання, што гэты "аскепак" як бы "адстрэльваецца", пры катапультаванні, адкідваецца незваротна – што і адбываецца ў рэчаіснасці.

Отклоняющийся (носок, стабилизатор, сопло, поток і г.д.) – **адхіляемы (**адхільны**)** (отклоняемый). Праблема – у адсутнасці беларускага адпаведніка ў слоўніках, у тым ліку і традыцыйнага *які адхіляецца*. Гэты прыметнік часта сустракаецца ў шмат якіх авіяцыйных тэрмінах, якія тычацца у асноўным аэрадынамічных паверхняў, а таксама струменяў. Неабходнасць дзялення ў беларускай мове на *отклоняющиеся* і *отклоняемые* аэрадынамічныя паверхні, плыні (патокі) і г.д. адсутнічае. Таму *отклоняющемуся* будзе лепш адпавядаць больш натуральнае для нашай мовы слова *адхіляемы,* які ў расійскай мове азначае *отклоняемый.* Пераўтварэнне назоўніка *адхіленне* ў прыметнік беларускай формы ўжо знайшло сваё адлюстраванне ў друку – "восі паварота *адхіляемых* соплаў нахіленыя, што добра відаць на фатаграфіі (соплы пры гэтым адхіляюцца ўніз-унутр і ўверх-вонкі)". Хаця адзінкава сустракаецца і такое – "аўтаматычна *адхіляючыеся* насы".

Отмена рейса, полета – **скасаванне рэйсу, палёта**. Праблема выклікана сінанімічнасцю слоў *адмена* і *скасаванне.* Якое ж слова больш справядлівае і ўласцівае нашай мове? Часам у адным артыкуле ў адным значэнні гэтыя словы ідуць поруч – «*адмена* ільготаў – яшчэ адзін прыклад неэфектыўнага

законапраектавання. *Скасаванне* ільготаў ліквідатарам…». Выходзіць, што больш «справядівым» варыянтам выпадае наша *скасаванне*. Тым больш блізкая нам украінская мова падае менавіта *скасування рейсу, скасування польоту.* Калі глянуць у гісторыю «беларускай» «отмены», то ў старабеларускім варыянце гэтае слова было і мела значэнне – «аплата, узнагароджанне». Адразу хочацца ўзгадаць знакамітае «блага», якое ў беларускай і расійскай мовах маюць супрацьлеглыя значэнні і тое, як паводле падання Іван Грозны катаваў полацкага баярына, а той адказваў, што яму «блага»! У слоўніку Байкова-Некрашэвіча прысутнічае толькі варыянт *скасаванне – отмена*.

Очистка – **ачыстка**. Адзін з выпадкаў, калі гэтае слова можа быць добрым кароткім запазычаннем. Што і зафіксавалі афіцыйныя слоўнікі.

Парящий (полет), планер-паритель – **лунальны**, **планёр-лунальнік**. У слоўніку [19] – *лунанне*. [4], 1996 г.: *парящий полёт – лунаючы палёт*. Ведаем, што для нашай мовы характэрна ўжыць дзеепрыслоўе “лунаючы над аблокамі”, але не ў якасці дзеепрыметніка (незалежны стан, цяперашні час) з такім суфіксам. З жывой практыкі ўжывання (прыклад з сеціва) даведваемся – “безматорныя лятальныя апараты для *лунальнага* палёту”, што цалкам падпадае пад натуральнае словаўтварэнне.

Патронный ящик (авиационной пушки) і патронник, помещение для хранения оружия («оружейка») – **патронная скрынка і патроннік, збраёўня**. У Практычным вайсковым слоўніку [1] знаходзім: *патронник – патроньнік*, *патронные коробки – патронныя каробкі, ящик зарядный – набойная скрыня,* а *арсеналу* (памяшканне са зброяй) адпавядае *збраёўня.* У [4] і [5]: *патронник – патроннік, патронный ящик – патронная скрынка*.

Переброска (авиации) – **перакід**. У слоўніках прыводзяцца *перакідванне* і *перакідка*. У [4]: *переброска – перакіданне, перакідванне, перакідка, ~ка войск – перакідка войск*. Вядома ж, назоўнікі з канчаткам -ка больш уласцівыя расійскай мове, чым беларускай. Але па інэрцыі ў сеціве

сустракаецца і *перакідка,* напрыклад: “... звязаная з *перакідкай* авіяцыі з кантынентальнай часткі ЗША …”. Дык навошта калькаваць, калі ўжо “едзем не на чужым вазку і спяваем сабе песенькі”!

Перевернутый (полет, штопор і г.д.) – **перакулены**. Розначытанні маюцца і тут. На ўласную думку, пакуль устойлівых і распаўсюджаных тэрмінаў па-беларуску з гэтым словам няма, найбольш прыдатным будзе прыметнік *перакулены*, напрыклад, *перакуленая бочка* (фігура пілатажу).

Перегиб профиля – **перагін профіля**. Існуе крапівоўскі *перагіб* і дарэформены *перагін.*

Перегрузка аэродинамическая і пере(за-, раз-)грузка, перезагрузка; перегрузочный костюм і пере(за-, раз-)грузочный – **перагрузка і пера(за-**, **раз-)грузка**, **перазагрузка (перазапуск)**; **перагрузачны касцюм і пера(раз-)грузны**, **загрузачны.**

Передача блиндом – **передача бліндам**. Запазычаны расійскай мовай з англійскай тэрмін абазначае «*передачу без подтверждения приема*». А прамы пераклад терміна *blind transmission* – “*сляпая” передача, передача “ў сляпую”*. Гэта яшчэ раз паказвае, наколькі рознымі могуць быць тэрміны ў незалежных моўных сістэмах.

Перенастройка частоты вращения НВ – **пераналадка частаты кручэння ПВ**. Слоўнік Крапівы дае *перанастройку*, а на *переналадку* падае *пераналадку*. Упэўнены, што *пер**е**наладка,* гэта калькаваная беларуска-ўкраінская *пер**а**наладка* проста зыходзячы з ужывання гэтага слова ў беларускай-украінскай мовах і нашмат радзейшым у расійскай. А прычына ўмацавання яго ў расійскай мове наступная. Вядома, што за савецкім часам актыўны ўдзел у развіцці тэхнікі прымалі беларускія і ўкраінскія “спяцы”, якія былі вырваныя са сваіх моўных арэалаў, але з мовы якіх цяжка было вырваць вельмі арганічныя словы кшталту *наладка, пераналадка*. Яны і ўзбагацілі прафесійную лексіку гэтым трапным словам. Той рэдкі выпадак, калі канкурэнцыя нашага слова адбылася на другой тэрыторыі. І зараз *перенастройка і переналадка* з’яўляюцца абсалютнымі

сінонімамі ў расійскай мове, а займаюць свае вызначаныя месцы толькі дзякуючы сталай моўнай традыцыі ў розных сумежных тэхнічных абласцях. Дзеля справедлівасці дадамо, што “настройка” ў беларускай мове існуе здавён і ўжывалася ў дачыненні да музычных інструментаў. Існуе яшчэ слова “наводзіць/навесці”, якое чамусьці так і не трапіла ў літаратурны стандарт беларускай мовы, са значэннем “точно настраивать что-то” – гадзіннікі і радыёпрыёмнікі якраз наводзяць. Цікавы варыянт частаты падае слоўнік Судніка [5] – *часціня*.

Пересечение государственной границы – **працінанне дзяржаўнай мяжы.** Яскравы выпадак, калі слоўнікі недастаткова глыбока прааналізавалі ўсе тэрміны. І гэта лагічна, таму што шмат якія тэрміны не перайшлі мяжу беларускамоўнага асяроддзя і засталіся “за плотам”. І *пересечение* ў нас звязана з класічным уяўленнем *пересечения* якіх-небудзь ліній у гарызантальнай плоскасці. Але *пересечение* дзяржаўнай мяжы ў паветранай прасторы – гэта менавіта “пронзание, протыкание” небачнай паветранай “сцяны”, бо паветраная мяжа, гэта не лінія, а плоскасць (плашчыня), праекцыяй якой і з’яўляецца наземная мяжа краіны. *Пересечение* ў расійскім варыянце ўзнікла з мовы вайскоўцаў, бо азначае праход любой перашкоды ў любым месцы, а не *праход, праезд* у пунктах пропуску. Таму маем права ўзмацніць *перасячэнне* ў беларускім варыянце больш эмацыйным *працінанне*. Тым больш часта здараюцца выпадкі незаконнага працінання дзяржаўнай мяжы! А ўкраінская мова ўжо даўно ўзбагацілася такім тэрмінам і «громадяне» там «перетинають державний кордон».

Перестроение і построение (полетного, боевого порядка) – **перастраенне (пастраенне) баявога шыху, перашыхаванне (шыхаванне) палётнага строю**. Праблема на паверхні – што было першым – яйка ці курыца?! Па сутнасці, словы абсалютна сінанімічныя, але маюць сваю гісторыю ўзнікнення ў нашай мове і звязаную з гэтым “барацьбу ПРАВАверных з ПРАВАслаўнымі”. І калі мы пакінулі *строй* і *шых* (Гл. Боевой порядок і полетный строй) на нашай талерантнай зямлі, то такім жа чынам можам развесці гэтых

“баксёраў” па “сваіх кутах” у выразах *построение боевого порядка*, *перестроение полетного строя*, пазбавіўшы нашую мову ад элементу таўталогіі – *шыхаванне строю*, *перастраенне шыху* (порядка). У [5]: *построение боевых порядков – шыхтаванне баявых парадкаў*.

Перехват і перехватчик – **перахоп і перахопнік.** З варыянтам *перахоп* праблемаў не існуе, бо ўжо занадта б дзіка-трасяначна гучала “перахваціў”! Вось прыклады з сеціва – “Украінская авіяцыя перахапіла расейскія знішчальнікі 11 месяцаў таму”, “па дадзеных радыёперахопу”. А з *перехватчиком* складаней. Слоўнік Крапівы падае скалькаванае і цалкам нелагічнае расійскае *перахватчык.* Быццам з’ява *перахопу* знішчальнікам цэлі настолькі незразумелая, што лепш яе перадаць словам *перахват,* каб не згубіць сэнс. Трэба стваральнікам слоўнікаў пачытаць англійскую авіяцыйную лексіку, якая амаль уся складаецца з устойлівых фразеалагізмаў. А калі б англічане прытрымліваліся прынцыпу, што ўсе словы павінны калькавацца з расійскай мовы, то свой знішчальнік назвалі бы “правільна”, а менавіта *destroyer*ам. Але ж не, пайшлі сваім шляхам і назвалі “борцуном-змагаром” – fighter! Беларусы ж пайшлі пратаптаным шляхам калькавання. Бо авіяцыйнай з’яве *перахопу*, як прасторавай з’яве паміж двума рухомымі аб’ектамі адпавядае больш традыцыйнае нашае *напярэймы*. Хто вырас у вёсцы, той памятае, як часта даводзілася бегчы *напярэймы* збеглым цялушкам, каб затрымаць, *пераняць* іх. Такая пастухова тактыка цалкам адпавядае тактыцы знішчальніка, які здзяйсняе палёт на апярэджанне цэлі і ў загаданым пункце *пераймае* яе. Гэтае слова ёсць зручным і для словаўтварэння. Але ж, як бачым, месцы “занятыя” *перахопамі*. Адзінае месца, якое не “захапаў” *-хоп-*, прынамсі, не часта ўжываецца ім, гэта прыметнік – *перехватывающий* (*перахопны*), якое мы можам заняць словам *пераймальны.* Дый ўвогуле, хіба не па-беларуску гучыць – “*пераймальнік* быў падняты *напярэймы* неапазнанай цэлі ў раёне Добрусава. Цэль была *перайнята* і *апазнана*!”. Напрыканцы, калі скончыў пісаць артыкул, у слоўніку Судніка знайшоў: *истребитель-*

*перехватчик – з.-пераймальнік, перехват – пераймание, пярэймы, перахоп: пераймание паветранай цэлі, палёт на пярэймы*, *рубеж перайманя*!

Переходный слой – **пераходны слой** (у паветры). Тут праблема не на паверхні “слоя”, а ў глыбіні яго. На паверхні тое, што мы адназначна ў гэтым выпадку ўспрынялі расійскамоўную традыцыю, бо свая натуральным шляхам “не нарадзілася”. Калі глянуць на нашага суседа – украінскую мову – то бачым у іх адпаведнік *переходному слою – перехідний шар*. А ў слоўніку Некрашэвіча-Байкова знаходзім *ярус* у значэнні паверх; поклад (зямлі), шар. А *шар* у сучасным разуменні быў *куляй* (зямной). Дык вось пытанне, які той “ненароджаны” пры нармальным развіцці натуральны беларускі адпаведнік *переходному слою – пераходны слой, пераходны ярус ці пераходны шар*? Мабыць, той адказ ляжыць у вуснах пахаванай інтэлігенцыі ў Курапатах.

Пилотируемый и пилотированный – **пілатуемы (**кімсьці**)** і **пілатаваны** (як прыметнік). Цікавы тым, што тэрмін параўнальны са “знакамітым” *управляемый* (Гл. Управляемый). Але, у адрозненне ад яго, такога расколу ў беларускамоўнай інтэрпрэтацыі не мае **(**трэба заўважыць, што слоўнік Судніка падае *пілатаваны*, а слоўнік Крапівы – *пілатуемы*). А сакрэт полішынэлю толькі ў тым, што ў расійскай мове ёсць словы *пилотируемый* і *пилотированный* (такой варыяцыі, заўважце, са словам *управляемый* няма!), што аўтаматычна дазволіла “прымацаваць” нашыя *пілатуемы* і *пілатаваны* да адпаведнай “спадніцы”. Прыклад з сеціва – “17 снежня 1903 здзейснілі першы ў гісторыі пілатуемы палёт на маторным аэраплане «Флайер-1». Дык вось, пакуль у беларускай мове не замацавалася непаслядоўнае (з расійскай мовы) ужыванне *пілатуемы-пілатаваны* па аналогіі з *управляемый* (Гл. Управляемый), прыменім больш натуральнае беларускае словаўтварэнне *управляемый* да “пары” *пілатуемы-пілатаваны*. Атрымаем – *пілатаваны планер*, але *пілатуемы курсантам планер.*

Питание (розн.) – (техн., воен.) **сілкаванне**, (снабжение) **забеспячэнне.** Адзін з нешматлікіх складаных тэрмінаў, добра прапрацаваных у вайсковых слоўніках, напрыклад, у “словаре для военных” [4]: *п. для радиоприёмника – сілкаванне для радыёпрыёмніка, п. патронами (воен.) – забеспячэнне патронамі, бесперебойное п. – бесперабойнае забеспячэнне.* Афіцыйны тэрмін пад “грыфам” *тех.,воен.* у слоўніку Крапівы! А вось у “Тэхнічнай тэрміналёгіі” БНТ [9] знаходзім *питание (котла) - жыўленне*.

Планирование (рух летака) – **планіраванне**. Як тэрмін, маецца ў слоўніках. Якраз дарэчным тут з’яўляецца запазычанне расійскага -ірав, бо дае магчымасць аддзяліць рух летака ад працэсу размеркавання рэсурсаў, якое носіць назву *планаванне*. Прыклад з гісторыі ўжывання тэрміну: [17] – «…або крута плянуе, або горш таго пераходзіць у “піцы”…».

Планка индикатора – **планка**. Як чарговы фэнтэзійны варыянт, калі ўявіць, што беларускае самалётабудаванне развівалася б на незалежным, самастойным грунце, то магчыма *ліштва* ў такім спецыяльным значэнні “села б на сваё пачэснае месца сярод прыладаў”! У “Тэхнічнай тэрміналёгіі” БНТ [9] ёсць “планка”, але без дрэва тэрмінаў! А ў [5]: *планка – ліштва*: *орденская п. – ордэнская л.*

По левому (правому) борту – **леваборт (праваборт).**

Пограничный слой і граница (у пpасторы) – **памежны слой** і **мяжа**. Праблема ў тым жа, што адназначнага адказу слоўнікі не даюць. Разлад у адназначнасць трактавання тэрміну дадаюць розныя напісанні ў сеціве, што пацвярджае тэзіс аб тым, што беларуская авіяцыйная мова знаходзіцца ў стадыі koine – пераходнай стадыі. Вось прыклад з інтэрнэту – “Гэта з'яўляецца вынікам сумеснага ўздзеяння розных фізічных з'яў, такіх як эфект Бернулі і ўтварэння *сумежнага пласта* ў асяроддзі вакол абцякальнага аб'екта”. То бок да нашых *памежных (пагранічных) слаёў* дабавіўся арыгінальны *сумежны пласт*, але ён адпадае, бо не зусім адпавядае сутнасці *пограничного слоя* – часткі паветра, якая мяжуе з абцякаемай паверхняй, а не як асобнага элементу, які быцам з’яўляецца

“суседам” гэтай паверхні. Ёсць у слоўніку [14] афіцыйны тэрмін *пагранічны слой (пагранслой*). У іншых слоўніках прыметнік пагранічны мае адпаведнік *пагранічны (памежны*). Дык які ж з іх больш справядлівы? Слоўнік БНТ, як і слоўнік [8] падае *паўзьмежны*. То бок да 1933 г. пытання з коранем слова не ўзнікала і *граница* як прасторавая катэгорыя трактавалася адназначна як *мяжа*. Мы ведаем, што ў нашай мове *гранічны* мае значэнне *предельный*, то бок *пагранічны слой* у беларускім варыянце разбурае ўсю лагічнасць моўнай сістэмы (вядома ж, да 1933 г.), бо адваротны пераклад будзе падобны на “околопредельный слой”. Таму ўсё ж лепш вярнуцца да больш традыцыйнага *памежнага слою*. Самае цікавае, што сам слоўнік [14] у гэтым выпадку пярэчыць сабе, бо на запыт **граничный** адказ дае такі: 1. (*предельный*) гранічны; 2. (*от граница*) межавы! Дык калі *граница – мяжа*, чаму даяце *пограничный слой – пагранічны слой,* а не лагічны – *памежны*? Дадаткова тэрмін з [18]: кліматычная мяжа.

Подавление – 1. агульны тэрмін **здушэнне (сістэмы СПА, радыёэлектроннае** і г.д.). 2. ступень ушчэнту – “**здушэнне**”. Рэч у тым, што *подавление* ў шырокім сэнсе (паўстання, напрыклад) слоўнікі трактуюць як *задушэнне*. У спецыяльным значэнні тэрмін не зусім паслядоўны: у [1] 1927 г. бачым: *подавить огнём противника – змагчы агнём супраціўніка; подавлять, подавить – душыць, здушыць; змагаць, змагчы*. А ў [2] 1933 г.: *подавление (огня) – прыдушэньне*. “Словарь для военных” [4] паказвае наступнае: подавление 1. (усмирение) *задушэнне*; 2. (огня, огневых точек противника и т.п.) *падаўленне* 3. (перен.) *заглушэнне, прыглушэнне; прыгнятанне*. Сучасны ўзус спецыяльны тэрмін усё больш і больш утварае ад агульнапрынятага *задушэнне – здушэнне*: “Гэта будзе складаная аперацыя, якая запатрабуе зладзіць дзеянні для *здушэння* расейскай сістэмы СПА”.

Подвеска – 1. *канстр.* **падвес** 2. *дзеянне* **падвеска**.

Поддавливание (гидробаков) – **падцісканне**. Праблема толькі ў тым, што нідзе беларускага адпаведніка *поддавливанию* няма. Вось тут цалкам лагічным з’явілася ўтварэнне ад

дзеясловаў *давить – ціснуць* дэвербатыву імя дзеяння, бо падцісканне – гэта працэс, у адрозненне ад *обжатия* колаў ці штока (Гл. Обжатие).

Подсвет і подсвечивать, подсвечиваемый – **падсвятленне** і **падсвятляць, падсвятляемы.** Расійскія тэрміны паходзяць ад розных каранёў. У першым выпадку *подсвет* ад *свет*, а ў другім і трэцім умоўна можна сказаць, што ад *свеча*, якое ёсць найбольш тоеснае *свету* ды й сама *свеча* – вытворная ад *свет*, *светить*. А адбылося гэта па той прычыне, што ў расійскай мове ад *свет* проста немагчыма ўтварыць дзеясловы *подсве***т***ивать (*хаця *подсвети,* а не *подсве***ч***и), подсве***т***и(ы)ваемый*. А што ў беларускай? А ў беларускай мове такой праблемы не існуе. Ад *святла* лёгка ўтвараюцца вытворныя – *падсвятленне*, *падсвятляць*, *падсвятляемы*. Дык навошта самім чарговы раз ствараць штучную праблему на роўным месцы?! Чым і займаюцца часам нашыя слоўнікі, якія ўпарта нам даюць *падсвечванне* (напрыклад, у [14]). Як у выпадку са словам *набор высоты* ў аператыўным радыёабмене можна і трэба выкарыстоўваць слова *падсвет* (прыладаў, кабіны), як кароткае і ёмістае – “уключы *падсвет* авіягарызонта”.

Подстилающая поверхность – **падсцілачная паверхня**. Тэрмін прысутнічае ў слоўніку [14] у значэнні *подстилочная поверхность*, там жа даецца адпаведнік непасрэдна *подстилающей поверхности – падсцілаючая паверхня,* а таксама ў [18]. На ўласную думку другое трактаванне тэрміна з’яўляецца ненатуральным для беларускага словаўтварэння і да таго ж залішнім у тэхнічнай тэрміналогіі.

Позывной – **пазыўны**. Тэрмін узяты з расійскай мовы. А які тэрмін магла б нарадзіць наша мова пры самастойным развіцці? Напрыклад, у [5] падаецца *крыптонім*. А калі пачнем уласнай логікай карыстацца, то ў лінгвістыцы знойдзем тэрмін – *клічны* (рас. звательный) ці *клічнік* (рас. восклицательный знак). Пры пурыстычных тэндэнцыях усё магчыма!

Поисково-спасательное обеспечение – **пошукава-выратавальнае забеспячэнне**. Інтэрнэт: “Беларускія дэсантнікі

паспяхова завяршылі ўдзел у гуманітарнай *пошукава-выратавальнай* аперацыі на Паўночным полюсе”. (Гл. Спасение і спасание). У [5]: *спасательный круг – выратавальнае кола*.

Покрышка, шина – **апона** (з камерай), **покрыўка**. У [5]: шина (I) (для колеса) апона, шына. У ПТС [16]: пакрышка. У БРС Байкова-Некрашэвіча [8] – покрыўка.

Полет у земли – палёт **ля** зямлі. Тут смела можна спасылацца на ўнармаваныя правілы мовы. А наштурхнуў выдзеліць у асобны артыкул прыклад з сеціва –“традыцыйна на хуткасцях палётаў самалётаў *у* самай зямлі прынята лічыць…”. У [5] сустракаем: *низколетящий – нізкапалётны, малавышынны*.

Полетный лист – **палётны ліст**. Ва ўкраінскім варыянце таксама *польотний ліст*. І згодна з афіцыйнай версіяй у значэнні дакумент даецца *ліст*. А вось слоўнік Судніка лічыць інакш і падае *палётны аркуш.* Прасочваецца жаданне зменшыць колькасць *лістоў* у беларускай мове і ўсё, што звязана з паперамі, папяровымі дакументамі, назваць аркушамі. А для *лістоў* пакінуць значэнне кавалкаў жалеза, адпаведных часцей дрэў ды агародніны. Але як быць з лістом-пісьмом? У старабеларускай мове “ліст” шырока ўжываўся для абазначэння любога пісьмовага дакумента – упісны ліст, атвароны ліст, дарожны ліст, дароўны ліст і г.д. (падрабязней у кнізе Яна Станкевіча “Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія”) – што паказвае цалкам натуральную прыроду ўжывання гэтага тэрміну. Тым больш, гаворка ідзе не столькі пра “лист бумаги”, як пра дакумент, які можа быць і на некалькіх аркушах. Таму ня будзем уключаць рэжым гіперкарэкцыі, які ў выніку прывядзе толькі да аднаго – збяднення мовы. І хоць цяжка запамінаць прапанаваныя ўстойлівыя акадэмічныя фразеалагізмы з чаргаваннем *лістоў* ды *аркушаў*, але гэтае “гняздо” з’яўляецца добра прапрацаваным і паслядоўным у тэрміналогіі.

Положение (переключателя, стрелки, аэродин. поверхности) і состояние приборов, ЛА – **становішча** і **стан.** Не да канца “распрацаваныя” менавіта ў спецыяльным значэнні тэрміны. З тлумачальнага слоўніка мовы даведваемся, што *стан* часцей азначае абстрактныя *состояния* і *положения*, паказваючы

ступень якасці, уласцівую прадмету – добры (кепскі, аварыйны) стан. *Становішча* часцей тлумачыць месца знаходжання (у прасторы), што цалкам адпавядае фізічнаму *положению* стрелок і інш., а таксама *состоянию* (у часе) прыладаў, ЛА.

Положительный (вугал атакі і іншыя фізічныя велічыні) – Згодна з тлумачальным слоўнікам беларускай мовы для фізічных паняццяў ужываем **дадатны**.

Полоса (взлетно-посадочная) – **паласа (узлётна-пасадачная)**. Цікава, што ва ўкраінскай мове *паласа* – гэта *смуга* (злітно-посадкова смуга, смуга фронту). У нашай мове *смуга*, гэта "дымка". Атрымліваецца, што нам *паласа*, то ўкраінцу *смуга*! У англійскай мове так: УПП → бягучы шлях – runway! А рабочая УПП → паласа ў выкарыстанні – runway-in-use! Неадназначнасць ужывання ў нашай мове ўзнікае са складнікам пасадачная (Гл. Посадка). З радыёабмену: "*полосу (воздушную трассу і г.д.) освободил – паласу (паветраную трасу і г.д.) вызваліў*".

Полость (подкоса) і полые (оси стоек шасси) – поласць (**паражніна)** (падкосу) і **парожнія** (восі ног (стоек) шасі). Пераасэнсоўваючы тэрмін, за прыклад возьмем медычны тэрмін *брюшная полость*. У варыянце слоўніка [11] – *паражніна чэраўная*, у варыянце [4] – *брушная поласць*. РБС Байкова-Некрашэвіча падае *полость – паражнІна, дУціна; полый – парожні; дуты, дудчасты*. Як кажуць, нічога асабістага, толькі факты. З прыгожай прымаўкі – "пераліваць з пустога ў парожняе" – даведваемся, што *пусты* і *парожні*, гэта сінонімы, што і адлюстравана ў слоўніку Крапівы. Таму рана адракацца ад такога практычнага слова, як *парожні* і *паражніна*, якія маюць вельмі шырокі распаўсюд у нашай мове датычна *полостей* – бочкі, жбаны, парожнія вежы, парожнія вёдры і г.д. . А калі не ведалі дакладна, што там у куце ляжыць, але *пустое*, *парожняе*, то й казалі так – *паражніна* ляжыць.

Помеха – 1. препятствие (на земле, в воздухе) – **перашкода**. 2. помеха (агульнае паняцце ў радыёэлектроннай барацьбе) **– перашкода,** у т.л. радиолокационная помеха – **зманка**, шумовая помеха – **шум** 3.

полет на постановку помех (зманак і шумоў) – **палёт на стварэнне перашкод(аў).** Прыклад з друку – “дадзены комплекс дасць магчымасць ажыццяўляць *пастаноўку* перашкод радыёлакацыйным станцыям”. Акадэмічныя слоўнікі прапануюць толькі адзін варыянт *перашкода*. Але нават у вузкай авіяцыйнай прафесійнай лексіцы сутыкаюцца дзве розныя семантыкі, абазначаных адным словам *перашкода. Препятствие* (наземное или в воздухе) – *перашкода, помеха* (радиолокационная, в радиоприеме) – *перашкода.* Слоўнік Судніка [5] прапануе *замінкі* ад слова *замінаць*. А вось англійскія варыянты *помех* – interference, hindrance, barrier, crimp, disadvantage, disturber, noise. Такім чынам, пазбавіўшыся неабходнасці жорсткай прывязкі да “мовы-пасярэдніцы”, можам канстатаваць шмаварыянтнасць абазначэння ў нашай мове розных перашкод. Таму можна пакінуць агульны тэрмін *перашкоду*, адначасова падзяліўшы яе на дзве групы – радыёлакацыйныя і радыё- (гукавыя) *перашкоды*. Перадаючы сутнасць з’явы, атрымаецца, што радыёлакацыйныя *перашкоды* – **зманкі (**ад *вводить в заблуждение* – *уводзіць у зман, зманваць***)**, а радыё- (гукавыя) *перашкоды* – **шумы**. У залежнасці ад кантэксту, мы можам сказаць, што: помеховый сигнал (радиолокационный, радио) – *перашкодны* (*зманкавы, шумавы (шум)) сігнал*. П/устойчивость – *перашкодаўстойлівасць (зманкаўстойлівасць, шумаўстойлівасць), п/защищенный – перашкодаабаронены* і г.д. *Перашкодаўстойлівасць* і *перашкодаабароненнасць* зафіксаваныя ў [4] 1996 г.

Понести потери – **атрымаць страты**. У друку сустракаецца калькаваная форма – *панесці страты*, якая ў дзеепрыметнікавай форме прымае вычварны выгляд – *не панесячы страт.* Жартам дадамо – навошта кудысьці *несці потери*, калі іх можна *атрымаць* на месцы. А па-беларуску можна *атрымаць* не толькі зарплату на адну лату, але і фізічна, то бок *страціць* беззаганы выгляд твару – “Авіяцыя, *атрымаўшы* страты, была перакінута на аператыўныя аэрадромы ў глыб Беларусі.”.

Поперечное V (крыла) – **папярочнае V**. Гэты аэрадынамічны тэрмін быў ужыты мэтанакіравана ўжо ў 1932 г. у [25], што яшчэ раз пацвярджае здольнасць нашай мовы развівацца і выкрывае навязаны комплекс немагчымасці абслугоўвання беларускай мовай навукі і тэхнікі!

Поперечное, продольное, путевое управление (мал. 19) – **папярочнае, падоўжнае, напрамкавае** кіраванне. Група ўстойлівых тэрмінаў, часта ўжываных у авіяцыйнай тэрміналогіі і кадыфікаваных у нашай мове, акрамя "непутевого" *путевого управления*, разгледжанага ў артыкуле "Путь і путевой".




**мал. 19**

Попутный (курс, ветер), спутный след – **спадарожны (курс, вецер)** (штурманская падрыхтоўка)**, дагонны курс** (навядзенне, тэорыя баявой эфектыўнасці), **спадарожны след** (струмень)**.** У [5]: *спутный ветер – спадарожны в.*. У ПТС [16] – *спадарожны струмень*. У тлумачальным слоўніку маецца трэцяе значэнне *спадарожнага*: [3. Які існуе поруч, разам з чым-н., спадарожнічае чаму-н. асноўнаму]. Гэта цалкам адпавядае авіяцыйнаму тэрміну *спутный след – спадарожны след*. Даведачна, "сям'я" англійскіх адпаведнікаў: задні (спінавы) вецер – back wind, ніжні вецер – down wind, хваставы вецер – tail wind.

Поражение – 1. **ушчэнт** (цэлі), **ушчэнціць, ушчэнтавы** (прыметнік) 2. (разгром (войск)) **параза.** Ва ўкраінскай мове пайшлі простым шляхам – шляхам калькавання. І атрымалася, што *поражение* – гэта ўражанне. "Я поражен вами» – «я ураджаний вами». Нягледзячы на безліч адпаведнікаў для *поражения* і *пораженный*, у беларускім варыянце нават да "уражанага" не дайшлі. Атрымалася так, што *поражение – паражэнне*, *пападанне, траплянне*, а *пораженный – паражоны, пераможаны, разбіты (разбитый)*. І гэта прасочваецца ад "Практычнага беларускага вайсковага слоўніка" 1927 г., слоўніка Крапівы і да "словаря для военных" 1996 г. Не гледзячы на тое, што ў згаданых слоўніках спецыяльны тэрмін *поражение (целей)* мае даволі вялікае гняздо вытворных ад *паражэння*, лічу, што гэта паверхневы (калькаваны) падыход. Што мы і назіраем у сеціве – "выканала баявыя пускі ў зімовых умовах, і *паразіла* ўсе прызначаныя мэты", "сістэмы агнявога *паражэння*", "*паражальныя* элемэнты нават малой зэнітнай ракеты пакідаюць характэрныя адтуліны", "загад на *паражэньне*", "ручная проціпяхотная абарончая граната прызначана для *паразы* жывой сілы ў абарончым бою". Як бачым, тут яшчэ адно слова з'явілася – параза. Можна пайсці па шляху ўкраінскаму і вярнуць *уражанню* яго мілітарысцкае значэнне. Іншы варыянт – узяць трапны выраз з жывой гутаркі, які потым згубіць эмацыйны змест і набудзе прафесійнае гучанне. Усе слоўнікі падаюць *ушчэнт* у значэнні разбіць штосьці *вдребезги,* што блізка фізічнай з'яве *поражения цели (нанесения установленного ущерба) – ушчэнту цэлі.* То бок мы надалі слову *ўшчэнт* значэнне назоўніка, пашырылі яго значэнне (не абавязкова разбіваць дазвання, а з нейкай ступеню ўшчэнту): "Цель поражена со степенью поражения…" – "цэль *ушчэнчана (ушчэнт)* са ступенню *ушчэнту…*", "*Поражающие* свойства боеприпасов» – «уласцівасці боепрыпасаў да *ўшчэнту*". "*Поражающие* свойства» – «уласцівасці *ўшчэнту* (ці ўшчэнтавыя якасці)»", "поражающее воздействие на противника» – «уздеянне *ўшчэнту* на праціўніка". А слову *параза* (маецца, напрыклад, у РБС Байкова-Некрашэвіча),

пакінем яго традыцыйнае значэнне *разгрому*: “прызнаць сваю паразу – дарагога каштуе”, “на выбарах у Гішпаніі кіруючая партыя пацярпела *паразу*”, “сутыкненне арміі прывядзе да ваеннай *паразы*”.

Посадка – **пасадка**. У расійскай мове абсалютнымі сінонімамі з’яўляюцца *посадка* і *приземление*. Варта дадаць, што *приземление* больш пашырана ў аэрадынаміцы, а *посадка* – у лётнай практыцы. Для беларускай больш натуральным з’яўляецца *прызямленне*. Англійская мова ўвогуле абыходзіцца адным landing, што літаральна азначае *прызямленне* і паходзіць ад to land – “зямліцца”, прызямліцца. Дадаткова трэба помніць, што астатнія тэрміны ў расійскай мове ўтвораны таксама ад *посадка*, што аўтаматычна накладваецца на беларускія эквіваленты. А магло бы быць так: узлётна-*прызямляльная* паласа, *прызямляльныя* агні, заход для *прызямлення*, *прызямляльныя* фары і г.д. Варта дадаць, што існуе тэрмін, які азначае этап пасадкі – *приземление* – крананне зямлі, момант кантакту з зямлёй. Таму ёсць патрэба ў двух тэрмінах. Выраз радыёабмену: “*Луна, 101-ы, блізкі, 100, пасадку*”.

Потеря высоты (скорости, управления, ориентировки і г.д.) – **страта вышыні (хуткасці, кіравання, арыентавання** і г.д.) (Гл. Терять).

Потоки воздуха і масла в системе, течение (движение) потока – **патокі паветра** ў рухавіку (атмасферы) (выключэнне – *струйная плынь*), **плыні алівы (**ці другой вадкасці**)** у сістэме, **цячэнне (бег)** патоку, плыні. Розніца паміж *патокам, цячэннем* і *плынню* такая неадчувальная, што адразу і не адкажаш, у чым яна ёсць. Афіцыйны варыянт традыцыйна і кансерватыўна на *поток* адказвае *патокам*. Метэаслоўнік Каўрыгі [18] паслядоўна называе *потоки (воздушные) плынямі – атмасферная плынь*, *струменная плынь*, марскія ж – *цячэннямі: ветравое цячэнне* (утвараемае пад уплывам ветру). У [5]: *течение – плынь, хада*. Калі глянуць у слоўнікі БНТ, то яшчэ дадасцца *бег*. Развяжам гэты “гордзіевы вузел” суб’ектыўным уяўленнем, што *паток* – гэта тое, што мы не бачым і больш адпавядае паветру, а *плынь* – такі паток, што можна пабачыць, як ён рухаецца адносна

падобнай субстанцыі і які больш адпавядае вадкасцям. А вось *цячэнне* (*бег*) успрымаецца не як фізічны аб’ект, а як яго характарыстыка – рух патоку, плыні. Адзінае выключэнне ў такой сістэме, гэта – струйная плынь. Бо хоць паток паветраны, але хуткасць (цячэнне, бег) там настолькі вялікая, што ён сапраўды ўтварае вельмі адрозную ад астатняга паветра магутную субстанцыю ў трапапаўзе.

Потолок і полет **на** потолке – **столь** (ж.р.) і **палёт па столі**. Тэрмін адзначаны ў [4]. С. Суднік у сваім слоўніку [5] развіў гняздо вытворных ад тэрміна: *предельный п. – межавая столь, найвышэйшая столь* (згодна з артыкулам Предельно- → *предельный потолок – гранічная столь*). Ужо ў кнізе [23] 1931 г сустракаем: «столь», «…мае спецыяльную заслону ў выглядзе асобнага патруля, так званая “абаронная столь”». А вось недарэчны прыклад ужывання тэрміна ў сеціве – “*Столя* вышыні — 10 км”. У спалучэнні з вышынёй слова *столь* спецыялісты не ўжываюць, бо й так зразумела, што *столь* – гэта максімальная вышыня. Гэта як сказаць – шкляное шкло! Фразеалагізм жа не замацаваны ў слоўніках, таму “не стоит прогибаться под изменчивый мир» і скажам *палёт **па** столі – полет по потолку*.

Потребная подъемная сила – **патрэбная пад’ёмная сіла**. Адзін з нешматлікіх прыкладаў, дзе, як на паверхні, бачна, што слова гэтае – агульнае для моў трох усходнеславянскіх народаў, але больш “сваё” яно менавіта ў беларускай і ўкраінскай мовах, бо ў расійскай успрымаецца як састарэлае і кніжнае слова.

Превышение і принижение – **завышэнне** (**перавышэнне**, калі гаворка пра рэльеф) і **заніжэнне**. Група тэрмінаў часта сустракаецца ў тактыцы авіяцыі і лётнай падрыхтоўцы. Праблема – у адсутнасці гэтых тэрмінаў у прафесійнай беларускамоўнай лексіцы. І калі да слова *превышение* можна было б прымяніць універсальнае *перавышэнне*, то як быць з “парным”, але з адмоўным знакам *принижением*. У слоўніках маецца толькі адпаведнік *прыніжэнне, уніжэнне* ў значэнні *унижение*. Але “Униженные и оскорбленные” – гэта з другой рэальнасці. Зразумела, якой недарэчнай будзе такая група

тэрмінаў (да якой, дарэчы, адносіцца і *глыбіня баявога шыху)*, калі мы зоймемся прымітыўным калькаваннем. Думаецца, што варыянт пары *завышэнне-заніжэнне* з аднолькавымі прэфіксамі *за-* і правільнымі каранёвымі асновамі напоўніцу перадае сэнс сутнасці з'явы па-беларуску. Трэба памятаць, што пара тэрмінаў *завышэнне-заніжэнне* можа азначаць і іншы сэнс (завышэнне ацэнкі ці заніжэнне стратаў), то бок утвараюць аманімію, але пры гэтым зусім малая верагоднасць таго, што яны сустрэнуцца ў адным кантэксце ў прафесійнай гутарцы.

Предельно- – **гранічна**-. З'яўляецца вытворным для шмат якіх авіяцыйных тэрмінаў, такіх як *предельно м<u>а</u>лая высота – гранічна мал<u>а</u>я вышыня*, *предельно задняя центровка – гранічна задняя цэнтроўка* (*цэнтраванне*) і г.д. Тут няма разыходжанняў у прымяненні гэтага прыметніка, які абазначае асноўную ўласцівасць, характэрную для расійскамоўных тэрмінаў. У [25] 1932г. знаходзім і такое – «*прадзельная* нагрузка». А ў слоўніку Судніка [5] 1997 г. маецца тэрмін: *палёт на <u>крайне</u> малых вышынях*. Гэты ж слоўнік ў наступным сваім артыкуле падае предельно- – гранічна-, а тэрміны *предельная высота (нагрузка) – межавая (лімітавая) в. (н.)*.

Приборный и прибор (аналагічна) – **прыладны** і **прылада**. Тут праблема ў тым, што слоўнік Інстытута мовы, вельмі аўтарытэтнага і паважанага, дапускае два варыянты. Калі запытаемся пра *устройство*, то адказ – *прылада*, калі *прибор* – то *прыбор*. У ПТС [16] 1997 г. сустракаем – *палёт па прыборах*. Узнікае пытанне, а ці не з'яўляецца залішнім такое дзяленне. Прааналізаваўшы ўжыванне *прыладаў* і *прыбораў* у слоўніках, даходзім да высновы, што ката ў мяшку так і не знайшлі. Даводзіцца канстатаваць – чарговы раз спрацаваў фактар, што прылада недзе засталася там, у мінулым стагоддзі – *прылада працы, рыбалоўная прылада*. А ўжо калі ў самалёце, то як там вы кажаце? – "Прыбор"?! Ну то й мы будзем так называць. Але ж мы ўжо даўно "граматныя" і ведаем, што *прыбор у самалёце* ці любым другім летаку – такая ж *прылада*, якая паказвае курс, хуткасць, тэмпературу, а не ловіць рыбу ды

косіць. Ды й увогуле, у расійскай мове *прыбор* стаў хутчэй за ўсё вымушаным крокам толькі таму, што яно апынулася больш здатным да словаўтварэння, чым традыцыйнае *устройство*. Напрыклад, як сказаць *приборный отсек* ці *приборостроение* са словам *устройство*? Для нас жа паказальным з’яўляецца ўкраінскі варыянт – *приладна швідкість*, *політ по приладах (за приладами*), што сведчыць пра правільнасць высноў. Тым больш, гэтае слова з увогуле ўніверсальным нашым *ладам прыстасоўваецца* да ўсіх *прыладаў* (такая нязграбная выйшла хуткамоўка!) – *прыладны палёт*, *правілы палётаў па прыладах* (ППП), *прыладнае абсталяванне*, *пілатажна-навігацыйная прылада*, *прыладабудаванне, прыладная хуткасць, прыладная дошка* (дарэчы, па-англійску проста панэль – panel) і г.д. І апошні аргумент – у пачатку натуральнага развіцця сучаснай вайсковай тэрміналогіі тое, што зараз даводзіцца даказваць з гарачым імпэтам, ужо пачало ўваходзіць у словазварот. Для чаго разгорнем слоўнік [1] 1927 г. і знойдзем, што *огневые приборы – гэта агнявыя прылады, прибор для стрельбы дробинками – прылада для стральбы шрацінкамі*, *прибор для снаряжения патронных лент – прылада для набіваньня патронных тасям*. Такі падыход адлюстраваны і ў пурыстычным слоўніку [5]: *прибор – прылада, апарат*; *прылада начнога бачання*, *кіслародная (пілатажна-навігацыйная, пілатажная) прылада*, *палёт паводле прыладаў*, *пасадка па прыладах; устройство – прыстасаванне*. І калі хтосьці, скажа, што гэта простыя у тэхнічным плане механізмы, а далей, з развіццём электронікі, пайшлі больш складаныя, якія неяк інакш трэба было назваць, то дзе тая мяжа паміж прастатой і складанасцю? Напрыклад, тэлефон – гэта прыбор ці прылада? Узус паказвае, што прылада! А вось механічныя груватскія механізмы маюць іншы беларускі эквівалент – прыстасаванне: *парашутна-тармазное прыстасаванне*. У [23] 1931 г.: «оптычныя прылады». Даведачна, у “Русско-украинском словаре авиационных терминов» 2004 г.: *прибор*: 1. (аппарат) *прилад* 2. (набор) *набір*, (комплект принадлежностей) *приладдя* 3. (устройство) *пристрий*.

Приводная радиостанция, «привод» – **прыводная радыёстанцыя, “прывод”**. Тэрмін прыведзены, як яшчэ адзін прыклад, што лётнікі – рамантыкі і вечныя вандроўнікі. Што яскрава паказвае англійскі адпаведнік нашаму “прыводу” – homer, якое перакладаецца як паштовы голуб – “хатнік”, які вядзе і абавязкова прывядзе цябе дахаты! Але рэч не толькі ў рамантыцы, але і ў набіўшай аскому праблеме штучнага набліжэння пасля моўных рэформ беларускага правапісу і вымаўлення да расійскага. Бо ў слоўніку Крапівы бачым сінонім *прывадны,* хаця яшчэ слоўнік 1927 г. дае цэлы вайсковы тэрмін – *прыводны валік* – *приводной валик*! Валюнтарызм адступае, і ўжо ў нарматыўным “Слоўніку беларускай мовы” 2012 г. слова “прыводны” прысутнічае.

Прием – 1. **прыём** (*фраза запыту пры радыёабмене*) 2. п. управления – **прыманне** (забіранне) **кіравання**. 3. прием воздушных судов – **прыманне летакоў** 4. (тактический) **прыём.** [5] падае: *прием* – *прыём, хват, приёмник* – *прыёмнік (токапрыёмнік, токапрымальнік*). У ПТС [16] – *прыём*. У “Русско-украинском словаре авиационных терминов” 2004 г. *прием* – 1. (действие) *прийняття*; *прыймання*; 2 (р/волн) *прыймання, прийом*. Існуюць яшчэ варыянты – забіранне, забор (взятие), прыймо. Насамрэч, тэрмін цяжкі і патрабуе дадатковага даследвання навукоўцамі-філолагамі.

Приемистость (двигателя, системы) – **рэзкасць**. Пайсці шляхам калькавання адразу азначае, што з’ява – невывучаная і непрааналізаваная. Але ж, акрамя сахі і касы, мы, беларусы, сталі адукаваным народам Еўропы і гэтым павінны скарыстацца. Асноўная ўласцівасць *приемистости* – гэта тэмп узрастання абаротаў (ціску) за адзінку часу. Такі тэмп, кіруючыся правілам мілагучнасці і лагічнасці словаўтварэння, мы можам назваць *рэзкасцю*.

Признак цели, признак (в особом случае полета), демаскирующий признак – **адзнака цэлі, прыкмета, дэмаскавальная прыкмета**. Механічны пераклад дае аж тры адпаведнікі гэтаму слову – *адзнака, прымета, прыкмета*. *Прымета* адпадае адразу, таму што ў асноўным азначае

абстрактныя ўяўленні (як і ў расійскай мове – примета). Напрыклад – “зачарнелі дарогі — добрая *прымета* на ўраджай”. *Скрыган.* Хаця ў “словаре для военных” 1996 г. пададзена *демаскирующий п. – дэмаскіруючая прымета*. Магчыма, гэта ўзнікла з-за недастатковага аналізу сінонімаў. А вось з двума другімі словамі цяжэй, бо нават у некаторых сказах сустракаюцца парамі – “па слядах, па безлічы толькі яму вядомых *адзнак* і *прыкмет* ён мог беспамылкова вызначыць …” *В. Вольскі.* У двух выпадках тое і другое словы азначаюць адрозненне згаданага аб’екта ад іншых. У большасці выпадкаў, калі суб’ект надае такое адрозненне, то ён робіць гэта з дапамогай *адзнакі*. А калі аб’ект ужо “прыйшоў” з такім адрозненнем, ён мае *прыкмету*. Зараз звернемся да тэрміна *признак цели*. Складанасць у тым, што, напрыклад, паняцце “свой – чужы” ў цэлі маецца адразу, то бок цэль ці чужая, ці свая з самага пачатку яе выяўлення. Але ці чужая, ці свая яна, мы даведваемся пасля адпраўлення запыту з “зямлі” ці з самалётнага рэспондэра (запытальніка) да цэлі. І калі не атрымліваем адказу, то запытальнік аўтаматычна прысвойвае *признак* «чужой» ці, калі ёсць адказ, адбываецца адваротны працэс. Такім чынам, мы самі надаём адрозніванне цэлі, адзначаем яе. І хоць у цэлі адразу ёсць *прыкмета*, але праз тое, калі мы аб гэтым даведваемся (пасля ўласных намаганняў), аддаем перавагу слову *адзнака*. Для значэння ж *признак в особом случае* беларускі адпаведнік знаходзіцца значна прасцей з дапамогай вышэй пабудаванай логікі. Падзенне абаротаў (кругоў) турбакампрэсара і тэмпературы аднаго рухавіка, разбалансаванне верталёта, павялічэнне абаротаў другога рухавіка, змяншэнне абаротаў пад’ёмнага вінта – гэта ўсё *прыкметы* адмовы аднаго з рухавікоў Мі-8.

Прикрытие (авиационное) і завеса (дымовая) – **прыкрыццё** і **заслона**. Тут трэба канстатаваць, што тэрмін *заслона* ўжо паспеў развіцца ў больш абстрагаваны, тактычны тэрмін у значэнні “ахова каго-небудзь” у працэсе ўтварэння ўласнай вайсковай тэрміналогіі. Гэтае сцвярджэнне грунтуецца на ўжыванні яго менавіта ў такім значэнні ў старабеларускім

лексіконе і ў літаратуры 30-х гг.: у слоўніку [1] 1927 г. (Гл. раздзел III) і ў [23] 1931 г. – «Пры масавым дзеянні зьнішчальнай авіяцыі баявая работа яе мае спецыяльную *заслону* ў выглядзе асобнага патруля…». Але тэндэнцыя была перарваная і, напрыклад, у [26] чытаем – «…цяжкая авіяцыя пад прыкрыццём зьнішчальнікаў…», «дымавая заслона». Новае слова падхапілі і вайсковыя слоўнікі 90-х гг.: гняздо вытворных ад слова *прыкрыццё* маецца як у [4] 1996 г., так і ў [5] 1997 г. Таму пакінем за заслонай фізічнае значэнне, а за прыкрыццём – абстрактнае (тактычнае).

Принуждение к посадке и принудить к посадке – **прымушэнне да пасадкі, прымусова пасадзіць** (але – сядае, сеў. (Гл. Садиться)). Рэдкі выпадак, калі беларускі фразеалагізм нараджаецца без пасярэдніцтва расійскага. А ўсё таму, што аўтар, знаёмы з авіяцыйнай тэрміналогіяй, абавязкова скалькаваў бы расійскую форму *принудить к посадке* ў беларускі варыянт *прымусіць да пасадкі*. Але, дзякуй Богу, аўтар фразеалагізма *прымусова пасадзіць* не знаёмы з такімі штампамі, дзякуючы чаму такі варыянт атрымаўся больш слушным і арганічным нашай мове. Гаворка ідзе пра наступны прыклад з сеціва – “Яны прызнаваліся, што баяцца, бо самалёт могуць збіць або *прымусова пасадзіць*”, які чамусьці не мае аўтара, але мае адрас http://nn.by/?c=ar&i=76322

Пробка магнитная – **корак магнітны**. У БНТ [9] 1932 г.: пробка – корак, затычка.

Производство полетов, произвести сброс (пуск, отцепку) – **выкананне (правядзенне, чыненне) палётаў, выканаць (учыніць) скід (пуск, адчэпку)**. Чыненне (учыніць) выступаюць як рэзервовыя канцылярызмы (на той-жа падставе, як і ў расіскай мове).

Против**-** – **супраць-**. Праблема ў канкурэнцыі двух раўнапраўных прэфіксаў супраць-/проці-, якія першачаткова мелі крыху розныя сэнсы, але з цягам часу пад уплывам гіперкарэкцыі гэтыя прэфіксы набылі аднолькавы сэнс. Прыклад з інтэрнэту – “гэта тычыцца і зброі проціпаветранай абароны”. На гэтую тэму “барацьбы” ёсць нашмат цікавейшы за ўласныя

разважанні цэлы электронны рэсурс http://www.bsu.by/Cache/pdf/182273.pdf. А мы выбярэм літаратурны варыянт. Ёсць цікавае слова – *супарат*, якое, напрыклад, сустракаецца, у “Дрыгве” Я.Коласа – “сэрца забіла трывогу. Васіль — *супарат* небяспечны. Мартын — бабыль”. Азначае свавольнага, упартага чалавека, супастата. Але ў апошні час гэтае слова набывае з друку сэнс *праціўнік*.

Противоборствующий – **супраціўны.** У сучаснай моўнай практыцы (з сеціва) слову супраціўны быў нададзены дадатковы сэнс у адмысловым вайсковым значэнні: противоборствующие стороны – супраціўныя бакі. Чым і скарыстаемся.

Профиль (крыла) – **профіль**. Тэрмін цікавы фактам ужывання разам з профілем яшчэ аднаго слова – абрыс, што не супярэчыць фізічнаму ўяўленню паняцця (контур, абвод). Вось фраза з [17] – «Для паляпшэння якасці крыла яму надаюць лепшую форму *абрысу* ў пляне».

Прочность – 1 прочность конструкции – (крепость) **трываласць** канструкцыі. Украінскі варыянт – *міцність конструкції*. У інтэрнэце сустракаецца трываласць – “Дадзеная канструкцыя дазваляе атрымаць ... , што вельмі істотна пры недахопе *трываласці*”. 2. прочность обшивки – **трываласць** (устойчивость к повреждениям) **абшыўкі** (Гл. Живучесть авиации). Сама абшыўка можа быць і мяккай (не моцнай), але трывалай. *Прочностные характеристики – трываласныя характарыстыкі*. Маецца ў тэхнічным слоўніку [14]. ПТС [16] падае толькі адзін варыянт – трываласць, з вялікім гняздом вытворных тэрмінаў.

Прыжки і прыжок (с парашютом) – **скачкі** і **скок**. У медыях часта непаслядоўна ўжываюцца гэтыя два словы-сінонімы, што і прымусіла больш грунтоўна падысці да пытання. Вывучаючы семантыку слоў, можна прыйсці да высновы, што фізічна чалавек з парашутам робіць *скок* у паветра, а само мерапрыемства, якое ўключае акрамя *скокаў* і іншыя дзеянні, назавём *скачкамі* – парашутнымі скачкамі. Тады – «Парашутыст у час *скачкоў* за дзень можа выканаць да дзесяці *скокаў*». А вось лексема з [22] 1931 г. – «Каб давесці практычна свае меркаванні,

Ліліенталь упершыню пачаў будаваць плянэр і ў 1889 г. пачаў рабіць на ім *скачкі* і *слізгаючыя* палёты». У слоўніку [4] знаходзім: *прыгать с парашютом – скакаць з парашутам*. У [5]: *скачок з парашутам*.

Путь і путевой (мал. 19) – 1. **напрамак** (гаворка пра вектар) – у складаных тэрмінах кшталту *лінія загаданага напрамку* і **напрамкавы** (але: **шляхавая хуткасць)** 2. **шлях** – калі гаворка ідзе пра *авиационный маршрут-путь,* складаемы з некалькі курсаў-вектараў-напрамкаў, а таксама *боевой путь* (тактычны тэрмін) – **баявы шлях,** прокладка пути – **праклад шляху**. Адзін з самых цяжкіх тэрмінаў з-за сваёй шматвектарнасці і разгалінаванасці ў сэнсавых адценнях. Ва ўкраінскім варыянце гучыць *шлях, шляховий*. Дарэчы, маецца факт ужывання тэрміну ў адмысловым значэнні ўжо ў 30-х гг. У [24] – «Лётнік-назіральнік паведамляе *шляхавы курс* лётніку». *Пуць* у беларускім варыянце далей *чыгуначнага пуці* не распаўсюдзіўся. Шырока распаўсюджаны ў беларускай мове адпаведнік расійскаму *пути дарога* (як прыклад – *зимний путь – зімняя дарога*, *путь следования – дарога, шлях, маршрут)*. У суме гэта не дапамагае, а, наадварот, блытае. “Русско-белорусский словарь для военных” [4] падае: путевая скорость самолёта (ав.) – дарожная скорасць (хуткасць) самалёта; боевой п. – баявы шлях, воздушный п. – паветраны шлях. Пайсці па шляху драбнення тэрмінаў з рознымі “путями” – ускладніць і да таго складаную задачу надання ўніверсальнасці, адназначнасці вельмі вялікага гнязда вытворных з гэтым словам. Такім чынам, неабходна новае слова. “Паскрэбшы” ў нашых “засеках”, мы знаходзім слова *напрамак*, які і ў штурманскім, і ў аэрадынамічным сэнсе будзе адпавядаць расійскаму авіяцыйнаму *пути* і *путевому*. Бо авіяцыйны *путь* (у сэнсе вектар) – гэта *напрамак, кірунак* – як і ў англамоўным варыянце, дзе – *линия заданного пути* – курсавая лінія – course line. *Кірунак* не выбярэм з прычыны “збегу” ў выразе *путевое управление – кірункавае кіраванне*. Застаецца *напрамак*, калі да аэрадынамікі, то ў значэнні вектара ў гарызантальнай плоскасці і, калі да штурманскай падрыхтоўкі, у значэнні лініі на зямной

паверхні. Атрымаем наступнае – *напрамкавае кіраванне, лінія загаданага (фактычнага) напрамку, загаданы (фактычны) напрамкавы вугал*. *Шляхавая (зямная) хуткасць* – вытворная ад лініі-напрамку на зямной паверхні (праекцыі траекторыі палёту), а не ад вектару-напрамку ў гарызантальнай плоскасці самалёта. Для параўнання з англійскай: путевое управление – напрамкавае кіраванне – directional control (напрамкавае!), путевая скорость – шляхавая (зямная) хуткасць – ground speed (зямная). Трэба помніць, што ёсць яшчэ *рулі вышыні і напрамку*, што ў нашым разе ўтварае больш лагічную сістэму ў беларускай мове ў параўнанні з расійскай у парах тэрмінаў *руль направления* – *путевое управление* і *руль напрамку (*дарэчы, па беларускай традыцыі ў сеціве сустракаюцца і *напрамку,* і *кірунку)* – *напрамкавае кіраванне*. У слоўніку [4] сустракаем *руль направления* – *руль напрамку*. Артадромія і лаксадромія тэж ёсць лініямі шляху (на паверхні геоіда). Тэрмін *контроль пути по направлению* будзе *кантроль шляху па кірунку*.

Пушка (авиационная) (мал. 20) і пушечный – **пушка** 1. орудие, неавтоматическая пушка – **гармата** 2. автоматическая пушка – **пушка** 3. *толькі* **гарматны**. З-за вялікай разнастайнасці відаў артылерыі неспецыялісту разабрацца вельмі цяжка. Навуковы аспект праблемы дае наступнае: словы *гармата* і *пушка* сустракаюцца ва ўсіх вайсковых слоўніках, а ў БелЭн можна знайсці вельмі вялікія і змястоўныя артыкулы пра гармату, пушку і кулямёт. Коратка – пушкі ўваходзяць у клас гармат (з артыкула Гармата), але ў артыкуле *Пушка* пушкамі (акрамя саміх пушак) могуць называцца і марціры, а далей паўтараюцца ўласцівасці, апісаныя і для гарматы. Выснова адсюль адна – гармата, гэта пушка, а пушка, гэта гармата. Па-моему, адказу на пытанне размежавання мы не атрымалі! Ёсць яшчэ культуралагічны аспект семантыкі дадзеных сінонімаў. І нашая задача – сумясціць культаралагічны аспект гэтай з’явы з навуковым аспектам, звязанай з разнастайнасцю артылерыйскіх сродкаў і ўзніклай з гэтым патрэбы ў размежаванні тэрмінаў. Мы – нацыя, якая мае сваю моўную традыцыю і тэхналагічна “дарасла” да ўжывання слова *гармата* яшчэ ў сярэднявеччы.

Пра слаўныя артылерыйскія справы нам нагадваюць як знакамітае “Вялікае мастацтва артылерыі” К. Сіміяновіча, так і сама развітая і разгалінаваная тэрміналогія артылерыйскай справы ў Вялікім Княстве: людвісарня, нясвіжская гармата “Цмок”, “агністыя” ды каменныя ядры, гарматы – шротніцы, наяўнасць размежавання артылерыі па калібру і “вагамеру”, арсеналы і…пушкары! Гэты невялікі пералік адкідвае ўсе сумневы наконт таго, знаёмыя мы ці не з артылерыяй. Часткова задача “разносу” двух паняццяў, *гармата* і *пушка*, вырашана ў акадэмічным слоўніку Крапівы. І калі з першым супастаўленнем *орудие – гармата* можна пагадзіцца, то потым, калі прыводзяцца канкрэтныя прыклады відаў ствольнай і рульнай артылерыі (*зенитная пушка-зенітная пушка*, *противотанковая пушка-проціtанкавая пушка* – са слоўніка Крапівы, *гармата-пушка* – са слоўніка рэпрасаваных Байкова-Некрашэвіча), пачынаецца блытаніна. Што і назіраецца амаль скрозь у сеціве ў залежнасці ад поглядаў і школьнай адукаванасці беларусаў. Прыклады з гарматамі – “…Самалёт здольны несці да 3000 кг баявой нагрузкі (ракетнае і бомбавае ўзбраенне, *гарматы* і г.д.) …”, “…зенітным ракетна – *гарматным* комплексам “Панцыр-С1”...”, “… з авіяцыйных *гармат* па наземных мэтах…”, “… артылерыйскія *гарматы*…”. І дзе тут тая раздзяляльная прыкмета паміж пушкай і гарматай, пададзеная акадэмічнымі слоўнікамі! Можа падзяліць людзей па звыкламу цывілізацыйнаму “разлому” – “тарашкевіч” ты ці “наркамавец”? Але гэта вырашыць толькі частку штучнай праблемы, створанай не намі. Бо “тарашкевіч” адназначна прыме варыянт *гармата*, а вось “наркамавец”, дзед якога перажыў “меліярацыю” і “калектывізацыю”, будзе больш асцярожным, і будзе выбіраць розныя варыянты, бо так слоўнік Крапівы кажа. Такім чынам, мы прыйшлі да таго, што для вырашэння праблемы, нам неабходна набыць адназначную і простую прыкмету, якая дазволіць размежаваць гэтыя віды артылерыі. А потым зразумеем, ці з’яўляецца слова *пушка* залішнім, каб вярнуцца да традыцыйнага *гармата*. Дык вось, адштурхоўваючыся ад гістарычнай моўнай традыцыі, тое , што з’явілася ў

сярэднявеччы пад расійскай назвай “пушка”, называлася нашымі продкамі *гарматай*. То бок класічная палявая ствольная артылерыя – гэта *гарматы*. Асноўнай прыкметай такой артылерыі, да якой адносіліся і пазнейшыя марціры і гаўбіцы, гэта памеры, вялікія памеры. То бок такая зброя ўспрымалася як у вайскоўцаў, так і ў цывільнага “паспалітага люду”, як буйнакалібернае ўзбраенне. Збройвалася (зараджалася) такая *гармата* ўручную цэлым разлікам і страляла на вялікія адлегласці. Але вось, калі з’явіліся масавыя арміі і ўзнікла патрэба “касіць” хвалі жывой сілы, прычым хутка перазбройваючы (Гл. Боевая зарядка), *гармата* для гэтых мэт стала непрыдатнай. Узнік кулямёт – з аўтаматычным перазбройваннем, паменшаным калібрам і далёкасцю, але з нашмат узрослай хуткастрэльнасцю. Далей калібр такой механічнай зброі ўзбуйняўся, што ў нейкі момант стала няёмка называць такія “балванкі” кулямі, а такую зброю – кулямётамі, ды й ужываць такое ўзбраенне сталі не толькі як стралковую пераносную зброю. Гэтую аўтаматычнаю зброю, якую пачалі ўсталёўваць на розныя транспартна-баявыя носьбіты, стала прымяняць не толькі па жывой сіле, але й па браніраваных механічных цэлях. У расійскай вайсковай справе яе сталі называць зноў *пушкой*. Мяжой у расійскай (савецкай) вайсковай справе паміж кулямётам і *пушкой* лічыцца калібр 20 мм. А вось, напрыклад, у нямецкай мове і кулямёт, і *аўтаматычная пушка* працягваюць называць адным "maschingevher" (механічная зброя). То бок, як мы бачым, розныя моўныя традыцыі далі розныя вынікі. Такім чынам, па выніках даследавання гэтай прычынна-выніковай сувязі, мы павінны зноў перайсці да нашай *гарматы*. І слова *пушка*, як можа падацца, стане залішнім. Але гэта не так. Трэба памятаць, што ў раней прыведзенай тэрміналагічнай сістэме артылерыйскай справы людзі, якія абслугоўвалі *гарматы* і ў баі, і ў мірны час, былі пушкарамі. Слова “пушка” маецца і ў польскай мове, а ў нас прысутнічае забыты дзеяслоў “пушчаті”. Калі ж далей сачыць за развіццём артылерыі, то атрымаецца, што немеханічныя гарматы нікуды не зніклі і працягваюць развівацца і ўдасканальвацца паралельна з

аўтаматычнай артылерыяй, бо маюць розныя мэты і прызначаны для розных цэляў. Таму натуральнай прыкметай артылерыі (*орудий-гармат* у агульным і шырокім сэнсе) для спецыялістаў з’яўляецца менавіта яе аўтаматычнасць (аўтаматычнае перазбройванне снарадаў за кошт энэргіі парахавых газаў). Для неспецыялістаў такой прыкметай з’явяцца вонкавыя памеры *гарматы* і яе рулі (дадам, што для вялікай гарматы амаль ва ўсіх выпадках існуе толькі адзін ствол). Прыкладнай мяжой паміж аўтаматычнымі і неаўтаматычнымі *гарматамі* з’яўляецца 50 мм. Але гэта ўмоўная і размытая мяжа, бо сустракаюцца рэдкія прыклады большых за 50-мм аўтаматычных *пушак* ці меншых за 50-мм *гармат*. Такім чынам, наяўнасць двух тэрмінаў у такой складанай артылерыйскай справе не з’яўляецца залішняй, а наадварот надае нашай мове самадастатковасць у вызначэнні аўтаматычнасці *гармат* (*орудий* у агульным сэнсе). Вызначыўшы гэта, вернемся да нашых *авиационных пушек*. Даведваемся, што менавіта ў авіяцыі аўтаматычная артылерыя заняла сваё пануючае становішча дзякуючы сваім адметнасцям – хуткастрэльнасці, малой вазе, параўнальна невялікай далёкасці і больш высокім магчымасцям ушчэнту. Таму любая авіяцыйная артылерыя на самалёце (верталёце) – гэта *авіяцыйная пушка*, бо яна аўтаматычная. А вось клас такога ўзбраення – *гарматны*. То бок *гарматнае ўзбраенне* МіГ-29 – авіяцыйная *пушка* (пушка) ГШ-30-1. Калі мы працягнем разважаць з гумарам пра далейшае развіццё вайсковай тэхнікі, то маем права меркаваць, што калі-небудзь на якім імперскім караблі “Ваяўнічым” пачнуць усталёўваць аГРАМадныя ГАРМаты – з аГРОМністым разбуральным эфектам, статычнасцю прыцэльвання і рэдкімі стрэламі. І будуць яны знішчаць планеты з мірнымі расамі ў чатыры гадзіны ранку па міжгалактычным часе. Лагічна дадаць, што *двухрульная пушка* ў беларускім варыянце можа быць *дубальтовай (дубальтоўкай)*.




**мал. 20**

Работа и рабочий (як прыметнік) – 1. **работа** (авіяцыйныя работы і іншыя працэсы, выконваемыя спецыялістам, групай спецыялістаў) 2. **работа** (рухавіка і іншых механізмаў) і **рабочы**. Беларуская "лінія разлому" праходзіць і па авіяцыйных тэрмінах пары *работа – праца*. Напрыклад, у сеціве сустракаем – "усе аварыйна-выратавальныя *працы* і расследаванне авіяцыйнага здарэння". Слоўнік Крапівы падае *работа*, але без прывязкі да авіяцыйных тэрмінаў. У [1]: *работа – работа, работать – рабіць, працаваць*. У дадзеным выпадку тэрміны азначаюць тэхналагічны працэс, як, напрыклад, *авіяцыйныя работы, аварыйна-выратавальныя работы* ці тэхналагічныя вадкасць, ціск, элемент – *рабочая вадкасць, рабочы ціск, рабочая лапатка*, а не *працу-труд* у шырокім сэнсе. Увогуле, гэта раскрываецца, калі прачытаць назву алгарытму дзеянняў беларускіх авіяцыйных дыспетчараў, які так і называецца – *технология работы – тэхналогія работы*. Атрымліваецца наступная філасофія – робім *работу* (канкрэтныя тэхналагічныя дзеянні), а зарплату атрымліваем за *працу!* У [23] 1931 г. ужыты тэрмін "баявая работа" Выразы

радыёабмену: “*работу закончил – работу скончыў*”, “*отработайте контрольную связь – адпрацуйце кантрольную сувязь*”, “*311, посадку с одним работающим – 311, пасадку з адным працуючым*”.

Равнодействующая сил – **раўнадзейная сіл**. Сэнс гэтага слова ў тым, што сіла гэтая, як Саламон, ураўноўвае ўсіх (усе сілы) і з’яўляецца выніковай сілай для “рака, шчупака і лебедзя”. То бок варыянт **ураўнальная**, і яшчэ больш зразумелы, **выніковая сіл** цалкам натуральны для разумення “тэхнара”. Але тэрмін у такім выглядзе зафіксаваны яшчэ ў Слоўніку фізічнай тэрміналёгіі 1929 г.: *равнодействие – роўнадзеяньне*. У “фізічным слоўніку” [12] 1994 г.: *равнодействующая – раўнадзейная*.

Разведданные (развединформация) – **звесткі**. Калі да захоўваемай статычна інфармацыі нельга прыстасаваць паняцце *звесткі,* то ў нашым разе яно цалкам адпавядае сутнасці з’явы. Бо *звесткі* – гэта тая інфармацыя (дадзеныя), якая здабываецца ў выніку спецыяльных дзеянняў (выведкі, напрыклад) і перадаецца вусна ці адмысловымі сродкамі (паштовым голубам, напрыклад). З гісторыі тэрміна: [26] (1933 г.) – «Нашы лётчыкі не выпускалі з вачэй руху праціўніка, лятаючы пастаянна над ім і даючы *звесткі* вайсковаму камандаванню»; [23]: «заўсёдныя пошукі *выведных звестак*»; [5]: *развед. сведения – звесткі выведвальныя*.

Разведка і разведчик, разведовательный – **выв<u>е</u>дка** і **выв<u>е</u>днік, выв<u>е</u>двальны**. Адпаведнік расійскаму “разведка” і ўсяму гнязду словаў – вельмі балючая тэма беларускай мовы. Ніякай аднастайнасцю там, бадай, і не пахне – ўпэўніцеся самі. Трасянка-беларускі слоўнік Сцяцко дае нам “адлуп” за ўжыванне *разведкі*, як расійскага слова, але *разведчик* падае як *разведнік*. *Разведнік*, які ажыццяўляе *выведку!* Па такой логіцы на верталёце лятае самалётчык (ці самалётнік), а на самалёце – верталётчык (верталётнік). Зразумела, што магчыма гаворка ідзе ў другім кантэксце. Але наш вайсковы кантэкст патрабуе адназначнасць. Слоўнік Крапівы падае традыцыйнае *разведка* па прынцыпу “старіны не рушыті, новіны не вводіті”

(хаця перад гэтым усё было разбурана і адбудавана “новае і светлае” і ўсе атрымалі кватэры!). Так, больш стары слоўнік Байкова-Некрашэвіча падае якраз *выведка*. Але гэта той выпадак, калі мы можам сказаць, а чаму раз*ведка* – расійскае, калі корань беларускі?! З пачуццём нацыянальнай годнасці і гонару, што мы выкрылі нашае ў “чужым”, хочацца пакінуць *разведку*. Але калі звярнуць увагу на слова *разведчик* у сэнсе *сыщик*, то зноў слоўнік [8] нам адкажа *выведнік*. Нават асцярожны “пачышчаны” ад “беларусізмаў” крапівоўскі варыянт падае *выведнік* у сэнсе *соглядатай, лазутчик*. Атрымліваецца, што маюць тыя рацыю, хто піша – “у склад авіябазы была ўключана *выведвальная* эскадрылля на самалётах”, як людзі, якія цікавяцца больш глыбока пытаннем такой праблемы. *Разведчик* (самалёт, спецыяліст) у такім разе (ад *выведка,* зыходзячы з варыянта Байкова) – *выведнік*. У практычным беларускім вайсковым слоўніку 1927 г. *разведчик* – *вывед**чы**к*, а *разведывательный* – *выведны*. Гэтае ж слова маецца і ў слоўніку Крапівы, дзе для яго “адвялі” статус размоўнага. Маем, такім чынам, *разведчык, выведчык і выведнік*. Калі звярнуцца да ўкраінскай мовы – маем *розвідник*. У інтэрнэце прысутнічаюць усе варыянты. *Разведчыкамі* больш карыстаюцца “Наша ніва” і “Звязда”*, выведнікамі* – “Хартыя 97” і тыя, хто піша класічным правапісам. Калі браць факты выкарыстання ў творах пісьменнікаў гэтага слова, то тут назіраецца храналагічная асаблівасць. Больш познім і ўжывальным у сэнсе спецыяліст, служба з’яўляецца *разведчык* – “*Разведчыкі* даносілі з усіх бакоў адно: абарона на поўдні і поўначы прарвана.” *Брыль*. Але ранейшым і спрадвечным з’яўляецца усё ж *выведнік (выведчык),* якому адвялі за савецкім часам толькі месца размоўнага слова. У вайсковым слоўніку [1] 1927 г. маецца цэлы вайсковы тэрмін *воздушная разведка* – *паветраная выведка*! Выведчык, выведны – зафіксаваныя ў Ваенным слоўніку [2] 1932 г. Яскравым доказам неабходнасці выкарыстання спрадвечнага беларускага слова *выведка* з’яўляюцца нешматлікія кнігі на авіяцыйную тэматыку, напісаныя па-беларуску ў 30-х гг. Наколькі разнастайнымі і неўнармаванымі там з’яўляюцца

шматлікія тэрміны, настолькі адзінадушна рознымі аўтарамі выкарыстоўваецца *выведка:* [26] – *выведнік, паветраная выведка, выведчая авіяцыя, дальняя выведка,* [24] –“авіяцыя, якая вядзе *выведку*, называецца *выведвальнай*”. Гэтую тэндэнцыю падхапіў і слоўнік Судніка [5] – *выведка, выведванне; выведнік, віж* (у адрозненне ад “словаря для военных” [4], дзе фіксуюцца толькі *разведчык* і яго вытворныя). Таму *выведка* – гэта натуральны вайсковы тэрмін, які павінен вярнуцца ў маўленне без усялякіх кампрамісаў. Тады *доразведка погоды* будзе *давыведкай надвор’я.* Для агульнай эрудыцыі прывядзем прыклады з іншых славянскіх моў – *разузнавач* – балгарская, *wywiadowca* – польская, *skaut* – славацкая, чэшская, *скаут* – сербская, *scout* – славенская, *izviđač* – харвацкая. Дарэчы, у нашых прасунутых скаўтаў саманазва – *выведнікі* (http://vyvedniki.livejournal.com/)!

Разворачивание (развертывание) і развернутый (мал. 21) – **разгортванне** і **разгорнуты**. Цікавы гэты тэрмін тым, што, па-першае, у спецыяльным значэнні не прысутнічае, а па-другое – некаторыя прыклады беларускіх эквівалентаў – *выпрастаны* [7], *разьвінуты* [8], *расхілены* [8]. Асцярожны Крапівоўскі слоўнік дае (менавіта ў вайсковым значэнні) варыянт *развёрнуты*. То бок, тэрмін няпросты. Бо, па сутнасці з’явы, абазначэнню *развёрнутый* адпавядае раўназначна і значэнне *распрямлённый*. Класічна гэта паказвае паслядоўнасць перастраенняў шыхаў. Адразу шых паходны (усё на “вазках” ды “запакавана”), потым перадбаявы (тэхніка, вайскоўцы пачынаюць разыходзіцца пры падыходзе да поля бою) і баявы шых (зброя, вайскоўцы занялі пазіцыі і гатовыя да бою). Чаму такі працэс не можа напамінаць *распраставанне-выпрямление*?! Але ён напамінае і *разворачивание (раскручивание)* скрутку – *разгортванне*. Дык чаму ў вайсковым значэнні нам не выкарыстоўваць цалкам адпаведны з’яве тэрмін *разгортванне-разгорнуты* (праўда, ідучы за расійскамоўнай традыцыяй)?! Тым больш такі тэрмін знаходзіць месца ў друку – “адна эскадрылля F-16 *разгорнутая* на авіябазе Шпангдалем у Нямеччыне”. А ў Коласа у “Дрыгве” чытаем – “

батальён непасрэдна пераходзіў на палажэнне *разгорнутых* баявых часцей”. У Тайгрэберта [26] прысутнічае ўвогуле ў адмысловым значэнні – *разгорнуты* строй. Таму і *развернутый боевой порядок* па-беларуску павінен гучаць як *разгорнуты баявы шых*.




**мал. 21**

Разнос – 1. **разнос каналаў** (па частаце). Зафіксаваны ў такім выглядзе ў ПТС [16]. Украінскі варыянт – *рознос каналів.* 2. разнос двигателя (несущего винта) – азначае выхад абаротаў за граніцы дапушчальных – па-беларуску таксама будзе **разнос** (што, дарэчы, фіксуе ТСБМ).

Разреженный воздух – **рэдкае паветра**. У такім варыянце сустракаецца ў слоўніках БНТ. У слоўніку ж Крапівы – *разраджаны*.

Разрешающая (способность по дальности) і разрешение (целей) – **раздзяляльная (здольнасць на далёкасць)** і **раздзяляльнасць.** Аднастайнасці не назіраецца. У слоўніку [16] пададзены тэрмін *распазнаванне*. У [4] 1996 г. знаходзім – *адрознівальная (распазнавальная) здольнасць* аптычных і электронна-аптычных прыбораў. У [5]: *адрозніванне, распазнаванне*; *раздзяляльная здольнасць*. А у БелЭн маецца цэлы артыкул РАЗДЗЯЛЯЛЬНАЯ ЗДОЛЬНАСЦЬ, праўда, без назоўнікавага варыянту. Не на карысць *распазнаванню* ідзе

аманімія з *распазнаваннем-апазнаваннем* цэляў (Гл. Опознование), якія могуць сустракацца ў адным кантэксце ў авіяцыйнай справе. Таму лепш спыніцца на “раздзяляльная здольнасць” і “раздзяляльнасць”, пагатоў, што апошні тэрмін у беларускай камп’ютарнай тэрміналогіі паступова займае варыянт “разрознасць”, то бок расійскае маналітнае *разрешение* ў нашай мове ўжо распалася на аптычны варыянт – *раздзяляльнасць* і камп’ютарны (графічны) – *разрознасць*.

Раскачка (раскачивание), тряска, болтанка, качение (выкатывание) – **разгойдванне, трасенне** (аэрадынамічнае), **гайданка, качэнне** (падшыпніка і г.д.), **выкочванне** (*разм.* выкат) (самалёта за межы паласы). Тэрміны зведзеныя ў адну групу з мэтай адлюстравання дакладнага размежавання ў беларускай мове з прычыны, як бачна, іх сінанімічнасці.

Располагаемый (запас мощности, рубеж ввода в бой) – **наяўны**. Распаўсюджаны складнік у тэрмінах аэрадынамікі, навігацыі. І калі другі прыметнік *потребный* – з якім *располагаемый* заўсёды ў “пары” – узяты расійскай мовай з “сястрынскіх” моў, то *располагаемый*, як прыметнік, у беларускай мове (прынамсі, у слоўніках) адсутнічае! Па сутнасці, *располагаемый* – гэта *имеющийся*, што і дае нам *патрэбны* вынік у выглядзе *наяўнага* запасу моцы ці рубяжу ўвядзення у бой.

Расчетные данные, расчетное время (высота, скорость, точка, угол), расчетное огневое средство – **разліковыя дадзеныя, разлічаны час (вышыня, хуткасць, пункт), разліковы вугал**, **разліковы агнявы сродак**. У [5]: расчетные данные– разліковыя д. Тут неабходна памятаць, што ў расійскай мове адбылося зліццё *расчётный* і *расчитанный*. Таму памятайма: тое, што разлічана на адзін раз, гэта *разлічаны* (час, хуткасць і г.д.), а тое, што прызначана для разлікаў (а таксама стандартныя параметры, прызначаныя для разлікаў), гэта *разліковы* (агнявы сродак, кніжка, дадзеныя і г.д.). *Расчетное время полета* – *разлічаны час палёту*. З радыёабмену: “*425, в*

*расчетной – 425, у разлічаным”* (Гл. Точка), *“рассчитывайте к 3-му – разлічвайце да 3-га*”.

Расширяющееся-сужающееся (сопло) – **расчыняемае-счыняемае (сапло)**. (Гл. Створка). *Расширяющемуся* і *сужающемуся соплу* адпавядаюць сінонімы *расстворяемое (створяемое)*, што па-беларуску будзе гучаць як *расчыняемае (счыняемае)*. Нагадаем, што ёсць яшчэ кулінарны тэрмін – *расчыняць* цеста.

Рекогносцировка, рекогностировочный – **рэкагнаванне**, **рэкагнавальны**. Гэты наватвор створаны згодна законаў мовы: рэкагнасціроўка→рэкагна***сціра****ва*нне→рэкагнаванне. У [5]: рекогносцировочная группа – рэкагнасцыйная г.

Ремень – 1. *тэхн.* **пас** 2. ремень безопасности **пас бяспекі** 3. поясной ремень (*сядзенне лётчыка*) **папруга**. Ремни – **паскі**: р. подвесной системы (ремни – *у зборным значэнні*) **п. падвеснай сістэмы (паскі)**, плечевые ремни **плячавыя паскі**. Калі з пасам разыходжанняў няма, то з іншымі “беларускімі рамянямі” складаней. У час размовы пра канструкцыю катапультнага крэсла сустрэнем шмат тэрмінаў са словам *рамень*. Падбор тэрмінаў быў зроблены з мэтай, з аднаго боку, захавання разнастайных сінонімаў *рамяня – папругі, пасаў, паскаў* – шляхам уцягвання іх у навукова-тэхнічны абарот, а па-другое, пазбягання аманіміі ў адным кантэксце. Тым больш, адзначым факты выкарыстання ”беларускіх рамянёў” у адмысловым значэнні ўжо у кнізе Лебядзенкі [3] 1930 г. “Баявы палёт. Успаміны ўдзельніка сусветнай вайны” чытаем – “… Лётнік толькі плячыма паправіў *пасак*, якім ён прывязаны да сядзення.”. А ў [5] знаходзім: *поясной ремень – дзяга, папруга, ремешок – пасак, папружка*.

Речевой информатор, речевая информация – **маўленчы інфарматар, моўная інфармацыя**. Правільны варыянт падказвае сучасны ўзус, а акадэмічнымі выданнямі падрабязна не разглядаецца. У слоўніку Крапівы знаходзім і *маўленчы апарат,* і *моўны апарат*. Але ў нашай мове назіраецца дзяленне *речевой* залежна ад значэння тэрміна. У тэрміне *речевой информатор* ідзе гаворка пра прызначэнне яго – для маўлення.

У тэрміне *речевая информация* гаворка ўжо ідзе пра від інфармацыі – моўнай (можа быць гукавая, лічбавая і г.д.).

Решение – **рашэнне**. Са словам праблем няма, але ўспрымаецца суб'ектыўна, як не зусім беларускае. Тым больш уяўляе сабой дэвербатыў ад *решать*, больш падобны на працэс, чым на нейкую статычную з'яву, якім, па сутнасці, і з'яўляецца. Станкевіч у сваёй кнізе [13] падае варыянт *пастанова*. У [5]: *решение командира – змеркаванне*, *решить* 1. (задачу) *развязаць* 2. (принять решение) *змеркаваць, счетно-решающее устройство – вылічальна-развязвальнае прыстасаванне*.

Решетка – (*спец.*) **краты, кратка** (рашотка). У спецыяльным значэнні падаецца толькі *рашотка* (напрыклад, у ПТС [16]). А вось у [1]: *решетка – краты, краткі*. Робім выснову – с цягам часу пад прэсам канцэпцыі "ненавуковасці мовы" адбылося штучнае раздзяленне аднаго паняцця. Ва ўкраінскай мове адбылася "адкрутка" назад – і зараз *решетка на окне* і *решетка вентилятора* маюць адну назву – *грати*. Маецца там і слова *гратка*.

Руководящий летный состав – **кіраўнічы** лётны састаў (Гл. Состав). Тут пытанне ўзнікае з варыяцыяй *кіраўнічы – кіруючы*, *кіравальны* як і ў прыкладзе *Управляемый – кіраваны-кіруемы* (Гл. Управляемый*)*. Бо крапівоўскі («афіцыйны, межджу прочім» – як сказаў бы Мікіта Зносак з «Тутэйшых») варыянт – *кіруючы*. Прыклад з сеціва – (МА) "*кіруючы* склад Узброеных Сіл, камандны склад ВПС". Але чамусьці ў Байкова-Некрашэвіча адказ таксама адназначны – *кіраўнічы*. І вось больш "захаваная" сістэма ўкраінскай мовы падае *керівний льотній склад* і *керуючий справами УПЦ*. Тут цікава адзначыць якраз, што *руководящий* і *управляющий* у беларускай, як і ва ўкраінскай мовах маюць адзін адпаведнік: *кіруючы – керуючий*. Таму няма спрэчак калі, напрыклад – «камандзір, *кіруючы* лётнай падрыхтоўкай, павінен быць…". То бок, калі ў адным кантэксце ідзе гаворка пра аб'ект, якім кіруе суб'ект, слова *кіруючы* не выклікае ніякіх сумневаў. А другі варыянт, які з'яўляецца прыметнікам без прывязкі да часу, пакінем *кіраўнічым*.

Рукоятка і ручка (управления) – **дзяржак** і **ручка**. У беларускай мове адсутнічае ўніверсальны тэрмін *рукоятки*, бо на кожны тэрмін ёсць свой адпаведнік – *цапільна – рукоятка цепа*, *касьсё – рукоятка косы*, *чапельнік – рукоятка от сковородника* і г.д. Але ў нашым выпадку такая разгалінаванасць карысці не прыносіць. Ёсць універсальнае беларускае *дзяржальна*, апрацаванае ў слоўніку Булыкі як *дзяржак*. *Ручка*, як варыянт найбольш слушны, застаецца без зменаў. У [5]: *ручка управления – ручка кіравання.*

Руль (высоты, направления) – **руль (вышыні, напрамку)**. Тэрмін *руль напрамку* разгледжаны ў артыкуле Путь. Цікавасць мае гісторыя ўжывання гэтых тэрмінаў, напрыклад, у кнізе С. Варыча «Авіягурток» [22]: «*руль глыбіні* – невялічкая гарызантальная паверхня, якую можна паварочваць угару і ўніз. *Руль павароту*…», і ў той самай кнізе далей – «*руль вышыні* і *бочны руль* – хваставое апярэнне біпляна. Для бочнага руля (b) трэба зрабіць асноўную палачку даўжынёй 90мм. з перарэзам 2х4…».

Рычаг – **вагар**. У вайсковым слоўніку 1927 г.: *внешний рычаг – знадворны вагар, падважнік.* Нават у русіфікаваным “ваенным РБС” [2] 1933 г: *подающий рычаг – падавальны вагар*. У слоўніку Крапівы падаецца ўжо як *разм*. (літаратурнае, вядома ж, *рычаг*).

Садиться (на аэродром, площадку) – **сядаць**. У сецiве сустракаюцца скалькаванае з расійскай *садиться – садзіцца*: “летам таго ж года на аўтамабільную дарогу *садзіліся* знішчальнікі МіГ-29 і Су-27 са складу 61-й знішчальнай авіяцыйнай базы”, “здольны *садзіцца* на непадрыхтаваныя пляцоўкі” (МА). Не магу зразумець, чаму я на знішчальніку ці верталёце не магу па-беларуску *сядаць – сесці*, а толькі па-расійску *садзіцца – сесці*?!

Самолёт – **самалёт**. У сучасным узусе часта сустракаецца ўкраінізм *лятак*, які падмяняе сабой самалёт, што не мае пад сабой ніякай асновы (не сустракаецца ні ў адным слоўніку, акрамя сучаснага арфаграфічнага слоўніка Нашай Нівы). У кнізе [23] таксама не сустрэўся. Але існуюць іншыя груваскія

тэрміны, якія можна (і трэба) замяніць трапным і зразумелым *лятак* – Гл. Воздушное судно.



**мал. 22**

Свес лопастей (мал. 22) – **навісь лопасцяў**. *Свес* – гэта *выгін* лопасцяў у нерабочым стане, калі лопасць "абвіслая". Вугал між рабочым (прамым) і нерабочым "абвіслым" становішчам лопасці таксама называюць *свесом*. То бок *свес* разглядаецца як стан лопасцяў і як вугал. "Абвіслая" лопасць і сапраўды напамінае ***навісь*** — *повисший на деревьях снег*, як падае нам слоўнік [8]. Таму тэрмін *навісь лопасцяў* з'яўляецца слушным як у значэнні стану, так і ў значэнні вугла. Гэты тэрмін фіксуе ПТС [16]: *свес кормы (кузова) – навісь кармы (кузава)*. Дадамо, што ў "Тэхнічнай тэрміналогіі" 1932 г. сустракаем "свес (крышки) – зьвес".

Светомаяк і светотехнический – **святломаяк** (светлавы маяк) і **святлотэхнічны**. Калі другі тэрмін маецца ў слоўніку [4], то першы сустрэўся ў [5] у такім варыянце: *маяк – ліхтарня*, *аэрадромная (светлавая, мігальная) ліхтарня, маяк-ответчик – ліхтарня-адказчык.*

Светящийся – **асвятляльны**. Акадэмічныя слоўнікі падаюць гэты варыянт, як найбольш натуральны і як па мне, найбольш зразумелы. Васіль Быкаў у “Трэцяй ракеце” таксама пісаў: “Мяркуючы па галоўцы, гэта *асвятляльная*, белая”. А ў [26] практычна ўжываецца менавіта тэрмін “асьвятляльныя бомбы”. Расійскаму *световой* слоўнікі падаюць варыянт *светлавы.* Існуе яшчэ варыянт *осветительный*, што таксама цалкам адпавядае нашаму *асвятляльны*. Таму для расійскіх *светящийся, световой* (толькі для бомбы), *осветительный* маем беларускае *асвятляльны.*

Свободная турбина (мал. 23) – **вольная** турбіна. Тут тая ж спроба надаць тэрміну менавіта беларускае гучанне. Бо *свабодная* турбіна сапраўды незвязаная з кампрэсарам, а значыць яна па-беларуску *вольная.*




**мал. 23**

Свободнонесущее крыло – **вольнапад’ёмнае крыло**. У спалучэнні з гэтым прыметнікам у авіяцыі сустракаецца шмат тэрмінаў. Тэрмін, як кажуць, палітычны. За савецкім часам адбыўся валюнтарысцкі “перабор” у бок *свабоднага* і ўтварылася сістэма фразеалагізмаў, дзе штучна для абазначэння тэхнічнага сэнсу быў узяты *свабодны (*“Тэхнічная тэрміналогія” (1932)). Як, напрыклад, *скорасць свабоднага падзення*! А Пляц Волі ператварыўся ў плошчу Свабоды. Трэба адзначыць, што *вольны* і *свабодны* маецца ў “Практычным беларускім вайсковым слоўніку”. Таму ў шмат якіх авіяцыйных тэрмінах

*вольнаму* можна надаць свежае дыханне. Тады і тэрмін *свободнонесущее крыло* будзе гучаць, як *вольнапад'ёмнае крыло (*Гл. Несущий).

Сдвиг ветра – **зрух ветру.** Ужо ў выпусках БНТ (фізічнай і тэхнічнай тэрміналогіі) *зрух* быў зафіксаваны. У метэаслоўніку [18] падаецца блізкі варыянт – *зрушэнне ветру*.

Сигналы «Режим», «Стрела», «Ковер», «Прибой», «Полюс» і інш. – **Рэжым, Страла, Дыван, Прыбой, Полюс** і інш.. Ва ўкраінскіх авіяцыйных дакументах такое ж калькаванне, а "Ковер" перакладаецца як "Килим» (што даслоўна тэж азначае «ковер»).

Сила тяжести – **сіла цяжару**. Прысутнічае ў слоўніках [14,18,19].




**мал. 24**

Силовой набор крыла (мал. 24) – **драбы крыла**. Адзін з прыкладаў творчага асэнсавання тэхнічнай з'явы традыцыйным беларускім "вокам". Слова *драбы* мае адзін з сэнсаў – *остов, каркас*. Што цалкам адпавядае нават візуальна паняццю *сілавы набор крыла* – набор падоўжных і папярочных сілавых элементаў крыла (шпангоўты, нервюры, стрынгеры).

Упэўненасці выбару менавітага такога тэрміна дадае спраўджаны факт ужывання слова *драбы* менавіта ў адмысловым значэнні ў вайсковым слоўніку 1927 г. [1]: *остов станка (замка) – драбы станка* (Гл. 3 раздзел). Варта дадаць, што ў [25] аўтар ужывае слова *касьцяк: «касьцяк крыла –* з двух уздоўжных лёнжэронаў і нэрвюр», «канструкцыя *касьцяка* стабілізатара аналёгічна крылу". Але *касцяк* пакінем для расійскага сіноніма *остов*, напрыклад, для абазначэння цалкам інтэграваных у адно цэлае з абшыўкай сілавых элементаў.

Складывающееся крыло – **складное крыло**. Пра існаванне цэльнага тэрміна ў слоўніках няма што гаварыць. Ёсць блізкае матэматычнае *слагаемое-складаемае.* Як лікі складваюцца (сумуюцца), так і крыло складваецца (памяншаецца). У сеціве сустракаецца тэрмін *складаемы ровар – складывающийся велосипед*. (Гл. Составной лонжерон). Але ў ТСБМ ёсць цалкам адпаведнае такому крылу слова – складны. Заўважу мімаходам, што для мяне, заходняга палешука, слова арганічнае. У нашай гаворцы не толькі прыметнікі маюць націскі на апошні склад, але й назоўнікі і прыслоўі – цудный, хаты, корувы, хулудно-тыпло і г.д.

Скорострельность – **хуткастрэльнасць**. Яшчэ адзін прыклад, калі стаўленне да прафесійнай лексікі, як да адназначна запазычанай. Што і дае падставу для выказванняў кшталту – "белорусский язык – бедный язык, на нем нельзя выразить ничего великого". Бо паважаны слоўнік інстытута Я. Коласа падае менавіта як вайсковы тэрмін, "звышнатуральны" для нашай мовы, *скарастрэльнасць* . Ды й амаль усе беларускія вайсковыя слоўнікі [1,2,4] (апроч слоўніка С. Судніка [5]) падаюць "скарастрэльнасць". Але калі ўзяць пад ўвагу, што гэта характарыстыка вымяраецца не прасторавымі адзінкамі (напрыклад, см/с), а часавымі (стр/хв) (Гл. Скорость), то тэрмін "хуткастрэльнасць" падаецца тым больш лагічным.

Скорость – **хуткасць**. Адразу нават не задумваўся над тым, што такі распаўсюджаны тэрмін можа выклікаць пытанні адносна яго адназначнасці. А сталася, што я глыбока памыляўся. Вельмі яскрава праблема з'яўлення *скорасці* разгледжана ў

артыкуле Д.В. Дзятко “Антыпурызм у гісторыі фарміравання і развіцця беларускай матэматычнай тэрміналогі” (http://elib.bspu.by/bitstream/doc/3039/). Якраз у перыяд агрэсіўнага антыпурызму 1934 – 1941 гг і з’явілася *скорасць* разам з такімі “творамі”, як: *агібаючая, адначлен, верцячыйся, ізабражэнне, квадрат точны, множыцель інтэгруючы, памяншаемае, працэсы ўстанавіўшыяся, працэсы ўстанаўліваючыяся, прызнак, прэдзел, разлажэнне, сякучая, тожаства, ураўненне, шчоты.* Зразумела, у якіх ненармальных умовах стваралася такая навуковая “трасянка”. Але, калі плынь рэпрэсій адступіла, дамогшыся свайго, пачаўся перыяд так званага мадэрнізаванага антыпурызму, калі ў акадэмічныя слоўнікі і энцыклапедыі запісваліся “новыя” тэрміны, прыведзеныя вышэй, працягваючы лінію адрыву навуковай мовы ад жывой. Ну не можа беларус аб навуцы думаць па-свойму, засноўваючыся на сваіх базавых моўных крыніцах і досведзе – галоўны тэзіс шавіністаў усіх часоў. Але змяніліся ўмовы – і беларусы пачалі вяртаць сваё. Абарона дыпломных праектаў на роднай мове, камп’ютарная лексіка і нават кібернетыка (Інстытут матэматыкі і кібернетыкі) – усё гэта сённяшні дзень. Але ў сферы намінацыі тэрмінаў фактычна сутыкнуліся два антаганістычныя метадалагічныя кірункі: рэфарматарскі і традыцыяналісцкі. Вядома ж, рэфарматарскі з’яўляецца больш нацыянальным і блізкім мне. Усё ж заўважым, што яшчэ ў “Слоўніку фізічнай тэрміналогіі” БНТ 1929 г. маецца артыкул “скорасьць” з вялікай колькасцю прыкладаў, а дагэтуль – у “Практычным вайсковым слоўніку” [1] бачым адназначнае *скорость – скорасьць*. Калі прааналізаваць ужыванне “хуткі” і “скоры”, то можна заўважыць, што адпачатку першае ўжывалася больш у дачыненні часавай характыстыкі (*“хутка* будзе дождж”), а другое – ў дачыненні прасторавага перамяшчэння (“ехаў *скора* на кані”). Таксама для паўнаты карціны варта ўспомніць і трэцяе слова, якое звычайна ўспрымаецца неафітамі як жудасны русізм – “быстрыня” (скорость течения [реки]). Пазней гіперкарэкцыя прывяла да таго, што 1-е і 2-е значэнні набылі, бадай, аднолькавы сэнс.

У БелЭн ёсць артыкул СКОРАСЦЬ. Таму, як кажуць, з вадой (барацьба з русізмамі) можна выкінуць і цялятка (спрадвечна беларускае слова). Думаецца, што коп'і на гэтай тэме будуць яшчэ ламацца доўга!

Скрытность (действий авиации) – **скрытасць**. Толькі слоўнік Судніка дае адпаведнік *таемнасць*, што цалкам адпавядае з'яве *скрытности* дзеянняў войскаў. Як і магчымы тэрмін *прыхаванасць* (ва ўкраінскай мове, напрыклад, *приховане управління військами*) ці ўтоеннасць. Але на карысць тэрміна *скрытасць-скрытнасць* падаецца багаты тэрміналагічны радавод і, самае галоўнае, яго неперарванасць: Практычны беларускі вайсковы слоўнік [1]: *скрытный – скрытны, скрытность – скрытасьць*; Ваенны слоўнік [2] 1933 г.: *скрытность – скрытнасць,~тое управление войсками – скрытае кіраванне войскамі*; "Словарь для военных" [4] 1996 г.: *скрытый: 1. схаваны 2. утоены, скрыты; скрытность – скрытнасць; скрытае кіраванне войскамі*. Як мы бачым, вайсковыя тэрмінолагі не цураліся кораня *скрыт-* . То і нам няма чаго цурацца яго. Ад сябе заўважу, што ўжыты ў вайсковым слоўніку 1933 г. тэрмін "скрытасць" лепшы за "скрытнасць", пра што сведчыць ТСБМ (http://www.skarnik.by/tsbm/77692), а таксама ТСЛБМ. Пры гэтым новыя тэрміны, яшчэ не замацаваныя слоўнікамі, пажадана ўжываць з натуральным беларускім эквівалентам *утоены*: *скрытая атака – утоеная атака*.

«Следуйте на запасной аэродром» – «**праступце на запасны аэрадром**». Значэнне *праставаць – идти напрямик* цалкам адпавядае фізічнай з'яве *следовать на аэродром*. Прыклад з [22] – «модэль павінна рухацца па *простай*». Украінскі адпаведнік – *прямовати* на запасний аэродром. Тое ж самае тычыцца тэрміну *курс следования – курс праставання*. (Гл. Спрямление маршрута). Заўважым, што ў слоўніку [4] 1996 г. – курс руху. А вось што тычыцца ўскоснай, нерадыёэфірнай мовы і, як правіла, у прошлым часе, то аналагам «следовать» з'яўляецца «был направлен, направили» – «быў накіраваны, накіравалі».

Следящая система управления – **сачыльная сістэма кіравання.** Варыянты *сістэма кіравання з сачэннем* (СКС) і *адсочвальная* (отслеживающая) *сістэма кіравання* падаюцца не благімі. Але ў сучасных тэхнічных слоўніках і ў слоўніку Судніка [5] 1997 г. сустракаецца варыянт *сачыльная сістэма*. А ў [4] 1996 г. знаходзім: *следящие системы (воен.) – сістэмы сачэння*. Тым больш, узус (у інтэрнэце) паказвае, што варыянт *сачыльная сістэма* "рассоўвае" пакрысе сабе шлях. Таму гэтаму лагічнаму наватвору і трэба пакінуць права стаць коранем гнязда вытворных – *сачыльная сістэма кіравання, сачыльная сістэма гіракомпаса* і г.д.

Сомкнутый, разомкнутый, рассредоточенный (боевой порядок) – **самкнёны, разамкнёны, разгрупаваны** (баявы шых). *Сомкнутый* мы не абавязкова павінны перадаваць даслоўна па слоўніку Крапівы – *стулены*, зведзены (які мае шмат значэнняў, адно з якіх – *изведен* – мы прымянілі да *выведен из строя* (Гл. Выведен из строя)). *Сомкнутый боевой порядок* – шых, на якім самалёты знаходзяцца на мінімальных водступах. Таму *самкнёны* з'яўляецца больш слушным. *Разомкнутому* адпавядае акадэмічны варыянт *разамкнёны* – шых, у якім самалёты знаходзяцца ў межах візуальнай бачнасці. Адпаведна, *рассредоточенный* – *разгрупаваны.* Дадамо, што ў [4] 1996 г. амаль ідэнтычна: *рассредоточенный – разгрупаваны; разомкнутый с. – разамкнуты (разамкнёны) строй; сомкнутый с. – самкнуты (злучаны) строй*. А ў [5]: *разомкнутый (сомкнутый) строй* – *раскідны (злучаны) шыхт* (для *рассредоточенного* беларускі эквівалент адсутнічае).

Сопротивление (аэрадынамічнае) – **супраціў**. Праблем не маем, але проста ў аэрадынамічным сэнсе будзем ужываць карацейшае слова. Вось, калі ласка, розначытанні з інтэрнэту – "недахопам дадзенай канструкцыі з'яўляецца падвышаны аэрадынамічны *супраціў*", "аднак, з-за падвышанага лабавога *супраціўлення* самалёты такой схемы хутка саступілі сваё месца біпланам і манапланам". У [5] падаецца (праўда, у агульным значэнні) тэж *супраціў*.

Сосредоточенный, сосредоточение і рассредоточение (сил и средств) – **засяроджаны, засяроджанне (сканцэнтраванне) і разгрупаванне**. *Рассредоточению* слоўнік Судніка адказвае *раз'асяроджваннем*. Адназначна на гэтую групу тэрмінаў адказвае слоўнік Крапівы – *засяроджаны, засяроджанне і разгрупаванне*, што знаходзіць адпаведна адназначнае адлюстраванне ў сеціве – "тэрарысты пры падтрымцы замежных войскаў спрабуюць атачыць украінскія войскі, *засяроджаныя* ў раёне населенага пункта", "АУД у якасці запасных аэрадромаў і аэрадромаў *разгрупавання* авіяцыі" (МА). Тады *район сосредоточения – раён засяроджання.*

Состав – 1. (*арганізаваная группа людзей, спецыялістаў*) **састаў** 2. (*структура*) **склад**. У [1] 1927 г.: состав – склад каравулу, але састаў пораху; составной – складны. У кнізе [23] 1931 г.: падрыхтоўка лётнага складу, агульнавайсковы камандны склад, кадры лётнага і спецыяльнага складу. У [2] 1933 г.: састаў абозу; састаў часцей, склад часцей. У слоўніку Судніка [5] 1997 г.: состав (III) – склад (і толькі так). У ПТС [16] – састаў (да ўсяго), там жа – састаўляючая. Як матэматычны і тэхнічны падаецца тэрмін – састаўны. Ва ўкраінскай мове драблення (а значыць і праблемы размежавання паміж сінонімамі) на *склад-состав* няма – толькі *склад*. Робім выснову: у гістарычным разрэзе назіраем тэндэнцыю (непаслядоўную і не да канца лагічную) пашырэння ўжывання *састаў*, з чым пурыстычныя слоўнікі не згодныя (я таксама). Другое: сучасная ўкраінская мова выціснула слова "састаў", не баючыся сумніўнай аманіміі.

Составной лонжерон (мал. 24) – **складовы ланжэрон.** Тэрмін цяжкі сваёй нераспрацаванасцю і адсутнасцю ў моўнай практыцы, а яшчэ сінанімічнасцю і аманіміяй у іншых сферах. Так сталася, што *складовы* найчасцей выкарыстоўваецца ў граматычных ды матэматычных тэрмінах. *Складальны* сустракаецца ў другім выпуску БНТ: "Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва", але да фізічных аб'ектаў у асноўным значэнне *складальны* займае супрацьлеглае *складоваму* значэнне – *составляющая* (частка чагосці), то бок яшчэ і дзеепрыметнік. У гэтым і адрозненне ад расійскай мовы, дзе

гэтыя супрацьлеглыя паняцці падаюцца адным словам – составной (*складовы*) лонжерон, составная (*складальная*) часть силового набора крыла. Таму варта вярнуцца да праверанага варыянту – складовы. У мовах-суседках: па-польску składowy, па-ўкраінску: складовий. Хуткамоўка для беларускіх авіятараў – *складовы* ланжэрон, *складальны* з верхняга і ніжняга паясоў, не з'яўляецца *складным*! Гэта не *складана*!) (Гл. Складывающееся крыло).

Спасание і спасение, спасатель – **выратаванне і ратаванне, ратавальнік**. Часта на расійскамоўных рэсурсах узнікаюць пытанні, чым адрозніваюцца *спасание* ад *спасения*. То бок, звычайныя расійскамоўныя "мяшчане", добра ведаючы мову, сутыкаюцца з такой праблемай. І гэта не дзіўна, таму што неабходнасць з'яўлення такога размежавання ўзнікла толькі ў прафесійнай лексіцы *ратавальнікаў* і прырода ўзнікнення ў расійскай мове такога размежавання – штучная. Аўтар помніць, калі такое пытанне прагучала ад начальніка парашутна-дэсантнай службы. На што адказа ён правільнага не атрымаў, бо ніколі аб гэтым не задумваўся. А "скрыначка" адчыняецца лёгка. *Спасание* – калі ратуюць цябе, *спасение* – калі ратуешся сам. І вось гэта той выпадак, калі наш нацыянальны "карпускулярна-хвалевы дуалізм" нас і *выратоўвае*. *Ратуйся*, хто можа – *спасайся* сам, *выратуй* – *спасите* мяне ці проста SOS. Таму любыя *спасательные* работы – *выратавальныя*. Хаця *ратаванне* – справа рук самога тапельца! Трэба помніць, што такой неабходнасці размежавання ў дачыненні да *спасателей* няма. Таму прымаем дзейсную літаратурную традыцыю – *ратавальнік* (разм. ратаўнік) – спецыяліст, *выратавальнік* – транспарт (лятак, карабель).

Спрямление маршрута (мал. 25) – **спраставанне** маршруту. Усе слоўнікі даюць варыянт толькі *выпроставанне* – ад *выпрастацца* – *выпрямиться*. Але мова мае і другі дзеяслоў, які якраз і адпавядае сэнсу *спрямления* шляху. Вось як у прыкладзе – "Падумаў — ці не *спраставаць* дарогу чаўном па затоцы?" *А.Наварыч*, "Літоўскі воўк". А вось і прыклад з сеціва – "Тут можна дэталёва разглядзець

перспектыўнае *спраставанне* вуліцы Каліноўскага”. Гэта нагадвае нам, што развіццё мовы “не разбіць, не спыніць, не стрымаць”. (Гл. “Следуйте на аэродром”).




**мал. 25**

Створка (сопла) – **счын**. Афіцыйны варыянт – створка (у агульным сэнсе), у адмысловым значэнні, напрыклад, у ПТС [16] – двухстворкавае сапло. Ва ўкраінскай мове *створка* – *стулка* (ад стулити-сомкнуть). Але ў беларускай мове можна стуліць і губы, і прадметы, а вось для таго каб *створить* менавіта предметы, па-беларуску скажам *счыніць*. І такія *створки* заўжды былі *счынамі*. Перад вачыма ўзнікла карціна, калі бабуля вучыла правільна *счыняць* сена граблямі ў “счыначкі”, да адной нагі падбіваючы і ўшчыльняючы шматкі сена. Дык вось, калі хто хоча паспрабаваць, можа падыйсці да сапла і рукамі паварушыць *створкі-счыны* і пабачыць як яны *счыняюцца-расчыняюцца*. Так што, калі быць дакладным, то ў выпадку, калі кажам, што расійскаму *открыть окно* адпавядае беларускае *адчыніць*, мы трохі абагульняем. Бо дакладны адпаведнік у расійскай мове беларускаму *адчыніць*, насамрэч, *отворить*.

Стекло (переднее, правое, левое) і секция стекла – **шыба пярэдняя, правая, левая**. Яшчэ адно сведчанне, калі было спынена перанясенне традыцыйных беларускіх лексічных мадэляў на тэхналагічныя вынаходкі. Такім чынам, у “новую”

мову і былі ўвабраныя асаблівасці іншай моўнай сістэмы. У расійскай мове адсутнічае размежаванне паміж класам прадметаў, зробленых са *шкла – стекла* і прадметам у акне – *стеклом* ці па-нашаму *шыбай*. Але хіба гэта нашая праблема, тым больш, што ў гэтым разе беларуская мова наадварот вырашае яе, дакладна даўшы назву шкляным вокнам – *шыба*. І мне здаецца, што беларускамоўны лётчык (ці кіроўца машыны), калі б такім быў з самага пачатку і не “цураўся сваёй мовы”, адназначна глядзеў бы не праз *левае шкло*, а праз *левую шыбу* і так казаў бы. Такім чынам катэгарычнае абмежаванне “арэала” беларускай *шыбы* толькі на *аконнае шкло* тут выступае штучным і супярэчлівым. Бо “Шыба” – гэта пласт шкла (першапачаткова толькі плоскі), які ўстаўляўся некуды, каб праз яго глядзець. Таму перанос яго значэнне на шкляныя часткі ліхтара самалёта – цалкам натуральны працэс. Імем справядлівасці “выносім” апраўдальны прыгавор *шыбе* і “адпускаем” яе ў высокатэхналагічныя транспартныя сродкі! У гэтай логіцы: *бронестекло* – 1. (канстр. элемент) *браняшыба* 2. (уласцівасць шкла) *браняшкла*; *мерное стекло – мерная шыбка*.

Степени поражения: "уничтожение", "вывод из строя", "подавление" – **“<u>з</u>нішчэнне”, “<u>з</u>вод (з ладу)”, “<u>з</u>душэнне”** **(**Гл. Вывод из строя, Подавление).

Стойки шаси – *ногі (стойкі*) шасі. Тут прыклад таго, што нават у “монатэістычных” мовах часам назіраецца “двухглавый орел”. У расійскамоўных інструкцыях і тэхнічных апісаннях паралельна сустракаюцца два гэтыя тэрміны – *стойка* і *нога*. У старабеларускай мове былі словы “стоякъ” – стаяк (въ клѣткахъ маютъ стояки ставить). Таму словаўтварэнне на базе *стой-* – цалкам натуральнае беларускай мове. Пра гэта сведчыць і РБС Байкова-Некрашэвіча: стойка – *стойка, падпора*. Гэта ж фіксуе і процьма астатніх беларускіх слоўнікаў розных часоў.

Стравливание воздуха – **страўл<u>е</u>нне**. У ТСБМ падаецца з аднолькавым значэннем і *страўліванне*, але больш слушным (зыходзячы з неўласцівасці мове суфіксаў -аван (-іван)) усё ж будзе *страўленне*. Адзін мовазнаўца распавёў мне, што

наяўнасць абоіх слоў тлумачыцца закончаным дзеяннем (*страўленне*) і незакончаным (*страўліваннем*), але я, як спецыяліст такіх двух дзеянняў у расійскай мове не ведаю. Магчыма, фізічныя працэсы ў беларускай мове адбываюцца па-іншаму, але маю сумнеў!

Стробирование (РЛПК-29) – **страбаванне**. Той прыклад, калі тэрмін адносна новы. Зафіксаваны ў [14] 1995 г. – стробировать – страбіраваць, а таксама маецца артыкул у БелЭн СТРАБІРАВАННЕ. Не робячы рэвалюцыі, ўжо ў больш спрыяльных умовах мы можам, нарэшце, з’яўляючыся “ўладарамі песні сваёй”, надаць яму характэрнае беларускае “гучанне” – *страбаванне* (у адрозненне ад таго ж, напрыклад, *пікіравання*).

Строительная ось (мал. 26) – **будаўнічая вось**. Каб не было, як у артыкуле пад назвай – “Трасянку ўзаконяць? Вуліцы «Страіцеляў» і «Жалезнадарожная» могуць з’явіцца ў Беларусі”. А сэнс тут на паверхні, без тлумачэнняў.




**мал. 26**

Ступень (компрессора, турбины), ступенчатый вал (мал. 27) – ступень, **прыступка** (але **ракетная ступень, барычная ступень), ступеневы вал**. На ўласны погляд (на думку аўтара – збалансаваны паміж акадэмічнасцю, створанай за савецкімі часамі, і пурызмам – жаданнем ачысціць ад

адміністрацыйна прынесенага “мулу”), *прыступка* цалкам адпавядае фізічнай з’яве *ступеней* як кампрэсараў-турбін. У слоўніку [1] 1927 г. *ступень – прыступка, ступень*. У сеціве: “пасля дасягнення зададзенай хуткасці адпрацаваныя *прыступкі* адкідаюцца”. Хаця для ракетных ступеней існуе цэлы артыкул у БелЭн, таму менавіта для гэтага цэльнага тэрміна лагічна пакінуць яго назву. З прыметнікам цяжэй. Бо беларускаму *ступень* адпавядаюць расійскія *степень* і *ступень*. Мабыць, таму назіраецца такая разнастайнасць у слоўніках – *ступянёвы, ступенны, ступеневы*. У [5]: *шматступеневая ракета*.




**мал. 27**

Стыковочный – **стыкоўны**. Тэрмін прыведзены з-за адрознення з крапіўоўскім варыянтам – *стыковачны*. Паводле правілаў словаўтварэння “стыкоўны” – прыметнік ад дзеяслова “стыкаваць”, без канкрэтнай прывязкі да -юч- ці -ем-, што і адпавядае фізічнаму сэнсу з’явы – прызначаны (прыдатны) для стыкавання. Упэўненасці дадае і моўная практыка ў сеціве, якая паказвае невялікую перавагу першага слова (без артыкулаў акадэмічных тлумачэнняў).

Сумерки – **змрок.** У спецыяльным значэнні прадстаўлены ў мэтэаслоўніку [18]: *змрок (грамадзянскі, навігацыйны, астранамічны)*. У БелЭн маецца цэлы артыкул ЗМРОК. Дадамо, што ў «Геаграфічных й касмографічных тэрмінах і назовах нябесных цел» БНТ: *сумерки вечерние — змрокі, зьмярканьне; сумерки утренние — сьвітаньне*.

Сход бомбы (ракеты), сходимость меридианов, сходящиеся курсы – **сыход ракеты, збежнасць мерыдыянаў, збежныя курсы**. Неабходнасць разгляду тэрмінаў звязаная з дэфармацыяй семантыкі пад уплывам іншай мовы. І ўжо ў палове выпадкаў, у тым ліку ў слоўніку Крапівы, сустракаем у адмысловым значэнні *сходимость – сыходнасць* (на пару са *збежнасцю*). ПТС [16] падае *сход, сыходнасць*.

Счетно-решающий – **лічыльна-(вы)рашальны**. Сутракаецца і такі варыянт – *рашаючы*.

Счисление пути і сличение карты (с местностью), считывание информации – **злічэнне шляху** (Гл. Путь) і **зверка мапы** (з мясцовасцю), **счыт(в)анне інфармацыі**. Першы тэрмін – слоўнікі падаюць варыянт *злічэнне.* Другі тэрмін – у слоўніку Язэпчыка [4] – *сличение карты с местностью – зверка карты з мясцовасцю.* Трэці тэрмін – ад слова чытаць.

Съемка – **здымка**. Тэрмін не выклікае цяжкасцяў. Маецца шмат відаў паветраных *съемок*: *аэрафотаздымка, магнітная здымка* і г.д.

Тарелка автомата перекоса – **талерка аўтамата перакосу**. Па -англійску прасцей – паваротная талерка – swash plate**.** У такім выглядзе фіксуецца ў ПТС [16].

Текущий – **бягучы**. Тэрмін прыведзены, як важны і распаўсюджаны ў авіяцыйнай тэрміналогіі, бо з’яўляецца вытворным для шмат якіх авіяцыйных тэрмінаў, але тут няма разыходжанняў у прымяненні гэтага прыметніка, які абазначае асноўную ўласцівасць, характэрную для гэтых расійскамоўных тэрмінаў.

Терять (высоту, скорость, ориентировку, управление). 1. *(параметры)* **губляць вышыню (хуткасць**) 2. *(комплексныя параметры)* **страціць арыентаванне (кіраванне**)**.** Праблема – у сінанімічнасці і аднолькавай частаце ўжывання дзеясловаў “губляць” і “страціць”. “Губляць” тычыцца больш канкрэтных з’яў, прадметаў, а “траціць” – тлумачыць абстрактныя паняцці. Але мяжа тут размытая, бо пытанне стаіць у тым, да якіх – абстрактных ці канкрэтных – аднесці параметры палёту. Прыклады з “павуціння” – “падчас выканання фігур вышэйшага

пілатажу знішчальнік пачаў *губляць вышыню*”, «пад Лідай *страціў кіраванне* і разбіўся самалёт». (Гл. Потеря). У [5]: *терять высоту – губляць в.* .

Течь (масла) – **цеча алівы**. Часта сустракаемы тэрмін, напрыклад, пры ўзнікненні асаблівых выпадкаў у палёце, знайшоў адлюстраванне ў слоўніках. Вось прыклад з інтэрнэту – “У гідрасістэме ўзнікла *цеча*, перагарэлі электрычныя кабелі і самалёт страціў кіраванне”.

Толкающий винт – **штурхальны вінт**. У ПТС [16] 1997 г. знаходзім “винт толкающий – вінт штурхаючы”. Гэтаксама і ў БНТ [9]: “толкающий винт – штурхаючы вінт, штурхаючы шруб”. Але, ведаючы неўласцівасць мове -учы(-ючы), можам зацяміць, што *штурхальнаму* самае месца ў нашай тэрміналогіі! Пацверджанне такой думкі знаходзім у кнізе “Авіягурток” [22]: «…калі вінт ззаду крыльяў, то самалёты з *штурхальным* вінтом…”.

Точечный – 1. точечный удар – **кропкавы ўдар**. Большасць слоўнікаў падаюць у асноўным скалькаванае *кропкавы*. Толькі ў [14] даецца, акрамя варыянта *кропкавы,* варыянт *пунктавы* з пункту гледжання (*точкі* зренія, так бы мовіць!), што нам, беларусам, не ўласціва ўжыванне *кропкі* ў іншых значэннях, акрамя абазначэння пунктуацыі. Тут працягваецца логіка, што ўдар ідзе не суцэльны, а па фізічных “*точках*”( у беларускім варыянце – па асобных *пунктах).* Такім чынам, трактаванне тэрміна-двaістае. З аднаго боку *точечный удар* трактуецца як точный (дакладны), а з іншага – удар па аб’екце, пункце. Узус падказвае, што абсалютная большасць медыяў карыстаюцца менавіта першым варыянтам. 2. точечное попадание – **кропкавае траплянне**. Гаворка ідзе, у адрозненне ад першага выпадку – пра траплянне дакладна ў «арфаграфічную *кропку*», а не проста ў *пункт*. Таму *кропкавае траплянне* мае сінонім – *дакладнае.*

Точка – 1 расчетная точка, точка входа в зону – **разлічаны пункт** (Гл. Расчетный), **пункт уваходу ў зону**. Акадэмічныя слоўнікі адзінадушна ў гэтым значэнні даюць *пункт*. 2. точка прицеливания, точка приземления – **пункт**

**прыцэлу (прыцэльвання), пункт прызямлення** 3. точка росы – **пункт расы**. Тут акадэмічныя слоўнікі таксама адзіныя. Артыкул ПУНКТ РАСЫ маецца ў БелЭн. Але ў інтэрнэце сустракаем выразы кшталту” – “…тэмпература можа панізіцца да такога значэння, што апынецца ніжэй *кропкі* расы” 4. Точка подвески – **крук падвеса, гак падвеса**. Тут проста жаданне адысці ад банальнага калькавання. Хаця ў сеціве сустракаецца калькаванае ад *точки подвески – пункт падвескі*. Традыцыйная *точка подвески* ўяўляе сабой *знадворны бэлечны трымальнік* для мацавання ўзбраення на замкі, а ў самым простым варыянце, які ўжо амаль не сустракаецца, на *крукі*. Таму, карыстаючыся гэтай аналогіяй, распаўсюджваем тэрмін самага галоўнага, змацавальнага (змацоўнага) элемента на ўсю канструкцыю. Але, калі ўжываем “*узел* подвески» (у якасці афіцыйнага тэрміну і роўнаўжыванага “*точке* подвески»), то і кажам – “**вузел падвескі**”. Трэба згадаць, што ў расійскай мове *гака* ў звычайным побыце няма, таму можна канстатаваць, што *гак* (*тормозной)* для самалётаў са скарочаным узлётам-прызямленнем ёсць пазычаным расійскай мовай з беларускай-украінскай моў. І яшчэ – у “беднай” англійскай мове адсутнічае размежаванне між *кропкай* і *пунктам* – толькі point!

Трещина – **расколіна**. З багаццем механічных адпаведнікаў у беларускай мове праблем не стае – трэшчына, расколіна, шчыліна. Падаецца, што больш прымальным будзе менавіта *расколіна* ва ўжытку да аэрадынамічных паверхняў.

Тянущий винт – **цяглав<u>ы</u> (цягнучы) вінт**. Рэдкі выпадак, калі ў слоўніку Крапівы падаецца як авіяцыйны тэрмін *ц<u>я</u>гнучы вінт*. У ПТС [16] 1997 г. адпаведнага тэрміну не знайшлося. У “Тэхнічнай тэрміналёгіі” 1932 г.: *тянущий винт – цягнучы вінт, цягнучы шруб*. Але вось калі да *цягнучага болю*, як традыцыйнага выразу, няма прэтэнзіяў, то чаму мы зноў павінны выкарыстоўваць у новым тэрміне нехарактэрную мове канструкцыю з дзеепрыметнікам, калі на слых гэта ўспрымаецца як *скарастрэльнасць*. Мы павінны заўсёды ўлічваць два фактары – адпаведнасць сэнсу і мілагучнасць слова. Якраз

гістарычны тэрмін *цяглавы* і адпавядае ў нашай мове гэтым двум параметрам, што і зазначае ТСБМ.

Уборка (убрать, убранные, убирающиеся) закрылк*ов(-и)* (шасси і г.д.) і выпуск (выпустить, выпущеные) закрылк*ов(-и)* (шасси і г.д.) – **прыбіранне (прыбраць, прыбраныя, прыбіраныя**) і **выпуск** (**выпусціць, выпушчаныя**). Самае цікавае тое, што ў гэтым разе слоўнік Крапівы не зусім катэгарычны і ў значэнні *спрятать* дазваляе *уборку-убрать* перакладаць як *схаваць*. Таму, як рэзервовы (неафіцыйны) варыянт можа існаваць і сінонім *схаваныя (хаваемыя, нехаваемыя) шасі*, *закрылкі, тармазныя шчыткі* і г.д. Першапачаткова, такая канкурэнцыя існавала і ва ўкраінскай мове, але потым “адолела” *прибирання* (аэродинамических тормозов, конуса, газа і г.д.)// [6]. У беларускай лакалізацыі гульні WarThunder “вынайшлі” наступныя тэрміны: *убирающиеся шасси – высоўныя шасі, неубирающиеся шасси – нерухомыя шасі.* Але варыянт *высоўны* аўтарамі далей не раскрылі. Тады як будзе убрать-выпустить, выпущены (убраны) – усунуць-высунуць, высунутыя-усунутыя?! У [5]: *уборка – прыборка, прыбіранне*. Даведачна – у англійскай мове *убирать шасси* – втягивать, вбирать – retract.

Угловой – 1. (матэматычныя і фізічныя велічыні, геаметрычныя фігуры, аб’екты, размешчаныя пад вуглом) **вуглавы** 2. (размяшчэнне ў прасторы, форма аб’екта) **кутні**. Прыклады: вуглавое паскоранне (хуткасць, частата), *трохвугольнік, вуглавы генератар (рэдуктар), кутні ўдар, прамавугольная сістэма каардынат, трохкутнае крыло*.

Угол атаки – **вугал атакі**. У сеціве сустракаецца і тэрмін *вугал нападу*. Гістарычна *напад* ужываўся беларускімі аўтарамі як тактычны тэрмін, а не аэрадынамічны. Да таго ж, у аднаго аўтара *напад* мог ужывацца разам з *атакай*, то бок непаслядоўна: [26] – «перш *нападае* бамбардзіроўшчык, праз пэўны час *нападае* ША і да т.п.», «*напад* на даны пункт», штурмавая *атака*, «да цэлі *атакі* ША ляціць…». Як аэрадынамічны, тэрмін маецца ў [25]: «*кут атакі* стабілізатара змяншаецца…». Як бачым, ніякай гістарычнай асновы для

ўжывання *нападу*, як аэрадынамічнага тэрміну, няма. Бо атака – такая ж расійская, як і беларуская, то бок запазычаная. Здаецца, што ў гэтым разе замена тэрміну – залішняя і жорсткая мера.

Угол рыскания – **вугал рыскання.** Сустракаецца ў нашых “шэрагах” і “*гойсанне”*, як напрыклад, у вікіпедыі – “Эфект Каанда ўжываецца ў тэхналогіі NOTAR— сістэме кіравання верталётам па *гойсанню*”. Але слоўнік Крапівы падае нам спецыяльны тэрмін *рысканне* ды і ва ўкраінскай прафесійнай лексіцы не сталі эксперыментаваць – *кут рискання*. Гэтаксама і ў “Русско-белорусском словаре для военных” [4]. А вось у [5] чытаем: *рыскание – шныранне*.

Угол скольжения – **вугал слізгання**. Падаюцца два варыянты – *коўзанне, слізганне* – але між імі “рэлігійнага” антаганізму не назіраецца. З вялікай умоўнасцю можна дадаць, што *слізганне* пераважае таму, што ўспрымаецца больш “авіяцыйным” працэсам, бо *слізганне*, як і *скольжение*, адбываецца са змяненнем вышыні-“падзеннем”, тады як *коўзанне* больш ўспрымаецца як гарызантальнае перамяшчэнне. Дадамо, што ўкраінскі варыянт – *кут ковзання.* У [22] чытаем – «…Ліліенталь упяршыню пачаў будаваць плянэр і пачаў рабіць на ім скачкі і *слізгаючыя* палёты». Тэрмін падаецца ў [4]: угол скольжения – вугал слізгання (слізгацення). У ПТС [16]: полет со скольжением – палёт са слізганнем. У кнізе [23] 1931 г: «…адкуль адначасова *коўзаннем* на крыло…»

Угол установки лопастей (мал. 28) – **вугал усталёўкі** лопасцяў. У розных слоўніках прыводзяцца розныя значэнні прымянення слоў *усталяваць* і *ўстанавіць*, часам змешваюцца ў залежнасці ад густу аўтара, але тэндэнцыя размежавання семантыкі гэтых слоў узмацняецца. І калі б было нармальнае ўжыванне мовы ў тэхнічным асяроддзі, то якраз слова “усталяваць” займела б там пануючае становішча. Бо слова *ўсталяваць* мела заўсёды практычнае значэнне для беларусаў. Такім чынам, калі хочаш дзесьці паставіць і замацаваць належным чынам помнік, човен і іншыя канкрэтныя прадметы, то іх *усталёўваюць*! Як і падае нам класічны акадэмічны

слоўнік. А далей, па гэтай логіцы, семантыка слова павінна быць распаўсюджана на канкрэтныя дзеянні авіяцыйнага персаналу з авіяцыйнымі прыладамі, а не калькаваць з расійскай мовы *установить высоту (по прибору), давление (по прибору), закрылки в положение*. Пакінем запазычанае *сілавая ўстаноўка*, *вентылятарная ўстаноўка*. Заўважым, што традыцыйная ўсталёўка (усталяванне) канчаткова набыла значэнне працэсу, а не прадмета.




**мал. 28**

Угол – **вугал**. *Кут* тут выступае чарговым аскепкам – калі параўноўваць з архітэктурай, як застылым адбіткам часу – нашага разбуранага мінулага і “пабудаванага” на яго месцы *вугла* – “храма з лукавіцамі”. Вядома ж, калі звярнуцца да слоўнікаў БНТ, Байкова-Некрашэвіча, то знойдзем на сваім “пачэсным месцы” “мой родны *кут*…як ты мне мілы…”. Для прыкладу, больш цэльна захаваная ўкраінская нацыя (як не дзіўна гэта гучыць у наш час) “адстаяла” “свій кут” і зараз там свой *кут кіравання*! У беларусаў далей пайшло прыблізна наступнае размежаванне: *вугал* – як матэматычны тэрмін, які можна ўжываць да любога абстрактнага ці канкрэтнага вугла; *кут* – унутраны вугал (як абстрактны), у памяшканні, будынку (як канкрэтны); рог – (нематэматычны тэрмін) “место, где сходятся две внешние стороны предмета”, то бок вугал (а дакладней вяршыня ці рабро) у трохвымернай прасторы. У апошнім унармаванні беларускай матэматычнай тэрміналогіі – Матэматычная энцыклапедыя (2001, “Тэхналогія”) – слова “кут” сустракаецца ў наступных тэрмінах: *двугранный (трехгранный, многогранный) угол* — *двухграневы*

*(трохграневы, мнагаграневы) вугал (кут).* Гэта паказвае на тое, што за словам “кут” пакінулі месца ў трохмернай (аб’ёмнай) прасторы, а за словам “вугал” – найперш двухмерную (плоскую) прастору. Крыло, як фізічнае цела, мае аб’ёмную прастору, таму лагічна ўжываць корань -кутнае: *трехугольное крыло – трохкутнае*, *прямоугольное – простакутнае.* Тым больш у 30-гг. так і рабілі: [25] – крыло *простакутнай* формы, «форма шпангоута – *простакутная*».

Удлинение (крыла) – **падаўжэнне** *l.* Чыста аэрадынамічны тэрмін цікавы тым, што ўжо быў асэнсавана ўведзены ў беларускае вымярэнне яшчэ ў 1932 г. – [25].

Указатель і указательный – **паказ(аль)нік і паказ(аль)ны**. Пры далейшым развіцці мовы, згодна з эканоміяй моўных сродкаў, *паказальнік* і *паказальны* пяройдуць у *паказнік* і *паказны*. Яно мірна суіснуе з *паказчыкам*, маючым крыху іншую семантыку. Дарэчы, украінская мова такі эвалюцыйны шлях прайшла і менавіта ў адмысловым значэнні *указатель* па-ўкраінску *показчик*.

Укороченый взлет – **скарочаны**. У дадатак падаюцца крапівоўскія варыянты *укарочаны, пакарочаны*. Прыклад з сеціва – “савецкія ваенна – транспартныя самалёты са *скарочаным* узлётам і пасадкай Ан-72 і Ан-74”.

Умеренная (болтанка, облачность) – **сярэдняя (гайданка, хмарнасць**). Слова-канкурэнт – *умераны* – безумоўна з’яўляецца русізмам і прыцягнутае без неабходнасці.

Управление (полетами, боевыми действиями і г.д.) – **кіраванне.** Тэрмін прыведзены таму, што ў беларускай мове расійскаму *управлению* адпавядаюць два словы – *упраўленне* – у сэнсе адміністрацыі, управы і *кіраванне* – працэс кантролю сістэмы, у якасці якой можа выступаць калектыў людзей, лятак ці група летакоў і г.д. І таму часам сустракаюцца казусы кшталту - “на вучэбным дапаможным пункце ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных Сіл «Волма» (МА). Аўтар памыліўся, пераблытаўшы *упраўленне-працэс* з *упраўленнем-структурным падраздзяленнем* Генеральнага Штаба. Дарэчы, па-ўкраінску

будзе *управління повітряним рухом, управління польотами державних ПС,* але *керівник польотами.*

Управляемый (мал. 29) і управляющий – 1.1 **кіраваны** (калі ідзе гаворка без указання канкрэтнага часу – як прыметнік). 1.2 **кіруемы** (калі гаворка ідзе з прывязкай да канкрэтнага часу ў звязцы суб'ект-аб'ект, то бок выступае дзеепрыметнікам). 2.1 **кіраўнічы** (чалавек) 2.2 **кіравальны** (фізічныя і абстрактныя велічыні). Самалёт стаў *некіруемым* (пілотам), дыстанцыйна *кіраваны* палёт, *кіраваны* (у вертыкальнай плоскасці) вектар цягі, аўтаматычна *кіраваныя* перадкрылкі, высокадакладнае *кіраванае* авіяцыйнае ўзбраенне. Інтэрнэт – "У 22:54, праз 14 секунд пасля паведамлення Карвата пра тое, што самалёт стаў *некіруемым*, СУ-27 разбіўся за кіламетр ад Арабаўшчыны". А вось цікавы дыспут паміж моўнымі "гуру" на сайце – " – ***Ня так*** *усё і проста. Вы самі вышэй пагадзіліся, што калі слова ёсьць у нарматыўным слоўніку, зусім ня факт, што яно не супярэчыць нормам мовы. Напрыклад, у многіх слоўніках прыведзена слова "кіруемы" – але яно пярэчыць нормам беларускага словаўтварэньня. Правільна будзе "кіраваны", аднак гэтае слова ў многіх слоўніках адсутнічае. І такіх прыкладаў – процьма. –* ***У Тлумачальным*** *слоўніку беларускай мовы: кіруемы – гэта 1. дзеепрыметнік залежнага стану цяперашняга часу; 2. "у значэнні прыметніка" – такі, рухам якога можна кіраваць. Нават калі разглядаць "кіруемы" як прыметнік, то нават тады яго паходжанне відавочнае – ён паходзіць ад дзеепрыметніка залежнага стану цяперашняга часу, утворанага пры дапамозе суфікса –ем- .А чаму вы ўжылі суфікс -ан- , утвараючы свой прыметнік "кіраваны"? На якой падставе? Растлумачце, калі ласка. Сапраўды, суфікс -ім- – нехарактэрны для беларускай мовы. Але чаму вы так проста з мосту абвяшчаеце, што трэба ўжываць "кіраваны" ў тым жа самым значэнні, і гэта будзе правільна? Пры дапамозе суфікса -ан- утвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу: прачытаная кніга, разгледжанае пытанне. А нам патрэбен цяперашні час. Памяняць "кіруемы" на "кіраваны" нельга – бо яны выражаюць розны час*

*дзеяння.* – ***Нічога** тлумачыць ня буду. Вось вам у дапамогу прасьцейшая кніга, даступная вашаму розуму: Сіўковіч В.М. Беларуская мова ў пытаньнях, адказах і практыкаваньнях. "Універсалпресс", 2004. Там усё як на пальцах растлумачана”.* Каб зусім было не сумна, слоўнік Судніка падкінуў яшчэ адзін варыянт – *кіроўны*. Але, відавочна, гэта калька з украінскай – *керівний*. На запыт у інтэрнэце атрымалі наступныя адказы – *кіраваны* – 13 900, а *кіруемы* – 1 680. У якасці нагляднасці пабудаванай логікі ўжывём наступную фразу – “*Кіраваны* палёт, *кіруемы* з зямлі, прайшоў паспяхова. *Кіраваная* ракета Р – 70 трапіла ў цэль”. *Неуправляемая авиационная ракета*, адпаведна – *некіраваная авіяцыйная ракета*.




**мал. 29**

Упрежденный угол (дальность), угол опережения (автомата перекоса) і (линейное) упреждение цели (разворота) – **апярэджаны вугал (далёкасць), вугал апярэджання і (лінейнае) апярэджанне цэлі (развароту)**. Зафіксаваны ў [5]: *навядзенне (стральба) з вуглом апярэджання*, *апераджальны ўдар* і інш. *Апярэджанне* падаецца і ў ПТС [16]. У адмысловым значэнні ў тлумачальным слоўніку *упреждение* (як папраўка пры прыцэльванні) не разгледжанае. Па фізічнаму напаўненню *упрежденный* і *опережение* ў дадзеных кантэкстах

аднолькавыя. Таму і адпаведнік *апярэджаны (апярэджанне*) падыходзіць да абоіх.




**мал. 30**

Установившийся (горизонтальный полет, режим полета, вираж, крен) і постоянный (аэрадром, место базирования, готовность**)** (мал. 30) – **усталяваны** і **заўсёдны.** У ПТС [16]: установившийся полет – *палёт, які ўсталяваўся, неустановившийся п. – неўсталяваны п.* . У слоўніку [4] – няма. Рэжым усталяванага палёту існуе ў вобласці першых рэжымаў Крывых Жукоўскага – frontside of the power curve. Адпаведна, існуе рэжым *няўсталяванага* палёту ў вобласці другіх рэжымаў – back side of the drag curve. Кніга Станкевіча [13] на *постоянный* адказвае *сталым* ды *заўсёдным*. У [23]: *постоянная боеготовность – заўсёдная боегатоўнасць, постоянная боевая готовность – сталая б.г.* У кнізе [23] 1931 г.: *заўсёдныя* пошукі выведных звестак, *заўсёдная* пагроза контратакі.

Установка – 1. **усталяванне** (**усталёўка)** (*апературам фізічных велічынь*) ціску, вышыні, курсу, вуглу, закрылкаў, перадкрылкаў, лопасцяў і іншых аэрадынамічных паверхняў у любое становішча, а таксама агрэгатаў на вызначаны вугал 2. **устанаўленне** (устаноўка) (*самастойнае фізічных велічынь,*

*самастойнае і аператарам абстрактных велічынь* – **урону, цэлі, загаданага рэжыму, профілю палёта** і г.д.): “*устанавіўся* такі высокі ціск, што вушы заклала”, “камандзір *усталяваў* курс на Пружаны”, “у працэсе разбегу камандзір *усталяваў* замалы ўзлётны вугал”, “121-ы, ціск, курс *усталяваў*”. 5. установка (устройство) – **устаноўка**: *вентылятарная ўстаноўка, сілавая ўстаноўка, зенітныя ўстаноўкі*. Дадамо, што ва ўкраінскай тэрміналогіі такой разбіўкі на *ўсталёўка-ўстаноўка* няма – *встановлення шкали*. Таму і ў нашай мове будзе адбывацца, лагічна, канкурэнцыя русізма з паступовым, спадзяюся, *усталяваннем* перавагі беларускага слова, акрамя значэння прылады, дзе устаноўка да месца. У [5]: *устанавливать связь – наладжваць, усталёўваць сувязь.*

Установленный – 1. (ціск, хуткасць і іншыя фізічныя велічыні) **усталяваны** 2. (водступы ў баявых шыхах, вертыкальны водступ эшаланавання, мінімум надвор’я, рэжым і г.д.) **устаноўлены**. Рэзервовым варыянтам можа выступаць *загаданы* **(**Гл. Заданный**)**. Прыклады – “на *загаданных* интервалах”, “*загаданы* мінімум надвор’я для лётчыка 3-га класа складае…”. Усё ж, неабходна сказаць, што неабходна рухацца ў бок замены *ўстаноўлены* на *ўсталяваны* (Гл. Угол установки). Ва ўкраінскай мове – *встановлени інтервали ешелоновання*.

Устойчивость і управляемость – **устойлівасць і кіравальнасць**. Сустракаецца і *кіруемасць* (напрыклад, у ПТС [16]) і *кіраванасць*. Цікавы факт вяртання мовы на “круги своя” – у расейска-беларускім слоўніку Крапівы 1953 г., перавыдадзеным у 2002 г., ідзе *кіруемасць,* а вось ужо ў слоўніку Крапівы 2012 г. падаюць *кіравальнасць*! У [4] 1996 г.: *управляемость – кіруемасць, кіравальнасць*, Украінскі варыянт – *стійкість та керованість.* Экскурс у гісторыю – [22] «з надкрыльлямі для папярочнае ўстойлівасці (элеронамі)…».

Устройство і прибор – **прыстасаванне** і **прылада**.. Разгляд “парай” гэтых выразаў звязаны з іх сінанімічнасцю і шырокім ужываннем у авіяцыйнай тэрміналогіі. Бо і тое і другое слова падаецца ў варыянтах *прылада-прыстасаванне* і *прылада-прыбор*. Вырашыўшы, што *прибор – прылада* (Гл. Прибор),

“замацуем” за *устройством* беларускае *прыстасаванне*. Такім чынам, *тормозное устройство – тармазное прыстасаванне*. Астатнія тэрміны “разбітыя” ў самім слоўніку.

«Утка» (*аэрадынамічная схема*) – “**качка**”. Тэрмін у англійскай мове мае назву *canard,* што з’яўляецца прамым запазычаннем з французкай мовы, якое так і перакладаецца – “качка”. Шляхам прамога запазычання з французкай пайшлі і іншыя мовы, напрыклад, сербская. Нашыя суседзі пайшлі шляхам калькавання: польск. “kaczka”, укр. “качка”, рас. “утка”.

Уход (на второй круг, запасной аэродром) і уход стрелки (индекса) – 1. **адыход** (на другі круг, ад цэлі), **сыход на запасны аэрадром** і **адхіленне стрэлкі.** Акадэмічны варыянт дае на *уход* і *отход* адзін адпаведнік – *адыход*. Здаецца, лагічна будаваць гняздо вытворных (у мэтах скрознасці тэрміналогіі) менавіта ад гэтага тэрміна, а не ад *зыход.* Але, калі прааналізаваць узус, то для “ухода на запасной аэродром” у абсалютнай большасці ўжываецца менавіта *сыход*! ТСБМ падказвае, што *зысці (сысці), зышоў* (рас. *сойти, сошел*) ужываецца ў фразах кшталту: *сойти с небес-сысці з нябёсаў, зышоў з рэек*. Гэта паказвае, што носьбіты інтуітыўна правільна ўсведамляюць працэс сыходу на запасны аэрадром, бо і сапраўды гэта – *сыход* ад асноўнага аэрадрома на іншы з наступным зніжэннем. З “уходом стрелки” прасцей – маецца, як тэхнічны тэрмін, і ў акадэмічным слоўніку. У [5]: *помехи, уводящие по дальности (углам) – перашкоды, адхіляльныя па далечыні (вуглах), уводящая помеха – адцягвальная замінка.*

Учебный. Які ж сапраўдны беларускі натуральны эквівалент *учебного?* Рэч у тым, што запазычанне “вучэбны” прыйшло не з-за натуральнай неабходнасці, а праз валюнтарыскае “збліжэнне” адной мовы з другой, праўда, у адным кірунку. У слоўніках Беларускай тэрміналагічнай камісіі яшчэ адсутнічала такая разгалінаваная шматзначнасць паміж *вучэбны* і *навучальны*. Там адназначна на *учебный* падаецца варыянт *навучальны*. Вядома ж, гэта не тычыцца тэрміну *вайсковае вучэнне*, якое ў мове займае вызначанае месца.

Пашанцавала з *учебным годом*, які маецца, акрамя шкаляроў і студэнтаў, яшчэ і ў вайскоўцаў. Самы аўтарытэтны слоўнік Крапівы падае адназначна – *навучальны год*. А вось з тэрмінамі *учебно-тренировочный, учебный, тренировочный складаней.* Яшчэ ў кнізе [23] 1931 г. А.Некрушэвіч паслядоўна ўжывае: *трэніравальны атрад, трэніравальныя палёты, навучальныя і трэніравальныя машыны, трэніроўка*. У "словаре для военных" [4] знаходзім: *учебно-тренировочный – вучэбна-трэніровачны; ~ые средства – вучэбна-трэніравальныя сродкі; у. полёт – вучэбна-трэніровачны палёт; у. самолёт – вучэбна-трэніровачны самалёт*. А ў пурыстычным [5] 1997 г. зноў: *навучальна-баявы, навучальна-трэніравальны*. Таму ў сусветнай павуціне назіраем наступнае: "Але кожны *навучальны* самалёт каштуе каля 400 тыс. эўра", "Прызначаны для базіраваньня, выкананьня *навучальна-трэніравальных* палётаў", "*вучэбна-трэніровачныя* верталёты" (МА), "Загінуў 23 мая 1996 года пры выкананні *вучэбна-трэніровачнага* палёту" – і тут жа – "23 мая 1996 года Карват выконваў *навучальна-трэніровачны* палёт па практыкаванню…". Як сказаў герой Ражкова з "Уральскіх пельменяў" – "так как-же мне относиться к тебе?". Як бачым, "учебно-тренировочный" праяўляе сябе ў беларускай сеткавай "рэальнасці" ва ўсім "крэатыве": *вучэбна-трэніровачны* (1990 адказаў), *вучэбна-трэніравальны* (537), *навучальна-трэніровачны* (839), *навучальна-трэніравальны* (1020). Сустрэўся і варыянт – *трэнавальны*. Падобна, што слова ўзята пад уплывам украінскага *тренувальний,* хоць і цалкам натуральнае нашаму словаўтварэнню (без -ірав-). Таму цяжка пагадзіцца з акадэмічнай нормай *трэніровачны*. Бо калі браць пад увагу, у якіх умовах пісаліся слоўнікі і тое, хто ужывае слова "трэніравальны", а гэта людзі-"спартанцы", якія з ідэйных меркаванняў размаўляюць па-беларуску і знарок больш глыбока дакопваюцца да прычынна-выніковых сувязяў у моўных працэсах, то без усялякіх ваганняў выбар падае на *трэніравальны*, як адзіную форму. Такі ж аналіз са словамі *вучэбны* і *навучальны* правесці нельга, бо яны абодва прысутнічаюць і размяжоўваюцца семантычна ў акадэмічным

слоўніку Крапівы. Размежаванне не зусім дакладна акрэсленае і блытанае, але ўсё ж. Па класіцы, “навучальны” больш адносіцца да з’явы, фізічна звязанай з працэсам навучання. Напрыклад, “навучальны працэс”, “навучальны год”. “Вучэбны” ж мае два варыянты тлумачэння. Першы, усё, што звязана з арміяй. І тут, мне здаецца, проста адбылося чарговае перастрахаванне гуманітарыяў, не звязаных з вайсковай справай. Кшталту – “а хто вас ведае, чым вы там займаецеся, калі вучыцеся?!”. Таму і адмятаю гэты варыянт, які зноў блытае. Другі варыянт, зноў не да канца паслядоўны, але праяўляецца ў тым, што тэрмінам *вучэбны* імкнуцца надзяліць проста нейкія фізічныя “абалонкі”, прызначаныя для навучання. Думаецца, гэта правільна, каб перастаць блытацца. Параўнаем акадэмічную і прапануемую “простую” логікі: *вучэбны* батальён, *вучэбны* самалёт, *вучэбная* стральба – *навучальны* батальён, *вучэбны* самалёт, *навучальная* стральба. Такім чынам, калі нам “навязалі” дадатковае слова і прыцягнулі яго за “вушы” ў выніку русіфікацыйных працэсаў, без якога мы маглі б абысціся, то трэба ім па-гаспадарску скарыстацца. Не выкідваць жа! Калі гэтую “простую” логіку распаўсюджваць скрозна, то выключэннем будуць толькі папяровыя *учебные* дакументы: учебное пособие – навучальны дапаможнік. Такім чынам, робім наступныя высновы: 1. учебно-тренировочный полет – **навучальна-трэніравальны палёт** 2. учебно-тренировочный самолет – **вучэбна-трэніравальны самалёт** 3**.** учебные сборы (командиров звеньев и отрядов) – **навучальныя зборы.** І ў дадатак – у англійскай мове трэніравальнаму палёту (акрамя уласна training flight) адпавядае і практыкавальны – exercise flight!

Ущерб объекта (потребный для достижения заданной степени поражения) – **шкода аб’екту** (неабходная для дасягнення загаданай ступені ўшчэнту). Практычны беларускі вайсковы слоўнік 1927 г. падае: *ущерб* – 1) *ушчэрбак, страта*, *шкода*. А "словарь для военных” 1996 г. сьвярджае, што: *ущерб – шкода*, *урон*; *страта: возместить у. – пакрыць (вярнуць) страту*. І ў [5] 1997 г. знаходзім: *ущерб – шкода* (ж.р.*), страта* (ж.р.), *наносить у. – прычыняць шкоду*. Як бачна, аптымальны

варыянт – шкода аб’екту. Уяснение задачи – **уразуменне задачы**. Слоўнік Крапівы без прывязкі да спецыялізацыі падае *ўсведамленне* і *ўразуменне*. У [4] *уяснение – усведамленне (ср.), уразуменне (ср.); у. боевой задачи – усведамленне баявой задачы.* У слоўніку Судніка [5] ў спецыяльным значэнні адзначана *ўразуменне задачы*.

Фильтр, фильтровать, фильтрующий– **фільтр** [фільт*а*р], (цэдаль), **цадзіць** (адцэжваць), **цадзільны** (адцэжвальны). Той выпадак, калі пры наяўнасці ўласных сродкаў мовы адбылося запазычанне з іншай мовы. Таму неабходна адраджаць занядбанае роднае слова, якое з’яўляецца дэвербатывам і паходзіць ад усім нам знаёмага *цадзіць*. Адразу ўспомнілася бабуліна – “ідзі вазьмі цадзільнік (у арыгінале гучала як “йды-но взмы цыдільнык”-Маларыцкі р-н, в. *Добрусово*).

Фонарь (мал. 31) – **ліхтар** (*разм.* шклян). Вельмі цікавы тэрмін з розных пунктаў гледжання. Па-першае, тэрмін не дастаткова кадыфікаваны (толькі ў ПТС [16]: фонарь (ав.) – ліхтар). У [5] гаворка пра *электрычны фонарь – ліхтар* і *фонарь “летучая мышь” – ліхтар “кажан”.* Тэрмін запатрабаваны ў медыях. І на сённяшні дзень абсалютным лідарам у друку з’яўляецца варыянт калькі – *ліхтар*. Ці мае яно быць ў беларускай мове? ТСБМ падае адно з блізкіх да шуканага намі значэнняў *ліхтар* – “Шкляны праём у даху для натуральная асвятлення памяшкання, (звычайна прамысловага), а таксама зашклёны выступ у будынку. [Ад ням. Licht — святло.]”. БелЭн раскрывае яго падрабязней, але таксама як архітэктурныя элементы. Аналагічныя – архітэктурныя – значэнні мае *фонарь* і у расійскай мове. Таму цалкам лагічным з’яўляецца экстрапаляцыя “зашклёнага выступу ў будынку” на зашклёны выступ кабіны. Тады тэрмін ОЧФ – *адкідны аскепак ліхтара ААЛ*. Як альтэрнатыўны, можна разглядаць уласна беларускі варыянт *шклян* – вытворная ад старабеларускага слова “шкляніца”, якое зараз адсутнічае ў сучаснай беларускай мове і азначала шкляную пасудзіну. Бо сучасныя *фонари* зроблены са шкла (аргшкла, плексігласа). Дарэчы, сярод беларусаў шмат прозвішчаў Шклян (Шклянік). Ва ўкраінцаў (у [6] 2004 г.)

знаходзім “ліхтар”, у палякаў – baldachim. Па-англійску фонарь → навес – canopy. У французкай мове *фонарь* для француза напамінае – *вітраж* – verrière! Другое значэнне гэтага слова ў французскай – шкляны! Цікавым з’яўляецца італьянскае ўяўленне пра такое “шкло” як аб купале – cupolino. Што тычыцца *козырька-брыля*, то, па-першае, ён узнік раней за *фонарь* (тады суцэльнага шклення кабіны не было), па-другое, яго назва – траплянне ў сутнасць функцыянавання такога прыстасавання і параўнанне з традыцыйным *козырьком-брылём* галаўнога ўбору – цалкам лагічнае.




**<u>мал. 31</u>**

Хлопок (аэродинамический) (<u>мал. 32</u>) – **воплеск**. У такім значэнні ні ў адным слоўніку не падаецца. У большасці выпадкаў беларускія *воплескі* – (то бок *апладысменты*) адпавядаюць традыцыйным *хлопкам* (рукамі). Але ў сеціве прасочваецца тэндэнцыя да замацавання слова і ў значэнні *хлопка* як *звукового__удара* (не абавязкова рукамі) – «Бока абышоў тое месца, куды ён упаў, раптам пачуў ззаду моцны *воплеск*, што нагадваў выбух». Чым і скарыстаемся!

Ход (<u>мал. 33</u>) – 1. **ход** – пасадка з ходу, атака цэлі з ходу. 2. ход (*разм.* хада) педаляў (панożaў).

Целостность обшивки – **цэласць абшыўкі**. Крапівоўскі варыянт падае *цэласнасць*. Як і “словарь для военных” 1996 г. (у іншым значэнні): территориальная ц. – тэрытарыяльная цэласнасць. Аднак калі параўнаць у ТСБМ значэнні “цэласнасць” і “цэласць”, то 2-і варыянт пасуе значна больш. Тым больш у С. Станкевіча [13] знаходзім: <u>*цэласць*</u>, *суцэльнасць*.



**<u>мал. 32</u>**




**<u>мал. 33</u>**

Цель – **цэль**. У інтэрнэце сустракаецца варыянт і *мэта*: “радыёлакацыйнай выведкай Узброеных Сіл Украіны быў страчаны кантакт з *мэтамі*”, “спатрэбіцца абмежаваць час палёту да *мэты*”, “а таксама з авіяцыйных гармат па наземных *мэтах*” (МА). Але слоўнік Крапівы займае адназначную пазіцыю – у значэнні *мішэнь* выкарыстоўваць *цэль*. Ды й у слоўніку 1927 г. [1] *воздушная цель – паветраная цэль*. У [26] 1933 г. знаходзім «дзействы па наземных *цэлях*», «відзімасць *цэлі*», «дзействуе па рухомых і жывых *цэлях*». *У* [5]: *появляющаяся (точечная) ц. – узнікальная (кропкавая) ц.* Магчыма, пры нармальным развіцці мовы і вайсковай справы на сваім падмурку, адбылося б натуральнае пераасэнсаванне абстрактнай *мэты* ў канкрэтную *мэту-мішэнь*. Логіка простая – у бальшыні выпадкаў *цель-мэта* вайскоўца – знішчыць ці ўшчэнчыць аб’ект. То бок ідзе вобразнае звязванне *цели-мэты* і аб’екта. І ў гэтым разе акадэмічны слоўнік проста канстатаваў бы факт, што мішэнь – гэта мэта. Але ён канстатаваў іншае – сучасная вайсковая справа беларускай не стала і дагэтуль! Дарэчы, у англійскай мове і мішэнь, і цэль абазначаюцца адным тэрмінам – target. Другое пытанне з гэтым тэрмінам – род *цэлі*. Цікавай падаецца думка носьбіта мовы, то бок маёй жонкі, якая не спецыяліст у вайсковай справе – на яе думку інтуітыўна больш натуральным для вайсковай справы з’яўляецца менавіта мужчынскі род *цели – цэлю*. Выраз *“цель в обзоре” – “цэль у аглядзе”*.

Центр давления (крыла) – **цэнтр ціску**. Як беларускі тэрмін, быў ужыты ўжо ў 1932 г. – [25].

Часовой расход, часовой пояс, часовая стрелка – **гадзінны выдатак, гадзінны пояс, гадзіннікавая стрэлка**. *Часовой* у беларускай мове мае міжмоўны амонім *часавы*, таму назіраецца некаторая блытаніна з тэрмінамі такога кшталту. Расійскаму *часовой* адпавядаюць два тэрміны: *гадзінны*, калі раглядаецца адзінка часу-гадзіна, і *гадзіннікавы* – датычна механізмаў гадзінніка. Беларускаму ж

*часавы* адпавядае *временной*: *временной режим – часавы рэжым*. Ёсць яшчэ прыметнік *временный – часовы*.

Чашка кресла – **лёжка крэсла**. Тэрмін *чаша* ў расійскай мове мае адно са значэнняў – плотніцкіх – паглыбленне ў бервяне, выдзяўбанае для ўкладання наступнага бервяна пры будаванні зруба. Дык вось, форма гэтага паглыблення і форма "чашы" пілотнага крэсла і сапраўды вельмі падобныя (каля выйняць адтуль парашут, на якім сядзіць лётчык). Гэта дае нам падставы зрабіць такое параўнанне і ў беларускай мове. А ў нашай мове такая рэч носіць назву *лёжка*.

Число оборотов двигателя – **абаротнасць** (**хуткасць абаротаў)**, **колькасць абаротаў рухавіка**. У ТСБМ знаходзім слова "абаротнасць" – колькасць абаротаў (кола, вала і пад.) за пэўны прамежак часу: высокая абаротнасць матора. Даведачна, у англійскай адпаведнік *абаротнасці* – гэта рухавіковая хуткасць – engine speed.

Член (экипажа) – **член экіпажу**. Ёсць яшчэ блізкі яму *чалец*, але ён выкарыстоўваецца традыцыйна ў значэнні *член* арганізацыі (як у [17]), але ніяк не ў значэнні прафесійнага тэрміна *член (экіпажа*). Часам ў інтэрнэце сустракаем *чалец* менавіта ў такім значэнні – "Усе тры *чальцы* экіпажу загінулі". Такі варыянт падае і слоўнік Судніка [3]. Але гэта не ёсць сучаснай тэндэнцыяй. Што да экіпажа, то яшчэ існуе варыянт *залога*.

Шаг винта (рулевого, несущего) (мал. 34) – **крок вінта**. Взятие шага **на** себя – узяцце крока **да** сябе. Общий шаг – **злучаны крок**. Гэты тэхнічны і аэрадынамічны тэрмін ужо мае сваю гісторыю ў беларускай мове. У "Тэхнічнай тэрміналогіі" 1932 г. знаходзім "шаг (винта) – шаг". У якасці тэхнічнага тэрміна гэты варыянт выкарыстоўваецца і дагэтуль. А ў [25] знаходзім факт яго ўжывання ў адмысловым значэнні – «пропэлеры з сярэднім *шагам*». С. Суднік у сваім слоўніку [4] падае даволі цікавую і слушную наступную прапанову: *шаг* II (резьбы) – *поступ, перыяд*, ш. зубчатого колеса – *поступ* зубчатага кола. Цікавы англійскі адпаведнік – collective pitch.

А колькім значэнням слова pitch адпавядае ў самой англійскай мове – знойдзеце самі!




**мал. 34**

Шасси – **шасі**. Тэрмін цікавы фактамі засваення яго беларускамоўнымі аўтарамі 30-х гг. Такімі прыкладамі з'яўляюцца наступныя лексемы з [22] – «*шасі* – моцны на колах *вазок*, на якім месьціцца корпус самалёта», «добра складзены фюзеляж павінен добра стаяць на стале пры дапамозе *полаза* і *шасі*», «даўжыня дзвюх задніх *упор шасі* і даўжыня пярэдніх *упор*…».

Швартовка і швартовочный – 1. (працэс) **швартаванне.** 2. (прадмет) **швартоўка, швартавальны**. (Гл. аэродинамическая компановка). Зафіксаваны ў [4] 1996 г.: *швартование – швартаванне; швартовка – швартоўка, ~ка самолёта – швартоўка самалёта*.

Щелевой закрылок (мал. 35) – **шчылінны закрылак**. З багаццем інтэрпрэтацыі ў беларускім разуменні таксама праблем не стае. І паходжанне тэрмін можа мець *і ад расколіны, і ад адтуліны, і ад трэшчыны,* не перакручваючы пры гэтым сэнс. Але тут няма неабходнасці вынаходзіць "кола", бо менавіта *щели* ў беларускай мове адпавядае *шчыліна*, што і зафіксавана.




**мал. 35**

Электрожгут – **электравітка**. У “Тэхнічнай тэрміналогії” 1932 г., “словаре для военных” 1996 г., РБС Байкова-Некрашэвіча 1925 г. маюцца такія варыянты: *жгут (азбестовый) – жгут, скрутак, джгут, бізун*; (из соломы для связки снопа) *вязьмо, вясло, пярэвесла*. Можна, вядома ж, пакінуць і *электражгут*, але ж чаму не надаць народнаму слову тэхнічны сэнс. Кароткае, ёмістае слова *вітка* і азначае жгут з прутоў (правадоў).

Электронное перекрестие – **скрыж(-аванне).** Тэрмін аднолькавым падаецца ў “словаре для военных” [4] і слоўніку С.Судніка [5]: *перекрестье – скрыжаванне*.

Эшелон і эшелонирование – **эшалон** і **эшаланаванне.** У кнізе [23] 1931 г.: “эшалёнаваньне ў вышыню”, “лётны эшалён”. Тэрмін падае “Ваенны руска-беларускі слоўнік” 1933 г.: “*эшелонирование – эшалёнаваньне*”. А ў акадэмічным слоўніку [19] і “словаре для военных” [4] знаходзім – *эшаланіраванне (*войск, абароны, самалётаў). Успрымем гэта, як адбітак савецкага часу і вернемся да беларускіх вытокаў – *эшаланаванне*. Цікава інтэрпрэтуе гэты тэрмін С.В. Суднік, які параўноўвае эшалон са *стадыяй*, з чым аўтар не згодны. Бо ў нашым разе гэта не *стадыя*, а разгрупаванне (раздзяленне) вышынь на аднолькавыя інтэрвалы. Што тычыцца наземнай *стадыі*, як групы войскаў, то, магчыма, аўтар тэрміну мае рацыю. У англійскай мове тэрмін эшалон азначае раздзяленне – seperation. Невялікі факт, якім мы можам ганарыцца і казаць, што развіццё зноў набыло свой гістарычны кірунак – з захаду на ўсход. Бо міжнародную сістэму

эшаланавання ў футах мы ўвялі раней за Расійскую Федэрацыю. Але дабавім – дагэтуль Беларусь адзіная з краін Еўропы, разам з Расійскай Федэрацыяй, не з’яўляецца чальцом Еўракантролю. На мапе гэта выглядае, як выбіты зуб!

II. Раздзел

# РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК АВІЯЦЫЙНЫХ ТЭРМІНАЎ

**Тлумачэнні:**

**авіяапырск(валь)нік, антыабледзяняльнік** → антыаблёднік

– скарочаная форма – авіяапырскнік, антыаблёднік.

(Р.І) – тэрмін разгледжаны ў І-м раздзеле

(Р.ІІІ) тэрмін прыведзены ў ІІІ-м раздзеле, у Спісе авіяцыйнай літаратуры па-беларуску.

**Скарачэнні:**

*арг.*, *аэрд., гіст., метэа., навіг., пілат., пошук., такт., тэхн., узбр., фіз., электр.,* – **тэрміны**: арганізацыйны, аэрадынамічны, гістарычны, метэаралагічны, навігацыйны, пілатавання, пошука-выратавальнага забеспячэння, тактычны, тэхнічны, авіяцыйнага ўзбраення, фізічны, электратэхнічны.

*дзпр.* – дзеепрыметнік

*ж*. – жаночы род

*канстр*. – канструктыўны элемент, канструкцыя

*мн.* – множны лік

*наз.* – назоўнік

*прым.* – прыметнік

*разм.* – размоўнае слова

*род.* – родны склон

*розн.* – у розных значэннях

*устар.* – устарэлае

*ф. пілатажу* – фігура пілатажу

*верт* – верталётная тэхніка

АВАР//ИЙНОСТЬ **аварыйнасць**; //ИЯ **аварыя**.

АВИА//БАЗА **авіябаза**; //БОМБА **авіябомба**; //ГОРИЗОНТ **авіягарызонт**: дублирующий (резервный і г.д.) а. **дублюючы (рэзервовы** і г.д.) **а.**; //ГОРОДОК **авіягарадок**; //ДВИГАТЕЛЬ **авіярухавік**; //ДИВИЗИЯ **авіядывізія**; //ДИСПЕТЧЕР **авіядыспетчар**; //ЗАВОД **авіязавод**; //ЗВЕНО (Р.І) **авіязвяно**; //КАТАСТРОФА **авіякатастрофа**; //КОНСТРУКТОР **авіяканструктар**; //ЛАЙНЕР **авіялайнер**; //ЛИНИЯ **авіялінія**; //МАТКА **авіяматка**; //НОСЕЦ **авіяносец**.

АВИАОПРЫСКИВАТЕЛЬ **авіяапырск(валь)нік**.

АВИА//ЧАСТЬ (Р.І) **авіячасць**; //ШКОЛА **авіяшкола**; //ЭСКАДРИ́ЛЬЯ (Р.І) **авіяэскадрылля** і інш.

АВИАТОР **авіятар**.

АВИАЦИЯ **авіяцыя**: а. непосредственной авиационной поддержки **а. непасрэднай авіяцыйнай падтрымкі (АНАП)**, бомбардировочная а. **бамбавальная а. (БА)**, гражданская а. (Р.І) 1. **грамадзянская а.** 2. *такт.* **цывільная а**., дальнебомбардировочная а. **далёкабамбавальная** (Р.І) а., истребительная а. **знішчальная а. (ЗА),** разведывательная а. **выведвальная** (Р.І) **а.,** сухопутная а. **сухапутная** (Р.ІІІ) **а.**, транспортная а. **транспартная а. (ТрА),** штурмовая а. **штурмавая а.** і інш. .

АВИЕТКА *устар.* **авіетка.**

АВТОБЛОКИРОВКА **аўтаблакаванне**.

АВТОЖИР **аўтажыр**.

АВТОМАТ// **аўтамат**: а. балансировки **а. балансавання,** а. дозирования топлива **а. дазавання паліва**, а. загрузки **а. загрузкі,** а. защиты сети **а. аховы сеткі (ААС)**, а. перекоса (несущего винта) **а. перакосу**, а. приемистости **а. рэзкасці** (Р.І), а. продольной устойчивости самолета **а. падоўжнай устойлівасці самалёта (АПУС)**; //ИКА бортовая **аўтаматыка бартавая**.

АВТОПИЛОТ **аўтапілот**.

АВТОРОТАЦИЯ **аўтаратацыя**: а. винта **а. вінта** (Р.І), а. двигателя **а. рухавіка** і інш. .

АВТОСОПРОВОЖДЕНИЕ **аўтасуправаджэнне**; а. цели **а. цэлі** (Р.І).

АГИТСАМОЛЕТ **агітсамалёт**.

АГРЕГАТ **агрэгат**; топливно-масляный а. **паліва-маслены** (Р.І) **а. (ПМА)**; топливозаправочный а. **палівазапраўны а**., командно-топливный а. **каманднa-паліўны а.**, комбинированный а. управления **камбінаваны а. кіравання,** рулевой а. **рулявы а.** (Р.ІІІ) і інш. .

АЗИМУТ **азімут**: а. воздушного судна **а. летака** (Р.І).

АЗОТ сжатый **азот сціснуты**.

АККУМУЛ//ИРОВАНИЕ **акумуляванне**; //ИРУЮЩИЙ 1. *прым.* **акумулявальны** 2. *дзпр*. **акумулюючы**; //ЯТОР **акумулятар**: топливный а. **паліўны а.**, воздушно-гидравлический а. **паветрана-гідраўлічны а.**, емкостной а. **ёмісты а.** і інш.

АКСЕЛЕРОМЕТР **акселерометр**.

АЛЬТИМЕТР *устар.* **альтыметр** (вышынямер).

АМОРТИЗА//ТОР **амартызатар**; //ЦИЯ шасси **амартызацыя шасі.**

АМФИБИЯ (*тып гідрасамалёта*) **амфібія.**

АНГАР **ангар**: а.-укрытие **а.-сховішча**, а.-хранилище **а.-сховішча**.

АНТЕННА **антэна**: выдвижная (всенаправленная, зеркальная, зонтичная, многоцелевая, направляющая, направленная, передающая, помехозащищенная, следящая, штыревая) а. **высоўная (усюдынакіраваная**, **люстэркавая**, **парасоністая**, **шматшчылінная**, **накіравальная** (Р.І), **накіраваная**, **перадавальная**, **перашкодаахавальная**, **сачыльная** (Р.І), **прутковая** (Р.ІІІ)**) а.** і інш.

АНТИДЕМПФИРОВАНИЕ **антыдэмпфаванне**.

АНТИОБЛЕДЕНИТЕЛЬ (Р.І) **антыабледзяняльнік** → антыаблёднік.

АНТИЦИКЛОН **антыцыклон**.

АППАРАТ// **апарат:** беспилотный летательный а. **беспілотны лятальны а. (БЛА),** летательный аппарат легче воздуха (тяжелее воздуха) **лятальны аппарат лягчэйшы за**

**паветра (цяжэйшы за паветра)**, винтокрылый а. **вінтакрылы а.** дистанционно-пилотируемый летательный а. **дыстанцыйна-пілатаваны лятальны а. (ДПЛА),** входной направляющий а. **уваходны накіравальны а. (УНА)** (Р.І)**,** регулируемый направляющий а. **рэгуляваны накіравальны а**., сопловой а. **саплавы а**. спрямляющий а. **спрамляльны а.** спускаемый а. **спускальны а.**; //УРА **апаратура**: а. опознавания **а. апазнавання** (Р.І), засекречивающая а. связи **засакрэчвальная а. сувязі (ЗАС)** і інш. .

АППАРЕЛЬ **апарэль**.

АРРЕТИР// **арэцір**; //ОВАНИЕ авиагоризонта **арэтаванне авіягарызонта** (Р.І).

АС (*лётчык, лётнік* (Р.І)) **ас**, штукар.

АСТРО//ИНЕРЦИАЛЬНЫЙ **астраінэрцыйны** (Р.І); //КОРРЕКЦИЯ **астракарэкцыя**; //НАВИГАЦИОННЫЙ **астранавігацыйны**; //НАВИГАЦИЯ **астранавігацыя**.

АТАКА *такт.* **атака**: а. с горизонтального полета, **а. з гарызантальнага (па)лёту,** а. с ходу **а. з ходу** (Р.І), а. с пикирования **а. пікіраваннем,** а з кабрирования **а. кабрыраваннем**, скрытая а. **утоеная** (Р.І) **атака**.

АТМОСФЕРА **атмасфера**: стандартная международная а. **стандартная міжнародная а.** .

АЭРО//БУС **аэробус**; //ВОКЗАЛ **аэравакзал**; //ДИНАМИКА **аэрадынаміка**; //ДИНАМИЧЕСКИЙ **аэрадынамічны**.

АЭРО//КЛУБ **аэраклуб**; **//**МЕХАНИКА **аэрамеханіка**; **//**НАВТИКА **аэранаўтыка**; //ОПРЫСКИВАТЕЛЬ **аэраапырсквальнік→аэраапырскнік**; //ПЛАН **аэраплан**; //ПОРТ **аэрапорт**.

АЭРО//СТАТИКА **аэрастатыка;** //СЪЁМКА **аэраздымка**; //УЗЕЛ **аэравузел**; //УПРУГОСТЬ **аэрапругкасць**; //ФИНИШЁР **аэрафінішор**.

АЭРОДРОМ **аэрадром**: а. взаимодействия **а. узаемадзеяння**, а. государственной авиации (гражданской авиации) **а. дзяржаўнай авіяцыі (грамадзянскай** (*такт.* **цывільнай**) (Р.І) **авіяцыі**), а. дозаправки **а. дазапраўкі**, а.

засады **а. засады** (P.I), а. манёвра **а. манеўра** (P.I), а. назначения (промежуточной посадки, конечной посадки) **а. прызначэння (прамежкавай пасадкі, канцавой пасадкі)**, а. оперативного рассредоточения **а. аператыўнага** (P.I) **разгрупавання** (P.I), а. погрузки **а. пагрузкі (пагрузу)**, а. подскока **а. падскоку**, а. совместного базирования (совместного использования) **а. супольнага базавання** (P.I) (**супольнага (вы)карыстання)**, внеклассовый (временный, гражданский, грунтовый, запасной, ложный, оперативный, основной, передовой, полевой, постоянный, стационарный, тыловой) а. **пазакласавы (часовы**, **цывільны** (P.I), **грунтавы**, **запасны, падманны**, **аператыўны** (P.I), **асноўны**, **перадавы**, **палявы**, **заўсёдны** (P.I), **стацыянарны**, **тылавы) а.**, *навіг.* запрограммированный а. **запраграмаваны а. .**

АЭРОСТАТ **аэрастат**; а. воздушного заграждения **а. паветранай загароды** (P.I), а. наблюдения **а. назірання**, автоматический а. **аўтаматычны а.**, дрейфующий а. **дрэйфуючы а**., неуправляемый (управляемый) а. **некіраваны (кіраваны) а.** (P.I), пилотируемый а. **пілатаваны а.** (P.I), привязной а. **прывязны а**., свободный а. **вольны а**. (P.I).

АЭРОФОТО//РАЗВЕДКА **аэрафотавыведка** (P.I); //СЛУЖБА **аэрафотаслужба**; //СНИМОК **аэрафотаздымак**; //СЪЕМКА **аэрафотаздымка** (P.I).

БАГАЖ **багаж** (P.III).

БАЗ//А **база**: авиационная б. **авіяцыйная б. (АБ)**, *тэхн.* б. шасси **б. шасі**; //ИРОВАНИЕ **базаванне** (P.I): б. авиации **базаванне авіяцыі**; //ИРОВАТЬСЯ **базавацца**.

БАК **бак**: б. увеличенной емкости **б. павялічанай ёмістасці**, дополнительный топливный б. **дадатковы паліўны б**., жесткий ударобезопасный б. **цвёрды ўдарабяспечны б.**, крыльевой б. **крылавы б.** (P.I), мягкий б.-отсек **мяккі б.-адсек**, подвесной топливный б. **падвесны паліўны б. (ПТБ)**, подфюзеляжный б. **падфюзеляжны б. (ПФБ)**, расходный б. **выдатковы б**. (P.I), сбрасываемый б. **скідны б.** сливной б. **зліўны б**. .

БАЛАНСИР// **баланcір** (Р.І); //ОВКА **балансаванне** (Р.І): б. продольная **б. падоўжнае** і інш.

БАЛКА **бэлька**: килевая б. **кілявая б**., концевая б. **канцавая б**., хвостовая б. **хваставая б**. і інш. .

БАЛЛАСТ **баласт**.

БАЛЛИСТИКА **балістыка**: внешняя б. **вонкавая б.**, внутренняя б. **унутраная б.** .

БАЛЛОН *тэхн*. **балон**: кислородный б. **кіслародны б.**

БАЛЛОНЕТ **баланэт**: надувной б. **надзіманы б.** .

БАРАБАН *тэхн*. **барабан**: *узбр*. патронный б. **патронны б**., *тэхн*. тормозной б. **тармазны б**. .

БАРО//КАМЕРА **баракамера**; //МЕТР **барометр**; //ТРАВМА **баратраўма**.

БАРОГРАММА **бараграма**: б. полёта **б. палёту**.

БАРРАЖИРОВА//НИЕ **баражаванне**; //ТЬ **баражаваць**.

БАРЬЕР *аэрд*. **бар'ер**: звуковой б. **гукавы б.**

БАТАЛЬОН **батальён**: б. аэродромного и материального обеспечения **б. аэрадромнага і матэрыяльнага забеспячэння (БАМЗ)**, б. связи и радиотехнического обеспечения **б. сувязі і радыётэхнічнага забеспячэння (БСРТЗ)**, б. технического обеспечения **б. тэхнічнага забеспячэння (БТЗ).**

БАТАРЕЯ *тэхн*. **батарэя**: аккумуляторная б. **акумулятарная б. (АКБ).**

БАФТИНГ **бафтынг**: б. крыла **б. крыла**.

БАЧОК **бачок**: расширительный б. **пашыральны б**., дренажный б. **дрэнажны б**.

БЕДСТВИЕ (Р.І) (*сігнал*) **ліха**.

БЕЗОПАСНОСТЬ ПОЛЕТОВ **бяспека палётаў**.

БЕЗОТКАЗНОСТЬ **безадмоўнасць**.

БЕСПИЛОТНИК *разм.* (Р.І) **беспілотнік**, **дрон**.

БЕСПЛАМЕННЫЙ **беспалымяны**.

«БЕСХВОСТКА» *аэрд.* **«бясхвостка»**.

БИПЛАН **біплан**: б. Буземана **б. Бузэмана**.

БИЕНИЕ *тэхн.* **біццё**: б. ручки управления **б. ручкі** (Р.І) **кіравання** і інш.

БЛИСТЕР **блістар**: сдвижной б. **ссоўны б.**

БЛОК **блок**: б. предельных регуляторов **б. гранічных** (Р.І) **рэгулятараў (БГР)**, б. сигнализации готовности **б. сігналізацыі гатоўнасці**, б. сопряжения **б. спалучэння,** б. управления и индикации **б. кіравання і індыкацыі** і інш.

БЛОКИРАТОР **блакіратар→блакатар**; б. оружия **б. зброі**.

БЛОКИРОВ//АНИЕ *такт*. **блакаванне**: б. аэродрома **б. аэрадрома**; //КА *тэхн*. **блакаванне**: б. пуска (сброса) **б. пуску (зкіду)**.

БОЕ//ГОЛОВКА **боегалоўка**; //ГОТОВНОСТЬ **боегатоўнасць**; //КОМПЛЕКТ **боекамплект**; //ПИТАНИЕ **боезабеспячэнне**.

БОЕПРИПАС **боепрыпас**: кассетный (куммулятивный, осколочный, зажигательный і г.д.) б. **касетны (кумулятыўны, асколкавы, запальны** і г.д.) **б.**; *такт.* расчётный б. **разліковы б.** (Р.І).

БОЕСПОСОБНОСТЬ **баяздольнасць**.

БОЙ **бой**: ближний б. **блізкі б**. (Р.І), дальний б. **далёкі б**. (Р.І), воздушный б. **паветраны б.** .

БОЛЕЗНЬ **хвароба**: высотная б. **вышынная х.** .

БОЛТАНКА **гайданка**: слабая (умеренная, сильная) б. **слабая (сярэдняя** (Р.І), **моцная) г.** .

БОМБА **бомба**: авиационная (агитационная, бетонобойная, дымовая, зажигательная, коректируемая, ориентирно-сигнальная, объемно-детонирующая, осколочно-фугасная, противотанковая, светящаяся (световая), фотоосветительная і г.д.) б. **авіяцыйная (агітацыйная, бетанабойная, запальная, карэктаваная** (Р.І), **дымавая, арыенцірна-сігнальная** (Р.І**), аб'ёмна-дэтануючая, асколка(ва)-фугасная, супрацьтанкавая, асвятляльная** (светлавая) (Р.І), **фотаасвятляльная** (Р.І) і г.д.) **б.**

БОМБАРДИР//ОВАНИЕ 1. *такт*. **бамбаванне** (Р.І) 2. *арт.* **бамбардаванне**; //ОВКА 1. *такт.* **бамбаванне** 2. *арт.* **бамбардаванне**.

БОМБАРДИРОВАТЬ 1. *такт*. **бамбаваць** (Р.І) 2. *арт.* **бамбардаваць**;

БОМБАРДИРОВЩИК **бамбавальнік** (Р.I): тяжелый (пикирующий, фронтовой) б. **цяжкі (пікіруючы, франтавы) б.** і інш.

БОМБЁЖКА *разм.* **бамбёжка.**

БОМБИТЬ *разм.* **бамбіць** (Р.I).

БОМБО//ДЕРЖАТЕЛЬ **бомбатрымальнік**→бамбатрым; //ИСКАТЕЛЬ **бомбашукальнік**→бамбашук, бомбашукач; //ЛЮК **бамбалюк**; //МЕТАНИЕ **бомбакіданне**: тактическое б. **тактычнае б.** (Р.I); //ОТСЕК **бомбаадсек**; //СБРАСЫВАТЕЛЬ **бомбаскідальнік**; //УБЕЖИЩЕ **бамбасховішча**→бамбасхоў.

БОРТ//ИНЖЕНЕР **бортінжынер**; //МЕХАНИК **бортмеханік**; //ОПЕРАТОР **бортаператар**; //ПРОВОДНИК **бортправаднік**; //РАДИСТ **бортрадыст**; //СТРЕЛОК **бортстралец** (Р.I); //ЖУРНАЛ **бортжурнал** (Р.III) і інш. .

БОРЬБА *такт.* **барацьба**: радиоэлектронная б. **радыёэлектронная б.**

БОЧКА *ф. пілатажу* **бочка**: быстрая (восходящая, горизонтальная, замедленная, медленная, многократная, нисходящая, одинарная, полуторная) б. **хуткая (узыходная** (Р.I)**, гарызантальная, запаволенная, павольная, шматразовая, сыходная** (Р.I), **адзінарная, паўтарачная) б.**

БРОНЕ//ПРОБИВАЕМОСТЬ **бронепрабівальнасць**; //СТЕКЛО (Р.I) 1. *канстр.* **браняшыба** 2. (*уласцівасць шкла*) **браняшкло**; //защита **бронеахова**; **//**КАБИНА **бронекабіна**.

БРОСАТЬ **кідаць**.

БРОСОК **кідок**.

БУКСИР// **буксір**; //ОВКА **буксіроўка**: б. воздушного судна **б. летака** (Р.I).

БУССОЛЬ **бусоль**.

БУСТЕР **бустар**: быстроизнашивающийся (быстроразъемный, быстрорежущий, быстросъемный і г.д.) б. **хутказношваемы (хуткараздымны, хуткарэз(аль)ны, хутказдымны** і г.д.) **б.**

БЮЛЛЕТЕНЬ ПОГОДЫ **бюлетэнь надвор’я**.

БЮРО **бюро**: опытно-конструкторское б. **доследна-канструктарскае б.** центральное метеорологическое б. **цэнтральнае метэаралагічнае б.**

ВАЛ *тэхн.* **вал**: в. несущего винта **в. пад'ёмнага вінта** (Р.І), в. первого (второго) каскада **в. першага (другога) каскаду**, в. ротора низкого давления (высокого давления) **в. ротара нізкага ціску (высокага ціску)**, в. трансмиссии **в. трансмісіі**. ведомый в. **вядзёны в.** (Р.І), ведущий в. **вядучы в.** (Р.І), внешний в. **вонкавы в.** (Р.І), внутренний в. (верхнего несущего винта) унутраны **в. (верхняга пад'ёмнага вінта)**, главный в. **галоўны в.**, концевой в. **канцавы в.**, коленчатый в. **каленцавы** (Р.І) **в.**, полый (пустотелый) **парожні** (Р.І) **(пустацелы) в**. (Р.І), ступенчатый в. **ступеневы** (Р.І) **в.,** телескопический в. **тэлескопны в**. і інш.

ВАЛЁЖКА *аэрд.* **валёжка.**

ВАРИАНТ **варыянт**: в. боевых действий авиации **в. баявых дзеянняў авіяцыі**, в. подвески **в. падвесаў** (Р.І), в. снаряжения (боеприпасами) **в. набо*я*** (Р.І) **боепрыпасаў, в. набівання (набо*ю*) боепрыпасамі.**

ВАРИОМЕТР **варыёметр.**

ВВЕРХ (*набор вышыні*, *каманда*) **угару**.

ВВОД *такт.* **увод**: одновременный (последовательный) в. в бой **адначасовы (паслядоўны) у. у бой**.

ВДОГОНКУ *такт.* **уздагон**.

ВЕДЕНИЕ *такт*. **вядзенне**: в. боя **в. бою**.

ВЕКТОР// **вектар**: в. ветра **в. ветру**, в. воздушной (путевой) скорости **в. паветранай (шляхавай)** (Р.І) **хуткасці** (Р.І), изменяемый в. тяги **зменны в. цягі** і інш.; //ЕНИЕ *навіг.* **вектарэнне**.

ВЕНТИЛЯ//ТОР **вентылятар**; //ЦИЯ **вентыляцыя**: в. кабины **в. кабіны**.

ВЕНТИЛЬ **вентыль**.

ВЕРОЯТНОСТЬ **імавернасць**: доверительная в. **давяральная і.** в. выполнения боевой задачи (поражения цели, обнаружения, атаки, выхода на цель, преодоления ПВО (огневого противодействия) і г.д.) **і. выканання баявой задачы**

(**ушчэнту** (Р.І) **цэлі** (Р.І)**, выяўлення** (Р.І), **атакі**, **выхаду на цэль**, **пераадолення СПА** (**агнявога супрацьдзеяння**) і г.д.).

ВЕРТОДРОМ **вертадром**.

ВЕРТОЛЕТ **верталёт** (Р.І): вертолет-корректировщик **верталёт-карэктавальнік** (Р.І), боевой (военно-транспортный, многоцелевой, поисково-спасательный, разведывательный і г.д.) в. **баявы (ваенна-транспартны, шматмэтавы** (Р.І), **пошука(ва)-(вы)ратавальны, выведвальны** (Р.І) і г.д) **в.**, в. общего назначения (одновинтовой (продольной, соосной) схемы і г.д.) **в. агульнага прызначэння (аднавінтавой (падоўжнай, сувосевай) схемы** і г.д.).

ВЕРТОЛЕТОВОЖДЕНИЕ **верталётніцтва** (**верталётаваджэнне**) (Р.І).

ВЕРТОЛЕТ И ДВИГАТЕЛЬ (*служба*) **верталёт і рухавік (ВР)**.

ВЕС// **вага**: взлётный **(**полный і г.д.) в. **узлётная (поўная** і г.д.) **в.**; **//**Ы *мн.* аэродинамические **вагі аэрадынамічныя**.

ВЕТЕР **вецер**: встречный (метеорологический, навигационный, попутный, штилевой і г.д.) в. **сустрэчны (метэаралагічны, навігацыйны, (с)падарожны** (Р.І), **штылявы** і г.д.) **в.**

ВЕТРОЧЕТ **ветралік** (ветралічыльнік).

ВЕЩЕСТВО **рэчыва**: взрывчатое в. **выбуховае р.**

ВЗЛЕТ// **узлёт**: вертикальный (укороченный) в. **вертыкальны (скарочаны** (Р.І)) **в.**, в. по-самолетному (по-вертолетному) **в. па-самалётнаму (па-верталётнаму)**; //ЕТЬ **узляцець**.

ВЗОРВАТЬ// **узарваць**; //СЯ **выбухнуць**.

ВЗРЫВ// **выбух**; //АТЕЛЬ **узрывальнік**: бесконтактный в. **безкантактны** (безкантактавы) **у**. //АТЬ **узрываць**; //АТЬСЯ (і)**рвацца**.

ВЗРЫВОБЕЗОПАСНОСТЬ **выбухабяспека**.

ВИБРАЦИЯ **вібрацыя**: в. двигателя **в. рухавіка**.

ВИД 1. (*вонкавы абрыс*) **выгляд**: в. сбоку (спереди, сверху і г.д.) **в. збоку (спераду, зверху** і г.д.) 2. (*пейзаж*) **краявід** 3. (*тып*) **від**: в. воздушного боя **в. паветранага бою**.

ВИДИМОСТЬ **бачнасць** (P.I): вертикальная (взлётная, посадочная полетная, метеорологическая, наклонная і г.д.) в. **вертыкальная (узлётная, пасадачная, (па)лётная, метэаралагічная, нахільная** (P.I) і г.д.) **б.** в. на ВПП **б. на УПП.**

ВИДОИСКАТЕЛЬ **відашук(альнік), відашукач**.

ВИЗИР// **візір**: оптический (оптико-электронный, радиолокационный) в. **аптычны (оптыка-электронны, радыёлакацыйны) в**.; //ОВАНИЕ цели **візіраванне цэлі** (P.I).

ВИЛКА (P.I) 1. *тэхн*. **рожкі** (P.I): в. крепления лопасти **р. мацавання лопасці** 2. *узбр. (электр.)* **рожкі**: в. прицела **р. прыцэла** (P.I).

ВИ́НТ (P.I) *аэрд.* **вінт**: в. изменяемого шага **в. зменнага кроку** (P.I), верхний (задний, нижний, передний) несущий в. **верхні (задні**, **ніжні**, **пярэдні) пад'ёмны в.** (**вінт-носьбіт**) (P.I), воздушный (двухлопастный, двухшаговый, рулевой, соосный, толкающий, тянущий, хвостовой, флюгерный і г.д.) в. **паветраны (дву(х)лопасцевы**, **дву(х)крокавы** (P.I), **рулявы**, **сувосевы**, **штурхальны** (P.I), **цяглавы** (P.I), **хваставы**, **флюгерны** і г.д.) **в.**, вращающийся в. **абаротны в. (в., які круціцца)** (P.I), облегченный в.: 1. *аэрд.* **аблегчаны в.** 2. (*лёгкі*) **палегчаны в.**; (*водны*) гребной в. **вяслярны в.** (P.I).

ВИНТОКРЫЛ **вінтакрыл.**

ВИРАЖ (P.I) **віраж**: глубокий в. **глыбокі в**., мелкий в. **плыткі в.**, правильный в. **правільны в.**, предельный в. **гранічны в.** (P.I), смещенный в. **ссунуты в.**, установившийся (неустановившийся) в. **усталяваны (неўсталяваны) в**. (P.I) і інш.

ВИХРЬ (P.I) *аэрд.* **віхор**: присоединённый **в. прыяднаны в.**, свободный в. **вольны в.** (P.I).

ВКЛЮЧАТЕЛЬ **уключальнік**.

ВЛАГОЗАЩИТА **вільга(це)ахова**.

ВЛАЖНОСТЬ **вільгаць**: относительная (абсолютная і г.д.) в. воздуха **адносная (абсалютная** і г.д.) **в. паветра**.

ВМЯТИНА **увагнутасць**.

ВНЕ ЗОНЫ влияния земли **па-за зонай уплыву зямлі**.

ВОЕННО-ВОЗДУШНЫЕ СИЛЫ и войска противовоздушной обороны **Ваенна-паветраныя сілы і войскі супрацьпаветранай абароны**.

ВОЗВРАТ НА ТОЧКУ *навіг.* (Р.І) **зварот на вышку**.

ВОЗВЫШЕННОСТЬ **узвышша**.

ВОЗГАРАЕМОСТЬ **узгаральнасць**.

ВОЗДУХ **паветра**: разреженный (Р.І) в. **рэдкае п**.

ВОЗДУХО//ПЛАВАНИЕ **паветраплаванне**; //УЛАВЛИВАТЕЛЬ **паветраўлоўнік**.

ВОЗДУХОЗАБОРНИК **паветразаборнік**: осесимметричный (плоский і г.д.) в. **восесіметрычны (плоскі** і г.д.) **п.**

ВОЗМОЖНОСТИ **магчымасці**: боевые в. авиации **баявыя м. авіяцыі**.

ВОЗМУЩЕНИЕ **абурэнне**: в. (*рост давления*) от крыла **а. (*рост ціску*) ад крыла**, атмосферное в. **атмасфернае а.** (Р.І)**.**

ВОЙСКА **войскі**: зенитно-ракетные в. **зенітна-ракетныя в.** і інш.

ВООРУЖАТЬ **узбройваць** (Р.І).

ВООРУЖЕНИЕ **ўзбраенне**: авиационное (бомбардировочное, стрелково-пушечное і г.д.) в. **авіяцыйнае (бамбавальнае** (Р.І), **стралкова-гарматнае** (Р.І) і г.д.) **у.**

ВОСПЛАМЕН//ЕНИЕ 1. *кімсьці (чымсьці)* **запальванне** 2. *самастойнае* **узгаранне** //ИТЕЛЬ **запальнік**; //ЯЕМОСТЬ **узгаральнасць**.

ВОСПРЕЩЕНИЕ *такт.* **прадухіленне**: авиационное в. выдвижения и развертывания **авіяцыйнае п. высоўвання і разгортвання**.

ВОССТАНОВЛЕНИЕ ОРИЕНТИРОВКИ **аднаўленне арыентавання** (Р.І).

ВОСХОДЯЩИЙ *дзпр.* **узыходны** (Р.І).

ВОСЬМЕРКА *ф. пілатажу* **васьмёрка**: горизонтальная (вертикальная) в. **гарызантальная (вертыкальная) в**.

ВПРЫСК *тэхн.* **упырск**.

ВРАЩ//АТЕЛЬНЫЙ *прым.* **вярчальны**; //ЕНИЕ **кручэнне**: в. несущего винта (двигателя) **к. пад’ёмнага** (Р.І) **вінта (рухавіка)**, инерционное в. **інэрцыйнае к.**

ВРЕМЯ **час**: в подготовки (к повторному вылету) **ч. падрыхтоўкі (да паўторнага вылету)**, в. наработки на отказ **ч. напрацоўкі на адмову**, в. полета **ч. палёту,** всемирное скоординированное в. **сусветны скаардынаваны ч**. (UTC), оперативное в. **аператыўны** (Р.І) **ч**., подлетное в. **падлётны ч.,** расчетное в. прилета (прибытия) **разлічаны** (Р.І) **ч. прылёту (прыбыцця**), стартовое в. **стартавы ч.,** характеристическое в. **характарыстычны ч.** і інш.

ВСПЛЫВАНИЕ ЭЛЕРОНОВ *аэрд*. **усплыванне элеронаў**.

ВСПУЧИВАНИЕ (резинового покрытия) **успучванне (гумовага покрыва)**.

ВСПУХАНИЕ (*на посадке)* **успушванне**.

ВСПЫШКА **ўсполах**.

ВСТУПАТЬ В БОЙ ИЗ УКРЫТИЯ **уступаць** (рушыць) **у бой са сховішча**.

ВТУЛКА **утулка** (галава) (Р.І): в. несущего (хвостового) винта **г. пад’ёмнага (хваставога) вінта**, шарнирная (упругая, жёсткая) в. **шарнірная (пругкая, цвёрдая** (Р.І)**) г**.

ВХОД **уваход**: в. в разворот (штопор і г.д.) **у. у разварот (штопар** і г.д.), осевой в. **восевы у**. і інш.

ВЫБЕГ РОТОРА **выбег ротара.**

ВЫБРОС// **выкід**: в. парашюта (веществ) **в. парашута (рэчываў)**, //КА десанта **выкід(ванне) дэсанту.**

ВЫВ//ЕСТИ из строя *тэхн*. **звесці** (Р.І); //ЕДЕН из строя **зведзены**.

ВЫВЕСТИ В ГОРИЗОНТ *пілат*. **вывесці ў гарызонт** (Р.І).

ВЫВИНЧИВАНИЕ **выкручванне**.

ВЫВОД из строя *ступень ушчэнту (па тыпу Б)* **звод** (Р.І).

ВЫДАТЬ **выдаць**: в. боеприпасы **в. боепрыпасы**.

ВЫДЕРЖИВАНИЕ **вытрымліванне**: в. высоты (глиссады, места в строю, режима і г.д.) **в. вышыні (глісады, месца ў страі, рэжыму** і г.д.).

ВЫДЕРНУТЬ ЧЕКУ **вырваць загваздку** (Р.І).

ВЫЖИВАЕМОСТЬ *такт.* **выжіва(ль)насць**.

ВЫЖИВАНИЕ **выжыванне**: в. экипажа воздушного судна **в. экіпажа** (Р.І) **летака** (Р.І).

ВЫЖИДАНИЕ *такт.* **чаканне**.

ВЫЗОВ авиации *такт.* **выклік авіяцыі**.

ВЫКАТЫВАНИЕ (за пределы ВПП) **выкат (выкочванне) за межы УПП.**

ВЫКОЛОТКА *тэхн.* **выбівачка**.

ВЫЛЕТ **вылет**: боевой в. **баявы в.,** в. по вызову **в. па выкліку**.

ВЫПОЛНИТЬ (Р.І) **выканаць, здзейсніць**: в. боевую задачу (авиационное прикрытие) **выканаць баявую задачу, (авіяцыйнае прыкрыццё** (Р.І)), в. посадку **здзейсніць прызямленне (пасадку)** (Р.І), "выполняйте посадку" **"выконвайце пасадку"**.

ВЫПУСК// **выпуск**: в. закрылков (шасси, механизации і г.д.) **в. закрылкаў (шасі, механізацыі)**; //АЮЩИЙ *спецыяліст* **выпускальнік**.

ВЫПРЯМИТЕЛЬ *тэхн*. **выпрам(ляль)нік.**

ВЫРАБОТКА **выпрацоўка**: в. топлива **в. паліва**, в. двигателя **в. рухавіка**.

ВЫРАВНИВАНИЕ *аэрд*. **выраўноўванне.**

ВЫРУЛИВА//НИЕ **вырульванне**; //ТЬ **вырульваць**.

ВЫСАДКА ДЕСАНТА **высадка** (высаджванне) **дэсанта**.

ВЫСОКОПЛАН **высокаплан**.

ВЫСОТ//А **вышыня** (Р.І): в. полета (нижней границы облаков, относительно аэродрома, облачности, относительно цели, перехода, принятия решения, рельефа, эшелона) **в. палёту (ніжняй мяжы хмар** (Р.І)**, хмарнасці** (Р.І), **адносна аэрадрома, адносна цэлі** (Р.І)**, пераходу, прыняцця рашэння, рэльефа, эшалона),** абсолютная (барометрическая, безопасная, динамическая, истинная, относительная, расчётная, текущая) в.

**абсалютная (бараметрычная, бяспечная, дынамічная, сапраўдная** (Р.І), **адносная** (Р.І), **разліковая** (Р.І)**, бягучая** (Р.І)) **в.,** минимальная в. снижения **мінімальная в. зніжэння;** //Ы *мн.* **вышыні**: предельно малые (малые, средние, большие) в. **гранічна** (Р.І) **малыя (прыземныя), малыя, сярэднія, вялікія) в.**

ВЫСОТНОСТЬ **вышыннасць** (Р.І): в. топливной (гидравлической і г.д.) системы **в. паліўнай (гідраўлічнай** і г.д.) **сістэмы,** в. двигателя **в. рухавіка**.

ВЫСОТОМЕР **вышынямер**: кодирующий в. **кадавальны в.**

ВЫСТРЕЛ// **стрэл**; //ИТЬ **стрэліць**.

ВЫХОД **выхад**: в. на заданный объект (цель і г.д.) **в. на загаданы** (Р.І) **аб'ект (цэль** і г.д.).

ВЫШКА **вышка** (Р.І): диспетчерская в. **дыспетчарская в.**

ГАЗ **газ**: разреженный (отработанный, сжиженный і г.д.) **рэдкі (адпрацаваны, звадкаваны** і г.д.) **г.**

ГАЗ малый (*рэжым рухавіка)* **газ малы**.

ГАЗОГЕНЕРАТОР **газагенератар**.

ГАЗООБРАЗОВАТЕЛЬ **газаўтваральнік**.

ГАЙДРОП **гайдроп**.

ГАЛСИРОВАНИЕ *такт., пошук*. **галсаванне**.

ГАРГРОТ **гаргрот**.

ГАРНИТУРА **гарнітура**: головная г. **галаўная г**., г.-ларингофон **г.-ларынгафон** і інш.

ГАСИТЕЛЬ ПУЛЬСАЦИЙ **гасільнік пульсацый**.

ГАШЕНИЕ (*змяншэнне*) **гашэнне**: г. колебаний (купола парашюта, флаттера і г.д.) **г. ваганняў (купала парашута, флатара** і г.д.).

ГАШЕТКА **гашэтка**: г. микроконцевых выключателей **г. мікраканцавых выключальнікаў** і інш.

ГЕЛИКОПТЕР **гелікоптэр**.

ГЕНЕРАТОР **генератар**: г. вихрей **г. віхроў** (Р.І), *электр.* г. постоянного (переменного) тока **г. пастаяннага (пераменнага) току** і інш.

ГЕРМЕТИ//ЗАЦИЯ **герметызацыя**: г. кабины **г. кабіны**, г. створок **г. счынаў** (Р.I) і інш.

ГЕРМЕТИК **герметык**.

ГЕРМО//КАБИНА **гермакабіна**; //ШЛЕМ **гермашлем** (Р.I).

ГЕРМОВЫВОД **гермавывад**: г. тяг управления **г. цяг кіравання**.

ГИДРАВЛИКА **гідраўліка**.

ГИДРО//БАК **гідрабак**; //БЛОК **гідраблок**; //ЗАМОК **гідразамок**; //ПЛАН **гідраплан**; **//**САМОЛЁТ **гідрасамалёт**; //ПРИВОД **гідрапрывод** (Р.I) і інш.

ГИДРО//УДАР **гідраўдар;** //УПОР **гідраўпор.**

ГИДРОСИСТЕМА **гідрасістэма**: бустерная (общая, дублирующая, двойная і г.д.) г. **бустарная (агульная, дублюючая, падвойная** і г.д.) **г**., г. двигателя **г. рухавіка** і інш. .

ГИДРОУСИЛИТЕЛЬ **гідраўзмацняльнік:** г. системы управления **г. сістэмы кіравання**, г. поперечного (продольного, путевого) управления **г. папярочнага (падоўжнага, напрамкавага** (Р.I)**) кіравання**, необратимый г. **незваротны г**. .

ГИДРОЦИЛИНДР СПИСЫВАНИЯ ЭЛЕРОНОВ **гідрацыліндр спісання элеронаў**.

ГИПЕРЗВУК **гіпергук**.

ГИПОДИНАМИЯ **гіпадынамія**.

ГИРО//АЗИМУТ **гіраазімут**; //ВЕРТИКАЛЬ **гіравертыкаль**; //КОМПАС **гіракомпас**; //ПОЛУКОМПАС **гірапаўкомпас**; //СКОП **гіраскоп**; //СТАБИЛИЗАЦИЯ **гірастабілізацыя**.

ГЛИССАДА **глісада**: г. снижения **г. зніжэння**.

ГЛУБИНА *такт.* **глыбіня**: г. базирования авиации **г. базавання** (Р.I) **авіяцыі**, г. боевых действий **г. баявых дзеянняў**, оперативная (тактическая) г. **аперацыйная** (Р.I) (**тактычная**) г.

ГЛУШИТЕЛЬ **глуш(ыль)нік**.

ГОД учебный **год навучальны** (Р.I).

ГОЛОВКА *тэхн.* **галоўка**: тепловизионная г. самонаведения **цеплавізійная г. саманаводная (ЦГСН)**, г.

набора канала (волны) **г. набору канала (хвалі)**, г. цилиндра **г. цыліндра** і інш.

ГОНДОЛА **гандола**: г. двигателя **г. рухавіка**, г. шасси **г. шасі** і інш.

ГОРЕНИЕ **гарэнне:** вибрационное г. **вібрацыйнае г.**

ГОРИЗОНТ (Р.I) 1. *становішча ЛА* **гарызонт** 2. *метэа.* **небасхіл**: естественный (местный, видимый, световой) г. **прыродны (мясцовы, бачны, светлавы) н.** 3. *тэхн.* искусственный г. **штучны небасхіл**.

ГОРИЗОНТАЛЬ **гарызанталь**: строительная г. фюзеляжа **будаўнічая** (Р.I) **г. фюзеляжа.**

ГОРКА *аэрд., пілат.* **горка**: г. с торможением (с разгоном, на постоянной скорости і г.д.) **г. з тармажэннем (з разгонам, на пастаяннай** (сталай) (Р.I) **хуткасці** і г.д.).

ГОРЮЧЕЕ **паліва** (Р.I).

ГОСПОДСТВО В ВОЗДУХЕ (Р.I) **панаванне ў паветры**.

ГОТОВНОСТЬ **гатоўнасць**: г. дежурных сил **г. дзяжурных сіл**, боевая (постоянная, повышенная, полная) г. **баявая (заўсёдная** (Р.I), **павышаная, поўная) г.**

ГОФР// **гофр**; //ИРОВАНИЕ **гафраванне**; //ИРОВАННЫЙ **гафраваны.**

ГРАДИЕНТ **градыент**: вертикальный г. температуры **вертыкальны г. тэмпературы**, барический г. **ціскавы** (Р.I) **(барычны) г**.

ГРАНИЦА (Р.I) **мяжа**: нижняя г. облачности **ніжняя м. хмар** (Р.I) **(НМХ)** верхняя г. облачности **верхняя м. хмар (ВМХ)**, г. действия разрешения **м. дзеяння дазволу**, г. слышимости, **м. чутнасці** і інш.

ГРЕБЕНКА (*вилка*) *электр*. **грэбень (вілка).**

ГРЕБЕНЬ 1. *тэхн.* **грэбень**: аэродинамический (подфюзеляжный) г. **аэрадынамічны (падфюзеляжны) г**. 2. *метэа.* **грэбень**: г. антициклона **г. антыцыклону**.

ГРУЗ 1. *фізічны аб'ект* **цяжар**: г. (*болванка*) на внешней подвеске **ц. на знадворным** (Р.I) **падвесе** (Р.I)**,** балансировочный г. (Р.I) **балансавальны цяжар,** центровочный

г. **цэнтравальны ц.,** 2. *маёмасць* **груз**: г. на внешней подвеске **г. на знадворным падвесе**, полезный г. **карысны г.**

ГРУЗО//ВМЕСТИМОСТЬ **грузаёмістасць**; //ПОДЪЕМНОСТЬ **грузападымальнасць** (Р.І).

ГРУНТ подстилающий **грунт падсцілачны** (Р.І).

ГРУППА 1. *калектыў* **група**: демонстрационная группа **дэманстрацыйная г**., г. руководства полетами **г. кіраўніцтва палётамі (ГКП)**, г. планирования применения авиации **г. планавання і (вы)карыстання авіяцыі (ГПВА)**, г. тактического взаимодействия и управления **г. тактычнага ўзаемадзеяння і кіравання (ГТУК)**, г. обеспечения безопасности десантирования **г. забеспячэння бяспекі дэсантавання**, г. обеспечения полетов **г. забеспячэння палётаў**, г. тактического назначения **г. тактычнага прызначэння (ГТП),** спасательная парашютно-десантная г. **(вы)ратавальная парашутна-дэсантная г.** і інш. 2. *тэхн.* **група**: посадочная радиомаячная г. **пасадачная радыёмаячная г.** (**ПРМГ**).

ГРУППИРОВКА **групоўка** (Р.І).

ДАВЛЕНИЕ **ціск**: атмосферное (гидродинамическое, избыточное, остаточное, рабочее, расчетное і г.д.) д. **атмасферны (гідрадынамічны, залішні** (Р.І), **рэштавы, рабочы** (Р.І), **разлічаны** (Р.І) і г.д.) **ц**., приведенное д. QNH **прыведзены ц. QNH**, стандартное д. QNE **стандартны ц. QNE,** д. аэрадрома QFE **ц. аэрадрома QFE**, д. на грунт **ц. на грунт**.

ДАЛЬНОМЕР (Р.І) **дальнамер.**

ДАЛЬНОСТЬ (Р.І) **далёкасць**: д. полета (действия, поражения, базирования і г.д.) **д. палёту (дзеяння, ушчэнту** (Р.І), **базавання** (Р.І) і г.д.), метеорологическая (полетная) д. видимости **метэ(а)ралагічная (палётная) д. бачнасці,** упрежденная д. **апярэджаная** (Р.І) **д.**

ДАННЫЕ *наз. 1.* **дадзеныя**: прицельные, (расче́тные, справочные, центровочные) д. **прыцэльныя (разлічаныя** (Р.І), **даведачныя, цэнтравальныя) д.,** тактико-технические д. **тактыка-тэхнічныя д.** 2. *вывед.* данные (Р.І) **звесткі**.

ДАТЧИК **датчык:** инерционный д. **інэрцыйны д.** струйный д. **струменны д.** і інш.

ДВЕРЬ-ТРАП **дзверы-трап**.

ДВИГАТЕЛЬ **рухавік**: авиационный (вертолетный, газотурбинный (прямоточный) воздушно-реактивный, жидкостно-реактивный, ротативный, турбореактивный, турбовинтовой і г.д.) д. **авіяцыйны (верталётны, газатурбінны (прамацечны) паветрана-рэактыўны, вадкасна-рэактыўны, рататыўны, турбарэактыўны, турбавінтавы** і г.д.) **р.,** базовый (боковой, внешний, внутренний, двухкаскадный, двухвальный, двухроторный, двухконтурный, крыльевой, подкрыльевой) **базавы (бакавы, знадворны (*ці* вонкавы)** (Р.І)**, унутраны, двухкаскадны, двухвальны, двухротарны, двухконтурны** (Р.І)**, крылавы, падкрылавы** (Р.І)) **р.**

ДВИЖЕНИЕ **рух**: аэродромное д. **аэрадромны р**., *верт.* боковое д. **бакавы р**., маховое д. лопастей **махавы р. лопасцяў**, *аэрд.* вихревое д. **віхравы р.** (Р.І), возвратно-поступательное д. **зваротна-пастyпальны р**., неустановившееся д. **неўсталяваны р**., общее воздушное д. GAT **агульны паветраны р. GAT**, операционное воздушное д. OAT **аперацыйны паветраны р. OAT.**

ДВИЖИТЕЛЬ **рухач** (Р.І).

ДВУХКИЛОМЕТРОВКА *разм*. **двухкіламетроўка**.

ДЕВИАЦИЯ **дэвіяцыя**: д. авиационной конструкции **д. авіяцыйнай канструкцыі**, магнитная д. **магнітная д.**

ДЕЖУРНЫЙ *наз*. **дзяжурны**: д. по приему (выпуску) воздушных судов **д. прымання** (Р.І) **(выпуску) летакоў** (Р.І) **(ДПВЛ)**, оперативный д. **аператыўны** (Р.І) **д.**

ДЕЖУРСТВО **дзяжурства**: д. в воздухе **д. у паветры**, боевое д. **баявое д.**

ДЕЗОРГАНИЗАЦИЯ *ступень ушчэнту па тыпу С* **дэзарганізацыя**.

ДЕЙСТВИ//Е **дзеянне**: поражающее д. **ушчэнтавае** (Р.І) **д**.; //Я *мн.* **дзеянні**: боевые д. **баявыя д.** (Р.І)**,** военные д. 1. *форма аперацыі* **вайсковыя д.** (Р.І) 2. **ваенныя д.** (Р.І).

ДЕКОДИРОВАНИЕ **дэкадаванне**.

ДЕКОМПРЕССИЯ **дэкампрэсія**.

ДЕЛЬТА//ДРОМ **дэльтадром**; //ПЛАН **дэльтаплан.**

ДЕМПФЕР **дэмпфер**: д. тангажа **д. тангажу,** фрикционный д. **фрыкцыйны д**., д. шимми **д. шымі** і інш.

ДЕМПФИРОВАНИЕ **дэмпфаванне**: аэродинамическое д. **аэрадынамічнае д.**

ДЕРЖАТЕЛЬ **трымальнік**: д. бомбардировочного вооружения **т. бамбавальнага** (Р.І) **узбраення**, балочный д. **бэлечны т.** (Р.І).

«ДЕРЖИТЕ КУРС НА…» (*каманда*) **«трымайце курс на…» .**

ДЕСАНТ **дэсант**: воздушный д. **паветраны д.** і інш.

ДЕСАНТИРОВАНИЕ **дэсантаванне**: д. воздушного десанта **д. паветранага дэсанта**, десантирование по знакам (по картам) **д. па знаках (па мапах** (Р.І)**)**.

ДЕСТАБИЛИЗАТОР **дэстабілізатар**: д. управляемой ракеты **д. кіраванай** (Р.І) **ракеты**.

ДЕФЕКТ скрытый **дэфект прыхаваны** (Р.І).

ДЕФЛЕКТОР **дэфлектар**: д. закрылка **д. закрылка**, защитный д. катапультного кресла, **ахоўны д. катапультнага крэсла**.

ДЕФОРМАЦИЯ **дэфармацыя**: остаточная (упругая) д. **рэштавая (пругкая) д.,** д. растяжения (сдвига, сжатия, среза) **д. расцягу (зруху, сціску, зрэзу).**

ДЕШИФРИРОВАНИЕ **дэшафраванне**.

ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ **дзейнасць**: аэропортовая д. **аэрапартавая д.**

ДИАПАЗОН **дыяпазон**: трансзвуковой д. **трансгукавы д.**, эксплуатационный д. высот и скоростей **эксплуатацыйны д. вышынь і хуткасцяў** (Р.І).

ДИВЕРГЕНЦИЯ *аэрд.***дывергенцыя**: д. крыла **д. крыла.**

ДИЗЕЛЬ-ГЕНЕРАТОР **дызель-генератар**.

ДИНАМИКА ПОЛЁТА **дынаміка палёту**.

ДИРИЖАБЛЬ **дырыжабль**: жёсткий (мягкий) д. **цвёрды** (Р.І) **(мяккі) д.**

ДИСКОПЛАН **дыскаплан**.

ДИСКРЕТНОСТЬ ЧАСТОТЫ **дыскрэтнасць частаты**.

ДИСПЕТЧЕР **дыспетчар**: авиационный д. **авіяцыйны д**.

ДИСТАНЦИЯ (Р.І) 1. (*взлётная, посадочная*) **дыстанцыя** 2. (*як вымяраемая адлегласць*) **водступ**: безопасная д. **бяспечны в.**

ДИФФУЗОР **дыфузор**.

ДЛИНА **даўжыня**: д. фюзеляжа (крыла, пробега по ВПП, маршрута і г.д.) **д. фюзеляжа (крыла, прабегу па УПП, маршруту** і г.д.).

ДОЗАПРАВКА В ВОЗДУХЕ **дазапраўка ў паветры**.

ДОКУМЕНТАЦИЯ **дакументацыя**: д. на воздушном судне **д. на летаку** (Р.І), эксплуатационная д. **эксплуатацыйная д.**

ДОЛГОТА **даўгата** (Р.І): астрономическая (геодезическая, сферическая і г.д.) д. **астранамічная (геадэзічная, сферычная** і г.д.) **д.**

ДОНЕСЕНИЕ разведывательное **данясенне выведвальнае** (Р.І).

ДОПУСК **допуск**: д. к полетам (к руководству) **д. да палётаў (да кіраўніцтва).**

ДОРАЗВЕДКА **давыведка** (Р.І): д. погоды **д. надвор'я**.

ДОРОЖКА **дарожка**: вспомогательная (выводная, магистральная, соединительная) рулежная д. **дапаможная (выводная, магістральная, злучальная) рулёжная д.**; *тэхн.* "огневая д." "**агнявая д**.".

ДОСКА *тэхн.* **дошка**, панэль: приборная д., **прыладная** (Р.І) **д.**

ДОСМОТР **агляд**: личный (предполетный) д. **асабісты (перадпалётны) а.**

ДОСЯГАЕМОСТЬ **дасяжнасць**.

ДРЕНАЖ **дрэнаж**: д. топливных баков **д. паліўных бакаў**.

ДРОССЕЛИРОВАНИЕ **драселяванне**: д. двигателя **д. рухавіка**.

ДУБЛИР//ОВАНИЕ **дубляванне**; //ОВАННЫЙ *дзпр.* **дубляваны**; //ЮЩИЙ *дзпр*. **дублюючы**.

ДУЛО (Р.І) *разм.* 1. *пушка* **руля** 2. *гармата* **ствол**.

ЕДИНИЦА **адзінка**: боевая е. **баявая а.**

ЕМКОСТ//Ь **ёмістасць**: увеличенная е. **павялічаная ё.**; //НОЙ *прым.* **ёмісты**.

ЖАРОПРОЧНОСТЬ **гара(ча)трываласць.**

ЖГУТ 1. ж. вихревой **жгут віхравы** 2. электрожгут **электравітка** (Р.І).

ЖЁСТКОСТЬ (Р.І) 1. *тэхн.* **цвёрдасць**: ж. авиационных конструкций (крыла, на изгиб, на кручение і г.д.) **ц. авіяцыйных канструкцый (крыла, на згін, на кручэнне** і г.д.) 2. *аэрд.* **жорсткасць**: динамическая ж. **дынамічная ж**.

ЖЁСТКОКРЫЛ **цвёрдакрыл** (Р.І).

ЖИВУЧЕСТЬ (Р.І) **жывучасць**: ж. авиации **ж. авіяцыі**, ж. пушки **ж. пушкі** (авіяцыйнай) (Р.І), боевая ж. **баявая ж.**

ЖИДКОСТЬ рабочая **вадкасць рабочая** (Р.І).

ЖИЗНЕОБЕСПЕЧЕНИЕ **жыццезабеспячэнне.**

ЖИЛЕТ **камізэлька**: спасательный ж. **(вы)ратавальная к.**

ЖУРНАЛ **журнал** (Р.ІІІ): штурманский бортовой ж. **штурманскі бартавы ж.**

ЗАБЛОКИРОВАТЬ **заблакаваць**.

ЗАБРОС *тэхн., аэрд*. **закід(ванне)** (Р.І): з. оборотов (давления, температуры,) **з. абаротаў (ціску, тэмпературы**), з. руля высоты **з. руля вышыні**, з. по перегрузке (по тангажу) **з. па перагрузцы (па тангажу**).

ЗАВАЛ *тэхн.* **завал**(ьванне): з. гироагрегата **з. гіраагрэгата.**

ЗАВЕСА *такт.* **заслона** (Р.І): дымовая з. **дымавая з.**

ЗАВИСАНИЕ *аэрд*. **завісанне.**

ЗАВИХРЕНИЕ **завіхрэнне**.

ЗАВОД **завод**: авиационный ремонтный з. **авіяцыйны рамонтны з.**

ЗАВОЕВАНИЕ ПРЕВОСХОДСТВА В ВОЗДУХЕ **заваяванне перавагі ў паветры.**

ЗАГЕРМЕТИЗИРОВАТЬ **загерметызаваць**.

ЗАГЛОХАНИЕ ДВИГАТЕЛЯ *уст.* **заглуханне рухавіка**.

ЗАГЛУШКА 1. *тэхн.* **заглушка** 2. *радыё* **глушэнне.**

ЗАГОЛОВНИК КРЕСЛА **загалоўнік крэсла.**

ЗАГОРАЕТСЯ ТАБЛО **загараецца табло.**

ЗАГРАЖДЕНИЕ **загарода** (Р.І): минное з. **мінная з.**

ЗАГРУЗКА *тэхн*. **загрузка**: з. педалей **з. педаляў** (паножаў) (Р.І), з. ручки управления **з. ручкі** (Р.І) **кіравання**, з. вертолета. **з. верталёта**, з. десанта **з. дэсанта.**

ЗАДАНИЕ **заданне**: полетное з. **палётнае з.**

ЗАДАННЫЙ *дзпр.* (Р.І) **загаданы**.

ЗАДАТЧИК КУРСА (Р.І) **загаднік курсу**.

ЗАДАЧ//А **задача:** частная з. прицеливания **асобная з. прыцэлу**; //И *мн.* **задачы**: з. навигации и пилотирования **з. навігацыі і пілатавання**, боевые (огневые, транспортно-десантные, разведывательные, специальные) з. **баявыя (агнявыя, транспартна-дэсантныя, выведвальныя** (Р.І), **спецыяльныя) з.** і інш.

ЗАДЫМЛЕНИЕ кабины **задымленне кабіны**.

ЗАЖИГАЕТСЯ ТАБЛО **запальваецца табло**.

ЗАЗОР *тэхн.* **зазор**.

ЗАКАЧКА **запампоўванне** (запампоўка) (Р.І): з. масла (кислорода і г.д.) **з. алівы** (Р.І) **(кіслярода** і г.д.).

ЗАКЛЁПКА 1. *наз.* **заклёпка**: обшивочная з. **абшывачная з.** 2. *дзеяслоў* **заклёпванне**.

ЗАКОН *такт.* **закон**: координатный з. поражения **каардынатны з. ушчэнту** (Р.І), нормальный з. распределения **нармальны з. размеркавання**.

ЗАКОНЦОВКА КРЫЛА **заканцоўка крыла**.

ЗАКРЫЛОК **закрылак**: выпущенный (убранный, внешний, внутренний, щелевой, щитовой, выдвижной) з. **выпушчаны (прыбраны** (схаваны) (Р.І), **вонкавы** (Р.І), **унутраны, шчылінны** (Р.І), **шчытавы, высоўны) з.**

ЗАЛИЗ *канстр*. **заліз**.

ЗАЛП спаренный *узбр.* **залп спараны**.

ЗАМЕДЛЕНИЕ 1. *пілат.* **запаволенне** 2. *узбр.* **запаволенне**: штурмовое з. **штурмавое з.**

ЗАМЕТНОСТЬ *такт.* **заўважнасць.**

ЗАМЫСЕЛ *такт.* (Р.І) **задума**: з. воздушного боя (решения) **з. паветранага бою (рашэння)** (Р.І).

ЗАНАВЕС *такт.* **завеса.**

ЗАПАС *навіг, тэхн., аэрд., пілат., пошук.,* **запас**: з. высоты над препятствием **з. вышыні над перашкодай**, з. прочности **з. трываласці** (Р.І), з. управления **(**устойчивости, хода педалей), **з. кіравання (устойлівасці, ходу** (Р.І) **педаляў** (панажоў)), бортовой (носимый) аварийный з. **бартавы (насімы) аварыйны з. (НАЗ)**, аварийный (гарантийный (гарантированный), навигационный, групповой) з. топлива **аварыйны (гарантыйны, навігацыйны, групавы) з. паліва**.

ЗАПЕЛЕНГОВАТЬ **запеленгаваць**.

ЗАПЕРЕТЬ (Р.І) 1. *ав. ліхтар (шклян)* **замкнуць,** *каманда РИ* “запри фонарь ” **“замкні ліхтар (**шклян**)”** 2. *канал ствала (рулі)* **заваліць.**

ЗАПИРАНИЕ 1. *ав. ліхтара (шкляна)* **замыканне** (Р.І) 2. *канал ствала (рулі)* **завал(ьванне).**

ЗАПИСКА пояснительная (к решению) *такт.* **запіска тлумачальная.**

ЗАПОДЛИЦО *прыслоўе* **роўна.**

ЗАПОЛНЕНИЕ несущего винта **запаўненне пад’ёмнага вінта**.

ЗАПОЛНИТЕЛЬ сотовый **запаўняльнік сотавы**.

ЗАПРАВ//КА *тэхн.***запраўка;** //ЩИК **запраўшчык (запраўнік)**.

ЗАПРАШИВАТЬ *радыё.* **запытваць**: з. взлёт **з. узлёт.**

ЗАПРЕТ **забарона**: з. взлёта **з. узлёту** і інш.

ЗАПРОС **запыт** (Р.І): з. условий з. **умоў** і інш.

ЗАПРОСЧИК **запытальнік** (Р.І).

ЗАПУСК *тэхн.* **запуск**: запуск аэростата **з. аэрастата**, встречный з. двигателя **сустрэчны з. рухавіка**, ложный з. двигателя **фальшывы з. рухавіка**.

ЗАРЯД (Р.І) 1. *узбр.* **набой**: з. огневой сигнальный (ЗОС) **н. агнявы сігнальны (НАС)** 2. *электр.* **зарад**.

ЗАРЯДКА (Р.І) 1. *узбр. (падвешв. зброі)* **зброй**: з. самолета **з. самалёта**, *(камплект зброі на летаку)* **начынне**: боевая з. **баявое н.** 2. *запампоўванне вадкасцяў (газу), электр.* **зарадка**: з. баллонов **з. балонаў** (азотам) і інш.

ЗАРЯЖАНИЕ *узбр.***набіванне** (Р.І).

ЗАРЯЖАТЬ 1. *узбр.* **збройваць, набіваць** (Р.І) 2. *вадкасці (газ), электр*. **зараджаць.**

ЗАСАДА в воздухе (Р.І) **засада** (залога) **у паветры**.

ЗАСЛОНЫ В ВОЗДУХЕ **заслоны ў паветры**.

ЗАТУХА//НИЕ колебаний **затуханне (**згасанне**) ваганняў**; //ЮЩИЙ *дзпр.* **затухаючы** (згасальны).

ЗАТЯГИВАНИЕ в пикирование **зацяг у пікіраванне.**

ЗАТЯЖЕЛИТЬ винт **зацяжыць вінт.**

ЗАХВАТ *такт.* **захоп** (Р.І): з. цели **з. цэлі**, з. воздушного судна **з. летака** (Р.І).

ЗАХОД *пілат.* **заход**: з. на посадку (по приборам, с круга, с прямой, с рубежа, двумя на 180, по системе навигации и пункту начала разворота) **з. на пасадку (па прыладах** (Р.І)**, з кола** (Р.І), **з прамой, з рубяжа, двума на 180, па сістэме навігацыі і пункту пачатку развароту),** визуальный (инструментальный, неточный, точный) з. на посадку **візуальны** (вокамерны) (Р.І) **(інструментальны, недакладны, дакладны) з. на пасадку.**

ЗАЩЁЛКА **зашчапка**.

ЗАЩИТА **абарона, ахова**: з. от столкновения **абарона ад сутыкнення**, бронированная з. **браніраваная ахова**.

ЗАЯВКА **заяўка**: з. на палет **з. на палёт**.

ЗБОРЫ учебные **зборы навучальныя** (Р.І).

ЗВЕНО 1. *такт.* **звяно** (Р.І): з. истребителей **з. знішчальнікаў** і інш. 2. *тэхн., узбр.* **злучво**: з. патроннай ленты **з. патроннай стужкі**, входное з. гидроусилителя **уваходнае з. гідраўзмацняльніка** і інш.

ЗВУК **гук**.

ЗЕРКАЛО для обозрения задней (нижней) полусферы **люстэрка агляду задняй (ніжняй) паўсферы**.

ЗМЕЙКА *форма б. шыху, такт. прыём* **змейка**: з. пар **з. пар**, горизонтальная з. **гарызантальная з.**

ЗНАК **знак** (Р.І): государственный (опозновательный, регистрационный) з. **дзяржаўны (апазнавальны, регістрацыйны) з.**, посадочный з. **пасадачны з.**

ЗОНА **зона**: специальная (аэродромная, ближняя, дальняя, запретная, контролируемая, ожидания, опасная, пилотажная, рабочая і г.д.) з. **спецыяльная (аэрадромная, блізкая** (Р.І)**, далёкая** (Р.І)**, забаронная, кантраляваная, чакання, небяспечная, пілатажная, рабочая** (Р.І) і г.д.) **з.**, критическая з. радиомаяка **крытычная з. радыёмаяка**, з. безопасности полигона (взлета и посадки, влияния земли, временного ограничения полетов, дежурства в воздухе, действия радиомаяка, обзора, ограничения, ожидания, ПСО, разлета осколков АСП і г.д.), **з. бяспекі палігона (узлёту і пасадкі, уплыву зямлі, часовага абмежавання палётаў, дзяжурства ў паветры, дзеяння радыёмаяка, агляду, абмежавання, чакання, ПВЗ, разлёту асколкаў АСУ** і г.д.), приведенная з. поражения **прыведзеная з. ушчэнту** (Р.І).

ЗОНД// **зонд**; //ИРОВАНИЕ **зандаванне**: аэрологическое з. **аэралагічнае з**.; //ИРОВЩИК **зандавік**: з. атмосферы **з. атмасферы**.

ИГЛА *тэхн.* **ігла**: дозирующая и. **дазавальная і.**

ИЗБЫТОК *аэрд. тэхн*. **лішак** (Р.І): и. тяги **л. цягі** і інш. .

ИЗВЕЩЕНИЕ **паведамленне**: *навіг.* и. NOTAM **п. NOTAM**.

ИЗЛУЧ//АТЕЛЬ **выпрамен(ьваль)нік** (Р.І); //ЕНИЕ **выпрамен(ьван)не** (Р.І): инфракрасное (тепловое) и. **інфрачырвонае (цеплавое) в.**; //АЮЩИЙ **выпрамен(ьваль)ны**.

ИЗМЕРИТЕЛЬ (**вы)мяральнік**: доплеровский и. скорости и сноса **доплераўскі в. хуткасці і зносу** (**ДВХЗ**) і інш. .

ИЗНОС з**нос** (Р.І): и. лопаток **з. лапатак**.

ИЗРАСХОДОВАТЬ **выдаткаваць** (Р.І): и. топливо (боеприпасы) **выдаткаваць паліва (боепрыпасы).**

ИМИТАТОР **імітатар**: и. воздушной цели **і. паветранай цэлі** і інш.

ИММЕЛЬМАН *ф. пілатажу* **Імельман.**

ИМУЩЕСТВО **маёмасць** *разм.* **майно**: аэродромное стартовое и. **аэрадромная стартавая м.,** запасное и. и принадлежности (ЗИП) **запасная м. і прылады (ЗІП)**, парашютно-десантное и. **парашутна-дэсантная м.** і інш.

ИНДЕКС **індэкс**: опозновательный и. **апазнавальны** (Р.І) **і.**

ИНДИКАТОР **індыкатар**: и. курса (глиссады, комбинированного жизнеобеспечения, лобового стекла, положения клиньев і г.д.) **і. курсу (глісады, камбінавага жыццезабеспячэння, лабавога шкла** (Р.І)**, становішча** (Р.І) **кліноў** і г.д), выносной и. кругового обзора (ВИКО) **вынасны і. акольнага агляду** (Р.І) **(ВІАА)**, выносной и. системы посадки **вынасны і. сістэмы пасадкі** і інш.

ИНСТРУКЦИЯ **інструкцыя**: и. по производству полетов на аэродроме (в районе аэроузла, на посадочной площадке і г.д.) **і.** (**выканання,** чынення (Р.І)) **палётаў на аэрадроме (у раёне аэравузла, на пасадачнай пляцоўцы** (Р.І) і г.д.), и. экипажу **і. экіпажу** і інш.

ИНСТРУМЕНТ **інструмент**.

ИНТЕНСИВНОСТЬ **інтэнсіўнасць:** и. воздушного движения (полетов, торможения і г.д.) **і. паветранага руху (палётаў**, **тармажэння** і г.д.).

ИНТЕРВАЛ (Р.І) 1. (*эшаланаванне*) **інтэрвал (водступ)**: установленный (вертикальный, боковой, продольный) и. **водступ усталяваны** (Р.І) **(бакавы, падоўжны, вертыкальны)** в. 2. (*час*) **інтервал (прамежак)**.

ИНТЕРФЕРЕНЦИЯ *аэрд.* **інтэрферэнцыя**: аэродинамическая и. **аэрадынамічная і.**

ИНТЕРЦЕПТОР **інтэрцэптар**: внутренний (средний) и. **унутраны (сярэдні) і**.

ИНФОРМАЦИЯ **інфармацыя**: аэронавигационная и. (АНИ) **аэранавігацыйная і**. **(АНІ)**, ключевая и. **ключавая і**., речевая и. **моўная** (Р.І) **і.**, обзорная и. **аглядная** (Р.І) **і.**

ИНФОРМАТОР речевой (Р.І) **інфарматар маўленчы**.

ИНЦИДЕНТ **інцыдэнт**: (серъезный) авиационный и. **(сур'ёзны) авіяцыяйны і.**

ИСКРИВЛЕНИЕ **скрыўленне**: и. линии глиссады (линии курса) **с. лініі глісады (курсу)**.

ИСКУССТВО *такт.* **мастацтва**: военное (тактическое) и. **ваеннае** (Р.І) **(тактычнае) м.**

ИСПОЛЬЗОВАНИЕ **(вы)карыстанне**: и. воздушного пространства **в. паветранай прасторы**.

ИСПРАВНОСТЬ **спраўнасць**: и. авиационной техники (вооружения і г.д.) **с. авіяцыйнай тэхнікі (узбраення** і г.д.).

ИСПЫТАНИЯ *мн.* **выпрабаванні**: и. авиационной техники (двигателей) **в. авіяцыйнай тэхнікі (рухавікоў)**, заводские (лётно-конструкторские) и. **заводскія (лётна-канструктарскія) в.**

ИСТОЧНИК *тэхн.*, *аэрд.* **крыніца**: автономный (аварийный, аэродромный, бортовой, вспомогательный і г.д.) и. электропитания **аўтаномная (аварыйная, аэрадромная, бартавая, дапаможная** і г.д.) **к. электрасілкавання**.

ИСТРЕБИТЕЛЬ **знішчальнік**: всепогодный (высотный, фронтовой і г.д.) и. **усепагодны** (Р.ІІІ) **(вышынны** (Р.І), **франтавы** і г.д**) з.**, и.-бомбардировщик **з.-бамбавальнік** (Р.І), истребитель-перехватчик **з.-перахопнік** (Р.І) і інш.

КАБИНА **кабіна**: бронированная к. **браніраваная** (Р.І) **к**., отделяемая к. **адлучаемая к.**

КАБРИРОВАНИЕ **кабрыраванне**.

КАМЕРА **камера**: форсажная (кольцевая) к. згорания **фарсажная (кальцавая) к. згарання**, смесительная к. **змяшальная к.** .

КАНАВКА стружечная *тэхн.* **канаўка стружкавая**.

КАНАЛ 1. *тэхн.* **канал**: воздухозаборный к. **паветразаборны к.** 2. *такт.* **канал**: целевой (Р.І) к. **цэлявы к.**

КАПОТ *тэхн.* **капот**: к. двигателя (мотогондолы) **к. рухавіка (мотагандолы)**.

КАПОТИРОВАНИЕ САМАЛЁТА **капатаванне самалёта.**

КАРТА 1. *геадэзічн.* **мапа** (Р.І): авиационная (высотная, метеорологическая, оперативная, операционная, полетная, прогностическая і г.д.) к. **авіяцыйная (вышынная** (Р.І), **метэ(а)ралагічная, аператыўная, аперацыйная** (Р.І), **палётная, прагнастычная** і г.д.) **м.**, к. обстановки **м. становішча** (Р.І)**,** к. погоды **м. надвор'я** 2. *алгарытм* **карта**: контрольная к. **кантрольная к.** (к. контрольных докладов **к. кантрольных дакладаў**).

КАСАНИЕ земли (Р.І) (да)**крананне зямлі**.

КАССЕТА *узбр.* **касета**: авиационная (бомбовая) к. **авіяцыйная (бомбавая) к.**

КАТАПУЛЬТА **катапульта**: взлётная к. **узлётная к.**

КАТАПУЛЬТИРОВАНИЕ **катапультаванне**.

КАТАСТРОФА **катастроф**а: авиационная к. **авіяцыйная к.**

КАЧАЛКА *тэхн.* **скалка** (Р.І): к. управления **с. кіравання**, двуплечая (одноплечая) качалка **дву(х)плечая (аднаплечая) с.**

КАЧЕСТВО *аэрд.* **якасць**: аэродинамическое к. **аэрадынамічная я.**

КЕРОСИН авиационный (Р.І) **газа авіяцыйная**.

КЕССОН *тэхн.* **кесон**: к. отъемной части крыла (стабилизатора, киля) **к. ад'ёмнай часткі крыла (стабілізатара, кіля)**.

КИЛЬ **кіль**: подфюзеляжный к. **падфюзеляжны к.**

КЛАПАН **клапан**: всасывающий (дозирующий, обратный, редукционный, поплавковый, предохранительный, продувочный і г.д.) к. **усмоктвальны** (Р.І) (**дазавальны, зваротны** (Р.І), **рэдукцыйны, плаўковы, засцерагальны, прадзімны** і г.д.) **к**.

КЛЕПКА **кляпанне**: к. внахлест(ку) к. **к. унапуск**, взрывная к. **выбухное к**.

КЛЕЩИ *такт. прыём* **абцугі** (Р.III).

КЛИН 1. *такт* **клін**: к. звеньев **к. звёнаў** 2. *тэхн.* **клін**: к. воздухозаборника **к. паветразаборніка.**

КЛИРЕНС *тэхн.* **клірэнс**: к. вертолета **к. верталёта**.

КНИЖКА **кніжка**: к. руководителя полетов **к. кіраўніка палётаў**, летная (медицинская) к. **лётная (медыцынская** (медычная)**) к.**

КНОПКА **кнопка**: к. (аварийного) сброса **к. (аварыйнага) скіду** (Р.І).

КОБРА 1. *такт.* **кобра** 2. *ф. пілатажу* **кобра**: к. Пугачева **к. Пугачова**.

КОЖУХ *тэхн.* **кажух.**

КОЗЛЕНИЕ *пілат.* **казленне**.

КОЗЫРЕК ФОНАРЯ **брыль** (Р.І) **ліхтара** (шкляна) (Р.І).

КОК *канстр.* **кок**: передний к. **пярэдні к.**

КОЛЕБАНИЯ **ваганні**: затухающие (самопроизвольные, свободные, синусоидальные, собственные) к. **затухаючыя (адво́льныя, вольныя** (Р.І), **сінусоідныя, уласныя) в.**

КОЛЕСО **кола**: к. шасси **к. шасі**, к. передней (главной) ноги шасси **к. пярэдняй (галоўнай) нагі шасі**.

КОЛЕЯ ШАССИ **каляіна шасі**.

КОЛЛЕКТОР топливный **калектар паліўны**.

КОЛОКОЛ *ф. пілатажу* **колакал**.

КОЛОНКА *тэхн.* **калонка**: к. несущего винта **к. пад'ёмнага** (Р.І) **вінта**, штурвальная к. **штурвальная к.**

КОЛОННА *такт.* **калона**: к. звеньев **к. звёнаў** (Р.І).

КОЛПАЧОК ВЕНТИЛЯ **каўпачок вентыля**.

КОЛЬЦЕПЛАН **кальцаплан.**

КОЛЬЦО 1. *узбр. (электр.*) кольцо прицела **кольца прыцэла** 2. *тэхн., узбр*. **кольца**: баллистическое к. **балістычнае к.**, бортовое (внешнее, внутреннее, вращающееся, невращающееся) к. **бартавое (вонкавае,** (Р.І), **унутранае, абаротнае** (Р.І), **неабаротнае) к.** 3. *пілат. (верт.)* вихревое кольцо **віхравое кола** (Р.І) **к.** 4. *пошук.* вытяжное кольцо **выцяжное кольца.**

КОМАНДА **каманда**: *такт., пошук.* к. выпуска **к. выпуску**, аварийно-спасательная к. **аварыйна-(вы)ратавальная к.**, наземная поисково-спасательная к. **наземная пошука(ва)-(вы)ратавальная к. (НПВК).**

КОМАНДИР **камандзір:** к. воздушного судна **к. летака** (Р.І).

КОМАНДОВАНИЕ **камандаванне**: оперативное (оперативно-тактическое) к. **аперацыйнае (аперацыйна-тактычнае)** (Р.І) **к.**

КОМЕЛЬ лопасти **камель лопасці**.

КОМИССИЯ **камісія**: врачебно-летная к. **урачэбна-лётная к. (УЛК)**.

КОМИТЕТ **камітэт**: Государственный к. по авиации **Дзяржаўны к. авіяцыі** (Р.І).

КОМПАНОВКА 1. (*схема)* **кампаноўка**: аэродинамическая (внешняя) к. **аэрадынамічная (вонкавая** (Р.І)) **к.,** внутренняя к. **унутраная к.** 2. (*працэс)* **кампанаванне.**

КОМПАС **компас**: гиромагнитный к. **гірамагнітны к. (ГМК)**.

КОМПЕНСАТОР *тэхн.* **кампенсатар**: к. взмаха **кампенсатар маху,** широтный к. **шыротны к.**

КОМПЕНСАЦИЯ **кампенсацыя**: аэродинамическая **(**весовая) к. **аэрадынамічная (вагавая) к.**

КОМПЛЕКС **комплекс**: к. авиационного вооружения **к. авіяцыйнага ўзбраення (КАУ),** к. навигации и электронной индикации **к. навігацыі і электроннай індыкацыі**, к. средств автоматизации **к. сродкаў аўтаматызацыі (КСА)**, боевой авиационный к. **баявы авіяцыйны к. (БАК)**, бортовой разведывательно-корректировочный к. **бартавы выведвальна-карэктавальны к.** (Р.І), зенитно-ракетный к. **зенітна-ракетны к**., информационный к. вертикали и курса **інфармацыйны к. вертыкалі і курсу**, наземный автоматизированный к. подготовки полетных заданий **наземны аўтаматызаваны к. падрыхтоўкі палётных заданняў (НАК ППЗ),** оптико-электронный прицельно-навигационный к. **оптыка-электронны прыцэльна-навігацыйны к. (ОЭПрНК)**, радиолокационный

прицельный к. **радыёлакацыйны прыцэльны к. (РЛПК**), пилотажно-навигационный к. **пілатажна-навігацыйны к.**

КОМПЛЕКТ **камплект**: к. кислородного оборудования **к. кісларoднага абсталявання**, высотный морской спасательный к. **вышынны** (Р.І) **марскі (вы)ратавальны к.**

КОМПРЕССОР **кампрэсар**: трехступенчатый к. **трохступеневы** (Р.І) **к.**, к. высокого давления (низкого давления) **к. высокага ціску (нізкага ціску).**

КОНВЕРТОПЛАН **канвертаплан**.

КОНСОЛЬ КРЫЛА **кансоль крыла**.

КОНТЕЙНЕР **кантэйнер:** к. малогабаритный универсальный **к. малагабарытны ўніверсальны (КМГУ).** к. тормозного парашюта **к. тармазнога парашута**, встроенный универсальный пушечный к. **умантаваны ўніверсальны гарматны** (Р.І) **к.**, сменный к. **зменны к.**

КОНТРОЛЬ **кантроль**: встроенный к. **убудаваны к.,** объективный (оперативный) к. **аб’ектыўны (аператыўны** (Р.І)) **к.**, радиолокационный к. **радыёлакацыйны к.**

КОНТУР *тэхн.* **контур**: внешний (внутренний, первый, второй) к. **вонкавы** (Р.І) **(унутраны, першы, другі) к.**

КОНУС ВРАЩЕНИЯ *аэрд. (верт.)* **конус кручэння**; *тэхн.* **конус**: к. сопла **к. сапла**.

КОНФИГУРАЦИЯ крыла **канфігурацыя крыла**: полетная (посадочная) к. **палётная (пасадачная) к.**

КООРДИНАТЫ **каардынаты**: счисленные к. **злічаныя к.**

КОРАБЛЬ **карабель**: авианесущий к. **авіянясучы к.** (**карабель-носьбіт**) (Р.І), воздушный к. **(паветраны) к.**

КОРИДОР **калідор**: воздушный к. **паветраны к.,** к. пролета авиации **к. пралёту авіяцыі**.

КОРОБКА (Р.І) 1. анеро́идная (барометрическая, манометрическая) к. **анероідная (бараметрычная, манаметрычная) бляшанка** 2. к. приводов **каробка прыводаў** 3. *узбр.* магазинная к. **магазінная скрынка**.

КОРПУС *канстр*. **корпус**: несущий к. **пад’ёмны к. (к.-носьбіт)** (Р.І), разделительный к. **раздзяляльны к**.

КОРРЕКТ//ИРОВАНИЕ **карэктаванне**: к. огня артиллерии **к. агню артылерыі**; //ИРОВЩИК **карэктавальнік** (Р.І).

КОРРЕКТОР// **карэктар**: к. высоты **к. вышыні**; //-ЗАДАТЧИК (Р.І) высоты **карэктар-загаднік вышыні**.

КОРРЕКЦИЯ **карэкцыя**: широтная к. **шыротная к.**

КОРРОЗИЯ точечная **карозія кропкавая** (Р.І).

КОСТЮМ **касцюм**: высотно-компенсирующий к. **вышынна-кампенсавальны касцюм (ВКК)** (Р.І), противоперегрузочный к. **супрацьперагрузачны к. (СПК).**

КОЭФФИЦИЕНТ// **каэфіцыент**: *узбр.* к. наполнения **к. напаўнення**, к. формы **к. формы**, баллистический к. **балістычны к.**; *такт.* к. качества (обеспечения, качества управления) **к. якасці (забеспячэння, якасці кіравання)**; *аэрд.* к. аэродинамического сопротивления (подъемной силы) **к. аэрадынамічнага супраціву (пад'ёмнай сілы),** *тэхн.* к. разнослышимости **к. разначутнасці**; //Ы *мн.* **каэфіцыенты**: аэродинамические к. **аэрадынамічныя к.**

КРАН *тэхн* **кран**: отсечный (перекрывной, продувочный, топливный і г.д.) к. **адсечны (перакрыўны, прадзімны, паліўны** і г.д.) **к.**

КРЕЙСЕР **крэйсер**: авианесущий к. **авіянясучы к. (к.-авіяносьбіт)** (Р.І).

КРЕН *аэрд.* **крэн.**

КРЕП//ИТЬ **мацаваць**; //ЕЖ **мацав(аль)нік**; //ЛЕНИЕ **мацаванне.**

КРЕСЛО *тэхн.* **крэсла**: к. Барани **к. Барані,** катапультное к. **катапультнае к.**

КРИВАЯ ПОГОНИ **крывая пагоні**.

КРИЗИС *аэрд.***крызіс:** волновой к. **хвалевы к.**

КРИТЕРИЙ *такт.* **крытэрый**: общий (частный) к. эффективности **агульны (асобны) к. эфектыўнасці**.

КРОКИ АЭРОДРОМА **кракі** (Р.ІІІ) **аэрадрома**.

КРОМКА КРЫЛА **абза** (Р.І) **крыла**.

КРОНШТЕЙН *тэхн.* **краштэйн**: к. для спускового устройства (крепления, навески, подвески) **к. для спускавой прылады** (Р.І) (**мацавання, завесы, падвеса**) і інш.

КРУГ ПОЛЕТОВ (Р.І) 1. *працэс руху* **круг** 2. *схема* **кола палётаў.**

КРУГЛОГУБЦЫ **круглагубцы.**

КРУТИЗНА *аэрд.* **строма:** к. горки (пикирования) **с. горкі (пікіравання).**

КРУТКА *аэрд.* **крутка**: аэродинамическая (геометрическая) к. крыла (лопасти, лопаток) **аэрадынамічная (геаметрычная) к. крыла (лопасці, лапатак).**

КРЫЛО 1. *канстр.* **крыло**: к. изменяемой стреловидности к. **зменнай стрэлападобнасці** (Р.І), к. типа "двойная дельта" **к. тыпу "падвойная дэльта"**, адаптивное ("летающее", оживальное, прямое, свободнонесущее, складывающееся, стреловидное, трехугольное і г.д.) к**. адаптыўнае ("лятаючае", ажывальнае, прамое, вольнапад'ёмнае** (Р.І), **складное** (Р.І), **стрэлападобнае, трохкутнае** (Р.І) і г.д.) **к.**; 2. *такт. падр.* **(авіяцыйнае) крыло**.

КРЫЛЬЧА//ТКА **крыльчатка**; //СТЫЙ (//ТЫЙ) **крыльчаты**.

КРЫШКА *тэхн.* к. заливной горловины **накрыўка заліўной гарлавіны**, к. люка (аварийного выхода, капота двигателя) **века люка (аварыйнага выхаду, капота**), к. лючка **вечка лючка**.

КУРС 1. *навіг.* **курс**: боевой к. **баявы к.**, к. воздушного судна **к. летака** (Р.І), курс следования **к. праставання** (Р.І, Р.ІІІ), к. обратный посадочному **к. адваротны пасадачнаму**, заданный (взлетный, исправленный, истинный, компасный, магнитный, ортодромический, посадочный, условный і г.д.) к. **загаданы** (Р.І) **(узлётны, папраўлены** (Р.І), **сапраўдны** (Р.І), **компасны, магнітны, артадрамічны, пасадачны, умоўны** і г.д.) **к.** 2. (*дакумент*) **Курс:** К. боевой подготовки (группы руководства полетами, летной подготовки, учебно-летной подготовки і г.д.) **К. баявой падрыхтоўкі (групы кіраўніцтва палётамі, лётнай падрыхтоўкі, навучальна-**

**лётнай** (Р.І) **падрыхтоўкі** і г.д.); «на пересекающихся (сходящихся) курсах» «**на перасечных (збежных)** (Р.І) **курсах».**

КУРСОВЕРТИКАЛЬ **курсавертыкаль**: инерциальная к. **інерцыйная** (Р.І) **к.**

ЛАССО *такт. прыём* **ласо**.

ЛЕБЕДКА *тэхн.* **лябёдка** (Р.І): наружная спасательная л. **знадворная** (Р.І) **(вы)ратавальная л.**

ЛЕНТА *тэхн., узбр*. **стужка**: перекрывная (стыковочная) л. **перакрыўная (стыкоўная** (Р.І)) **с.**, патронная л. **патронная с.**

ЛЕТУЧКА тактическая **лятучка тактычная**.

ЛЕТЧИК (Р.І) 1. *прафесійны* **лётчык**: л.-инспектор (-инструќтор, -испытатель, -снайпер) **л.-інспектар (-інструктар, -выпрабавальнік, -снайпер)** 2. *аматар* **лётнік.**

ЛИНЕЙКА *навіг.* **лінейка**: навигационная счётная л. **навігацыйная лічыльная л.** (**НЛ-10М**).

ЛИНИЯ **лінія**: л. заданного (фактического) пути **л. загаданага** (Р.І) **(фактычнага) напрамку** (Р.І) **(ЛЗН (ЛФН))**, л. боевого соприкосновения **л. баявога сутыкнення**, л. визирования (положения) **л. візіравання (становішча)**, л. глиссады (курса) **л. глісады (курсу)**, л. равных радиопеленгов (азимутов) л**. роўных радыёпеленгаў (азімутаў)**, местная воздушная л. **мясцовая паветраная л**. осевая л. **восевая л.,** помехоустойчивая л. связи **перашкодаўстойлівая л. сувязі** і інш.

ЛИСТ полетный (Р.І) **ліст палётны.**

ЛИСТ «падающий» (*вид штопора*) **ліст «падаючы»**.

ЛОДКА летающая (Р.І) **чайка лятаючая.**

ЛОКСОДРОМИЯ **лаксадромія**.

ЛОНЖЕРОН **ланжэрон**: л. пилона **л. пілона,** составной л. **складовы** (Р.І) **л.**

ЛОПАСТ//Ь **лопасць** (Р.І): л. несущего (рулевого, хвостового) винта **л. пад'ёмнага** (Р.І) **(рулявога, хваставога) вінта;** //НЫЙ *прым.* **лопасцевы**.

ЛОПАТКА *канстр.* **лапатка**: л. компрессора (ротора) **л. кампрэсара (ротара)**, дефлекторная л. **дэфлектарная л**., охлаждаемая л. **ахалоджваемая→ахаладжаемая** л., рабочая л.

**рабочая** (Р.І) **л.**, спрямляющая (направляющая) л. компрессора **спрамляльная (накіравальная** (Р.І)) **л. кампрэсара**.

ЛЫЖИ *мн. канстр*. **лыжы.**

ЛЮК **люк**: л. багажного отсека **л. багажнага адсека**, аварийный л. **аварыйны л.** і інш.

МАГИСТРАЛЬ *тэхн.* **магістраль**: нагнетающая (расходная) м., **нагнятальная (выдатковая** (Р.І)) **м.**, м. слива **м. зліву**.

МАНЕВР// **манеўр** (Р.І): охватывающий (противозенитный, противоракетный) м. **абхопны** (Р.І) (**супрацьзенітны, супрацьракетны) м**., //ЕННОСТЬ **манеўранасць.**

МАНЕВРИРОВАНИЕ **манеўраванне**: м. на аэродроме (посадочной площадке) **м. на аэрадроме (пасадачнай пляцоўцы)**.

МАРШРУТ **маршрут**: замкнутый м. **замкнёны м.,** м. зональной навигации **м. занальнай навігацыі (маршрут ЗНАВ).**

МАСКА *тэхн.* **маска**: кислородная м. **кіслародная м**. (Р.ІІІ).

МАСЛО *(тэхн.)* (Р.І) **аліва**.

МАСЛО//АГРЕГАТ (Р.І) **маслаагрэгат** (аліваагрэгат); //ОТДЕЛИТЕЛЬ **маслааддзяляльнік→маслааддзельнік** (аліваааддзельнік); //ПРОВОД **маслаправод** (аліваправод) і інш. .

МАССА **маса**: взлётная (полётная, посадочная, сухая і г.д.) м. **узлётная (палётная, пасадачная, сухая** і г.д.) **м.**

МАСШТАБ **маштаб**: главный (частный) м. карты **галоўны (асобны) м. мапы** (Ч.І).

МАТЕРИАЛЫ горюче-смазочные *мн.* (Р.І) **матэрыялы гаруча-змазачныя**.

МАШИНА **машына**: бортовая цифровая вычислительная м. **бартавая лічбавая вылічальная м.**; транспортно-заряжающая м. **транспартна-набіўная** (Р.І) **м.**

МАШИНКА рулевая *тэхн*. **машынка рулявая**.

МАЯК **маяк**: аэродромный прожекторный м. **аэрадромны пражэктарны м.**, кодово-неоновый м. **кодава-неонавы м.**, проблесковый м. **праблiскавы м.**

МЕРИДИАН **мерыдыян**: истинный (магнитный, нулевой, ортодромический і г.д.) **сапраўдны** (Р.I) **(магнітны, нулявы, артадрамічны** і г.д.) **м.**

МЕСТА стоянки воздушных судов *мн.* **месцы стаянкі летакоў** (Р.I).

МЕСТНОСТЬ **мясцовасць**: горная (равнинная, холмистая) м. **гарыстая (раўнінная, узгорыстая** (Р.III)**) м**.

МЕСТО **месца**: м. воздушного судна **м. летака** (Р.I), автоматизированное рабочее м. **аўтаматызаванае рабочае** (Р.I) **м.**

МЕТЕО//РАДИОЛОКАТОР **метэарадыёлакатар**; //СВОДКА **метэазводка** і інш.

МЕТЕОУСЛОВИЯ **метэаўмовы**: визуальные (приборные, простые, сложные) м. **візуальныя (прыладныя** (Р.I), **простыя**, **складаныя) м.**

МЕТКА *электр.* **метка** (Р.I): м. опознования (цели) **м. апазнавання (цэлі**).

МЕТОДИКА **методыка**: *узбр*. зонная м. **зонавая м.**

МЕХАНИЗАЦИЯ крыла **механізацыя крыла**.

МЕХАНИЗМ **механізм**: возвратно-поворотный (грузоподъемный, загрузочный, исполнительный, кулачковый, нелинейный, пружинно-загрузочный, рулежно-демпфирующий) м. **зваротна-паваротны (грузападымальны** (Р.III), **загрузачны, выканаўчы, кулачковы, нелінейны, пружынна-загрузачны, рулёжна-дэмпфавальны) м.**, м. демпфера (рыскания, отталкивания, передаточных чисел, принудительного катапультирования, триммерного эффекта, триммера, управления стабилизатором) **м. дэмпфера (рыскання** (Р.I), **адпіхвання, перадаткавых** (перадатачных) **лікаў, прымусовага катапультавання, трымернага эфекту, трымера, кіравання стабілізатарам),** комбинированный стреляющий м. универсальный **камбінаваны страляльны** (Р.I) **м. універсальны.**

МИНИМУМ **мінімум**: установленный м. аэродрома (командира, воздушного судна, погоды) **устаноўлены** (Р.І) **м. аэрадрома (камандзіра, летака** (Р.І), **надвор'я**).

МИНИРОВАНИЕ **мініраванне**: м. с воздуха **м. з паветра**.

МИШЕНЬ **мішэнь**: воздушная (радиоуправляемая, буксируемая, парашютная) м. **паветраная (радыёкіраваная** (Р.І), **буксіраваная** (Р.ІІІ), **парашутная) м.**

МОБИЛЬНОСТЬ *такт.* **мабільнасць**

МОДЕЛ//ИРОВАНИЕ **мадэляванне**: м. авиационного удара (воздушного боя, преодоления ЗРК) **м. авіяцыйнага ўдару (паветранага бою, пераадолення ЗРК)**; //Ь цифровая рельефа **мадэль лічбавая рэльефу**.

МОМЕНТ **момант**: кабрирующий (крутящий, разворачивающий, реактивный і г.д.) м. **кабрыруючы (круцільны** (Р.І), **разварачальны** (Р.І), **рэактыўны**) **м.**

МОНО//ПЛАН **манаплан**; //КОК **манакок.**

МОТО//ГОНДОЛА **матагандола**; //ДЕЛЬТАПЛАН **матадэльтаплан;** //ПАРАПЛАН **матапараплан.**

МОЩНОСТЬ (Р.І) *тэхн.* **магутнасць**: электрическая м. **электрычная м.,** м. двигателя **м. рухавіка** і інш.

МОЩЬ (Р.І) *такт.* боевая (военная) м. **баявая (вайсковая** (Р.І)**) магутнасць**, боевая м. авиации **баявая магутнасць авіяцыі**, огневая (ударная) м. **агнявая (ударная) моц**.

МУФТА СВОБОДНОГО ХОДА **муфта вольнага** (Р.І) **ходу** (Р.І).

НАБОР 1. *пілат. (набор высоты)*: *аператыўны радыёабмен* **набор вышыні**; **набіранне вышыні** 2. *тэхн. (силовой набор крыла)* **драбы** (Р.І) **крыла**.

НАВЕДЕНИЕ **навядзенне**: н. с углом упреждения **н. з вуглом апярэджання** (Р.І), глазомерное (голосовое, приборное, радиолокационное і г.д.) н. **вокамернае (галасавое, прыладнае** (Р.І), **радыёлакацыйнае** і г.д.) **н.**

НАВИГАЦИЯ **навігацыя**: воздушная (зональная (ЗНАВ), межсамолетная і г.д.) н. **паветраная (занальная (ЗНАВ), міжсамалётная** і г.д.) **н.**

НАВОДКА *навіг.* **навядзенне**: боковая н. **бакавое н.**

НАВОДЧИК **наводчык** (наводнік): передовой авиационный н. **перадавы авіяцыйны наводнік (ПАН)**.

НАГРЕВАНИЕ **нагрэў (награванне)**: аэродинамическое н. **аэрадынамічны н.**

НАГРУЗКА *такт., тэхн., аэрд.* **нагрузка**: аэродинамическая **(**боевая, бомбовая, гироскопическая, инерционная, полезная, удельная) н. **аэрадынамічная (баявая, бомбавая, гіраскапічная, інэрцыйная** (Р.І), **карысная, удзельная) н.**, н. на крыло **н. на крыло**.

НАДДУВ **наддзіманне→наддзім**: н. гидробака (кабины, радиоблоков, топливных баков і г.д.) **н. гідрабака (кабіны, радыёблокаў, паліўных бакаў** і г.д.).

НАКЛАДЫВАНИЕ ПЕРЕКРЕСТИЯ **накладанне скрыжа** (скрыжавання) (Р.І).

НАКОПИТЕЛЬ **накапляльнік:** бортовой (магнитный) н. **бартавы (магнітны) н.**

НАЛЕТ 1. *час*. **налёт**: н. в год **н. на год** 2. *такт*. **налёт**: массированный н. авиации **масіраваны н. авіяцыі**.

НАЛОЖЕНИЕ перекрестия *узбр.* **накладанне скрыжа (**скрыжавання).

НАНЕСТИ УДАР **нанесці ўдар**.

НАПЛЫВ *аэрд.* **наплыў**: н. крыла **н. крыла**, корневой н. **каранёвы н.**

НАПОР скоростной **напор хуткасны** (Р.І).

НАПРАВЛЕНИЕ 1. **кірунак** *(вектар ад назіральніка)* (Р.І) 2. **напрамак** *(вектар да назіральніка, лінія без вектара)* (Р.І): н. ВПП **напрамак УПП,** н. вращения **кірунак кручэння,** н. концевой балки (оси хвостового вала і г.д.) **напрамак канцавой бэлькі (восі хваставога вала** і г.д.), н. полета **кірунак палёту**, метеорологическое н. ветра **напрамак ветру,** навигационное н. ветра **кірунак ветру,** магнитное

метеорологическое (навигационное) н. ветра **магнітны напрамак (кірунак) ветру**.

НАПРАВЛЯЮЩАЯ *наз.* **кіравальня** (Р.І): н. ползуна **к. паўзуна**.

НАПРЯЖЕНИЕ 1. *тэхн.* **напружанне**: аварийное (допускаемое, рабочее) н. **аварыйнае (дапушчальнае, рабочае** (Р.І)**) н**. 2. *такт.* **напруга**: боевое н. **баявая н.**

НАРАБОТКА *тэхн*. **напрацоўка**: н. двигателя **н. рухавіка.**

НАРАЩИВАНИЕ *такт.* **падбаўле́нне:** н. сил и средств **п. сіл і сродкаў**.

НАРУШЕНИЕ **парушэнне**: н. в обеспечении полетов **п. забеспячэння палётаў**.

НАРЯД (Р.І) *такт.* **выправа**: н. самолетов **в. самалётаў**, боевой (полигонный) н. **баявая (палігонная) в.**

НАСОС **помпа**: насос-регулятор **п.-рэгулятар**, воздушный (всасывающий, гидравлический, лопастный, нагнетающий, откачивающий, перекачивающий, плунжерный, подкачивающий, струйный, топливный і г.д.) н. **паветраная (усмоктвальная** (Р.І), **гідраўлічная, лопасцевая, нагнятальная, адсмоктвальная, перасмоктвальная, плунжарная, падсмоктвальная, струменная, паліўная** і г.д.) **п**.

НАСТАВЛЕНИЕ (*дакумент*) **Настаўленне**: Н. по инженерно-авиационному обеспечению **Н. інжынерна-авіяцыйнага забеспячэння**, Н. по производству полетов **Н. палётаў** (Р.І) (выканання, чынення палётаў).

НАЧАЛО боевого пути *навіг.* **пачатак баявога шляху** (Р.І).

НАЧАЛЬНИК технического расчета **начальнік тэхнічнага разліка.**

НЕДОЛЕТ *пілат., узбр*. **недалёт**: н. воздушного судна (бомбы) **н. летака** (Р.І) **(бомбы)**.

НЕДОСТАТОК **недахоп**: конструктивно-производственный н. **канструктыўна-вытворчы н.**

НЕРВЮРА **нервюра**.

НИСХОДЯЩИЙ *прым. аэрад.* **сыходны** (Р.І).

НИША шасси **сховішча шасі** (Р.І).

НОЖНИЦЫ 1. *такт. прыём* **нажніцы**. 2. (*становішча стабілізатара)* **нажніцы**.

НОМЕНКЛАТУРА топографических карт **наменклатура тапаграфічных мап(аў)** (Р.І).

НОМОГРАММА *такт., навіг., узбр.* **намаграма**.

НОРМЫ *мн.* **нормы**: н. налета (летной годности і г.д.) **н. налёту (летнай годнасці).**

НОСОК *канстр.* **насок** (Р.І): н. киля (крыла, стабилизатора) **н. кіля (крыла, стабілізатара),** концевой (корневой, отклоняемый) н. **канцавы (каранёвы, адхіляемы) н.**, н. отъемной части крыла **н. аддымнай часткі крыла**.

НЫРОК под ракету *такт. прыём* **нырэц пад ракету**.

ОБДУВ **абдзіманне→абдзім**: о. крыла (летчика, фонаря) **а. крыла (лётчыка, ліхтара** (шкляна) (Р.І)).

ОБЕСПЕЧЕНИЕ **забеспячэнне**: авиационное о. выдвижения и развертывания войск **авіяцыйнае з. высоўвання і разгортвання войскаў,** авиационно-техническое (аэродромно-техническое, инженерно-авиационное, навигационно-временное, поисково-спасательное, радиотехническое, радиолокационное, штурманское і г.д.) о. полетов **авіяцыйна-тэхнічнае (аэрадромна-тэхнічнае, інжынерна-авіяцыйнае, навігацыйна-часавае, пошука(ва)-(вы)ратавальнае** (Р.І), **радыётэхнічнае, радыёлакацыйнае, штурманскае** і г.д**.) з. палётаў**, о. безопасности полетов (управления и связи) **з. бяспекі палётаў (кіравання і сувязі)** і інш.

ОБЖАТИЕ **вобціск** (Р.І): о. колес (стойки, амортизаторов) **в. колаў (стойкі, амартызатараў).**

ОБЛАСТЬ **вобласць**: *такт.* о. боевых действий **в. баявых дзеянняў**, *аэрд.* о. динамических высот **в. дынамічных вышыняў**; рабочая о. средств РТО **рабочая** (Р.І) **в. сродкаў РТЗ**.

ОБЛЕДЕНЕНИЕ (Р.І) **абледзяненне→аблядненне**: сильное (умеренное, слабое) о. **моцнае (сярэдняе, слабое) а.** .

ОБЛЕТ// *тэхн*. **аблёт**: о. воздушного судна **а. летака** (P.I); //ТАТЬ **аблятаць**.

ОБЛУЧ//АТЕЛЬ **апрамяняльнік→апраменнік**; //АЮЩИЙ *дзпр.* **апрамяняльны;** //ЕНИЕ **апрамяненне→апраменне**.

ОБНАРУЖЕНИЕ **выяўленне** (P.I): о. целей **в. цэляў** (P.I), дальнее радиолокационное о. **далёкае** (P.I) **радыёлакацыйнае в.,** своевременное о. **в. у час** (своечасовае) (P.I).

ОБОГРЕВ// **абагрэў** (P.I): о. кабины (стекла) **а. кабіны (шыбы)** (P.I); //АТЕЛЬ **абагравальнік**: керосиновый о. **газны** (P.I) **а.**

ОБОРОНА **абарона**: противовоздушная о. **супрацьпаветраная** (P.I) **а.**

ОБОРОТЫ *мн.* **абароты**: о. двигателя (воздушного винта і г.д.) **а. рухавіка (паветранага вінта** і г.д.).

ОБОРУДОВАНИЕ **абсталяванне**: авиационное (бортовое, десантно-транспорное**,** кислородно-дыхательное, крепежное, приборное, прицельно-навигационное, радиоэлектронное, радиосвязное, светосигнальное, светотехническое і г.д.) о. **авіяцыйнае (бартавое, дэсантна-транспартнае, кіслародна-дыхальнае, мацавальнае, прыладнае** (P.I), **прыцэльна-навігацыйнае, радыёэлектроннае, радыёсувязное, святлосігнальнае, святлотэхнічнае** і г.д.) **а**., о. системы посадки **а. сістэмы пасадкі** і інш.

ОБОЧИНА аэродромных покрытий **бакавіна аэрадромнага покрыва** (P.I).

ОБРАЗЕЦ **узор**: опытный (серийный і г.д.) о. **доследны (серыйны) у.**

ОБСЛУЖИВАНИЕ **абслугоўванне**: аэродромное (аэронавигационное, диспетчерское, полетно-информационное) о. воздушного движения **аэрадромнае (аэранавігацыйнае, дыспетчарскае, палётна-інфармацыйнае) а. паветранага руху**, ежедневное техническое о. **штодзённае тэхнічнае а.** і інш.

ОБСТАНОВКА (P.I) аварийная о. **аварыйны стан**; боевая (воздушная, метеорологическая, навигационная,

СИТУАЦИЯ **сітуацыя**: аварийная (чрезвычайная) с. **аварыйная (надзвычайная) с.**

СКАПОТИРОВАТЬ **скапатаваць**.

СКАЧОК уплотнения **скачок ушчыльнення.**

СКЛОНЕНИЕ магнитное **схіленне магнітнае.**

СКОБА *тэхн.* **клямар**.

СКОЛЬЖЕНИЕ *аэрд.* **слізганне** (Р.І): координированное с. **каардынаванае с.**

СКОРОПОДЪЕМНОСТЬ **хуткаўздымнасць** (Р.І).

СКОРОСТРЕЛЬНОСТЬ **хуткастрэльнасць** (Р.І).

СКОРОСТЬ **хуткасць** (Р.І): вертикальная (взлетная, воздушная, гиперзвуковая, дозвуковая, земная, индикаторная, истинная, крейсерская, окружная, перегоночная, посадочная, поступательная, приборная, путевая, расчетная, характеристическая і г.д.) с. **вертыкальная (узлётная, паветраная, гіпергукавая, дагукавая, зямная, індыкатарная, сапраўдная** (Р.І), **крэйсерная, акружная, перагоначная, пасадачная, паступальная, прыладная** (Р.І), **шляхавая** (Р.І), **разлічаная** (Р.І), **характарыстычная** і г.д.) **х.**, с. ветра (подсасывания) **х. ветру (падсмоктвання** (Р.І)).

СКРАДЫВАНИЕ расстояния (*ноччу*) **скрад(в)анне адлегласці**.

СКРЫТНОСТЬ *такт.* **скрытасць** (Р.І) (утоенасць): с. действий **с. дзеянняў**.

СЛАЖИВАНИЕ (Р.І) 1. (*мабілізацыйны тэрмін*) боевое с. **баявое шыхаванне** 2. *такт.* **шыхаванне**.

СЛЕД **след**: инверсионный (конденсационный, спутный) с. **інверсійны (кандэнсацыйны, спадарожны** (Р.І)) **с.**

«СЛЕДУЙТЕ на запасной аеродром» (*радыёабмен)* «**прастуйце** (Р.І) **на запасны аэрадром».**

СЛЕЖЕНИЕ за целью **сачэнне за цэллю** (Р.І).

СЛИЧЕНИЕ карты с местностью **зверка** (Р.І) **мапы** (Р.І) **з мясцовасцю**.

СЛОЙ (Р.І) **слой**: переходный (пограничный) с. **пераходны (памежны** (Р.І)) **с.**

СЛУЖБА **служба**: авиационно-диспетчерская (инженерно-авиационная, инжерно-аэродромная, поисково-спасательная и парашютно-десантная і г.д.) **авіяцыйна-дыспетчарская (інжынерна-авіяцыйная, інжынерна-аэрадромная, пошука(ва)-(вы)ратавальная** і г.д.) **с**., с. безопасности полетов **с. бяспекі палётаў**.

СЛУЧАЙ **выпадак**: особый с. в полете **асаблівы выпадак у палёце**.

СМАЗКА 1. (*дзеянне*) **змазванне**: капельная с. **кроплевае з.**, с. под давлением (разбрызгиванием) **з. пад ціскам (распырскваннем**) 2. **змазка**.

СМЕНА летная **змена лётная**.

СМЕС//ИТЕЛЬ **змяшальнік**: //Ь **сумесь**: бедная (богатая, горючая, дыхательная, топливовоздушная) с. **бедная (багатая, гаручая** (Р.І), **дыхальная, палівапаветраная**) **с**.

СМЕЩЕНИЕ угловое **зрух вуглавы** (Р.І).

СНАРЯЖЕ//НИЕ (Р.І) 1. *(амуніцыя)* **рыштунак**: высотное **(**полетное, штурманское) с. **вышынны** (Р.І) **(палётны, штурманскі) р.;** 2. *(падрыхтоўка зброі)* **набіванне (узброй)** //ННЫЙ (КМГУ, лента) **узброены** (начынены) **КМГУ, узброеная** (начыненая) **стужка**.

СНОС (Р.І) 1. *тэхн.* **знос**: с. лопаток **з. лапатак** 2. *навіг.* **знос**: с. самолета **з. самалёта**.

СОВМЕСТИМОСТЬ электромагнитная **сумяшчальнасць электрамагнітная.**

СОБЫТИЕ авиационное **падзея авіяцыйная**.

СОГЛАСОВАНИЕ курсовой системы **ўзгадненне курсавой сістэмы**.

СООБЩЕНИЕ воздушное **паведамленне паветранае.**

СООРУЖЕНИЕ **збудаванне**: аэродромное (высотное) с. **аэрадромнае (вышыннае** (Р.І)) **з**.

СОПЛО **сапло**: жаростойкое (реактивное, струйное, форсуночное) с. **гара(ча)ўстойлівае (рэактыўнае, струменнае, фарсункавае) с**., с. Лаваля **с. Лаваля**.

СОПРОВОЖДЕНИЕ *такт.* **суправаджэнне**: с. на проходе **с. на праходзе**, патрульное с. **патрульнае с**.

СОПРОТИВЛЕНИЕ *аэрд.* **супраціўленне→супраціў** (Р.I): аэродинамическое (донное, волновое, вредное, индуктивное, лобовое**) аэрадынамічны (донны, хвалевы, шкодны, індуктыўны, лабавы) с.**

СОСРЕДОТОЧЕНИЕ (Р.I) *такт.* **засяроджанне**: с. основных усилий **з. асноўных намаганняў,** с. сил и средств **з. сіл і сродкаў**.

СОСТАВ (Р.I) 1. (*устойлівыя словазлучэнні прафесійных груп*) **састаў**: инженерно-технический (летный, руководящий, штурманский) с. **інжынерна-тэхнічны (лётны, кіраўнічы** (Р.I)**, штурманскі** і г.д.) **с.**, *выключэнне* – личный состав **асабовы склад** 2. (*структура*) **склад**: с. цели **с. цэлі**, с. командования (группы руководства, экипажа і г.д.) **с. камандавання (групы кіраўніцтва, экіпажа** і г.д.).

СОСТАВЛЯЮЩАЯ **складнік**.

СОСТОЯНИЕ **стан** (Р.I): с. приборов (летательного аппарата, эксплутационной готовности) **с. прыладаў** (Р.I) (**лятальнага апарата, эксплуатацыйнай гатоўнасці**).

«СОХРАНЯЙТЕ курс …» (*радыёабмен*) «**захоўвайце курс** …».

СПАРАШЮТИРОВАТЬ **спарашутаваць.**

СПАС<u>А</u>НИЕ (Р.I) **<u>вы</u>ратаванне**: с. терпящих бедствие **в. зазнаўшых ліха** (Р.I).

СПАСАТЕЛЬ (Р.I) 1. **ратавальнік** (*спецыяліст*) 2. **выратавальнік** (*транспарт*).

СПАС<u>Е</u>НИЕ (Р.I) **ратаванне**: с. экипажа воздушного судна **р. экіпажа летака** (Р.I).

СПИСЫВАНИЕ *навіг., тэхн.* **спісанне**: с. элеронов **с. элеронаў**, с. девиации **с. дэвіяцыі**.

СПИНКА кресла откидывающаяся/отклоняющаяся **спінка крэсла адкідваемая/адхіляемая**.

СПИРАЛЬ *ф. пилатажу* **спіраль** (Р.III).

СПЛАНИРОВАТЬ *аэрд.* **спланіраваць** (Р.I).

СПОЙЛЕР **спойлер**.

СПОСОБ **спосаб**: с. боевых действий авиации **с. баявых дзеянняў авіяцыі**, с. захода на площадку 2-мя на 180 (на

расчетный угол, по малой коробочке, с ходу) **с. заходу на пляцоўку 2-ма на 180 (на разліковы** (Р.І) **вугал, па малой “каробачцы”, з ходу**).

СПОСОБНОСТЬ *розн.* **здольнасць**: *такт.* боевая с. **баявая з.** (Р.І), *тэхн.* разрешающая с. **раздзяляльная** (Р.І) **з.**

СПРЯМЛЕНИЕ маршрута **спраставанне** (Р.І) **маршруту.**

СПУТНИК **спадарожнік**: навигационный искусственный с. Земли **навігацыйны штучны с. Зямлі**.

СРАБАТЫВАНИЕ ложное *тэхн.* **спрацоўванне памылковае**.

СРАЖЕНИЕ воздушное *такт.* **бітва паветраная.**

СРЕДА рабочая **асяроддзе рабочае** (Р.І).

СРЕДСТВ//А *мн.* **сродкі:** с. аварийного покидания (авиационного поражения, аэродромно-технического обеспечения, воздушного нападения, объективного контроля, связи и радиотехнического обеспечения, спасения и жизнеобеспечения) **с. аварыйнага пакідання (авіяцыйнага ўшчэнту** (Р.І), **аэрадромна-тэхнічнага забеспячэння, паветранага нападу, аб’ектыўнага кантролю, сувязі і радыётэхнічнага забеспячэння, ратавання** (Р.І) **і жыццезабеспячэння**), с. наземного обслуживания полетов общего (специального) применения **с. наземнага абслугоўвання палётаў агульнага (спецыяльнага) ужывання,** радиолокационные (радиотехнические, радиоэлектронные) с. **радыёлакацыйныя (радыётэхнічныя, радыёэлектронныя) с**.; //О **сродак**: авиационное с. поражения **авіяцыйны с. ушчэнту** (Р.І), расчетное огневое с. **разліковы** (Р.І) **агнявы с**., пиротехническое с. **піратэхнічны с.**

СРЫВ потока **зрыў патоку** (Р.І).

СТАБИЛИЗА//ТОР **стабілізатар:** вертикальный (дифференциально отклоняемый, цельноповоротный) с. **вертыкальны (дыферэнцыйна адхіляемы, цалка(м)паваротны) с**.; //ЦИЯ **стабілізацыя**: с. высоты (курса, режима висения і г.д.) **с. вышыні (курсу, рэжыму вісення** і г.д.).

СТАДИЯ **стадыя**: с. бедствия (неопределенности, тревоги) **с. ліха** (Р.І) (**нявызначанасці, трывогі**), аварийная с. **аварыйная с.**

СТАКАН *техн.* **рулька** (Р.III): с. снаряда **р. снарада**, бумажный с. **папяровая р.**

СТАНЦИЯ **станцыя**: бортовая радиолокационная с. **бартавая радыёлакацыйная с.**, с. предупреждения об облучении **с. папярэджання апраме(ньва)ння** (Р.І), с. летных испытаний **с. лётных выпрабаванняў**, подвижная метеорологическая с. **рухомая метэаралагічная с**.

СТАРТ исполнительный (предварительный) **старт выканаўчы (падрыхтоўчы)** (Р.III).

СТАРТЕР **старцёр**: воздушный с. **паветраны с**., с.-генератор **с.-генератар**.

СТАТОР **статар**: с. компрессора (корпуса) **с. кампрэсара (корпуса**).

СТВОЛ (Р.І) 1. (*клас гармат*) **ствол** 2. (*ружжо, клас пушак, кулямёты* і г.д.) **руля**.

СТВОРКА *тэхн.* **счын** (Р.І): с. реверса (сопла) **с. рэверса (сапла**), ведомая (кольцевая, ведущая, наружная) с. **вядзёны** (Р.І) (**кальцавы, вядучы** (Р.І), **знадворны** (Р.І)) **с.**, с. капота (радиатора, шасси і г.д) **с. капота (радыятара, шасі** і г.д.).

СТВОРКА-РЕШЕТКА реверса тяги **счын-краты (кратка)** (Р.І) **рэверса цягі**.

СТЕКАТЕЛЬ задний сцяк(аль)нік **задні**.

СТЕКЛО// (Р.І) 1. (*разглядаемае як секцыя, частка агульнай канструкцыі*) **шыба**: левое (лобовое, переднее, правое) с. **левая (лабавая, пярэдняя, правая) ш.** 2. (*структура*) **шкло**; //ОЧИСТИТЕЛЬ **шклоачышчальнік**.

СТЕПЕНЬ **ступень**: заданая с. поражения **загаданая** (Р.І) **с. ушчэнту** (Р.І).

СТОЙКА *канстр.* **стойка (нага)**: амортизационная (главная, носовая, основная, передняя) с. (нога) шасси **амартызацыйная (галоўная, насавая, асноўная, пярэдняя) с. (нага) шасі**.

СТОЛКНОВЕНИЕ **сутыкненне**.

СТОПОР **сто́пар** (Р.III).

СТРАВЛИВАНИЕ воздуха (Р.I) **страўленне паветра.**

СТРЕЛА бортовая **страла бартавая**.

СТРЕЛОВИДНОСТЬ **стрэлападобнасць:** изменяемая (обратная) с. **зменная (адваротная** (Р.I)) **с**.

СТРЕЛЬБЫ воздушные **стрэльбы паветраныя**.

СТРЕМЯНКА **драбінкі**.

СТРИНГЕР **стрынгер**.

СТРОБ// **строб**; //ИРОВАНИЕ **страбаванне** (Р.I).

СТРОЙ полетный **строй палётны** (Р.I).

СТРОПА **страпа**.

СТРУЖКА в масле **стружка ў аліве** (Р.I).

СТРУКТУРА **структура**: с. воздушного пространства **с. паветранай прасторы**, организационно-штатная с. **арганізацыйна-штатная с.**

СТРУЯ спутная (Р.I) **струмень спадарожны.**

СТУПЕНЬ (Р.I) *тэхн*. **ступень** (прыступка): с. компрессора (турбины) **с. кампрэсара (турбіны)**, с. ракеты **ступень ракеты**, барическая с. **барычная с**.

СТЫК// **стык**; //ОВКА **стыкаванне**.

СТЫКОВОЧНЫЙ *прым*. **стыкоўны** (Р.I).

СУДНО воздушное (ВС) **лятак** (Р.I), *род.* **летака**: государственное (гражданское, многоместное, одноместное, поисково-спасательное, учебное і г.д.) ВС **дзяржаўны (грамадзянскі (***як вайск. тэрмін* **цывільны** (Р.I), **шматмясцовы, аднамясцовы** (Р.I), **пошука(ва)-(вы)ратавальны**) **л**.; ВС, потерпевшее бедствие **л., які зазнаў ліха** (Р.I); ВС, терпящее бедствие **л., на якім ліха**; ВС-лаборатория **л.-лабараторыя**, ВС-нарушитель **л.-парушальнік.**

СУЖЕНИЕ крыла **звужэнне крыла**.

СУФЛЕР **суфлёр**: центробежный с. **дацэнтравы с.**

СХЕМА **схема:** аэродинамическая (интегральная, нормальная) с. **аэрадынамічная (інтэгральная, нармальная) с.,** с. воздушного движения **с. паветранага руху**, необратимая с. **незваротная** (Р.I) **с.,** прицельная с. **прыцэльная с.,** с.

радиосвязи **с. радыёсувязі**, с. технологических разъемов **с. тэхналагічных раздымаў**.

СХОД ракеты **сыход** (Р.І) **ракеты.**

СХОДИМОСТЬ меридианов **збежнасць** (Р.І) **мерыдыянаў.**

СЧИСЛЕНИЕ *навіг.* **злічэнне** (Р.І): с. пути (координат, места) **з. шляху** (Р.І) **(каардынат, месца).**

ТАБЛИЦА **табліца**: т. позывных **т. пазыўных** (Р.І), баллистическая т. **балістычная т.**, плановая т. полетов **планавая т. палётаў**.

ТАБЛО **табло**: световое т. **светлавое т.**

ТАНГАЖ **тангаж**.

ТАРЕЛКА автомата перекоса **талерка аўтамата перакосу** (Р.І).

ТЕАТР военных действий **тэатр ваенных** (Р.І) **дзеянняў**.

ТЕМПЕРАТУРА **тэмпература**: т. воспламенения **т. узгарання**, средняя т. на уровне моря **сярэдняя т. на ўзроўні мора**, базовая (наружная) **базавая (знадворная** (Р.І)) **т.**

ТЕПЛООБМЕННИК **цеплаабменнік**.

ТЕРП//ЕТЬ бедствие **зазнаць ліха** (Р.І); //ЛЮ бедствие **на борце ліха** (Р.І).

ТЕРРИТОРИЯ приаэродромная **тэрыторыя прыаэрадромная**.

ТЕРЯТЬ (Р.І) *пілат.*: 1. т. высоту (скорость) **губляць вышыню** (**хуткасць**) 2. (комплексныя параметры *потерять*) **страціць**: потерять ориентировку (управление) **с. арыентаванне** (Р.І) **(кіраванне).**

ТЕТРАДЬ подготовки к полетам **сшытак падрыхтоўкі да палётаў.**

ТЕХНИК **тэхнік.**

ТЕХНИКА 1. **тэхніка**: аварийно-спасательная (авиационная, аэродромно-эксплуатационная, парашютно-спасательная и десантная і г.д.) т. **аварыйна-(вы)ратавальная** (Р.І) **(авіяцыйная, аэрадромна-эксплуатацыйная, парашутна-(вы)ратавальная і дэсантная** і г.д.) **т.** 2. *методыка* **тэхніка**: т. пилотирования **т. пілатавання**.

ТЕХНОЛОГИЯ работы **тэхналогія работы** (Р.І).

ТЕЧЕНИЕ *(паветра)* **цячэнне** (Р.І): гиперзвуковое **(**вихревое, дозвуковое) т. **гіпергукавое (віхравое** (Р.І), **дагукавое) ц.**

ТЕЧЬ **цеча:** т. масла (топлива і г.д.) **ц. алівы** (Р.І) **(паліва** і г.д.).

ТКАНЬ *тэхн.* **тканіна**: прорезиненная (стекловолоконная, углеродная) т. (пра)**гумованая (шкловалаконная, углеродная) т.**

ТОЛКАТЕЛЬ **штурхач**.

ТОЛЩИНА **таўшчыня:** относительная т. профиля **адносная т. профіля.**

ТОПЛИВО// **паліва**: долгохранимое (жидкое, кислородно-керосиновое, краткохранимое, этилированное) **доўгатрыманае (вадкае, кіслародна-газавае, кароткатрыманае, эцілаванае**) **п.**; //ЗАПРАВЩИК **палівазапраўнік**, (палівазапраўшчык): авиационный т. **авіяцыйны палівазапраўнік;** //МЕР **палівамер**.

ТОРЕЦ ВПП **тарэц УПП**.

ТОРМОЗ *розн.* **тормаз**: *тэхн.* т. несущего винта **т. пад'ёмнага** (Р.І) **вінта**, воздушный (стояночный і г.д.) т. **паветраны (стаяначны** і г.д.) **т.**

ТОЧКА (Р.І) *розн.* **пункт, кропка**: 1. **пункт** (*месца*): *навіг., узбр.* вынесенная т. прицеливания **вынесены п. прыцэлу** (Р.І), т. приземления **п. прызямлення** (*разм.* кропка), контрольная т. аэродрома **кантрольны п. аэрадрома**, т. излома маршрута **п. злому маршруту**, т. касания **п**. (да)**кранання** (Р.І), т. начала выброски **п. пачатку выкіду** (Р.І), т. начала снижения **п. пачатку зніжэння**, т. окончания дозаправки **п. канчатку дазапраўкі**, т. разворота на цель **п. развароту на цэль**, т. сбрасывания **п. скіду**, заданная т. встречи **загаданы** (Р.І) **п. сустрэчы**, заданная т. **загаданы** (Р.І) **п.**, опорная т. радиомаячных систе́м посадки **апорны п. радыёмаячных сістэм пасадкі**, промежуточная т. (пункт) маршрута **прамежкавы п. маршруту**, радионавигационная т. **радыёнавігацыйны п**., расчетная т. входа в зону **разлічаны**

(P.I) **п. уваходу ў зону**, расчетная т. **разлічаны** (P.I) **пункт** 2. геодезическая т. **геадэзічны пункт** 3. т. подвески **гак (крук) падвеса** (P.I).

ТРАВЕРЗ **траверз**.

ТРАЕКТОРИЯ **траекторыя**: т. полета **т. палёту**, взлетная (посадочная) т. **узлётная (пасадачная) т.**, пространственно-временная т. **прастора(ва)-часавая** (P.I) **т.**, баллистическая т. **балістычная т.**

ТРАНСМИССИЯ вертолёта *тэхн.* **трансмісія верталёта**.

ТРАП **трап**: грузовой (пассажирский, самоходный) т. **грузавы (пасажырскі, самаходны) т.**

ТРАССА воздушная (P.I) **траса паветраная** (паветраны гасцінец).

ТРЕНАЖЕР **трэнажор**: комплексный т. летчика **комплексны т. лётчыка** (P.I), кислородно-перегрузочный т. **кіслародна-перагрузачны** (P.I) **т**.

ТРЕНИЕ *аэрд., фіз.* **трэнне**: вязкое (ламинарное, поверхностное) т. **вязкае (ламінарнае, паверхневае) т**., т. качения (скольжения) **т. качэння** (P.I) **(слізгання** (P.I)**)**.

ТРИММЕР **трымер:** т. руля высоты (руля направления, элерона) **т. руля вышыні** (P.I) **( руля напрамку** (P.I), **элерона**).

ТРИПЛАН **трыплан**.

ТРОС **трос**.

ТРУБ//А **труба**: аэродинамическая т. **аэрадынамічная т**.; //ОПРОВОД **трубаправод**.

ТРЯСКА (*самолета, вертолета*) (P.I) **трасенне**.

ТУРБИНА **турбіна:** т. ротора (каскада, компрессора) высокого (низкого) давления **т. ротара (каскада, кампрэсара) высокага (нізкага) ціску**, т. вентилятора **т. вентылятара**, свободная т. **вольная т.** (P.I).

ТУРБОКОМПРЕССОР **турбакампрэсар**.

ТУРБУЛЕНТНОСТЬ атмосферная **турбулентнасць атмасферная.**

ТЯГА 1. *аэрд., фіз.* **цяга**: взлетная (лобовая, осевая, основная, реверсивная, реактивная і г.д.) т. **узлётная (лабавая, восевая, асноўная (рэверсіўная, рэактыўная** і г.д.) **ц.** 2.

*канстр.* **цяга**: т. путевого (поперечного, продольного) управления **ц. напрамкавага** (Р.І) (**папярочнага, падоўжнага) кіравання**, т. управления общим шагом (циклическим шагом, элеронами і г.д.) **ц. кіравання злучанным крокам** (Р.І) (**цыклічным крокам, элеронамі** і г.д.), полужесткая (пружинная) т. **паўцвёрдая** (Р.І) (**пружынная) ц**.

ТЯГАЧ дежурный **цягач дзяжурны**.

ТЯГОВООРУЖЕНОСТЬ самолета **цягаўзброеннасць самалёта**.

УБОРКА *тэхн***. прыбіранне** (схаванне) (Р.І): у. закрылков (механизации, шасси і г.д.) **п. закрылкаў (механізацыі, шасі** і г.д.).

УБРАТЬ *техн.* **прыбраць** (схаваць) (Р.І): у. закрылки (механизацию, шасси і г.д.) **п. закрылкі (механізацыю, шасі** і г.д.).

УВОД (Р.І) 1. *пілат.* **адвод**: у. с опасной высоты **а. з небяспечнай вышыні** 2. *тэхн.* **адхіленне**: у. стрелки **а. стрэлкі**.

УГОЛ (Р.І) **вугал**: у. ветра **в. ветра**, у. карты (места) **в. мапы** (Р.І) (**месца**), у. наклона глиссады **кут** (Р.І) **нахіла глісады**, у. относа **в. адносу**, у. опережения (взмаха) **в. апярэджання** (Р.І) **(маху**), у. поправки на ветер **в. папраўкі на вецер**, у. разворота **в. развароту**, у. рыскания (скольжения, сноса) **в. рыскання** (Р.І) (**слізгання** (Р.І), **зносу**), у. сближения меридианов **в. збліжэння мерыдыянаў**, у. стреловидности **в. стрэлападобнасці,** у. сходимости **в. збежнасці** (Р.І), у. упреждения **в. апярэджання** (Р.І), у. установки лопастей (крыла і г.д.) **в. усталёўкі** (Р.І) **лопасцяў (крыла** і г.д.), (боевой, заданный, истинный, магнитный, условный, фактический) путевой у. (**баявы, загаданы** (Р.І), **сапраўдны** (Р.І), **магнітны, умоўны, фактычны) напрамкавы** (Р.І) **в.,** безопасный у. расхождения **бяспечны в. разыходжання**, дирекционный у. **дырэкцыйны в.,** критический (предельный) у. атаки **крытычны (гранічны** (Р.І)) **в. атакі** (Р.І), курсовой у. радиостанции (ветра) **курсавы в. радыёстанцыі (ветру),** расчетный у. **разліковы** (Р.І) **в**., установочный у. лопасти **усталёвачны** (Р.І) **в. лопасці.**

УДАР *розн.* **удар**: авиационный (огневой) у. **авіяцыйны (агнявы) у**., одновременный (последовательный) у. авиации по вызову **адначасовы (паслядоўны) у. авіяцыі па выкліку**, нанесенный (планируемый) групповой (одиночный) у. **нанесены (плануемы) групавы (адзіночны) у.**, массированый ракетно-авиационный у. **масіраваны ракетна-авіяцыйны ў**., точечный у. **кропкавы** (Р.І) **у.**, звуковой у. **гукавы ў.**, гидравлический у. **гідраўлічны ў.**

УДЛИНЕНИЕ крыла **падаўжэнне крыла**.

УЗЕЛ *розн.* **вузел**: аэродромный у. **аэрадромны в.,** у. подвески **в. падвеса** (Р.І), у. вентилятора (компрессора, крепления, турбины, швартовки і г.д.) **в. вентылятара (кампрэсара, мацавання, турбіны, швартоўкі** (Р.І) і г.д.).

УКАЗАНИЯ *мн.* **указанні**: *(дакумент)* Организационно-методические у. **Арганізацыйна-метадычныя ў.**; предполетные у. **перадпалётныя ў.**

УКАЗАТЕЛЬ *тэхн.* **паказальнік** (Р.І): комбинированный у. скорости **камбінаваны п. хуткасці** (Р.І) і інш.

УКЛОНЕНИЕ *навіг.* **ухіленне**: линейное боковое у. **лінейнае бакавое ў.**

УНИЧТОЖЕНИЕ (Р.І) *такт.* **знішчэнне**: у. по типу А **з. па тыпу А**.

УПОР *тэхн.* **упор**: подвижный у. управления **рухомы ў. кіравання.**

УПРАВЛЕНИЕ 1. **кіраванне**: *пілат.* балансирное (бустерное, двойное, директорное, спаренное) у. **балансірнае (бустарнае, падвойнае, дырэктарнае, спаранае** (спараванае)) **к.**, путевое (продольное, продольно-поперечное) у. **напрамкавае** (Р.І) (**падоўжнае, падоўжна-папярочнае) к**., у. общим шагом (остановом двигателей, стабилизатором, торможением, тормозом несущего винта і г.д.) **к. злучаным крокам** (Р.І) (**спынам** (Р.І) **рухавікоў, стабілізатарам, тармажэннем, тормазам пад’ёмнага** (Р.І) **вінта** і г.д.); *такт.* боевое у. **баявое к**., скрытое у. войска́ми **скрытае** (утоенае) (Р.І) **к. войскамі**; у. воздушным движением (полетами) **к.**

**паветраным рухам (палётамі**) 2. (*установа*) **Управленне**: У. авиации Главного штаба **У. авіяцыі Галоўнага штаба.**

УПРАВЛЯЕМОСТЬ *аэрд., пілат.* **кірава(ль)насць** (Р.І): боковая (поперечная, продольная) у. **бакавая (папярочная, падоўжная) к.**

УПРАЖНЕНИЕ летное **практыкаванне лётнае**.

УПРЕЖДЕНИЕ (Р.І) *навіг.* **апярэджанне**: линейное у. разворота **лінейнае а. развароту**, у. цели **а. цэлі**.

УРАВНЕНИЕ Бернули **раўнанне Бернулі**.

УРОВЕНЬ *розн.* **узровень**: средний у. моря **сярэдні у. мора**, у. пола кабины **у. падлогі кабіны** і інш.

УСИЛИТЕЛЬ **узмацняльнік**.

УСЛОВИЯ **умовы**: визуальные (приборные) метеорологические у. **візуальныя (прыладныя** (Р.І)) **метэаралагічныя у**.

УСТАНОВИВШИЙСЯ *прым.* (*аэрд.)* **усталяваны** (Р.І).

УСТАНОВКА (Р.І) 1. *закрылкаў (і іншых аэрадынамічных паверхняў на вызначаны вугал*) **усталёўка** 2. *канстр.* **устаноўка**: артиллерийская (вентиляторная, винтомоторная, вспомогательная силовая, катапультная, парашютно-тормозная, спаренная, подвижная, пушечная) у. **артылерыйская (вентылятарная**, **вінтаматорная**, **дапаможная сілавая**, **катапультная**, **парашутна-тармазная**, **спараная** (спараваная) **рухомая**, **гарматная** (Р.І)) **у.**, наземная у. воздушного запуска **наземная у. паветранага запуску** 3. у. заданного режима (профиля полета) **усталяванне загаданага** (Р.І) **рэжыму (профілю палёту)** 4. у. высоты **(**давления, курса, скорости) **усталёўка вышыні (ціску, курсу, хуткасці** (Р.І)).

УСТАНОВЛЕННЫЙ *прым.* **устаноўлены** (вызначаны) (Р.І): у. минимум погоды **у.** (вызначаны) **мінімум надвор’я**.

УСТОЙЧИВОСТЬ *аэрд.* **устойлівасць**: аэроупругая (боковая, динамическая, поперечная, продольная, путевая, статическая) у. **аэрапругкая (бакавая, дынамічная, папярочная, падоўжная, напрамкавая** (Р.І), **статычная) у.**; *тэхн.* у. горения **у. гарэння.**

УСТОЙЧИВОСТЬ и управляемость (Р.I) **устойлівасць і кірава(ль)насць**.

УСТРОЙСТВО (Р.I) 1. **прыстасаванне→прыстасова** (Р.I): аварийно-тормозное (авиационно-пусковое, взлетно-посадочное, водосливное, парашютно-тормозное, энергогасящее, экранно-выхлопное) у. **аварыйна-тармазное (авіяцыйна-пускавое, узлётна-пасадачнае, вадазліўнае, парашутна-тармазное, энергагасільнае, экрана-выхлапное) п.**, входное (пылезащитное, реверсивное) у. двигателя **уваходнае (пылаахоўнае, рэверсіўнае) п. рухавіка** 2. **прылада**: бортовое у. регистрации **бартавая п. рэгістрацыі**, выпрямительное (пусковое, регистрирующее, решающее, самолетное переговорное, согласующее, спусковое і г.д.) у. **выпрамляльная (пускавая, регістравальная, рашальная** (Р.I)**, самалётная перамоўная** (Р.I), **узгадняльная, спускавая** і г.д) **п.**

УТЕЧКА **выцяканне (выцек)**.

«УТКА» *аэрд. схема* **качка** (Р.I).

УХОД 1. у. на второй круг **адыход** (Р.I) **на другі круг** (Р.I), у. (отход) от цели **адыход** (Р.I) **ад цэлі** (Р.I) 2. у. стрелки (индекса, параметров) **адхіленне** (Р.I) **стрэлкі (індэкса, параметраў**) 3. у. на запасной аэродром **сыход** (Р.I) **на запасны аэрадром**.

УЧАСТОК *розн*. **участак**: *такт.* аэродромный у. дороги **аэрадромны ў. дарогі**; переходный у. взлетно-посадочной полосы **пераходны ў. узлётна-пасадачнай паласы**.

УЧЕНИЕ **вучэнне**: командно-штабное (летно-тактическое і г.д.) у. **камандна-штабное (лётна-тактычнае** і г.д.) **в**.

УШИРЕНИЕ ВПП **пашырэнне УПП**.

УЩЕРБ *такт.* **шкода** (Р.I): заданный у. объекту **загаданная** (Р.I) **ш. аб'екту**, предотвращенный у. **прадухіленая ш.**

УЯЗВИМОСТЬ *такт.* **уразлівасць**: у. цели (объекта) **у. цэлі (аб'екта**).

УЯСНЕНИЕ задачи (Р.I) *такт.* **уразуменне задачы.**

ФАЗОВРАЩАТЕЛЬ **фазаабаротнік**.

ФАРА **фара**: посадочная (посадочно-поисковая, рулежная і г.д.) **пасадачная (пасадачна-шукальная** (пошукавая), **рулёжная** і г.д.) **ф**.

ФЕРМА *канстр.* **ферма**.

ФИГУРА пилотажа **фігура пілатажу**: восходящая (нисходящая) ф. п. **узыходная (сыходная)** (Р.І) **ф. п.**

ФИДЕР питающий **фідар сількавальны.**

ФИКС//АЦИЯ принудительная *тэхн*. **фіксацыя прымусовая**; //ИРОВАНИЕ **фіксаванне.**

ФИЛЬТР **фільтр** (**цэдаль**) (Р.І): ф. грубой (тонкой) очистки **цэдаль грубай (тонкай) ачысткі** (Р.І), маслянный (топливный, воздушный і г.д.) ф. **масляны** (Р.І) (**паліўны, паветраны** і г.д.) **цэдаль**.

ФЛАЖОК *тэхн.* **сцяжок**: ф. бленкера **с. бленкера**, сигнальный ф. **сігнальны с**.

ФЛАТТЕР **флатар**: ф. крыла (лопасти) **ф. крыла (лопасці**), изгибно-крутильный ф. **згінальна-круцільны ф.** і інш.

ФЛЮГ//ЕР **флюгер**; //ИРОВАНИЕ **флюгаванне**.

ФОКУС// аэродинамический **фокус аэрадынамічны**; //ИРОВКА **факусаванне.**

ФОНАРЬ (*авіяцыйны*) *канстр*. **ліхтар** (*разм*. шклян род. шкляна) (Р.І).

ФОРКИЛЬ **фаркіль**.

ФОРМУЛЯР воздушного судна **фармуляр летака** (Р.І).

ФОРМА *тэхн*. **форма**: прямоугольная (трапециевидная, трехугольная і г.д.) ф. крыла в плане **прамакутная** (Р.І) (**трапецападобная, трохкутная** і г.д.) **ф. крыла ў плане**, выпукло-вогнутая (двояко-выпуклая, двояко-вогнутая, оживальная, плоско-выпуклая, сигарообразная) ф. **пукатаўвагнутая** (Р.І) (**дваякапукатая, дваякаўвагнутая, ажывальная, плоскапукатая, цыгарападобная**) **ф**.

ФОРСУНКА **фарсунка**; распылительная (регулируемая, сопловая, струйная, топливная, центробежная, щелевая) ф. **распыляльная (рэгуляваная, саплавая, струменная, паліўная, дацэнтравая, шчылінная**) **ф**.

ФОТОСТРЕЛЬБА **фотастральба**.

ФРОНТ 1. (*форма баявога шыху*) **фронт** 2. *метэа*. **фронт**: атмосферный (теплый, холодный) ф. **атмасферны (цёплы, халодны) ф.**, ф. окклюзии **ф. аклюзіі**.

ФЮЗЕЛЯЖ **фюзеляж**: балочно-обшивочный (несущий, ферменный, цельнометаллический і г.д.) ф. **бэлечна-абшывачны** (Р.І) (**пад'ёмны** (Р.І), **фермавы, суцэльнаметалічны** і г.д.) **ф**.

ХАРАКТЕРИСТИК//А *тэхн*. **характарыстыка**: высотная (дроссельная) х. двигателя **вышынная** (Р.І) (**дросельная) х. рухавіка**; //И *мн.* **характарыстыкі**: аэродинамические (взлётно-посадочные, летные, летно-технические, тактико-технические) х. **аэрадынамічныя (узлётна-пасадачныя, лётныя, лётна-тэхнічныя, тактыка-тэхнічныя) х.**, весовые х. **вагавыя х.,** прочностные х. **трываласныя** (Р.І) **х.**

ХЛОПОК аэродинамический **воплеск** (Р.І) **аэрадынамічны.**

ХОД (Р.І) 1. *такт*., *пілат*. **ход**: посадка с х. **пасадка з х.**, атака цели с х. **атака цэлі з х.** 2. *тэхн*. (*мера адлегласці*) **ход**: полный х. педалей (штока і г.д.) **поўны х. педаляў** (панажоў) (**штоку** і г.д.), рабочий (свободный, холостой) х. **рабочы (вольны** (Р.І), **халасты) х**.

ХОРДА *аэрд*. **хорда**: средняя аэродинамическая х. крыла **сярэдняя аэрадынамічная х. крыла**.

ЦАПФА **цапфа**.

ЦЕЛЕУКАЗАНИЕ **цэлеўказ(анне)** (Р.І).

ЦЕЛОСТНОСТЬ обшивки (Р.І) **цэласць абшыўкі** (Р.І).

ЦЕЛ//Ь (Р.І) *такт*., *узбр.* (*аб'ект уздзеяння*) **цэль**: воздушная (групповая ложная, малоразмерная, маневрирующая, наземная, неопознанная, одиночная, стробированная, тепловая) ц. **паветраная (групавая, зманная** (Р.І), **маламерная** (Р.І), **манеўраная** (манеўруючая), **наземная, неапазнаная** (Р.І), **адзіночная** (Р.І), **страбаваная** (Р.І), **цеплавая) ц**., малоскоростная, маловысотная, малозаметная ц. (МММЦ) **няхуткасная, невышынная, малапрыкметная ц. (ННМЦ)**

(Р.І); *радыёабмен* «ц. поражена» «**ц. ушчэнчана**» (Р.І); //ЕВОЙ *прым.* 1. **мэтавы** 2. **цэлявы**: целевой канал **цэлявы канал.**

ЦЕНТР **цэнтр** [цэнт*а*р] *аэрд.*: ц. давления (изгиба, кривизны, масс, тяжести) **ц. ціску** (Р.І) (**выгіну, крывізны** (крывіні), **мас, цяжару**); *арг.* ц. оперативного и тактического взаимодействия **ц. аперацыйнага** (Р.І) **і тактычнага ўзаемадзеяння**, ц. боевого управления (управления авиацией) **ц. баявога кіравання (кіравання авіяцыяй)**, ц. Единой системы организации воздушного движения **ц. Адзінай сістэмы арганізацыі паветранага руху,** центр оперативного управления **ц. аператыўнага** (Р.І) **кіравання,** аэродромный (районный) диспетчерский ц. **аэрадромны (раённы) дыспетчарскі ц.**, координационный ц. поиска и спасания **каардынацыйны ц. пошуку і выратавання** (Р.І).

ЦЕНТРАЛЬ скорости и высоты **цэнтраль хуткасці** (Р.І) **і вышыні** (Р.І).

ЦЕНТР//ОВКА (Р.І) **цэнтроўка**: предельно задняя (передняя і г.д.) ц. **гранічна** (Р.І) **пярэдняя (задняя) ц.;** //ИРОВАНИЕ (центровка) **цэнтраванне.**

ЦЕНТРОПЛАН **цэнтраплан**.

ЦИЛИНДР **цыліндр** [цыліндар]: силовой ц. тяги **сілавы ц. цягі,** ц.-подкос **ц.-падкос**.

ЧАСТОТА *розн*. **частата**: ч. биения **ч. біцця**, ч. вращения **ч. кручэння**, аварийная (высокая, запасная, круговая, несущая, опорная, очень высокая, собственная) ч. **аварыйная (высокая, запасная, кругавая** (Р.І), **ч.-носьбіт, апорная, вельмі высокая, уласная**), угловая ч. **вуглавая** (Р.І) **ч.**

ЧАСТЬ (Р.І) *арг.* **часць** (*разм., мастацк.* **частка)**: авиационная (воинская) ч. **авіяцыйная (вайсковая) ч.**, техническая эксплуатационная (авиационная) ч. **тэхнічная эксплуатацыйная (авіяцыйная) ч.**; (*прадмет*) **частка**: боевая ч. **баявая ч.,** нагнетающая ч. гидросистемы **нагнятальная ч. гідрасістэмы**, отъемная ч. крыла **аддымная ч. крыла**, откидная ч. фонаря (Р.І) **адкідны аскепак ліхтара** (шкляна) (Р.І), составная ч. **складовая** (Р.І) ч., хвостовая (центральная) ч. фюзеляжа **хваставая (цэнтральная) ч. фюзеляжа**.

ЧАШКА кресла (Р.I) **лёжка крэсла**.

ЧЕКА предохранительная (*катапультного кресла*) (Р.III) **загваздка засцерагальная**.

ЧЕХЛИТЬ **чахліць**.

ЧИСЛО *розн*. **лік**: критическое ч. Маха **крытычны л. Маха**, ч. Рейнольдса **л. Рэйнальдса**, передаточное ч. **перадаткавы** (перадатачны) **л.**; ч. оборотов (двигателя, винта і г.д.) **абаротнасць** (Р.I) (**рухавіка, вінта** (Р.I) і г.д.).

ЧЛЕН экипажа (Р.I) **член экіпажу**.

ЧУВСТВИТЕЛЬНОСТЬ *розн*. **адчувальнасць**.

ШАГ (Р.I) *тэхн.* 1. ш. винта **крок вінта** (Р.I): общий ш. **злучаны к**., ш.-газ **к.-газ**. 2. ш. зубъев (резьбы, цепи, червяка і г.д.) **крок зуб'яў (разьбы, ланцуга, чарвяка** і г.д.).

ШАР-ЗОНД **шар-зонд**; ШАР-ПИЛОТ **шар-пілот**.

ШАРНИР **шарнір**: вертикальный (горизонтальный, осевой) **вертыкальны (гарызантальны, восевы) ш.**

ШАССИ *(нескланяецца, сярэдні род)* **шасі**: балочное (вездеходное, колесное, неубирающееся, носовое, подкрыльное, самоходное, убирающееся і г.д.) ш. **бэлечнае (усюдыходнае, колавае, непрыбіранае** (Р.I), **насавое**, **падкрылавае** (Р.I), **самаходнае, прыбіранае** і г.д.) **ш**.

ШВАРТОВ//КА (Р.I) 1. (*дзеянне*) **швартаванне** 2. (*прадмет*) **швартоўка**; //ОЧНЫЙ *прым.* **швартавальны.**

ШЕСТЕРНЯ **шасцярня**: коническая (червячная, шевронная і г.д.) ш. **канічная (чарвячная, шаўронная** і г.д.) **ш**.

ШИНА *электр*. **шына**.

ШИРИНА *розн*. **шырыня**: ш. полосы маршрута **ш. паласы маршруту**, ш. фюзеляжа **ш. фюзеляжа** і інш.

ШИРОТА **шырата**: астрономическая (геодезическая, сферическая і г.д.) ш. **астранамічная (геадэзічная, сферычная** і г.д.) **ш**.

ШЛЕМ// защитный **шлем ахоўны;** //ОФОН **шлемафон** (Р.III).

ШПАНГОУТ **шпангоўт**: клепаный (кольцевой, коробчатый, усиленный і г.д) **кляпаны (кальцавы, каробкавы, узмоцнены** і г.д.) **ш**.

ШТАНГА *тэхн.* **штанга**: хвостовая ш. опрыскивателя **хваставая ш. апырск(валь)ніка**.

ШТОПОР *(рэжым палёту)*. **штопар**: обратный (крутой, перевернутый, плоский, пологий, прямой) ш. **адваротны** (Р.І) (**стромкі, перакулены** (Р.І), **плоскі, пакаты, прамы**) **ш**. .

ШТОРКА *тэхн*. ш. бленкера **сцяжок бленкера**, ш. кабины **шторка кабіны**.

ШТУРВАЛ **штурвал.**

ШТУРМАН **штурман**.

ШТУРМОВИК (*самалёт*) **штурмавік**.

ЩИТ гарантированного питания электроэнергией **шчыт гарантаванага сілкавання электраэн*е*ргіяй**.

ЩИТОК ***1.*** *канстр.* **шчыток**, *мн.* **шчыткі**: тормозной (плавающий, посадочный) щ. **тармазны (плаваючы, пасадачны) ш.,** щ. подкоса стойки шасси **ш. падкоса стойкі шасі** 2. щ. управления **панэль кіравання**.

ЭВАКУАЦИЯ **эвакуацыя**: э. потерпевших бедствие **э. тых, хто зазнаў ліха** (Р.І)., э. раненых и больных **э. (па)раненых і хворых**.

ЭКИПАЖ **экіпаж** (Р.І): э. воздушного судна **э. летака** (Р.І), слётанный э. **злётаны э.** і інш.

ЭКРАН// *тэхн*. **экран**: топливозащитный э. **паліваахоўны э.**; //ОПЛАН **экранаплан**.

ЭКСПЕРТИЗА врачебно-лётная **экспертыза ўрачэбна-лётная** (Р.ІІІ)**.**

ЭКСТРАКТОР *узбр*. **экстрактар**.

ЭЛЕВОН **элевон.**

ЭЛЕКТРОЖГУТ **электравітка** (Р.І).

ЭЛЕКТРОПИТАНИЕ/ЭЛЕКТРОСНАБЖЕНИЕ **электрасілкаванне/электразабеспячэнне**.

ЭЛЕМЕНТ **элемент**: *навіг.* навигационный э. полета **навігацыйны э. палёту**, *тэхн.* крепежный э. **мацавальны э.**

ЭЛЕРОН// **элерон**: зависающий (внешний, внутренний) э. **завісаемы (вонкавы** (Р.І), **унутраны) э**. ; //-ИНТЕРЦЕПТОР **элерон-інтэрцэптар**.

ЭЛЛИНГ **элінг.**

ЭСКАДРИЛЬЯ (Р.I) **эскадрылля**: авиационная (вертолетная, отдельная і г.д.) э. **авіяцыйная (верталётная, асобная** і г.д.) **э.**

ЭТАП *навіг.* **этап**: конечный э. **канцавы э.,** э. маршрута **э. маршруту.**

ЭФФЕКТ экрана **эфект экрана**.

ЭФФЕКТИВНОСТЬ **эфектыўнасць:** боевая э. **баявая э.,** э. органов управления **э. органаў кіравання**.

ЭШЕЛОН *навіг., такт.* **эшалон** (Р.I): э. полета (перехода) **э. палёту (пераходу)**, безопасный (воздушный, летный, нижний) э. **бяспечны (паветраны, лётны, ніжні) э.**, э. прорыва ПВО **э. прарыву СПА**, наземный (ударный) э. **наземны (ударны) э.**

ЭШЕЛОНИРОВАНИЕ (Р.I) *навіг.* **эшаланаванне**: боковое (вертикальное, горизонтальное, продольное радиолокационное, сокращенное (RVSM) і г.д.) э. **бакавое (вертыкальнае**, **гарызантальнае**, **падоўжнае**, **радыёлакацыйнае**, **скарочанае (RVSM)** і г.д) **э**.

ЮБКА *тэхн*. **юбка**.

ЮЗ **юз**.

ЯВЛЕНИЯ (*метэа)* **з'явы:** особо опасные я. погоды **асабліва небяспечныя з. надвор'я**.

ЯРУС облаков **ярус хмар** (Р.I).

ЯЩИК патронный (Р.I) **скрынка патронная**.

III. Раздзел

## АДМЕТНЫЯ ТЭРМІНЫ СА СЛОЎНІКАЎ І КНІГ, У АРЫГІНАЛЬНАЙ АРФАГРАФІІ.

| **Практычны вайсковы слоўнік** 1927г. [1]: | |
|---|---|
| Багаж – *пакункі*<br>Багажный – *пакунковы*<br>Боевая способность – *баявая здольнасць*<br>Боевой расчет – *баявы разлік*<br>Боковое охранение – *бакавая забяспека*<br>Внешний рычаг – *знадворны вагар*, *падважнік*<br>Внутреннее устройство части – *унутранае ўпарадкаванне часьці* Вращательное движение – *абаротны рух*<br>Вертикальный – *старчаковы*<br>Вилка соединительной планки – *рожкі злучальнай планкі*<br>Гильза – *ладунак*<br>Горизонталь – *паземнік*<br>Горизонтальный – *паземны*<br>Деление прицела – *падзелы прыцэльніка*<br>Израсходовать – *выдаткаваць, страціць* | Маршрут следования – *маршрут падарожжа*<br>Местность холмистая – *узгор'е*<br>Омуниция – *аснада*<br>Оперативный (отдел, приказ, сводка) – *апэрацыйны*<br>Операционный – *апэра цыйны*<br>Остов станка – *драбы станка*<br>Площадка (аэро-, пулеметная) – *пляцок*<br>Прикрытие щитовое – *заслона шчытавая*<br>Прикрытие – *заслона*<br>Прицел – *прыцэльнік*<br>Прыжок – *скок*<br>Прыгание – *скаканьне*<br>Стихия – *навала*<br>Стопор – *затрымач*<br>Съемка – *здыманне*<br>Спираль – *скрутка*:<br>спиральная пружина – *пакручастая пружына*<br>Чека |

| | |
|---|---|
| | (*гранаты*) – *загваздка* |
| **Слоўнік Тэхнічнай тэрміналогіі БНТ** 1932 г. [9]:<br>Пробка – *корак, затычка* | **Ваенны слоўнік** 1933г. [2]:<br>Огневые клещи – *агнявыя абцугі* |
| **Кніга** 1931г. [23]:<br>*Сухаземная авіяцыя* (сухопутная авиация) | |
| **Вайсковы слоўнік С.Судніка** 1997г. [5]: | |
| Антенна штыревая – *антэна прутковая*<br>Аэродромное покрытие – *аэрадромнае покрыва*<br>Боевой листок – *баявая ўлётка*<br>Буксирование – *волак*<br>Буксировать – *валачы, цягнуць*<br>Вал коленчатый – *вал каленцавы*<br>Взрыватель – *запал*<br>Военно-врачебная комиссия – *вайскова-лекарная камісія*<br>Всепогодный истребитель – *усенадворны знішчальнік*<br>Грузоподъемность – *грузападымальнасць*<br>Журнал – *улікоўнік (баявых дзеянняў), штодзённік*<br>Кислородная маска – *кіслародная (тлёнавая, аксігенавая) маска*<br>Кроки – *кракі*<br>Лётное происшествие – *лётнае здарэнне*<br>Лётный шлем – *лётны шолам*<br>Магазин I (оруж.) *набойнік*<br>Неизвлекаемая мина – *невымальная міна* | Патронная лента – *набойны пас, набойка*<br>Пикирующий с. – *пікавальны с.*<br>Предварительный приказ – *падрыхтоўчы загад*<br>Пробка I (тэхн.) *корак, затычка*<br>Производить вылет – *праводзіць вылет*<br>Рулевой механизм – *кіравальны (стырнавы) мехнізм, кірно*<br>Район – *абшар, абсяг, раён, ваколіца, месца*<br>Рулевая машинка – *кіраўнічая машынка*<br>Рычаг управления – *вагар кіравання*<br>Самолет-заправщик – *самалёт-запраўнік*<br>Стрельба по появляющимся ц. – *стральба па ўзніклых цэлях* |

| | |
|---|---|
| Номенклатура<br>карт – *наменклатура картаў (мапаў)* | Траектория (крутая, отлогая) – *т. (стромкая, пакатая)*<br>Транспортно-заряжающая машина – *транспартна.-набойная м.*<br>Стакан II (техн.) рулька: *рулька снарада, папяровая рулька*<br>Щуп – *мацка, зонд*<br>Шлемофон – *шоламафон* |

Спіс авіяцыйнай літаратуры па-беларуску
(з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі)

*1.* **Мы на крыльлях павінны ўзняцца**. Газета “Савецкая Беларусь”, 06.03.1923

*2.* **Як людзі заваявалі паветра**. В.Суднік. Мн., 1928

*3.* **Баявы палёт. Успаміны ўдзельніка сусветнай вайны.** А.Лебядзенка. Пераклад з рускай мовы Вінаградаў. Мн., 1930

*4.* **Лётнік**. А.Касьцерын, пераклад А. Бараноўскага. Мн., 1930

*5.* **Першыя лётнікі**. А.Герлах, пераклад з рускай мовы. Мн., 1930

*6.* **36 дэкад у гаду**: Ячэйка Аса-Авіяхіму ў калгасе. Мн., 1931

*7.* **Барацьба з авіяцыяй**. П.Максіменка. Мн., 1931

*8.* **Даёш савецкія дырыжаблі**. М.Сямашка. М., 1931

*9.* **Самалёт**. А.Розанаў, пераклад з рускай мовы Л.Чаркашын. Мн., 1931

*10.* **Гудуць маторы**: Нарысы аб авіяцыі. А.Бабуноў. Мн., 1932

*11.* **Камсамол шэф авіяцыі**: Зборнік. Пераклад з рускай мовы Л.Падносаў. Мн., 1932

*12.* **Крыллі авіяспіралі**: Вытворчы раман. У.Кузьміч. Мн., 1932

*13.* **Наш паветраны флот**. В.Хрыпін, пераклад з рускай мовы М.Н-ч. Мн., 1932

*14.* **Паветраная вайна 1936 года**: (Зруйнаванне Парыжа): Раман. Гельдэрс, пераклад С.Русаковіча. Мн., 1932

*15.* **Паветраны флот**: Ваенна-палітычны агляд арганізацыі, узбраення і ўжывання. В.Хрыпін, пераклад з рускай мовы П.Кісель. Мн., 1932

*16.* **Памятка чырвонаармейцу аб авіяцыі**. А.Стрыеўскі, пераклад з рускай мовы Н.Уласевіч. Мн., 1932

*17.* **Прыгоды ў паветры**: Нарысы і ўспаміны. Е.Бурчэ, пераклад з рускай мовы М.Нікановіч. Мн., 1932

*18.* **Сувязь самалёта з наземнымі войскамі**. В.Цімафееў, пераклад з рускай мовы В.Цімафееў. Мн., 1932

*19.* **Тэхніка ў будучай вайне**. А.Меезіт. Мн., 1932

*20.* **Як пабудаваны самалёт і як ён лётае**. А.Жабраў, пераклад з рускай мовы П.Кісель. Мн., 1932

*21.* **Абучэнне палётам на планерах**: метад. ўказанні. В.Васянін. Мн., 1933

*22.* **Барацьба з авіяцыяй: 2-е выданне** П.Максіменка. Мн., 1933

*23.* **Вайсковы зборнік:** пяхота, кавалерыя, артылерыя, авіяцыя, морскі флот. В.Цаўнэ, пераклад з рускай мовы А.Галубовіч. Мн., 1933

*24.* **Жыццё лётніка**. М.Баброў, пераклад з рускай Л.Чарняўскай мовы М., 1933

*25.* **Міжпланетавыя падарожжы**: Асновы ракетнага лятання і зоркаплавання. Я.Перальман, пераклад з рускай мовы Ф.Кудзіновіч Мн., 1933

*26.* **Паветраны флот і ваенная маскіроўка**. Е.Бурчэ, пераклад з рускай мовы Т.Кудрук. Мн., 1933

*27.* **Праграма нізавого гуртка "Юных авіябудаўнікоў"**. М.Бабаеў. Мн., 1933

*28.* **Проціпаветраная абарона**. А.Ліннік. Мн., 1933

*29.* **Проціпажарная абарона населенных пунктаў ва ўмовах паветранага нападу**. А.Ліньнік. Мн., 1933

*30.* **Работа авіясігнальнага паста**. Салаўёў. Мн., 1933

*31.* **Лётчыкі-планерысты**: Нарысы. Б.Вішнеўскі, пераклад з рускай мовы. Мн., 1934

*32.* **Паветраны паштальён**. І.Баб'юк. Мн.,1934 (1935, 1936).

*33.* **Каробчатыя паветраныя змеі**: Дапам. для гурткоў юных авіябудаўнікоў. І. Баб'юк, пераклад з рускай мовы. Мн., 1934 (1936)

*34.* **Лётаючая мадэль самалёта**. Дапам. для гурткоў юных авіябудаўнікоў. А.Баскакаў, пераклад з рускай мовы. Мн., 1934 (1935, 1936)

*35.* **Як пабудаваць мангальф'ер**: Н.Бабаеў, пераклад з рускай. Мн., 1934

*36.* **Абучэнне палётам на планерах**. В.Васянін. Мн., 1935

*37.* **Лунаючы палёт**. С.Анохін, пераклад з рускай мовы І.Круглікаў. Мн., 1935

*38.* **Палажэнне і праграма работы хім. атрадаў Асаавіяхіма на вёсцы**. Мн., 1935

*39.* **Лётаючыя авіяцацкі: Авіяцацкі з паперы і дрэва**. Дапам. для гурткоў юных авіябудаўнікоў. Н.Бабаеў. Мн., 1936

*40.* **Мацнее авіяцыя Асаавіяхіма**. А.Мілонаў. Газета “Звязда”, 18.08.1936

*41.* **Моладзь, на самалёты**. Б.Леонцьеў. Мн., 1936

*42.* **Як зрабіць мангальф’ер**: 2-е выданне. Н.Бабаеў. Мн., 1936

*43.* **Гульні юных пілотаў**. Дапам. для гурткоў юных авіябудаўнікоў: Н.Бабаеў, пераклад з рускай мовы. Мн., 1938

*44.* **Лётчыкі**: Раман. І.Рахіло, пераклад з рускай мовы І.Новікаў. Мн., 1938

*45.* **Як я стаў палярным лётчыкам**: Аповесць для дзяцей. П.Галавін. Мн., 1938

*46.* **Расказ аб маім жыцці**. Міхаіл Вадап’янаў, пераклад з рускай мовы. Мн., 1939

*47.* **Да савецкага насельніцтва часова акупіраваных немцамі абласцей**: тысячы англійскіх бамбардзіроўшчыкаў над германскімі гарадамі: 1942-1944

*48.* **Авіяцыя на службе сельскай гаспадаркі**. А. Сцепічаў. Мн., 1954

*49.* **Іх першых вітае сонца**: Аповесці. А.Алешка. Мн., 1957

*50.* **Сэрца і крылы**: Дзённік штурмана жаночага авіяцыйнага палка. Г.Дакутовіч. Мн., 1957

*51.* **Над намі мільён цішыні**: Аповесць. А.Алешка. Мн., 1965

*52.* **Дарогі без слядоў**: Раман. А.Алешка. Мн., 1969

*53.* **Між агністых зорак і аблокаў**. І нясе яе як след заўзята/ Кожны беларускі авіятар. Плакат. Мастак А.Чуркін. Мн., 1975

*54-59* →Крыніцы са Спіса скарыстанай літаратуры →[22, 23, 24, 25, 26, 27].

Вытрымкі з авіяцыйных дакументаў

**Кіраўніцтва лётнай эксплуатацыяй МіГ-29 (КЛЭ МіГ-29) – Руководство по летной эксплуатации МиГ-29 (РЛЭ МиГ-29)**:

"*… Раздзел 8: Эксплуатацыя сістэм і абсталявання*:

Рэжым навядзення і захопу – пераходны ў рабоце КОЛС *(квантавая оптыка-лакацыйная станцыя)* для забеспячэння асноўнага рэжыму – сачэння, прызначанага для прыцэльных задач. Навядзенне на цэль і яе захоп здзяйсняюцца:

- Ручным цэлеўказаннем пры накладанні стробу на метку цэлі кнопкай кіравання (рэжым ЦП *(цеплапеленгацыя)* – СТРОБ);
- Пілатаваннем самалёта з утрыманнем візуальна бачнай цэлі ў зоне захопу (ТЦП – Б.БОЙ *(блізкі бой)*);…"

**Штурманскі план палёту**: аэр. Пружаны – Свіслач – Рацічы – Астрына – Ваўкавыск – аэр. Пружаны.

Дзеянні на этапах: даць МК праставання да ППМ (*паваротны пункт маршруту*) наступнага этапу; уключыць секундамер; вядзенне візуальнага арыентавання; разлічыць вецер; удакладніць ВЗ *(вугал зносу)* і W; даць МК папраўлены; кантроль шляху на далёкасць і напрамак…"

**Канструкцыя Мі-8МТ:**

**"***…6.2. Падоўжна-папярочнае кіраванне*

Падвойнае падоўжна-папярочнае кіраванне верталётам выканана з праводкай цвёрдай канструкцыі. Складаецца з дзвюх калонак кіравання, сістэмы арэляў, двух гідраўзмацняльнікаў КАУ *(камбінаваны агрэгат узмацняльнікаў)*, злучаных з аўтаматам перакосу і гідраўпору ў падоўжным кіраванні. На дзяржаку левай ручкі кіравання змантаваны:

– Вагар тармажэння колаў…Рух ад ручкі ў падоўжным напрамку перадаецца праз сістэму арэляў да змешчанага ў рэдуктарным адсеку агрэгату падоўжнага, папярочнага,

напрамкавага кіравання і кіравання злучаным крокам – кінематычным злучвом сістэмы кіравання. Выходныя арэлі агрэгата кіравання спалучаныя з уваходным злучвом гідраўзмацняльніка.”

**Інструкцыя выкарыстання паветранай прасторы (далей ВПП) Мінскага раёна палётнай інфармацыі (далей МРПІ) № 62:**

“Змест:

Агульныя палажэнні; Структура ПП; Планаванне і каардынацыя ВПП (далей – выкарыстанне паветранай прасторы); Дазвольны парадак ВПП; ВПП; Распрацоўка, узгадненне, устанаўленне часовых рэжымаў, кароткачасовых абмежаванняў ВПП; Сувязь і радыё-тэхнічнае забеспячэнне палётаў.”

**Тактыка авіяцыі (***вытрымкі з канспекта***,** прадмет вывучэння на каманднa-штабным факультэце Вайсковай акадэміі Рэспублікі Беларусь):

“…Паказчыкі баявых магчымасцяў авіяцыі: ПРАСТОРАВЫЯ – тактычны радыус, вобласць баявых дзеянняў, глыбіня баявых дзеянняў, вышыня перахопу паветранай цэлі, адлегласць рубяжоў уводу (суправаджэння) у бой; ЧАСАВЫЯ – тэрмін выканання баявой задачы (мабільнасць), баявая напруга (цыкл баявых дзеянняў); ІМАВЕРНАСНЫЯ – вынікі баявых дзеянняў – матэматычнае спадзяванне, патрэбная палігонная выправа для ўшчэнту наземных аб’ектаў, прадухіленая шкода, плошча выведкі, час мініравання, плошча мініравання, імавернасць ушчэнту;…”

**Аэрадынаміка (**вытрымкі з сшытка практычнага перавучвання на МіГ-29, МіГ-29УБ):

“…Аэрадынамічная кампаноўка, характарыстыкі ўстойлівасці і кіравальнасці, лётныя характарыстыкі самалёта аптымізаваныя для рашэння асноўнай задачы – вядзення

паветранага бою. З боку аэрадынамікі ў канструкцыю самалёта ўведзена:

Інтэгральная схема з корпусам-носьбітам; высокапад'ёмныя профілі крыла; прасторавая "крутка" крыла; наплывы крыла цэнтраплана з вялікай стрэлападобнасцю; генератар віхроў на ППЦ *(прыёмнік паветранага ціску);* кіраваныя наскі пярэдняй абзы кансолі крыла з плаўным контурам; двухкілевае вертыкальнае (старчаковае) апярэнне; дыферэнцыйна адхіляемы стабілізатар – для кіравання крэнам разам з элеронамі; выкарыстанне САК *(сістэма аўтакіравання)* ..."

Спіс скарыстанай літаратуры


1. **Практычны беларускі вайсковы слоўнік.** Мн., 1927
2. **Ваенны руска-беларускі слоўнік**. Мн., 1933
3. **Кароткі расейска- беларускі вайсковы слоўнік**. С.В.Суднік. Мн., 1993
4. **Русско-белорусский словарь для военных.** В.В.Язепчик. Мн., 1996
5. **Расейска-беларускі вайсковы слоўнік**. Суднік С., Мн., 1997
6. **Русско-украинский словарь авиационных терминов”**. Кіеў, 2004
7. **Элемэнтарная матэматыка**. Мн, Інбелкульт, 1922
8. **Беларуска-расійскі слоўнік**. М.Байкоў, С.Некрашэвіч. Мн., 1925
9. **Слоўнік тэхнічнай тэрміналёгіі БНТ**. 24-ты вып., 1-е выд., Мн., 1932
10. **Учебник английского языка. Для летного и диспетчерского состава международных авиалиний**. Гобанова Р.Ф. Воениздат МО СССР, 1972
11. **Кароткі расейска-беларускі фізыялягічны слоўнік**. А.Стасевіч. Мн., 1993
12. **Руска-беларускі фізічны слоўнік**. Мн., 1994
13. **Русіфікацыя беларускае мовы**. 1994, Мн., Народная асвета, С.Станкевіч (1962)
14. **Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов**. Мн., 1995
15. **Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы**: Мн., 1996
16. **Русско-белорусский политехнический словарь**. Мн, 1997
17. **Слоўнік беларускай мовы (клясычны правапіс)**. Наша Ніва, Мн., 2001
18. **Метэаралогія і кліматалогія: беларуска-руска-англійскі даведнік.** П.Каўрыга. Мн., 2011

**19. Беларуска-рускі слоўнік**. (Слоўнік Крапівы, 4-е выд.) Пад рэд. А.Лукашанца. Мн., 2012

**20. Слоўнік беларускай мовы**. Н.Еўсіевіч, А.Лукашанец. Мн., 2012

**21. Словаклад: слоўнік адметнай лексікі**. А.Каўрус. Мн., 2013.

**22. Авіягурток**. Варыч С., пераклад з украінскай мовы. Мн., 1931

**23. Паветраныя сілы нашых суседзяў**. А.Некрушэвіч. Мн., 1931

**24. Авіяцыя і пяхота**. М.Смірноў, пераклад з рускай мовы. Мн., 1932

**25. Авіямодэлізм. Будова лятаючых модэлей: Работа з лятаючымі модэлямі**. Н.Казік, пераклад з рускай мовы К.Крывінчэнкі. Мн., 1932

**26. Авіяцыя ў сучаснай вайне**. Н.Тайгрэберт. Мн., 1933

**27. Гістарычны альбом. Лётніцтва. Ч.2.** З.Вайцэховіч. Мн., 2009

ЗМЕСТ